УДК 821.161.3(059)
ББК 84(4Беи)
Б87

Літаратурна-мастацкі альманах Магілёўскага абласнога аддзялення грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў»



Б87 **Брама** : літаратурна-мастацкі альманах. Магілёў. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 288 с.
ISBN 978-985-7057-94-8.

Першы выпуск літаратурнага альманаха «Брама» склалі паэтычныя, празаічныя і драматургічныя творы сяброў Магілёўскага аддзялення Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў», а таксама пераклады і літаратуразнаўчыя артыкулы, эсэ ды ўспаміны, прысвечаныя жыццю і творчасці Сяргея Грахоўскага, Аляксея Пысіна, Міхася Ларчанкі, Рыгора Бярозкіна, Яўгеніі Янішчыц і Янкі Сіпакова.

**УДК 821.161.3(059)**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7057-94-8**



# Прайсці праз браму

Гэта заўсёды цуд, калі невядома адкуль узнікаюць словы, вобразы, пачуцці, настрой і ўвесь гэты гаманкі віхор пачынае класціся на аркуш паперы. А напісанае, як вядома, застаецца і, калі ўважліва прачытваецца, то пакідае ў людскіх душах святло дотыку да нябеснай узнёсласці і прапаноўвае чуллівым сэрцам напаўняцца сонечнай адпаведнасцю.

Менавіта гэтае разуменне і паклалася ў падмуркі ідэі ўзнікнення на Магілёўшчыне новага літаратурнага альманаха. Вядома, што край прыдняпроўскі заўсёды сілкаваў айчынную літаратуру сваімі стромкімі прытокамі, якія бралі бурлівы пачатак у моцы і прыгажосці роднай зямлі, у неўміручай гістарычнай спадчыне і ў духоўнай светласці нашых землякоў. Так было, так ёсць і так будзе. А гэта ўжо пытанні пераемнасці, калі ад сённяшняга дня мы перакідваем масток у далёкія часы хвалюючага нараджэння зборнікаў «Літаратурны Магілёў» і «Дняпро», і ў больш блізкі да нас час, калі руплівы і мэтанакіраваны Іван Архіпавіч Аношкін, пільна аглядаючы з вышыні пасады сакратара абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў усю краёвую літаратурную прастору, збіраў і прызнаных, і мала каму тады вядомых аўтараў пад утульныя стрэхі зборнікаў «Галасы Прыдняпроўя» і «Дняпроўскія хвалі».

Мы ведаем, што наша пісьменніцкая арганізацыя, якая хутка адзначыць свой 80-гадовы юбілей, прайшла цяжкія выпрабаванні. Але нягоды адно загартавалі яе і надалі новыя сілы. І няхай Магілёўскае аддзяленне грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» аднавіла сваю дзейнасць толькі 26 красавіка 2012 года і лічыцца самым «маладым» сярод абласных суполак, — мы дзейсныя, дынамічныя, мы з упэўненасцю глядзім у будучыню. Наш пісьменніцкі асяродак не надта вялікі, але за прабеглы час тут не так ужо і мала назапашана. Выходзяць кнігі нашых аўтараў, з'яўляюцца змястоўныя і цікавыя публікацыі ў абласных і рэспубліканскіх выданнях, дзейнасць аддзялення прыхільна асвятляецца ў мясцовай прэсе. Другі год выдаецца наш літаратурна-мастацкі і інфармацыйны бюлетэнь «Дняпроўская строма», якому пакуль няма аналагаў у рэспубліцы. І ў рэшце рэшт сваё практычнае ўвасабленне знайшла думка аб выданні магілёўскага літаратурнага альманаха. І імя пры нараджэнні ў яго з'явілася адпаведнае — «Брама».

Брамы магілёўскія на працягу стагоддзяў заўжды гасцінна расчыняліся перад добразычлівымі сябрамі і былі непрыступнымі для зламысных ворагаў. Брама, упрыгожаная неўміручай «Пагоняй», якую *«не разбіць, не спыніць, не стрымаць»*, — на сучасным гербе Магілёва. Гэта — нябесныя вароты, куды трэба ўваходзіць з чыстымі памкненнямі і вялікім хваляваннем у сэрцы. Бо толькі так можна пачуць голас Неба, дакрануцца да Божай ласкі і ўбачыць сябе сапраўдным чалавекам. Няхай жа і наша магілёўская літаратурная «Брама» будзе вартая гэтай неўміручасці.

*Мікола ЯЦКОЎ,*
*старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення*
*грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў»*



# ПРОЗА. ПАЭЗІЯ

## СЯРГЕЙ УКРАІНКА

### Аўдзеевіч

1

— Куды?!! Куды, стары, маць-тваю-цераз-аглоблі!!! Куды на жарабка, гад прыдурачны!.. Стой! Стой, казліна!.. стой…

Не пабег я да яго. На які ляд? Красаўчык, прыгажун залацісты, ужо хрыпеў, плюхаючы кроў з перарэзанай шыі, матляў капытамі ў паветры і канаўздаваўся як звычайны конь. Нарэшце яго танклявыя ногі выпрасталіся і нібы яшчэ больш падаўжэлі.

Дрогкімі рукамі я выняў пачак «Астры», прыпаліў цыгарэту. Аўдзеевіч выціраў аб салому нож, які я яму, падле, сам адкаваў на свіней. Дзясятка паўтара суседскіх лычуноў паклаў ужо ім. Цяпер жа, гад, ласа пазірае Красаўчыку між сцёгнаў — яечкамі конскімі яму пачаставацца хочацца. Ну, курва, я ж цябе пачастую…

Аўдзеевіч не п'яны. Ён ужо гадоў чатыры, як пляшку аб вугал ляснуў. Тады ж яму і галаву кранула. Народ кажа — праз коней. Але не факт. Я тады «ўрабляў кумавы грады» пад Варкутой. У верасні атрымаў ад бацькоў «дачку», а ў ёй — ліст. Між іншага стары пісаў, што «з нашым Васілём стала тварыцца нешта нехарошае. Ні з кім не загаворвае, днюе і начуе ў канюшні. А пазаўчора новаму племяннному жарабку заплёў грыву ў касіцы».

Што Аўдзеевіч з маім бацькам «прыпухаюць» ад коней, ведае кожны. Яшчэ як смаркачом быў, дык слухаў іхнюю трапатню пра тое, які самы цягавіты ў баразне, якога хоць цяпер у эскадрон, каго — на каўбасу. Дакаўбасіліся, прыдуркі. Калі гэты гарлякі перараазае, дык мой дзяцініцца з жарабяткам, каторае нядаўна адкупіў у калгаса. Патрэбна яно быў старому даўбеню, як сабаку чох. Адгаворвалі, сарамацілі, а яму — хоць хны… «Я, — кажа, — хачу перад смерцю сваім каньком пацешыцца. Хопіць гадаваць абы-чыіх». Ну, вось цяпер і цешыцца. На лузе з касою. А я сказаў: на байструка Варончынага пуп ірваць не буду. Калі ўжо так прыперла, то трэ было браць стрыгуна ад Сімкі, бо тая курва нагуляла немазнаць ад каго. Не паслухаў. Ну, дык хай сам трасе касцямі…

Эх, дапалю ды пайду шугаць Аўдзеевіча: дурны-то ён, канечне, дурны, аднак і дураце людзі меру шукаюць. Нічога, палечым. Шкада толькі Кра-

саўчыка — харошы быў жарабок, такім хіба адно Сімчын Орлік стане — у бацьку ўдаўся. Астатнія — цьфу, безрадзь.

Перад тым, як заціснуць абцасам недагарак, кінуў пагляд на Аўдзеевіча. Той ужо не завіхаўся каля жарабка — стаяў у разгубе і глядзеў на сваю чырвоную па локаць руку. Нож, гэткі ж акрываўлены, валяўся каля чобата. Усё ясна, адпусціла. Толькі позна яна цябе адпусціла, даражэнькі. Хаця, што я пляту, — самы раз.

Калі я падышоў, Аўдзеевіч падняў свае цвілыя вочы (пабажуся: ні трасцы імі не бачыў) і, захліпаючыся ікаўкай, выціснуў:

— Г-г-гэта-ік — я?!.

Што скажаш чалавеку, які толькі што прасвятлеў, нібы нарадзіўся нанова? Я сказаў:

— Здароў, Аўдзеевіч. Ты што парабляеш?

У адказ той зачахкаў кашлем, а я далей «пагнаў пургу»:

— А-ню-ка глянем, хто тут капытамі раскідаўся. О-о, Красаўчык! Спісалі на мяса? Нешта ранавата, маць яго ўюн. Ды ты мо на бойню перайшоў рабіць? То чаго на канюшні распластаў, а не на ферме? Пляц жа тут непадыходны.

Аўдзеевіч не пераставаў ікаць. Словы, якія высільваліся вырвацца, захлыналіся ў грудзях. Адно толькі вочы, круглыя, бясколерныя, глядзелі на мяне з невыказнымі болем і жахам. Мне, жорсткаму, нахабнаму, грубаму дзецюку пад гэтым позіркам стала невыносна пагана… Даўно я ведаў Аўдзеевіча, ці не тры дзясяткі гадоў, таму разумеў, што для гэтага старога ўласнымі рукамі адабраць жыццё ў свайго грывастага ўлюбёнца азначае няйначай забіць дзіця.

Я завёў Аўдзеевіча да калонкі і, пакуль ён высільваўся абмыць дрыжлівыя рукі, схадзіў да Вакулікаў, патэлефанаваў старшыні калгаса. Валер Пятровіч мяне ведае няблага, таму і не пускае далей за канюшню. Толькі я пляваць хацеў на яго разам з ягонымі прыдзіркамі — і тут небяды. А грошы… хопіць і канюхоўскіх. У мяне дзеці не пішчаць. О, дарэчы, не навіна, што Пятровіч мацюкаецца не горай за рабацягу, але такіх мацюкоў-хмарачосаў, якія ён нагнуў па тэлефоне, нават і я даўнавата не чуў. Цярпліва паслухаўшы іх, я абыякава праказаў:

— І гэта ўсё? Небагата, аднак, культурных слоў у Вас, гер старшыня. А цяпер паўтараю пакорлівую просьбу: давай, сука, «газона» і пару прыдуркаў з гаража, іначай, дальбог, накрыецца мяса. Будзеш спаганяць з пана Шкаруды.

Дарэчы, Шкаруда — сапраўднае прозвішча Валера Пятровіча. Афіцыйна ён пішацца як Шкародзенаў, але ж бацькі жывуць не ў чужасвеце, ды і жывыя пакуль. Так што ведаем.

У адказ тэлефонная трубка тонка завішчэла. Я асцярожна паклаў яе, падзякаваў Вользе Вакулісе і пасунуў назад на канюшню.

Аўдзеевіч абседжваў асінавую калоду каля паільнага карыта, соўгаў па вадзе лазовым дубчыкам і штосьці мармытаў сам сабе. Я абмінуў яго, пры-

хапіў ладны абярэмак саломы непадалёк ад сціրты, панёс да Красаўчыка. Няспешна расцерушыў салому вакол тушы, схадзіў да калонкі адмыць ад застылай крыві нож, прыладзіўся, і вось ужо неўзабаве залацістая конская шкура пачала паволі спаўзаць на жоўтую салому.

Заняты клопатам, я, вядома, не глядзеў на Аўдзеевіча. Ды і навошта, — яму цяпер усё да фені, — хвароба вярнулася. Уявіў ягоныя вочы: бяздумныя, мутныя, нібы вада ў копані. Падзаляцеў, мабыць, сёння стары на ўсе сто, наўрад ці ачуняе. Я не фельчар, але хіба трэба ім быць, каб здагадацца, што на гэты раз Аўдзеевічу будзе цяжка выкараскацца. А хадзіў жа некалі такім пацаном!..

2

Аўдзеевічаў лёс — казлу не пажадаеш. Нашто ўжо я ў свае 33 прайшоў і Крым, і Рым, а да яго — далёка.

Бацька мне пра Аўдзеевіча шмат расказваў. Яны сябравалі з падлеткаў праз усё жыццё. Дарма што ў майго адно 4 класы той адукацыі, а ў таго інстытут замежных моў — ім заўсёды было пра што патрындзець. Кажуць жа разумнікі, што людзей збліжаюць болей агульныя інтарэсы, чым узровень інтэлекту. Зрэшты, у бацькі і з гэтым было ўсё ціп-топ: пасля вайны ён адзін час (пакуль не пасадзілі) рабіў ажно намеснікам калгаснага старшыні.

Сям'я Холадавых атабарылася ў нашай вёсцы ў 30-м, ну, калі там партыя пагнала 25-тысячнікаў кляпаць калгасы. Аўдзея Холадава сяляне пачалі паважаць не адразу — дужа рэзкім быў кентом. Як што не па ім — у рыла, а то і за наган хапнецца ды — кулю пад лапаць. Але калі праз пяць гадоў зажылі так, што ўсе вакольныя сталі прасіцца ў іх калгас, — зацанілі. Ды і то: свой броварчык, свая пасека на паўсотні вуллякоў, свой трактар, нарэшце, свая электрастанцыя, што імкліва будавалася на рэчцы. Гэта ж вам не «гаў» сказаць!

Жонка Аўдзеева няслаба ўзялася за школку. Родам баба была, як у нас кажуць, з «Паваложжа». Строгая, сцярвотная немчурына — не дай бог такую зачапіць. Праз два гады да яе ў школу пачаў з'язджацца пераймаць вопыт увесь раён.

Васіль Холадаў быў на год старэйшы за майго бацьку — з сямнаццатага. Танклявы, русявы, на дзіва маўклівы. Равеснікі яго цураліся, у гурт не бралі, а ён і не дужа каб да іх памыкаўся. Клеіў свае самалёцікі ды запускаў разпораз на выгане за канаплянікамі.

Бацька пасябраваў з ім неяк няўзнак і адразу. «Ляжу, — кажа, — на пузе пад сасной ля дзедавай магілы, румзаю, скарджуся дзеду на горкую долю, на папоў паскудных. Расказваю, што і блізка не быў на тым агародзе праклятым, бо коней вадзіў аж за Умошша. Што гэта хлопцы Макадовы гуркі павыбіралі і гурочнік спляжылі, а пападдзя на мяне накляпала, а бацька лейцамі вяровачнымі ні завошта адхадзіў…

І раптам, — кажа, — голас, такі спакойны ды ціхмяны, што ажно здрыгануўся: «Не плач. Хадзем да той пападдзі, я з ёй пагавару». Ускочыў на ногі, бачу — Васіль старшынёў стаіць у сажні ад сасны, пасміхаецца прыязна.

Каб ты чуў, як ён сарамаціў тую дзяжу кудлатую! І што думаеш, увечары прыцёглася да майго бацькі, павінілася. От, з тае пары мы і пасябравалі».

У старшыні быў выязны конь (гэта як цяпер «козлік»), на якім той днямі матляўся па калгасе і раёне. Ночы Орлік бавіў навязаны каля двара. Самаму старшыні гэта не падабалася — конь павінен за ноч адпачыць, выгуляцца і напасвіцца, а які можа быць выпас, калі ён кукуе на ланцугу. Вось мой бацька і падгаварыў новага сябра выводзіць Орліка ў начное. Тым больш, і Аўдзей Пятровіч не запрацівіўся, рашыў не адбіраць у сына хоць каліва юнацкай волі, а ў каня — канёвай.

Васіль аказаўся годным сынам былога будзёнаўца — умэнт навучыўся ёмка трымацца на Орлікавай спіне, і калі канаводы, прывёўшы табун на пашу, пачыналі гуляць у «іпадром» — скакаць навыперадкі, — ззаду аставаўся рэдка ў каго. Колькі дзівосных летніх начэй правялі разам з коньмі хлопцы! Колькі страхлівых ды вясёлых гісторый было пачута і расказана! Але галоўнае — у гэта першае сапраўды вольнае лета Васілёвым сэрцам канчаткова і беззваротна завалодалі самыя прыгожыя, самыя ўдзячлівыя стварэнні на зямлі. Коні давяралі Васілю, як ніякаму іншаму хлопцу з беласельскай кампаніі. А памаўзлівая, баламутная маладая жаробка Найда, якая нікога не дапускала сабе на спіну, так прывязалася да Васіля, што ў начным хадзіла за ім следам бы сабака і нават спаць станавілася ў дзесяці кроках ад цяпельца.

Як атрымалася, што Васіль у сямнаццаць гадоў стаў інвалідам, не ведае ніхто, акрамя сям'і Холадавых ды ўрачоў, што збіралі з кавалкаў яго правую нагу. Малады арганізм загаіў сябе, аднак нага ў калене згінацца перастала. Душэўная рана аказалася нашмат цяжэйшай за цялесную. У адзін момант былі перакрэслены як не ўсе ягоныя мары і сярод іх галоўная — лятаць. Васіль жа проста ірваўся ў неба, і неба яго пачало пакрысе прывячаць. Апошнія два гады ён кожную вольную часіну бавіў на асаавіяхімаўскім аэрадроме каля райцэнтра. Балазе, ад вёскі той размяшчаўся ў нейкіх сямі кіламетрах. Дваццаць хвілінаў на вернай Найдзе і — вось яны, самалёты. Цяпер жа ўсё. Жыццё скончылася.

Пры мне ўжо, за шклянкай «сучка» Аўдзеевіч прызнаваўся майму старому: «Калі б не ты, Паўлік, то стапудова наклаў бы на сябе рукі». Бацька ў тыя кашмарныя дні зноў з ім зблізіўся, хаця сялянская праца па-ранейшаму адбірала амаль увесь час. Не раўняйце ж умовы, у якіх гадаваўся сын старшыні калгаса і канюхоў падшыванец! Суцяшаў сябра, угаворваў не рабіць дурні, маляваў ружовыя перспектывы, карацей, быў пры ім, як цяпер кажуць, і псіхааналітыкам, і псіхатэрапеўтам. Аўдзей Пятровіч гэта прасёк, бацькава старанне зацаніў, вызваліў ад калгаснай паншчыны і нават — цішком ад хлопцаў — тройчы сплачваў майму дзеду нейкія грошы.

Паколькі мара пра авіявучэльню ляснула, Васіль паступіў у Маскоўскі педінстытут замежных моў. Як там вучыўся, нам не ведама, але ў канцы жніўня саракавога года ў СШ № 1 райцэнтра прыйшоў новы настаўнік нямецкай мовы. Добры, казалі, быў настаўнік. Ціхмяны маўчун з дарослымі, ён з дзецьмі станавіўся гаваркім і да таго пераканаўчым, што на нямецкую рап-

тоўна «захварэлі» ўсе ягоныя класы. Жыў на кватэры, бо яго бацькі ў гэты час ужо з'ехалі з вёскі і зганялі народ у калгасы недзе на захадзе Беларусі.

З прыходам немцаў ён яшчэ недзе месяцы са два настаўнічаў, але потым нечакана перайшоў на працу перакладчыкам ва ўправу. Увесну 42-га аказаўся ў свіце самога гебітскамісара акругі. Канечне, з тых людзей, хто ведалі Холадава, ніводзін не чакаў ад яго свядомай здрады. Ну, лічыце: саветы далі яму лёгкае дзяцінства, адукацыю, павагу людзей, няпыльную працу. А ён удаў такую западляну. Праўда, Васіль не лез пішчом ва ўладу, да вайны адхіліў некалькі прапаноў уступіць у партыю, забіў болт на палітыку. Мог, канечне, паводле бацькі, выдаць бяскрыўдную заўвагу наконт розных там перагібаў-перакосаў, але каб нешта сур'ёзнае, гадоў на дзесяць без права на перапіску, — не. Хіба што яго маглі завербаваць пад час вучобы ў Маскве. Толькі ў падобную лухту бацька ніколі не верыў.

Не паверыў мой стары ў сяброву здраду нават калі па вяртанні з вайны дачуўся, што Холадаву за кентаванне з фашыстамі далі дзясятку. Пасля перамогі было так: ёсць на табе кроў — «вышка», няма — 10 гадоў лагера.

Як Васіль вярнуўся ў вёску, бацька першы і адзіны падаў яму руку. Хадзіў лаяцца з сельсаветчыкамі і старшынёй калгаса, каб сябру далі працу. Дапамог пабудаваць хату. Вяскоўцы, што праўда, не надта касавурыліся на Холадава, бо сваіх такіх лагернікаў хапала: у вайну цэлы ўзвод паліцаяў, набраных з мясцовых смаркачоў, сачыў у наваколлі за парадкам.

Васіля пакінулі пры конях. Так ён і бабыляваў у новай пяцісценцы, даглядаў па чарзе з маім суседам Петраком Орлікаў ды Воронак, корпаўся на сваім агародзіку і быў цалкам задаволены падобным немудрагелістым жыццём. Нічога, бадай, не змянілася ў яго існаванні нават пасля падзеі, што ўскалыхнула не тое што нашу вёску, — раён. А можа, і вобласць, не ведаю. Усё адбывалася, лічы, пры мне, шасцігадовым чуваку-мацаку, так што аддаю, як кажуць, з рук у рукі.

Стаяў пачатак траўня 65-га года. Ці то трэцяга, ці то чацвёртага — не скажу дакладна. Помню толькі, што быў панядзелак, а на двары каторы дзень пякло так, што мы з сябрамі паспелі па першаму разу аблупіцца. Бацька з Аўдзеевічам адвячоркам выпівалі ў нашай хаце. На стале, акрамя самагонкі, — сала, капуста, гуркі. Да слова, так, як мая матуля, саліць агуркі ды квасіць капусту ў наваколлі не ўмела ні адна гаспадыня. Гэта — святая праўда, бо нездарма ж мужыкі, скінуўшыся на пляшку, кожны раз прасілі бацьку вынесці да кампаніі Верын агурочак ці капустачкі. Дык вось, базлалі пасля першай пляшкі Аўдзеевіч з бацькам, базлалі, а потым госць і кажа:

— Ведаеш, Толік, мая праўда, здаецца, усё-такі выплыла.

Бацька, пэўна, адразу змікіціў, на што сябар намякае, і адазваўся спакойна:

— Я табе казаў, што праўда як алей, выйдзе наверх. Ну, а што з тымі прыўладнымі гнідамі, канспіратарамі хрэнавымі?

— Ды мне пакуль ніхто нічога не гаворыць. Паведамілі толькі, што адшукаліся дакументы, чатыры прадстаўленні…

— Ні храна сабе! Аж чатыры! Ну, ты, відаць, і даваў там дразда!

— Ат, — махнуў рукой Аўдзеевіч. — Лепей бы ў свой час уся гэтая каніцель. Цяпер-та мне яна як да таго месца латка.

— Не, хлопча, не скажы. Вярнуць сваё ніколі не позна. На днях, мабыць, у Мінск паклічуць?

— Паклікалі. На восьмае.

— Ну што, давай тады нарэжамся як цюцькі?

— Давай…

Назаўтра я ўчапіўся ў бацьку кляшчом: пра што ды пра што вы з дзядзькам Васілём так сакрэтна гаварылі? Той адно пасміхаўся ў вусы і адказваў:

— Няхай для ўсіх будзе нечаканасць, а табе — сюрпрыз.

Так і не сказаў сакрэт, аглаед стары.

Усё адкрылася 9 траўня, у маё любімае свята. Як звычайна ў гэты дзень, пасля снедання бацька старанна ваксуе хромавыя боты і надзявае пінжак з узнагародамі. Матуля таксама прыбіраецца ў вясёлых колераў сукенку і хустку, насоўвае на мяне новы касцюмчык, бесказырку «Аўрора», і мы ідзём на цэнтральную вуліцу да былой канторы. Там ужо людна, мужчыны гамоняць, бразгаюць медалямі, жанчыны хваляцца адна адной букетамі красак, мае адналеткі ўсе чыста адмытыя, у сандаліках і сукеначках-касцюмчыках. Свята ж! А потым усе сыходзяцца ў калону, і тая даўжэзнай вужакаю паўзе ў бок салдацкіх могілак. Смех, звонкія лозунгі і дружнае «ўра!» лунаюць над намі праз усю дарогу. О, і яшчэ — сцягі! У тое свята я ўпершыню не сядзеў на плячах у бацькі, а ішоў сам і нават нёс вялікі, як мне тады здавалася, барвовы сцяг.

Каля клуба, якраз пасярэдзіне вёскі, нас ужо чакала гэткая ж мнагалюдная калона канчанаў. Пасля вясёлых прывітанняў ужо ўся вёска ішла адной шумнай грамадой. Вось і салдацкія могілкі. Перад імі, на зялёным пляцы, — збітая з габляваных дошак невялікая сцэна з трыбунай. Як усе размясціліся на пляцы і аціхлі, на сцэну спаважна ўзышлі калгасны старшыня, парторг і яшчэ нейкае начальства. Старшыня стаў за трыбуну, пачаў прамаўляць.

Я не слухаў, пра што гаварыў гэты лысы дзядзька. Мне цікава было ўслухоўвацца ў гучанне яго высокага голасу, у картавае «р», у частае «ў». І раптам вушы пачулі:

— А цяперр, таваррышы, я хачу даць сўова нашаму шаноўнаму госцю, пррадстаўніку абўаснога камітэта парртыі таваррышу Сазонаву.

Усе запляскалі. За трыбунай аказаўся высокі сівы мужчына з дзвюма рыскамі ордэнскіх калодак.

— Таварышы! Дазвольце павіншаваць усіх нас з вялікім святам — дваццаціГоддзем Вялікай перамогі савецкага народа над фашызмам! Ура!

— Ур-ра-а! — пракацілася над пляцам.

Далей ён нешта панёс пра гераічнае змаганне ўсіх людзей, пра тое, што ніхто не забыты, нішто не забыта, і нарэшце сказаў галоўнае:

— Сярод вас пражывае сціплы чалавек, працаўнік, пра вялікі подзвіг якога шырокая грамадскасць даведалася, на жаль, толькі нядаўна. Два ордэны

Чырвонай Зоркі, ордэн Баявога Чырвонага Сцяга і найвышэйшая ўзнагарода Радзімы — ордэн Леніна знайшлі нарэшце героя, Холадава Васіля Аўдзеевіча.

Натоўп ахнуў. Натоўп анямеў. І толькі праз хвіліну пачуліся першыя нясмелыя воплескі. А затым грымнула шалёная авацыя. Пляскалі людзі, якія ведалі сапраўдную цану такім узнагародам, якія ў душы ўсё яшчэ верылі ў справядлівасць і чалавечнасць.

Самога героя на пляцы, вядома, не было. Ён, як потым нам распавядаў, у гэты час стаяў на іншай трыбуне, зусім непадалёк ад новага Першага сакратара ЦК КПБ Машэрава.

Не буду казаць, што пасля такога гучнага прызнання перад Аўдзеевічам адкрыліся шырокія сцежкі… Толькі ён па іх не пайшоў. Не здолеў ці, хутчэй, не захацеў у каторы раз перапластаваць жыццё. Можа, яму ўсё ж іншы раз і карцела перабрацца ў куды больш людную мясціну, чым наша вёска, але калі бацька пачынаў пра тое загаворваць, то адразу чуў:

— Кінь, Толік. Маё ўсё — там, —ківаў некуды ўніз. — І, — абводзіў вачыма ваколле, — тут…

3

Запылены «УАЗік» старшыні калгаса коратка піскнуў тармазнымі калодкамі і застыў каля разнасцежаных варот канюшні. Валер Пятровіч, чырванатвары, лупавокі мардакрут, ступіў на ўтрамбаваную зямлю і адразу кінуў:

—Ну, дзе гэты даўбануты герой?

Я матлянуў галавой у бок хамутоўні:

— Там.

— І ты так спакойна пакінуў яго аднаго?! — у пытанні адначасова пачуліся здзіўленне і пагроза.

— А што мне? Ён цяпер ціхі. Сядзіць, вые.

— Значыцца, так: прыедзе «хуткая» — дапаможаш пагрузіць.

— Куды яго?

— Куды-куды — у сраку. У Пячэрск паедзе. Дурдом яго даўно гукаў. Нарэшце дагукаўся. Бля, і не дадушылі ж яго ў гестапа! Мёртвы герой — беспраблемны герой. Ты так не лічыш? Ну, што стаў? Вядзі да каня.

— Парву, с-сука пазорная! — нечакана выцадзілася ў мяне і кулакі самі, без маёй волі рвануліся крышыць гнілыя фіксы, трамбаваць ныркі, пячонку ды іншы лівер двухногай віскатлівай жывёліны…

## Водар малажынаў

Ранішні сутонак толькі распачаў ахутваць лёгенькім туманцом вясковыя хаты, як я са спінінгам у руцэ выйшаў на сцяжыну, што вяла да вуліцы. Бацькоўскі дом — цяперашняе маё лецішча — стаіць на самым ускрайку вёскі, у нейкай сотні метраў ад ракі, — можна адразу спускацца з узгорка на луг і падыходзіць да берага. Аднак сёння я намерыўся папытаць рыбацкага шчасця ў Скрыгалёвай завані (так мае землякі называюць старарэчча), таму і мусіў шнураваць праз селішча. Не паспеў прамінуць чацвёртую па ліку хату, як пачуў вокліч:

— Гэй, рыбачок! Падыдзі-ка, пагамані з народам.

Зірнуў улева-ўперад і ўбачыў за палісаднікам постаць дзеда Ласкуцёнка. Прывітаўся:

— Добрага рання, дзед Цімахвей!

— Ранне добрым не бывае, — буркануў той. Потым падазрона агледзеў мяне з галавы да гумавых ботаў і працадзіў:

— Ходзяць тут усякія, а тады галёшы ў людцоў прападаюць.

Не вытрымаў дзед узятай манеры, паказаў нарэшце праз усмешку шырокую шчарбіну паміж каронкамі:

— А чаго-та, Сяргуня, ты да сонца выпаўз са сваёй камяніцы? Мусіць, надумаў з печкурамі пабарукацца? Такім-та дубцом далікатным адно іх і пужаць (гэта ён пра мой «ультра-лайтавы» спінінг).

— Ну, печкуроў не печкуроў, а шчупака на тры кілі адольвалі.

— Хе, на тры кілі… Ды шчупака… Ды яшчэ снасцю… А ты б паспрабаваў рукамі пяцікілёвую балабу з берага выняць! А я вымаў! Ты хваробы такіх балаб заспеў: во! — дзед шырока развёў рукі.

Я згодна кіўнуў:

— Ага. А вочы ў іх былі, не раўнуючы, як у Аўцешынай Волькі. Чулі, ведаем. Ты б лепей, дзед, патлумачыў, чаму ўжо цэлы тыдзень ні шчупак і ні судак браць не хочуць. Дальбог абрыдла блешні паласкаць.

Дзед Цімахвей зірнуў на мяне дакорліва, як на дзіця неразумнае:

— А няма шчупакоў у рэчцы, Сяргуня. І ніякай рыбы няма. Скончылася. Ты што, на людзі зусім не выходзіш, калі не чуў, як на Купалу нейкі дзяцел бухнуў у ваду паўцыстэрны аміячкі? Мы тут усе крыкам крычалі, гледзячы на ракаў, што статкамі па беразе хадзілі.

Ё-о! О то патрапіў! Я ж і сапраўды за гэтыя шэсць дзён, як прыехаў, амаль нікога з аднавяскоўцаў не бачыў. Дом — далекавата ад людной вуліцы, а я ўвесь час то завіхаўся на градах, то рэзаў у суседнім бярэзніку баравічкі-жытнёвікі, то марна шукаў рыбацкага шчасця на рэчцы…

Дзед выняў з кішэні сіняй ватоўкі адпалавінены пачак «Прымы», працягнуў мне. Я не адмовіўся, узяў цыгарэту, хаця ў самога ляжаў яшчэ не расчаты «Вінстан».

— Андрэйчык званіў у рыбахову. Там кажуць: «Ведаем, шукаем». Ты не думай, нашы тут ні пры чым. Яны б самі галаву каму хочаш адкруцілі за такое паскудства.

А я і не думаў. Усе тыя дванаццаць мужыкоў, якія пакуль жылі ў гэтай вёсачцы, можа, таму і не з'ехалі ў аграгарадок, што тут была любімая з маленства рака. Няхай яна не сталася для іх у поўным сэнсе карміліцай, але да сціплага вясковага стала заўсёды магла што-нішто дадаць — у любую пару года. Ды рэч нават не ў матэрыяльнай выгодзе.

Развітаўшыся з дзедам, я пакіраваў дадому. Ушчэнт сапсуты настрой чакана паўздзейнічаў і на цела — закалола ў грудзіне, разбалелася галава. Я падышоў да азярца, якое выкапаў яшчэ да майго нараджэння бацька, ахвяраваўшы дзвюма соткамі агарода, прысеў на лаўку. Вось і зноў паўстала перад табой, хлопча, адвечнае славянскае пытанне: што рабіць? Адно зразумела — адпачынак на малой радзіме ляснуў, амаль не пачаўшыся. Шчыраваць на градах гараджаніну-самотніку сэнсу няма, грыбы ў печы хутка дасохнуць (хопіць на год з лішкам), застаецца толькі дазбіраць сякіх-такіх зёлак ды развешаць на гарышчы. І — Sator Arepo tenet opera rotas! — сейбіт Арэпа старанна накіроўвае колы… У горад.

Калі галаўны боль дапёк мяне дарэшты, пацягнуўся на веранду, выняў з лядоўні слоік з абляпіхавым сокам, «замуціў» шклянку напою і запіў ім дзве пілюлі анальгіну. Праз паўгадзіны галаве стала лёгка, і — не сядзець жа ў хаце сіднем, — перакінуўшы цераз плячо шляю ад кошыка, я нетаропка пабрыў на луг. Зёлкі збіраць было пакуль зарана — раса не апала, — таму я падышоў да рачнога берага і прысеў на ўрослы глыбока ў зямлю ствол паваленага дуба. Колькі сябе памятаю, гэты векавун ляжаў-марыўся, амаль цалкам схаваны ў вадзе. З яго мы падлеткамі ныралі ў вір, з-пад яго даставалі сцішаных плотачак ды акунёў, на ім развешвалі мокрую адзяжыну, да яго прывальваліся спінамі, каб хутчэй сагрэцца пасля купання. Мой бацька, хай свята спіць, казаў, што яшчэ ў дваццатых гадах мінулага стагоддзя дуб здаваўся яму ўсясільным волатам, але перад самай вайной рака неяк нечакана падмыла магутныя карані.

Вунь, вышэй па цячэнні, — Сінічкін брод. Ад берага да берага ў гэтым месцы тузіны са тры метраў. Некалі кожную вясну пасля паводкі мужчыны аднаўлялі на ім масткі. Дружная грамада багатай на працавітых людзей вёскі з саленаватымі жарцікамі як не тыдзень ладзіла сабе з маладога ельніку «сцежку на той бок». Любілі мы, смаркачы, паацірацца ў тыя дні каля дарослых. Колькі анекдотаў было тут пачута! А страхотных гісторый! Шкада, што ў капрызлівай памяці мала чаго засталося. Але выразна памятаю, як моцна каланула мяне жахам, калі нехта расказаў пра смерць дзеда майго аднакласніка Віцькі Патапчыка. Мікола Патапаў, а ён тады дзедам, вядома, не быў, бо яшчэ не меў і сарака гадоў, ішоў абкошваць «Трэція кусці»… Кассё з асаджанай «васьмёркай» пагойдваецца на плячы, асялок самаробны матляецца каля сцягна. Жвава перастаўляе ногі мужчына, песеньку нейкую высвіствае. Мікола заходзіць на масткі, яловыя жардзіны пад ім прагінаюцца,

раз-пораз парыпваюць, вада чысцюткая пясочак на дне рэчкі ўзварушвае. Мужчына пільна паглядае сабе пад ногі — недзе блізка ўжо надламаная жэрдачка, не абхінуцца хаця. І раптам справа ад сябе, каля падгнілага таплячка ён заўважае доўгі, ці не паўтараметровы цень. Толькі бліснула думка-знічка: «шчупак!», а рукі ўжо ўявілі, што трымаюцца зусім не за кассё — за дрэўка вострых, як назубленыя іголкі, восцяў. Удар! Галава Міколава падае ў ваду якраз на тое месца, дзе толькі што чакаў здабычу пудовы шчупак…

Гэтая карцінка доўга стаяла перад маімі вачыма. У тую ноч так і не здолеў заснуць, ляжаў-варочаўся на сенніку да самага сонца.

Я ішоў у бок Белага берага, абмінаючы кустоўе, што лашчыла рукамі-галінамі рачную плынь, і раз-пораз спыняўся. З кожным паваротам ракі, з кожным вірам звязваў мяне якісь успамін, часам светлы, як сённяшняе неба, а то і змрочны, што вада ў Бабінай тоні. Вось каля гэтай, пяціметровай глыбіні ямы, памёр летась з вудай у руцэ Мішка Весяловіч. Пасля сумнай памяці афганскай вайны ён захварэў на сэрца. Першы інфаркт не змог адолець «афганца», затое наступны… Добрая смерць, як для патомнага рыбака. Зайздрошчу. Хаця людзі кажуць, што смерць разумнай не бывае…

За чарговым рачным паваротам адкрыўся ўтравелы плёс. Лёгкі ўсплёск у трох кроках ад маіх ног прымусіў застыць, прытаіцца за рэдкім лазняком. Норка. Цёмна-карычневая, з бліпчастымі вочкамі-гузікамі, яна трымала ў зубах пук асакі і кіравала наўпрост да кусточка, за якім стаіўся я. Зашорхала трава, пачуўся тонкі піск нарчанятак. Цяжка табе будзе, небарака, пракарміць сёлета сваю сямейку. Згадаў, як мінулым летам ці не гэтая звярынка пагаспадарыла ў маім вядры з жыўцамі. Я пакінуў яго каля старожні (так называюць у нас жыўцовую вуду), а сам пайшоў праверыць жэрліцы. Калі вяртаўся, заўважыў каля вядра памаўзуху-госцю, што імпэтна выцягвала маіх плотачак і гусцёрак ды складвала на траве. Спыніўся, сцішыўся. Норка схапіла рыбіну, слізганула ў куст. Праз хвілінку вярнулася, агледзелася, узяла ў зубы наступную… Заставалася чатыры плотачкі з былых дванаццаці, калі яна заўважыла чужы позірк. Адразу натапырылася, засіпела, скочыла на метр у мой бок, вярнулася да вядра. Я не варушыўся, хаця назолы-камары ўжо напоўніцу раскашавалі на руках і твары. Супакоеная норка зноў падхапіла рыбіну і мільганула ў куст. Я адпусціў дыханне, разагнаў камароў і зноў прыціх — дужа не хацелася пужаць здабычлівую гаспадыню віру. Норка доўга не паказвалася на вочы. Я хацеў быў ужо кранацца з месца, як каля ног пачуў злоснае «с-с-сі!» і ўбачыў ашчэраную пыску. Уся натапыраная, з распушаным хвастом, норка кідалася да маіх ботаў — адганяла навалач, што нібыта мерылася адабраць у яе законную здабычу. Вядома, я адступіў. Здаўся перад воляй маленькай смялушкі.

Прайшоў яшчэ крыху далей і згадаў іншы выпадак — як тры гады таму «лавіў» на вуду бабра. Вунь там, на Аўсеевым віры. Акуні ў той дзень клявалі з невялікай ахвотай. Я сядзеў на табурэце-складанчыку і злёгку медытаваў. І тут раптам пачуў ціхае пыханне: паўз бераг уверх па цячэнні, быццам ма-

ленькі буксірык, траляваў ладную алешкавую галіну бабёр. Паплавок звер не заўважыў, праставаў на яго. Зразумела, ідэальнай вастрыні «owner-скі» кручок здабычу не прамінуў. Нацягнулася лёска, зрушылася і пасунулася ў ваду дарагое пяціметровае вудзільна з не менш дарагой японскай безынерцыёнкай. Не ведаю, можа, калі б вудзільна маё было арэхавым ды без катушкі, то паназіраў бы, чым усё скончыцца, і даў яму сплысці, але тут жаба задушыла. Я схапіўся за коркавую рукаятку, лёска напялася, зазвінела пад ветрыкам і тут жа аслабла — не вытрымаў павадок. А жывая машына зусім не заўважыла смешнай для яе габарытаў і вагі перашкоды і як плыла сабе, так і плыла, заціснуўшы разцамі сваю галіну.

Мілая з дзяцінства рака… Процьму шчаслівых імгненняў падаравала ты мне. Ты абудзіла маю фантазію і прадвызначыла лёс. Ты заўсёды была і застаешся маім найблізкім сябрам, самым прыемным і ўдзячлівым суразмоўнікам. Я заўсёды дзякую Богу і людзям, якія не далі ў часы «ўсеагульнай» меліярацыі спраставаць твае рэчышча. Ты засталася паўнаводнай і рыбнай, у адрозненне ад многіх тваіх сясцёр-гаротніц. Я ведаю, што і на гэты раз ты ажывеш, і вада твая завіруе ад шчупаковых ды ляшчовых усплёскаў.

Вунь ужо Белы бераг… Тут лес абрываецца каля самай вады. Ціхімі вечарамі сосны далікатна глядзяцца ў вадзяное люстэрка і маладыя дубкі прыхарошваюць крадком свае густыя чубы. Гэтае месца ў нас, юнакоў ды падлеткаў, набывала папулярнасць штогод ад Саракоў да Іллі. Перад веснавым святам да дзвюх надбярэжных соснаў мацавалі доўгія сталёвыя ланцугі, вынесеныя цішком з калгаснага кароўніка. Да іх ніжніх звёнаў прыкручвалі тоўстым дротам абчасанае бервяно. Ух, на якую несусветную вышыню над ракой узляталі шчаслівыя гушканцы. Дзіўна, але не прыгадаю ніводнага выпадку, каб нехта абрынуўся з нашых «касмічных» арэляў. Затое колькі было смеху, дзявочых крыкаў і віскатанняў! Куды там гарадскім «халі-галі» ды іншым «супер-8».

Тут, на Белым беразе, мяне напаткала самая моцная за ўсе школьныя гады закаханасць. Мне было 15, ёй — 14. Невысочанькая, уся зладжаная нібы з маленькіх трохкутнічкаў, у адзін з перадкупальскіх вечароў яна падышла да мяне і дзёрзка прамовіла: «Сержык, ты цяпер — мой хлопец. Я цябе пакахала». Узяла, анямелага, пад ручку і павяла да арэляў. Мы гушкаліся так, што згіналіся зусім не тонкія ствалы сосен-«апораў». Мы прыціскаліся адно да аднаго так, што нашы сэрцы ўрэшце спыніліся, а потым зноў затахкалі — ужо ва ўнісон. Тры гады я хадзіў, зачараваны сваёй сяброўкай, і нават не заўважыў, калі трохкутнічкі яе цела пераліліся ў авалы, а пры пацалунку яна перастала ўставаць на дыбачкі. Тут, на Белым беразе, мы сталі мужчынам і жанчынай. Тут нам найлепей ма́рылася пра нашу будучую шчаслівую сям'ю. А потым… Потым мы скончылі школу і я амаль адразу апынуўся ў войску. У першым жа лісце Ірына паведаміла, што чакаць салдата не будзе.

Я ўзняўся на ўзгорачак і ўвайшоў у лес. Як жа зарос ён кустоўем за апошнія дзесяцігоддзі, як захлудзіўся…

Паказалася палянка, на якой мы з Ірынай аднойчы ўгледзелі ажыны. Яны былі салодкія і нават па колеры не падобныя на прырэчныя. Тыя — цёмнасінія, з белаватым налётам, а гэтыя — фіялетавыя, аж да чарнаты. І водар. Дзіўны, пранізлівы, непаўторны водар. Успомніў, як упарта даводзіла мне сяброўка, што гэтыя лясныя ягады — прыродны гібрыд малінаў з ажынамі. Я не надта верыў, пасмейваўся, але ўрэшце пагадзіўся з каханай. І мы назвалі ягады малажынамі. Так і павялося: «Куды сёння йдзем?» — «У малажыны». Значыць, у наш лес, на Белы бераг. Назбіраем па жмені ягад, прыляжам каля ядлоўцавага куста і «кормім» адно аднаго — з вуснаў у вусны, па ягадцы…

А вось і наш ядлаўцовы куст. Пасярод калючых недарослікаў на пяціметровую вышыню вымахнулі два таўсценькія, у маю руку, стромкія дрэўцы. Рэдкая рэч у нашым лесе — каб ядловец дасягаў такой вышыні. Я прылёг каля куста, скінуў боты і выпрастаў натомленыя ногі. Прыжмурыў вочы, сцішыўся. Стала лёгка-лёгка…

…З абдымкаў медытацыі мяне паволі, непрыкметна вывеў бясконца знаёмы пах. Не, хутчэй — водар. Я адкрыў вочы і здрыгануўся: на мяне глядзела — блізютка — маё напаўзабытае каханне. Ірына! У дробненькіх роўных зубках яе была заціснута чорная пірамідка малажынаў.

— Тс-с, — прамовіла яна. Ягадка расціснулася, цёмна-барвовы сок расцёкся па пярлінках зубоў.

— Як ты мяне адшукала? — майму здзіўленню не ставала межаў.

— Дзед Цімахвей… — яна пасмакавала ягадку, — цябе «прадаў», — усміхнулася. — Ну, будзеш «есці»?

— Буду! — лёгка выдыхнуў я. Зажмурыў вочы і з невыказнаю прагай упіўся ў салодкія, набрынялыя водарам малажынаў вусны. Праз хвіліну я ўжо не ведаў, куды шпурляў пазрыванае з яе і з сябе адзенне. Сатары* было бязмежным і, здавалася, бясконцым. Калі ўрэшце, знясіленыя, ледзь жывыя ад перажытай асалоды, адкінуліся на спіны, я цвяроза падумаў, што ніколі, ні ў маладосці, ні тым больш у сталасці, не адчуваў гэткай арганічнай блізкасці з жанчынай.

Мы колькі часу паляжалі моўчкі, потым Ірына ўстала, пачала шукаць сукенку. Я глядзеў на яе, такую зграбную, маладжавую, любаваўся і міжволі, толькі на імгненне, параўнаў яе паставу з азызлай фігурай былой жонкі. Але Ірына нешта адчула. Павярнулася да мяне, запытала:

— Казалі, халастуеш? **Яна** цябе кінула ці ты яе?

Я пацiснуў плячыма:

— Абое. Стаміліся. Ведаеш, калі ў сям'і толькі творцы і ніводнага нармальнага чалавека, гэта цяжка. Ды і сын ужо на свой хлеб падаўся.

— Ну, — крытычна агледзела, — хлопец ты відны, у бабылях не застаішся.

— Э не, Ірынка, двойчы на граблі — гэта не маё. Прынцып. А што ты ў нашы палесціны завітала? «Дым ацечаства?»

---

* У перакладзе з санскрыту — азарэнне, прасвятленне, шлях да мудрасці і спасціжэння жыцця.

— Каб жа. Уцякла ад свайго стаматолага. Абрыднуў з вечнай сквапнасцю, пажаднасцю, семіцкім пахам і ліпкімі рукамі. Не вярнуся!

— Ціха, ціха. Калі сапраўды хочаш сысці, то згадай нашу «хіміцу» Анжаліку: «Части-и-ца “не-е” подсозна-анием не воспринима-ается…»

— Ты, псіхіятр недапечаны, парай лепей што-небудзь няшчаснай дзяўчыны цяжкіх паводзін. Бо, калі вярнуся, я ж яго раздзяру, як жабу. У раманах твае гераіні вунь якія вынаходлівыя.

— Дык то — раманы. А тут — жыццё.

— Прызнайся, — нахілілася нада мной, — з каго спісаў Алену ў «Радзіміцкі хутар?» Адкуль ты ведаеш пра маё жыццё? Спецыяльна высочваў? — у яе вачах заблішчэлі смяшынкі. — Калі меркаваць па сюжэце, у Алены мусіць з'явіцца чацвёрты муж. Хто ён?!

Нечаканыя пытанні мяне збянтэжылі. Пачаў апраўдвацца:

— Я не сачыў за табой. І нават не ведаў, як склалася ў цябе жыццё. Проста ўявіў, якім яно магло б быць…

— Нішто сабе — уявіў! Я дзве ночы не спала, усё планавала помсту. Гэта ж так абсмактаць мае замужжы! Антона ты мог бачыць у нашай вёсцы. З Віктарам мы ўсе гады пражылі на Украіне. Значыць, магла мама расказаць — вось табе і «хутарскі» Паланяйчук. Ды і Лёва, куркуль фіксаты, настолькі падобны да «кніжнага» Сымона Шклоўскага, што, думаю, ты ў яго хоць аднойчы зубы лячыў.

— Ды не, Ірынка, што ты. Нічога я пра іх не ведаю. Гэта ж толькі фантазія, — рыўком сеў, пачаў нацягваць нагавіцы. Так няёмка пачуўся, аж гузік няўзнак абарваў.

— Хворая нейкая ў цябе фантазія, Сержык. Ды бог з табой, я даўно не крыўдую.

Ірына абцягнула сукенку на клубах, намерылася яшчэ нешта прамовіць, але толькі махнула рукой.

І тут я адважыўся, з надзеяй на немагчымае выдыхнуў:

— Ці кахала ты мяне?

— Не, — быццам абсекла надзею. — Здаецца, я і ўвогуле нікога не кахала. Мужоў-прахадзімцаў? Смешна. Яны не тыя мужчыны, каб мець іх за ідэал. А вось любіць — любіла. Маму, тату, пакуль былі жывыя. Шкуцце featureрознае фірмовае любіла, машыны… Цяпер не ведаю нават, да чаго душы хінуцца. Усё абрыдла. Ды я разумею, што ты мяне павінен асуджаць.

— Глупства. Знайшла пракурора.

— Маўчы. Я сама вінаватая. Памятаеш, калі мы сядзелі на лаўцы каля хаты Лявона Сініцы, ты мне расказваў пра тое, якой бачыш сваю будучыню? Я тады ясна адчула, што ў ёй мне месца няма. Ты не з тых мужчын, хто дазволіць сабой папіхаць. Нават блізкаму чалавеку. А я — не курыца, я — сава. Начная драпежніца. Не ўсміхайся, гэта праўда.

Калі мы развітваліся, Ірына неяк вінавата ўсміхнулася, паглядзела мне ў вочы і праказала:

— Сержык, дзякуй, што хаця на гадзінку вярнуў мяне ў наша апошняе шчаслівае лета.

Пайшла. Лёгкая, па-юначаму гонкая. Недасяжная…

…Ачуўся я на сыходзе сонца. Сосны бясконца доўгімі ценямі чарцілі паляну. У спондніках было мокра. «Саракагадовы тынейджар», — з горкім сорамам пасміхнуўся я. Паспрабаваў сесці, і тут мой твар натыкнуўся на калючую зялёную галінку. На вершалінцы яе сіратліва маршчынілася цёмна-вішнёвая, амаль чорная пірамідка малажынаў.

## Памаганцы

У гарачую пару касавіцы і ўборкі на падмогу вяскоўцам заўсёды пад'язджалі шэфы. Шэфамі ж калгасаў і саўгасаў лічыліся багатыя на рабсілу і тэхніку заводы, фабрыкі ды розныя ўстановы… Часцей за ўсё такая дапамога сябе апраўдвала. Ды і весялей неяк рабілася на не надта людных палетках.

Да касавіцы, як да любой важнай сезоннай працы, калгас рыхтаваўся загадзя. Конныя і трактарныя касілкі даводзіліся да ладу, тэрмінова дакупляліся косы. Яны адразу кляпаліся, асаджваліся мясцовымі ўмельцамі — шэфы ж касіць-шчыраваць прыедуць, а з нядошлым інструментам толькі нагаруешся.

Пойма ракі ў гэтых мясцінах забалочаная, зарослая кустоўем, таму спрадвеку выкошваецца ўручную. У касавіцу 197* года колькасць наезджых шэфаў уразіла нават бывальца Віктуся Мачылу — з аўтобуса іх выйшла нешта каля трох дзясяткаў. Круглатварыя мацакі-міліцыянты, «буйнагабарытныя» чыноўнікі райкама-выканкама з імпэтам разбіралі косы і адразу пачыналі іх мянташыць. Па ўсім было відаць, што настроены памагатыя толькі на ўдарную працу.

— Го-о, бляха, етыя кабаны, як бачыш, і лазняк павыпластаюць, — праказаў з непрыхаванаю надзеяй Віктусь. Яму, брыгаднаму конюху, брыгадзірка азначыла ролю «фуражыра» і адказнага за «тэхнічку». З самага досвітку ўжо «фуражыр» парупіўся — у цяні стаяў бідон з малаком (піць заместа вады), на калёсах ляжала дубовая калода з убітай «нямецкай» бабкай (кляпаць косы)…

Неўзабаве касьба заспорылася. Амаль ці не цэлую гадзіну Віктусь цікаваў з-пад калёс за касцамі, пакручваючы з павагаю галавой, — якая ж усё-такі ў хлопцавых руках моца нялюдская. Пакрысе, праўда, працоўны напал стаў аціхаць, шэфы па адным, па двое падыходзілі да бідона, з насалодай смакавалі малако, адмахваючыся ад сляпнёў жмукамі травы, і клаліся пад куст, выставіўшы ў неба гарбузы жыватоў. А тут некаторыя дасталі працы і Віктусю — начальнік ДАІ зламаў кассё, інструктар райкама вышчарбіў касу (і вышукаў жа недзе крушню ў балоце, паганец), загадчык аддзела райвыканкама ўвогуле зашпурнуў сваю ў кустоўе, сказаўшы, што такім струмантам — толькі рыбу глушыць… Карацей, гарапашнік Віктусь забыў пра супакой і толькі й рабіў, што кляпаў, стругаў і набіваў.

Як бачыш, надышла часіна абеду. Працаўнікі ўмэнт ажывіліся, калі заўважылі бартавы «газон» з «будкай» — на такіх машынах бадай ва ўсіх гаспадарках раёна падвозілі харч на палі і лугі. Мужчыны дружна ўзяліся за ёмістыя сідары, клапотка спарадкаваныя руплівымі жончынымі рукамі.

Балявання, падобнага ўчыненаму на лугавіне шэфамі, Віктусь не бачыў аж ад часу іх мінулагодняга дэсанту. Тады небарака так набракаўся, што нават не адчуў, як Вольга — жонка — з клёкатам і рыкам пераламіла на ягоным хрыбце яловы чапяльнік. Сёлета частунак аказаўся яшчэ багацейшым — як не па дзве пляшкі на брата.

Ох, і нагаварыліся, палуднуючы. Успаміналі гісторыі свежыя і даўнія, смешныя і страхлівыя — гоман стаяў на два рамальскія табары.

Калі пачало вечарэць і пад'ехаў аўтобус, каб адвезці касцоў у райцэнтр, чатырох райкамаўскіх інструктараў-сябрукоў адшукаць між кустоўя не змаглі. Ды і не надта, калі чэсна, іх і вызіралі: праспяцца на волі, а да горада таго — восем кіламетраў — не круг для маладзцаў, дойдуць. Віктуся Мачылу конь прывёз у двор апоўначы. Вольга моўчкі распрэгла жывёліну, папаіла, паставіла ў хлеў і пайшла сабе ў хату спаць. Гаспадар, стогнучы і мыкаючы нешта несусветнае, закапаўся па самыя вушы ў сена і заначаваў на калёсах.

Раніцай брыгадзірка прайшлася па скошаным «плацдарме» з сажнем-крокамерам і, без натугі склаўшы намераныя лічбы, мацюкнулася скрушліва ды праказала:

— Велькі жук, ды малы гук. Роўна паўтары соткі на рыла. Адно слова — памаганцы, мець бы іх аглаблёю…



Украінка Сяргей Сяргеевіч нарадзіўся 25 студзеня 1961 г. у в. Ніканавічы Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт БДУ, аспірантуру ў Магілёўскім дзяржаўным універсітэце імя А. А. Куляшова. Працаваў настаўнікам, выкладчыкам на кафедры беларускай літаратуры і журналістыкі ў МДУ імя А. А. Куляшова, будаўніком; цяпер працуе ахоўнікам. Друкуецца з 1977 г., аўтар шматлікіх вершаў, змешчаных у перыёдыцы, зборніка паэзіі «Маё Купела» (2001).

## Сяргей Украінка

МІКОЛА ЯЦКОЎ

*КОЛА ГОДА*

## Вясна

### Замалёўка

Сёння лазня ў нашых галак —
пырскі з лужыны ляцяць;
галкі млеюць там кагалам
і па-свойму лапацяць —
пачалі сваю нараду,
каб кансенсус той знайсці
і з зімовага раскладу
на вясновы перайсці.



Напэўна, аслеп каляндар —
аб нейкай вясне ўсё балбоча;
а сівер па даху грукоча,
смяецца, шалёны, у вочы —
ён сёння яшчэ гаспадар.



Абдымі, заціхні і ўглядзіся
ў надыход вясны доўгачаканай…

Выдзьмувае сонечны наш ранак
дзён былых скамечанае лісце,
і нанова будучыня меціць
залатую, стрыманую згоду…

Мне нясеш далоняў прахалоду
толькі ты, адзіная ў сусвеце.



*Глебу Хмялёву*

Заўжды пільнуюць нас турботы —
ды часам так, што не ўздыхнуць.
Але вясна знясе гароту,
і ты ўсміхнешся, дружа, потым
над *тым* імкненнем не задзьмуць
агонь адносінаў сур'ёзных
да мітуслівасці жыцця.
Вясна!
Прыгожыя бярозы…
Твой дзень…
Чаканне адкрыцця.



У зялёным полымі траўня
дагараюць зімы парэшткі;
недзе белае знікла бяспраўе
і душа ажывае нарэшце,
і ў вачах залацяцца зоркі —
нібы злодзей, я скраў іх з неба…
Будзе добра, не будзе горка,
не памрэ да жыцця патрэба.

## Лета



*Жонцы*

І не шкадуе чэрвень сонца
поўных жмень,
і зноў пастукаўся ў аконца
гэты дзень,
і ўсё ляціць па хвалях лёсу
ветразь твой,
і недзе там кахання плёсы
за табой…

**Перад Купаллем**

Падоўжым той дзень
да купальскай спакусы.
Абдурым гадзіннік.
Пакрыўдзіцца сон.
І некалькі жменяў чакання —
на вусны,
і папараць-кветцы —
апошні паклон.



Бурчыць тамбурынам
счарнелае неба —
ідзе навальніца.
Хвіліна — і грымне!
Дай, Божа, бо — трэба
напіцца й пазбыцца
спякоты бясконцай,
і зданяў падманных,
і смагі адвечнай…
А потым хай сонца
прысядзе на ганак
і скажа аб нечым.

## Восень



*Анатолю Шпількову*

Золата напеву —
зноўку лістапад.
Сцішыліся дрэвы —
хутка новы лад.

І цябе ізноўку
памяць агарне —
кіне у вандроўку
па былой мане…

Золата на белым —
твой пад снегам гай…

Што было — адпела,
што ідзе — чакай.

## Зіма

### Успамін дзяцінства

Зіма. Завея. Снег да даху.
І чорны вецер за акном.
Жах забіраецца пад паху
і спіць, скруціўшыся клубком.
А нехта ў коміне спявае —
аднекуль, мабыць, заляцеў
і твар у поцемках хавае
у тым закураным куце…



…А што мы там бачым?
А хто нас вітае?
І ці дачакаемся нечага мы?..
Там чорная ружа ўначы расцвітае
сярод непарушнай, бясконцай зімы.



Да радзімы бліжэй,
а на сэрцы цяжэй,
і нічога не зробіш тут, браце.
Маразы надышлі,
і снягі замялі
нават комін на нізенькай хаце…



Вось яно — побач,
а ўзяць — немагчыма.
Дзве рукі поруч —
здаецца, учынак.
Нешта наяве —
а веры няма…
Прыйдзе і збавіць
ад тлуму зіма.



Нечакана падкоціць зіма
і пабеліць маю галаву.
А прыпынку яшчэ няма,
дый калі да яго даплыву?
Адгучаў маладосці смех,
і кахання касцёр згарэў…
Белым попелам падае снег
на счарнелыя коміны дрэў.



Сказаць жадаю —
слоў няма.
Хачу спяваць —
прапалі ноты.
Вясну шукаю —
ды зіма
мае расхрысціла вароты…

Яцкоў Мікалай Адамавіч (літаратурныя псеўданімы Адам Доман, Панас Прусак) нарадзіўся 22 мая 1959 г. у Магілёве. Скончыў Магілёўскае культасветвучылішча імя Н. К. Крупскай, а потым Мінскі інстытут культуры. Служыў у войску. З 1981 г. працуе дырэктарам Брылёўскага сельскага Дома культуры Магілёўскага раёна. Паэт, перакладчык, публіцыст, кампазітар-песеннік. Выдаў кнігі паэзіі «Кракаўскія сшыткі», «Міколавы прыпеўкі», «Хрышчацік», пераклаў на беларускую мову кнігі А. Аўруціна «Лінія лёсу» (з расійскай) і Б. Хендэрсана «Лонданская ноч» (з англійскай). Выдаў 13 зборнікаў песень на вершы розных паэтаў. Аўтар музыкі афіцыйна зацверджанага «Гімна Магілёва».



МІКОЛА ЯЦКОЎ

ВАЛЕРЫЙ КАЗАКОЎ

# Пара! Пара!

*Апавяданне*

Бяда, як і шчасце, прыходзіць нечакана.

Стары Трафім абыякава глядзеў на маскоўскіх стральцоў, якія аблюбавалі яго дом для сваіх штоночных папоек і цяпер згрудзіліся вакол шырокага стала. Падслепаватыя каганцы і тоўстая васковая свечка, прыладжаная пасярод стала, абстаўленага featured разнакаліберрнымі бутлямі, чаркамі і небагатай ежай, толькі злёгку асвятлялі твары. Калматыя, барадатыя, у дзіўных, падобных на бабскую адзежу халатах чужынцы адкідвалі на сцены доўгія страшныя цені.

«Як чэрці павылазілі з апраметнай, — ахінуўшы сябе хросным знакам, падумаў Трафім, загортваючыся ў доўгі залатаны авечы кажух. — І калі ж ты, Гасподзь, звядзеш гэту пошасць з зямелькі нашай? Амаль сёмы год няма супакою. Вунь людзі баюць, што за сценамі горада ні сялян, ні жылля, ні быдла на дзясяткі вёрстаў не адшукаеш. Сабакі здзічэлыя гойсаюць, ды крумкачы па папялішчах косткі людскія носяць. Божа, Божа, за што ж мне ўсё гэта бачыць наканавана і трываць? Учорась вечарам стругі прыплылі з-пад Шклова. Стральцы і чаркесы ўсцешыліся, кінуліся да Дняпра: думалі, пехацінцы царскія падаспелі, аж не — у ладдзях свінец, ядры, пораху крыху, а астатняе ўсё — палонныя, палонныя. Падняпроўе ўсё ўжо даўно спусцела, дык яны цяпер гарадзенскіх, віленскіх і полацкіх людзей ловяць, як звяр'ё, дзясяткамі вяроўкамі вяжуць і — у стругі, у стругі, а ад нас па гасцінцы на Мсціслаў, Смаленск і далей, у бязмежную Масковію. Вязняў гоняць па дарогах, як скаціну, хворых і нямоглых кідаюць у прыдарожных канавах здыхаць. А адзінаверцы ж, праваслаўнымі сябе называюць, у цэрквы ходзяць, каюцца, прычашчаюцца. — Трафім уздыхнуў. — Ох, грахі, грахі нашыя, колькі гэта яшчэ будзе доўжыцца?» — стары павярнуўся да сцяны і, не адчуўшы цяпла ў сваім высушаным працай і часам целе, пагрузіўся ў чулую дрымоту.

Трафімаў дом быў прасторны і відны, на высокім каменным падмурку, які ўзвёў яго прапрадзед, а можа і хтосьці з яшчэ далейшых продкаў, — цяпер хіба згадаеш? Род іх, як гаварылася ў сямейным паданні, ужо стагоддзі з два займаўся зброевым рамяством, а праз тое меў павагу ў людзей і добры дастатак. Дом ганарліва стаяў напачатку вуліцы, якая паката ўздымалася да цэнтра горада ад Ветранай вежы. На першым каменным паверсе і ў глыбокіх склепах былі збройніцы-майстэрні, невялікая кузня, кладоўкі, сляпыя каморкі працаўнікоў. Адмысловым гонарам гаспадароў было прасторнае склепавае памяшканне з шырокім дубовым сталом пасярэдзіне, што служыў і для арцельнай работы, і для цэхавых трапез, тут жа, у куце, была складзена з дзікага каменю велізарная печ, якая мела, апроч кузні, свае мяхі. Нешырокія спічастыя вокны давалі досыць святла, а ў выпадку ліха служылі нядрэннымі байніцамі. Да прыходу маскавітаў гаспадарка Трафіма лічылася заможнай,

а сам ён як таварыш майстра зброевага цэха быў вядомым месцічам і не раз выбіраўся лаўнікам пры магістраце.

Дзецьмі іх Бог не пакрыўдзіў, паслаўшы чатырох сыноў і пяцёра дачок. Два сыны і тры дочкі жылі асобна, перадапошні, Бронька, папёр у дурства, не стаў вучыцца сямейнаму рамяству, а з дзяцінства здружыўся з кніжкамі, перайшоў у унію і падаўся ў далёкую Еўропу вучыцца аж у саміх універсітэтах. Па рэдкіх лістах ды пераказах знаёмцаў выходзіла, што выбіўся Браніслаў у людзі, важнай птушкай стаў — і служыць сягоння ледзь ці не пры самім гетмане Сапегу. Астатнія сыны, два зяці і пяць унукаў усе пры радавой справе засталіся. І ўсё б добра, калі б не вайна. У былыя ж часы любая баталія толькі прыбытак у дом несла, а цяперашняя ўсё падчыстую вымела і па белым свеце раскідала. Няма ні дастатку, ні сямейнікаў, ды і самога дома, бадай, няма, верхняя драўляная частка амаль выгарала яшчэ напачатку вайны, калі Магілёў, які здаўся без бою, рабавалі наваяўленыя вызваліцелі.

Цар Аляксей Міхайлавіч якіх толькі выгодаў месцічам за добраахвотную здачу фартыфікацыі не прапаноўваў, а як толькі Магілёў браму адчыніў, паддаўшыся і царскім абяцанкам, і ўгаворам папоў, і падмётным лістам шалапутнага Касцяна Паклонскага, дык ужо ўсяго спаўна сербануў. Бадай, за год застаўся Трафім адзін. Старэйшага ўнука і аднаго з зяцёў звёў пад Чавусы ў казакі ўсё той жа Паклонскі, якога Масква ўмасціла чынам палкоўніка і якому за здраду аддала ў валоданне амаль усё наваколле. А месяцы праз чатыры і зусім бяда грымнула, бяда ж па адной не ходзіць. Пакуль Трафім адлучаўся па справах да кума ў Шклоў, маскавіты з татарамі ўшчэнт абрабавалі дом, а ўсю сям'ю з бабамі і малымі дзеткамі вывелі кудысь пад Яраслаўль у рабства. Ці бачыш ты: Русі вялікай надта майстравыя патрэбныя! Балазе суседзі дом датушыць паспелі, хоць каму ён цяпер патрэбны, дом гэты? Кінуўся было агаломшаны стары да япіскапа Ермалая, заступніка і апошняй надзеі, тым больш, што для ўладыкі ён быў не апошнім чалавекам. Колькі ад сябе ды і ад усяго цэха ён у архірэйскія пакоі дабра і грошай перанасіў! Ды куды там! Назваў яго правялебнейшы «літоўскім чалавекам» і параіў ісці з чалабітнай да ваяводы Войкава, а то і да самога Шарамецьева, маўляў, абодва будуць сёння на абедні. Не атрымалася з чалабітнай: ні ў храм, ні ў якое іншае месца, дзе бывалі ваяводы, яго не пусцілі, а гналі сілком з мацюгамі ды кухталямі.

Пастунова звыкся Трафім са сваёй бядой ды яшчэ і Богу дзякаваў, што дачок ды ўнукаў у палон звялі. Можа, яны там хоць неяк у жыцці ўладкуюцца — усё ж лепш, чым трываць гвалт ад п'янай салдатні і казакаў Залатарэнкі. Ліха на іх! А маскалі лютавалі, асабліва калі ім хто хвост прышчамляў. Пасля іх зверстваў душу раздзіралі сумневы: ці людзі гэта? Ці Божае аблічча носяць на сабе? А самым цяжкім было стаяць з імі ў царкве і глядзець, як яны замілавана каюцца, замольваючы сваю нялюдскасць. Некаторыя прама перад царквой рукі ад крыві снегам абцяруць — і на абедню, ды яшчэ і да Чашы наравяць першымі падысці. Гады з тры ўжо Трафім у царкву не хадзіў. Тут, у сябе ў склепе, бажніцу збудаваў і маліўся, нібы раскольнік які.

З год як панадзіліся да яго на пажарышча хадзіць п’янстваваць стральцы. Спачатку страшна было, ды сцярпеўся. Так ужо ўладкаваны, відаць, чалавек, што да ўсяго прывыкае, і як бы дрэнна ні было, страх ад таго, што можа быць яшчэ горш, прымушае трываць нетрывальнае. Здзічэлыя, нямытыя і заўсёдна п’яныя ваякі не звярталі на яго ніякай увагі, толькі часам піхалі палкамі і гналі распальваць печ, балазе дровы ўсё яшчэ былі побач, на другім паверсе. Затое раніцай, калі няпрошаныя госці выбіраліся прэч, на стале заставаліся аб’едзіны, а то і пару глыткоў выпіўкі. Старому гэтага хапала.

Трафім пачуў, як завыла ў коміне і гучна загрукала напаўадарваная аканіца. Першая лютаўская ноч выдалася марознай і ветранай. Не чакаючы кухталёў ад гагатуноў-ратнікаў, стары вылез са сваёй нары і, шорхаючы стаптанымі буркамі, паплёўся па дровы.

«Ну, пачакайце, будзе вам хутка, о-ой будзе!» — падумаў і спалохаўся: а што, калі праклятыя пачуюць яго думкі.

Дровы заняліся хутка і весела затрашчалі ў астылай печцы.

— Гэй, польскае быдла, падзі сюды, — павярнуўшыся да яго, пазваў маладзенькі стралец, відаць, з нядаўна прыбылых. Бачачы, што стары ніяк не рэагуе на яго загад, хлапчына, гучна ікнуўшы, пачаў выбірацца з-за стала.

— Суніміся, галуба, стары глухі, ды і не паляк ён! — пляснуўшы напарніка па плячы і ўсаджваючы на месца, прамовіў служака Арэфій, які гады з чатыры невылазна служыў у крэпасці і, відаць, з гэтым ужо звыкся. Часам, напіўшыся, ён плакаўся Трафіму на сваю горкую долю і прасіў пахаваць палюдску, калі яго заб’юць у гэтым чужым і не патрэбным яму горадзе.

— А хто ж ён? — працягваючы ікаць і ўсё яшчэ косячыся на старога, здзівіўся навабранец.

— Літвін, такі ж праваслаўны чалавек, як і мы з табой.

— Як праваслаўны? Бацюшка нам у Смаленску казаў, што яны ж усе каталікі і жыды, а сапраўдныя хрысціяне ёсць толькі мы, маскоўскія…

— Ды кінь ты яго, — перабіў навабранца старажыл, — збрахаў твой поп! Давайце-ка, дружа, лепш вып’ем! Пагана на душы, ой, братцы, пагана. Штось не так, не так, чуе маё нутро. Здаецца, здрада царовым людзям спее. Ужо занадта рахманымі апошнім часам зрабіліся гараджане, нават завадатары ў астрогу буяніць перасталі. Не на добрае гэта, эх, не на добрае.

— Досыць каркаць, Арэфа! Зацішша на вайне. Войска вялікага паблізу нямашака, хіба што шышы па лясах гарэзяць, дык яны ў горад не сунуцца. Куды ім з іх рагацінамі! А мяшчане прыцішэлі, дый іх, здэцца, ужо і не засталося ў горадзе, пасеклі ды і павыводзілі. Дык нечага тут дарэмшчыну гнаць. Як яно там, на Русі? Вось адседзімся да вясны, а там і дадому, можа, адпусцяць хоць на месячышка. Вось за энта давайце, братцы, і вып’ем.

Трафім ад пачутага ледзь было не ссунуўся ў агонь. «Няўжо хто з месцічаў пратрапаўся? Калі так, ох і бяда будзе, лютай будзе бяда», — асцярожна зірнуўшы на балёўнікаў, стары нічога асаблівага ў іх паводзінах не заўважыў. П’яныя як п’яныя. Падкінуўшы пару паленаў, ён паплёўся ў свой закуток. Загарнуўшыся ў аўчыну, пачаў уважліва ўслухоўвацца ў хмельную

гутарку, а ў галаве круцілася і круцілася адна і тая ж думка: «Вядома, цяжкая штука — такое доўга трымаць у сакрэце, усякаму платок на раток не накінеш, ды і розуму свайго не прышыеш. Амаль усе дарослыя месцічы ўжо з месяц ведалі, што дзясятага лютага па закліку бурмістра Левановіча належыць расквітацца з маскоўскім гарнізонам. Зачыніць браму і падняць над ратушай сцяг Вялікага Княства Літоўскага. А там будзь што будзе — ужо лепш, чым спакойна чакаць, пакуль цябе зарэжуць як барана ці як пакорлівае быдла адвядуць у рабства».

Трафім быў адным з завадатараў гэтай рызыкоўнай справы, і п'яныя страхі стральца не на жарт яго ўстрывожылі.

«Трэба б раніцай перамовіцца з Язэпам ды з надзейнымі сябрамі. Упускаць такога шанцу нельга. На шаленства нашыя памяркоўныя рашаюцца рэдка, а калі рашаюцца, то зваротнага ходу не даюць», — стары асцярожна рассунуў дошкі свайго лежака і намацаў прахалодны тронак цяжкай баявой сякеры, надзейнай і вернай зброі, якая паступова выцясняецца мушкетамі і ручніцамі. Блізкасць зброі супакойвала, сэрца загрукала раўней і, як яму здалося, не так гучна. Неўзаметку прыйшла і хісткая дрымота.

Стральцы так упіліся, што нават не пайшлі раніцай на вежу дэманстраваць начальству сваю службовую стараннасць. Трафім спяшаўся падзяліцца сваімі засцярогамі з таварышамі. Схаваўшы пад адзежай кароткі корт, ён з пагардай абышоў прыснулых вакол печы ваякаў, спыніўся ля згрувашчаных у куце стрэльбаў. Сцярожка азірнуўся, і раптам быццам штосьці знутры яго піхнула. Стары нагнуўся да зброі і прафесійна, як і належыць майструзбройніку, выпстрыкнуў з замкоў крэмніі. Хвілю падумаўшы, ён сунуў пяць абцягнутых у метал каменьчыкаў у печ — збоку ад агня. Дасведчаныя рэйтары часта ўвосень ці зімой выцягвалі са сваіх мушкетаў крэсіва і клалі ў сухое месца — каб падсохла. Так што калі хопяцца і накінуцца на яго, можна будзе паказаць і як-небудзь адкруціцца. Дзед яшчэ раз зірнуў на ворагаў і выйшаў вонкі.

Раніца выдалася найзіхоткай. Застуджанае ветрам сонца здавалася крывава-чырвоным, як на змярканні, і з відавочнай неахвотай вылазіла на неба са сваёй задняпроўскай марознай далечы. Апусцелы горад пачынаў патроху ажываць. У цэрквах дзячкі забілі ў біты. Званы, гонар мясцовых вернікаў, «вызваліцелі» даўно ўжо паздымалі са званіцаў і парасцягвалі па сваіх надзелах. Крыху збоку выбітымі вокнамі змрочна глядзеў на белы свет абадраны касцёл, далей, у глыбіні, сярод невысокіх хацінак абкурадымленымі руінамі грувасцілася сінагога. Габрэяў у горадзе не засталося ні душы. З дзясятак пахрысцілі, ды і тых пасля татары кудысь звялі, а астатніх, з дзецьмі і пажыткам, са згоды месцічаў выперлі за гарадскія сцены, а дзесьці ў пячорскіх лясах іх усіх да аднаго парэзалі запарожцы. Грэх цёмнай плямай лёг тады на душы многіх магілёўцаў.

Трафім шкандыбаў па родным горадзе. Ён любіў свой кут, ведаў яго з усіх бакоў. У горада, як і ў чалавека, ёсць у жыцці і дрэннае і добрае, ёсць і сваё патаемнае, а часам і ганебнае, глыбока схаванае і не ўсякаму бачнае. Людскі

погалас менавіта яго далёкаму продку прыпісвае хітрасць з замкавымі сценамі. Люд вакольны здаўна быў цалкам майстравым, аддаваў перавагу гандлю, а не вайне. Спакон нават беднякі ў Магілёве ў лапцях не хадзілі — хоць у худой, але ў скуры шыбавалі Трафімавы землякі па грэшнай зямлі. Ад ліха наравілі адкупіцца, у магістраце нават адмысловы куфар з хабарам меўся. А са сценамі — Трафім усміхнуўся ў доўгія, абвіслыя, ужо схопленыя густым інеем вусы — пацешная выйшла гісторыя.

Цяпер ужо толкам ніхто і не ўспомніць, калі гэта было, можа, пры Баторыі, а можа, і раней, аднак надышоў час ладзіць новыя сцены. Старыя і пагнілі, і ворагамі пабітыя, сорам, словам, а не гарадская фартэцыя. Доўга ў магістраце раіліся-спрачаліся: з чаго, а галоўнае, за якія такія грошы ўсю работу выканаць. Вось тады яго продак са сваім сябруком і кумам, мясцовым ганчаром, узяліся за месяц абнавіць палову галоўнай сцяны, што над Дняпром ішла. Радцы пагалёкалі-пагалёкалі, але грошай далі, прыстрашыўшы, што калі не выканаюць зарок, утрая з іх спагоняць. Кум з кумам нанялі талаку, рассялілі яе за сцяной і задумалі працу, якая кіпела і дні, і ночы. Што яны там тварылі, месцічам было невядома, але гліны і камянёў плоскіх вазілася ўдосталь, а да канца тэрміна па начах на сцяне пачалі салому і галлё паліць. Напачатку народ палохаўся, у звон біў, ці жарт: полымя над горадам стаіць. Па ваколіцы чуткі папаўзлі ліхія, што над Магілёвам нейкія невядомыя сілы па начах агні паляць і душы хрысціянскія губяць. Тут ужо не да жартаў, а кум з кумам толькі ўсміхаюцца ды народ на сцены ні з аднаго, ні з другога боку не пускаюць.

Аднак прыйшоў час паказваць зробленае. Месцічам, хто хацеў, прапанавалі спусціцца ўніз, да Дняпра, а ўвесь магістрат на чале з бурмістрам размясцілі на вялікай ладдзі і перавезлі ажно на Лупалаўскі бераг. Падалі майстры каманду, зваліліся лядачыя рыштаванні і кволыя памосты, і адкрылася ўсім выдатная белая сцяна непрыступнай цвержы. Загудзеў народ, зажагнаўся, укленчыў. Папы пра д'яблавоціну загундосілі, а кумаўі-паплечнікі стаяць ды ўсміхаюцца. Магістрат запатрабаваў тут жа на сцяну ісці. Пайшлі малым кругам, епіскапа з ксяндзом прыхапілі. Аказалася, майстры старую сцяну падлаталі, знадворку глінай абмазалі, плоскія камяні ў яе для выгляду ўмуравалі, абпалілі, як гаршчок, а зверху вапнай пабялілі. Вось і выйшла што ні на ёсць першакласная цытадэль. Параіліся гарадскія старэйшыны і вырашылі: далей такім жа чынам абнаўляць сцены, пакуль у казне грошай на сапраўдныя не назапасіцца. Духавенства паведаміла народу, што не д'ябальская гэта справа, а промысел Божы, які і беражэ места нашае.

Колькі тыя сцены прастаялі, якія беды сваім выглядам адпудзілі, аднаму Богу вядома.

«Чагой-та гэтая старая байка мне ўзгадалася? Былі б унукі дома, ім бы распавядаў, а то вось сам сабе, як прыдуркаваты, байкі баю, — Трафім спыніўся ля карчмы, што насуплена стаяла на рынкавым пляцы. Рэдкія гандляркі, прытоптваючы на марозіку, раскладвалі свае тавары, у асноўным ежу і саленні. — Так, змізарнеў рынак, як і ўвесь наш падняпроўскі край!» — і

дзед, з прыкрасцю піхнуўшы дзверы, увайшоў у некалі самую вядомую ў горадзе піцейную ўстанову.

У кожнай рэчы, у кожным доме жыве нейкая невядомая сіла, што ідзе ад іх гаспадара. Трафім гэта добра ведаў па сваёй майстэрні: абрабаваная, апаскуджаная маскавітамі, яна працягвала жыць сваім ранейшым жыццём, толькі стаілася, ці што. А вось прасторная Лейбава карчма пасля смерці гаспадара пазбавілася гэтай сілы і дажывала свой век непрыкаянай цагельняй, як ні намагаўся даць ёй новае жыццё Яўген, шустры невялічкі чалавек з прышлых. У карчме было чадна і накурана. Салдатні раніцай тут ніколі не бывала, таму змоўшчыкі аблюбавалі гэтае месца для сваіх кароткіх сустрэч. Калі Трафім выплыў з белай марознай пары, людзі за сталом павярнуліся да яго, а бурмістр Язэп Левандовіч, які датуль штось гугнеў, замоўк і прысеў.

— Дык гэта ж Трафім… Заходзь, браце, якія ў цябе весткі? — падаў голас Рыгор Аскоўскі, пасоўваючыся на лаве. — Ідзі ўжо, садзіся сюды.

— Пан Бог у хату! — прывітаўся з усімі збройнік і прысеў ля Рыгора, папярэдне скінуўшы з сябе драную аўчыну.

— Бурмістр асцерагаецца, як бы наша задума раней тэрміну не раскрылася, — патлумачыў Трафіму сусед.

— Вось і я пра тое ж спяшаўся вам распавесці, — узняўшыся, пачаў стары. — Сёння ў мяне зноў стральцы пілі…

— Ды каб яны ад гэтай гарэлкі сінім агнём згарэлі! — стукнуў са злосцю кулаком па стале Сымон-шорнік, у якога тыдні з два назад абпітыя стральцы на пацеху згвалцілі старую цешчу, і тая, не сцярпеўшы ганьбы, павесілася ў лазні.

— Трымайся, Сымон, нядоўга ўжо засталося, — паспрабаваў хтосьці супакоіць гарбара.

— Ну і што там стральцы? — спытаў Левантовіч.

— Ды нічога асаблівага, толькі вось стары Арэфа па п’яні пачаў балбатаць аб тым, што нешта няладнае задумваецца ў горадзе, маўляў, чуе ён гэта сваім паганым нутром, што вельмі ўжо мы ціхімі сталі, а вязні і тыя буяніць ды хлеба патрабаваць пераста…

У гэту секунду Трафімаў аповед перапыніў страшны, немы жаночы крык. Народ, ускочыўшы з месцаў, кінуўся да дзвярэй і высыпаў на пляц. Амаль насупраць карчмы, на ўтаптаным снезе маладая баба, па-звярынаму выючы, спрабавала скрываўленымі рукамі запіхнуць назад у сябеываленыя вонкі ўнутранасці і яшчэ штосьці, што варушыцца ў празрыстым шэрым пухіры. Побач стаяў здаравенны стралец у брудна-чырвоным каптане і выціраў крывую арабскую шаблю аб закарэлы падол. Пухір лопнуў, і, перакрываючы ўвесь гвалт, на марозным лютаўскім пляцы закрычала дзіця. І гэты крык заўчаснага жыцця перапоўніў чару людскога цярпення!

Пабялелы Левантовіч ледзь чутна прашаптаў умоўленыя словы: «Пара! Пара!»

У хуткім часе гэтае слова, загудзеўшы грозным набатам, абляцела-абудзіла горад; гарадскі галава, як заведзены, бегаў па вуліцах з доўгім недарэчным

мячом у руцэ і ўсё выкрыкваў асіплым голасам адно адзінае слова: «Пара! Пара! Пара!»

Па загадзя вызначаным плане Трафіму належала ісці да арсенала, каб дапамагчы народу разабрацца са зброяй. Іншыя павінны былі бегчы да турмы, каб перабіць варту і выпусціць палонных, сярод якіх было нямала ваяўнічай шляхты. Горад кіпеў.

— Трафім! Трафім! Ды не круці ты галавой, тута я. Ідзі, памажы. — Не адразу стары збройнік зразумеў, адкуль покліч. Аказалася, родзіч яго, Адам, расчыніўшы насцеж уваходныя дзверы, крычаў яму з цёмных сенцаў.

— Што там у цябе здарылася? Ці шмат ад мяне, старога, дапамогі?

— Ты гэта… — матнуў галавой Адам, — ідзі зірні, ці таго мы іх?..

Трафім успомніў, што Адаму нядаўна прызначылі на пастой двух стральцоў.

— А чаго ж сам не зірнеш?

— Ды баюся штось. Ты ж ведаеш, я мерцвякоў страх як баюся.

— А забіў як?

— Ды шылам ён іх, як парсюкоў, закалоў, яны нават і рохнуць не паспелі, — адказала замест мужа яго жонка, замотваючы ў анучу доўгае вострае шыла з вялікім медным кольцам на канцы.

— Такую прыладу спаганіў, чым цяпер быдла біць будзеш?

Два нябожчыкі нібы спалі, ні крывінкі вакол, ні змятых барацьбой пасцеляў. Толькі невялікая чорная дзірачка з засмяглымі па краях кропелькамі крыві выдавала месца, праз якое ў сэрца ўвайшла смерць.

— Ну што… таго? — чамусьці шэптам спытаў сусед.

— Мярцвей не бывае.

— Чуеш, а хто іх хаваць усіх будзе? Гэта ж якую процьму народу мы сёння перабілі!

— Ды ўжо… Можа, тысяч з пяць, а мо і больш, — адказаў Трафім і падаўся далей.

Шмат маскоўскіх ратнікаў у гэтую раніцу так і не прачнуліся, астатніх жа месцічы гадзін за пяць пакаралі смерцю, як і дамаўляліся, у палон нікога браць не сталі. Выключэнне зрабілі толькі для ваяводаў Сямёна Гарчакова, Мацвея Палуэктава ды камандзіра стральцоў Сафона Чэкіна, якіх, па патрабаванні шляхты, разам з непрыяцельскімі харугвамі адправілі да караля Яна Казіміра. Цяжкім выдаўся дзень.

Трафім вяртаўся ў сваю будку позна. Горад радаваўся і святкаваў перамогу, пасля гэтулькіх гадоў знявагаў і скрухі па ўсім Магілёве гуляла бязмежная радасць. Колькі ворагаў было зрынута ў гэты дзень, ніхто лічыць не стаў, ды і не трэба было гэта. Пакараўшы смерцю зло, шмат жыццяў зберaглі. Вестка пра подзвіг месцічаў паляцела нябачнай маланкай па навакольных гарадах і весях. Не заўтра, дык пазаўтра яна мусіць дасягнуць абедзвюх варагуючых сталіцаў. «Вось і добра, — думаў стары збройнік, — можа, і мае там у сваіх тулянняx пацешацца за землякоў. А то, глядзіш, Бог злітуецца і дасць яшчэ

гадкоў колькі жыцця, можа, і перамогу ўбачыць давядзецца…» — стары піхнуў дубовыя дзверы свайго жытла. Яны былі замкнёныя знутры.

— Што за халера… — Трафім паставіў на снег невялікі вузельчык з ежай, якой пажывіўся ў ратушы, і з сілай піхнуў дзверы плячом. Тыя адчыніліся, і яго сілай увалаклі ў цемру майстэрні.

— Так, а вось і наш дзядок з’явіўся, — падносячы каганец да Трафімавага твару, прамовіў Арэфа. — Ты куды, гніда, крэсівы схаваў? — здаравенны кулак вухнуў у твар.

«Вось гад, былі б зубы — выбіў бы да чортавай кумы…» — падумаў стары, глытаючы салёную ад крыві сліну, і агледзеўся. У прасторным пакоі яблыку не было дзе ўпасці, вакол стаялі, сядзелі, выглядвалі з бакавух маскавіты.

— Ды колькі вас тут набралася?.. — шчыра здзівіўся стары і знепрытомнеў ад моцнага ўдару ў галаву чымсьці цяжкім.

На халоднай, запляванай падлозе Трафім хутка ачуўся, але працягваў ляжаць, не падаючы прыкметаў жыцця.

— Ваша міласць, не надыць спяшыць. Хай бунтары супакояцца, добранька адзначаць перамогу ды і спачываць сабе з мірам улягуцца, — пераконваў кагосьці Арэфа, — вось тады мы і рушым, да брамы вось усяго нічога…

— Вежы трэба падарваць, усё ў шчэпкі! Я яшчэ сюды вярнуся, яны ў мяне за ўсё адкажуць! Гады!

— Адкажуць, барын, адкажуць! І вежкі рванём! Порахаў жа там — дзякуй богу! Толькі вы пакуль не крычыце, а то няўрокам кажучы…

— Старога прыдушыце, каб чаго не выкінуў.

— Не, бацюшка барын, дадушыць мы яго заўсёды паспеем, а перш ён нам яшчэ паслужыць, і дарожку пакажа, і перад царом пра здраду гарадскую распавядзе. Ён вушлы старычына.

— Глядзі, сукін сын! Што не так — тры скуры спушчу.

— Нават не турбуйцеся, барын,усё будзе як найлепш, — адказаў ялейным галаскам Арэфа і, дачакаўшыся, пакуль начальнік адыдзе, пазваў: — Гразь, Мікіта, ходзь сюды. Цягніне гэтую падлу ў склеп, там дзесьці справа, здаецца, дзверына ёсць. Толькі не паламіце дзеда, ён жывым і цэлым патрэбен.

Стральцы, не спяшаючыся, зацягнулі Трафіма ў заваленае хламам падзем’е і, прымастаколіўшы ля нейкай разбітай скрыні, ужо збіраліся ўздымацца назад, як, шчыльна прычыніўшы дзверы, да іх са свечкай у руках спусціўся ўсюдыісны Арэфа.

— Значыць так, малойцы, як дамо драпака і будзем ужо за горадам, барына ў расход. Ціха так спатыкнуўся і шыю скруціў, хто там, у цемры ды мітусні, разбярэ. Дзеда ж беражыце больш, чым вока. Мне тут сёння пра яго сынка сярэдненькага шапнулі. Калі што якое — пагандлюемся. Гэй, дзед, ты ўжо даўно ачухаўся, я знаю. Ты гэта… на мяне не дзьміся, гэта цябе барын мушкетам па калгане гваздануў. Ён дрэнны. Будзеш мяне слухаць, мо і злітуюся, і па-людску пахаваю.

— Свечку пакінь, клапатун, а то пакуль бегчы надумаеш, мяне тут пацукі жыўцом згрызуць, — не ўздымаючы галавы, азваўся Трафім.

— Знай праваслаўную дабрыню, токі з агнём, глядзі, не балуй! — іржануў Арэфа і, прымайстраваўшы свечку на прызначаную дзеля гэтага палічку ля дзвярэй, выйшаў вон, і за ім глуха шоркнула завала.

Паляжаўшы хвілін з дзесяць без руху, нават не адганяючы асмялелых пацукоў, якія з вясёлым піскам ужо заснавалі вакол, збройнік прыслухоўваўся да падзеяў наверсе і абдумваў сваё становішча.

«Эх, боўдзілы, у ліцвіна са склепа хадоў гэтулькі, што да Вільні да раніцы дабрацца можна. Але бегчы мне не выпадае, ды і няма патрэбы. Вось, Трафім Зяноныч, а ты вечарам бедаваў, што ніводнага гусака маскоўскага на ражон не насадзіў. Вунь іх зверху колькі, мажа, душ з трыццаць. Хоць адкуль у іх душа, з душой хіба бабу цяжарную па жываце шабляй секчы буш? Эх, Матка Боская Вастрабрамская! Не пагневайся на мяне за зробленае…»

Стары, хістаючыся, устаў, падпёр тоўстым калом дзверы, узяў свечку і пайшоў у далёкі кут свайго склепа. Пакорпаўшыся з крыху паржавелымі заваламі, ён адчыніў патаемную дзверцу ў суседняе памяшканне, застаўленае кадкамі з порахам. Калісьці гэты порах ён з сынамі цішком начамі катаў з гарадскога арсенала, куды вёў усімі забыты старадаўні падземны ход. А ў першыя дні акупацыі яны і зусім асмялелі, прыстойна цапнулі. Ужо і барышы палічылі. Але, бач ты, — як справа павярнулася… Праход гэты яны пазней ад граху далей падарвалі.

Полымя свечкі вагалася, вагаўся і Трафім. Ён ведаў, што самы страшны вораг рашучасці — думкі. Падняў свечку вышэй і, знайшоўшы вачыма пабітую кадку, падумаў: «Ну, вось, Арэфа, не атрымалася па-твойму, не ты мяне, а я цябе хаваю», — і паднёс да чорных зерняў жаўтлявае полымца…

Амаль чатыры стагоддзі мінула з тых часоў, усё забылася і сплыло ў зыбкае марыва бяспамяцтва, толькі праклён маскоўскага патрыярха Нікана як вышэйшая пахвала мужнасці грамадзян Магілёва дагэтуль вісіць над горадам.



Валерый Казакоў

Казакоў Валерый Мікалаевіч нарадзіўся ў 1952 г. на станцыі Рэста на Магілёўшчыне. Жыве ў Маскве. Празаік, паэт, публіцыст. Аўтар кніг паэзіі «Философия звука», публіцыстыкі «Разбитое зеркало Карабаха», «Саморазрушение», прозы «Асфальт и тени», «Записки колониального чиновника», «Тень гоблина», «Халоп яснавяльможнага дэмакрата» і інш.

МІХАСЬ КАЛЯСЯНЕЦ

## Павевы кахання

*Рытм-эцюды*

Неяк вычытаў у Зянона: «Жыццё набывае змест, калі нехта цябе пакахае. Яно напаўняецца сэнсам, калі пакахаеш ты». Пра першую частку нічога не скажу, тут, мне здаецца, ёсць варыянты. А другая — трапная. Пад ёй падпісаўся б. Можна нават сказаць, што жыццё тады і становіцца жыццём, калі пакахаеш ты. Бо тады перад табой і паўстае ці не галоўны выбар чалавека: каханне ці свабода? Ёсць шчасліўцы, якім надараецца гэта спалучыць. Іх мала. Вельмі мала. Іншыя выбіраюць штосьці адно. Ці не выбіраюць нічога…

Вугорскі паэт Шандар Пецёфі так развязаў гэтую праблему: «Каханне й свабода — усё, што мне трэба. Каханне коштам смерці я набыць гатовы. За вольнасць ахвярую і каханнем». Магчыма, ён ведаў, пра што казаў, прынамсі цану вольнасці ён ведаў. Але й тут — кожнаму сваё…

Пра каханне панапісана ўжо столькі ўсяго — і паэм, і раманаў, і аповесцяў, і балад, столькі паназнята фільмаў, столькі пастаўлена балетаў, опер, аперэтаў, спектакляў, столькі праспявана песняў, рамансаў. Але чытаць ці слухаць пра чарговае каханне заўсёды цікава, бо яно ў кожнага сваё. Непаўторнае. Чалавек не вольны ўнармоўваць каханне, ствараць для яго формулы, законы і правілы — бо гэтая сіла непадуладная чалавеку. Яна — ад Бога.

І чытаць пра каханне — мала карысці. Чужыя памылкі, чужы досвед і нават чужое шчасце нікому і нічым у каханні не дапамаглі. І не дапамогуць.

*Тым не менш…*

### Голас ручая

Ён закахаўся не з першага позірку, а з першага почуту.

Нейкім жнівеньскім вечарам у кампаніі яшчэ не зусім перазнаёмленых старшакласнікаў ён пажартаваў — і яна засмяялася. Да гэтага самым прыемным гукам для яго было цуркатанне ручая. Яе смех нагадаў той чысты прыродны голас, але быў яшчэ больш мілагучным.

Ён ніколі (ні дагэтуль, ні пазней) не быў душой кампаніі, больш трымаўся ў цяні. Але той смех нібыта разамкнуў яго нетры, як бы штосьці раней схаванае вырвалася на волю. Ён нешта гаварыў, дасціпна жартаваў, адкуль што бралася. Усе смяяліся… Але ён чуў толькі адзін смех. Ён упіваўся гэтымі гукамі і не мог напіцца.

Назаўтра ён спрабаваў успомніць хоць адзін свой жарт, хаця б адну пацешку, забаўку, і не ўспомніў ніводнай.

Далей ён імкнуўся быць каля Яе. Блізка, але не побач. Бо зусім побач — для яго было невыносным. Ён быццам гарэў у агні — і зацiскаўся. Адлегласць ратавала…

Ён не мог уявіць Яе сваёй жонкай і нават не думаў пра гэта. Не мог прынізіць Багіню да ролі жонкі. Яму дастаткова было рэдкіх сяброўскіх сустрэч па заканчэнні школы і некалькіх віншавальных паштовак ад Яе.

Ён хацеў заставацца сабой, а побач з Ёю яму гэта не ўдавалася. І ён замкнуў сваё каханне ў сабе… як вялікую каштоўнасць у куфры.

Яна здагадвалася ці не? Мо й здагадвалася, але чакала пэўнасці. Пэўнасці, якой не магла дачакацца. Пры сваёй прыгажосці доўга не выходзіла замуж. Але час бярэ сваё. Іх шляхі разышліся. А каханне не знікла…

Шмат гадоў прайшло. Тая далёкая зорачка асвятляе яго жыццёвы шлях дагэтуль. У цьмяныя часы свайго жыцця ён аглядваецца на яе і ведае, што рабіць далей. Жыццё не лашчыла яго, але ён ідзе па ім спакойна і ўпэўнена. Яго ўпэўненасць і бескампраміснасць шмат каго раздражняе. Таму і сяброў няшмат, і кар’еры ён не зрабіў. Бо ён слухае чысты голас ручая і ведае, што робіць правільна…

*«Беларусь». 2000. № 11–12*

Далёкай зоркай раптам асвятліла
мой шлях ты ў чалавечым мільгаценні.
Шлях да цябе…
І ўкрочыў я нясмела
на зыбкі след чароўнага праменя,
што ледзь праглядваўся ў пахмурным наваколлі.

Я зразумець не мог, не мог паверыць
шчасліваму свайму прадвызначэнню.
Ішоў у роздуме…
Цярпліва ты чакала,
стамлялася, мігала і згасала,
і зноў успыхвала пяшчотным пералівам.

І вось чарвяк, зямлёю прыцягнёны
ў прастору двух кароткіх вымярэнняў,
адчуў —
нібыта… вырастаюць крылы.
Але не ўмеў я імі карыстацца
і крылы цёг і цёг, якія заміналі.

Бліснула ты і — знікла… Назаўсёды?..
Прамень твой вабіць мо цяпер другога?
Я бег… Я поўз…
Я лез праз бураломы,
угадваючы шлях інтуітыўна.
Але знямог і стаў.
І тут — махнуў крыламі…

**Гульня лёсу**

Ён з Магілёва, яна з Казані. А сустрэліся ў Крыме. Аб тым, што гэтая сустрэча невыпадковая, што гэта — дарунак Божы, першай адчула яна. І напісала потым пра тое, што адчула, у Магілёў. І яму тая сустрэча запала ў душу.

Гучала музыка. Мы таньчылі з табой
пад крымскім небам, цёмна-сінім, зорным.
Вятрыска ціха дзьмуў, і шапацеў прыбой.
А мы ўсё таньчылі ў пейзажы горным.

І гнуткасць таліі і цела цеплыню
я адчуваў пад пальцамі сваімі.
Да неба ўзносіліся мары ў вышыню
і таньчыла прырода разам з імі…

Мінула тая ноч…
І зараз я адзін
ці ў людзі йду, нацягваючы панцыр,
ды чую зноў і зноў, што ў чарадзе гадзін
пра цёплы стан твой мне спяваюць пальцы.

Далей было некалькі год выпадкова-невыпадковых сустрэч. То яе, інжынера буйнога завода, пасылалі ў камандзіроўкі ў Маскву, Ленінград, Мінск, і «выпадкова» ў тыя ж дні там аказваўся ён. То адмыслова хтосьці з іх цягнікамі дабіраўся з Магілёва ў Казань, ці з Казані ў Магілёў, каб стаць на некалькі дзён шчаслівейшымі за іншых.

Я еду…
Заглынаючы абшар,
калёсы вытанцоўваюць фанданга.
Мая ж трымціць і гойсае душа,
як цень неўтаймаванага мустанга.

Нясцерпна ёй.
Імгненнем да цябе
з тваёй душой звівацца прыляцела б
каб зліцца ў ціхай песеннай мальбе…
Ды нельга ёй, душы, пакінуць цела.

А цела?
Цела едзе ў цягніку.
Законы фізікі яму адолець цяжка.
Маркотлівае цела на палку
варушыцца скамечанай сярмяжкай.

Душа пакутуе з няспешнасці тае.
І, каб наблізіць час апафеозу,
вагоны цягне, пхае і пяе
мая душа ў запрэжцы з паравозам.

Але заканчваўся час камандзіроўкі, заканчваліся вольныя дні. І трэба было развітвацца і камусьці ехаць назад, каб доўгія дні, тыдні, месяцы чакаць чарговай сустрэчы.

Добра з коньмі я пагаманіў:
рыссю коні мае патрухалі…
І яшчэ два святочныя дні
мы ў пахмурнага Лёсу адкралі.

Сэрца з сэрцам — чароўны вянок!
Вусны ў вусны шапталі: Кахаю!..
Запаўночнай мелодыі ног
гукі ў шоргаце кожным шукаю.

Дум будзённых распаўся ланцуг,
Зніклі справы, што йшлі чарадою…
З ціхай музыкай верціцца круг,
за якім — ты са мной. Я з табою!..

Толькі ж — ах! — Лёс ачомаўся мой.
Коні скачуць назад — аж знямоглі…
Што ж ты, Божа!
Якою мальбой
прасвятліць твой няласкавы погляд?

Колькі магло доўжыцца такое каханне — праз ліставанне, тэлефонныя размовы і рэдкія сустрэчы? У яе — дачка, любімая праца, магілы бацькоў, звыклае кола сваіх і сяброў, у якім утульна. Усё гэта яна не магла кінуць. А ён не мог кінуць сваю Беларусь, не мог уявіць сабе жыццё на чужыне, хай сабе і побач з каханай…

Распаўся Савецкі Саюз. Яны ўжо жылі ў розных краінах, з’явіліся новыя праблемы, трэ было прыстасоўвацца да новых варункаў жыцця. Сустрэчы сталі немагчымымі…

Не, каханне не стлела. Яно затаілася маленькім незгасальным агеньчыкам у душы кожнага. Раз-пораз гэты агеньчык успыхвае, запаўняючы душу зіхоткім святлом. І тады адзін з іх здымае слухаўку тэлефона ці садзіцца пісаць ліст…

**Прызнанне**

Верш гэты прызначаўся ёй, адзінай. Але, калі ён канчаткова саспеў, той, каму прызначаўся, стаў ужо непатрэбным. Верш застаўся сіратой. І што рабіць з гэтым жывым выплескам закаханай душы? Схаваць у паперы і забыць — грэх! Падарыць іншай? Дык спачатку трэба знайсці тую, іншую. А вершу няймецца жыць сярод пыльных папер. Ён ірвецца на волю, у людзі…

Каханне славіць не мастак.
Але хай чуюць лес і поле,
што я
цябе
кахаю
так,
як не кахаў ніхто ніколі.

Хвілінам тым цана пятак,
што без цябе, нібы ў змярцвенні…
Штораз
цябе
чакаю
так,
як не чакаў Хрыстос збавення.

Я ў марах жыў, нібыта птах,
узнёслы над высокай хмарай…
Цяпер
жыву
табою
так,
як шчэ не жыў ніводнай марай.

Аб чым мне думаць? Што рабіць?
І як мне карты наварожаць?..
Баюся я
цябе
згубіць,
як не баяўся кары Божай!

Каханне славіць не мастак.
Але хай чуе наваколле,
што я
цябе
кахаю
так,
як не кахаў ніхто ніколі!

…Ірвецца ў людзі? — Ну й няхай паслужыць людзям. Такое знайшлося рашэнне. Зараз, калі аўтара верша запрашаюць на вяселле да сваякоў, сяброў, ён робіць прыгожа афармленае віншаванне з дадаткам «Прызнання» і, калі даходзіць чарга да яго віншавальнай прамовы, прапануе маладому пад дыктоўку аўтара прачытаць каханай гэтыя словы і паабяцаць на кожную гадавіну вяселля чытаць жонцы гэты верш. Такое здарылася ўжо сем разоў. Ніхто не адмовіўся. Магчыма, таму, што ў прадмове аўтар паведамляе, што самае лепшае прызнанне ў каханні напісана нашай мовай. І зараз (цьху-цьху!) усе гэтыя сем сем'яў жывуць у згодзе і каханні. А сем у даўнейшыя часы замяняла словы «шмат», «многа», — успомніце, якая колькасць прымавак з словам «сем». Так верш стаў служыць людзям.

**Акно**

Каханне — вялікае шчасце ці вялікая пакута? Пісьменнікаў звычайна вабіць спалучэнне таго ды іншага. Калі толькі шчасце, — ім нецікава. Магчыма, ім здаецца, што чытач не паверыць у праўдзівасць шчаслівага кахання або пазайздросціць яму, з-за чаго няўзлюбіць дражнілу-аўтара і не стане яго болей чытаць. Можа й так.

І ўсё ж…

Давайце ўявім сабе… Цёплая ліпеньская ноч. Цёмнае, закрытае хмарамі неба. Прырода заціхла ў чаканні навальніцы. На ложку ля расчыненага ў сад акна мілуюцца двое.

На ноч збіраўся дождж.
Насоўваліся хмары.
Сіноптыкі пужалі навальніцай.
І напаўзала ноч
прывідам боскай кары.
Пярун гульнуць наважваў бліскавіцай.

І дождж пайшоў, але
адразу ж і спыніўся.
Ледзь грымнула на небе і заціхла.
Вятрыска пашалеў
і ў лісці прытуліўся.
Маланка мільганула неяк сціпла.

Між хмарамі ў акне
пусціў Юпітэр промні.
Закрасаваўся месяц паўнатвары
і ззяў усё мацней.
Краналі яго скроні
мільярды зор, прарэзваючы хмары.

І хмары ў касмылях
рассоўваліся спраўна,
нібы заслона тэатральнай сцэны.
І слухалі мы, як
маўчыць Сусвет бяскрайні,
любуючыся намі ў захапленні.



Пяяла неба… Быў гэткім свежым
анёлаў хор,
калі спадалі твае адзежы
пры ззянні зор.

Дрыготкасць лісця, і яркасць поўні,
і зорны звон
зліліся разам у твой чароўны,
твой першы стогн.

Услала Лада нам шлях у вечнасць
гаюн-травой.
І змацавалі мы нашу еднасць
тваёй крывёй.

Але хопіць падглядваць! Мы ціха, вельмі ціха адыдзем ад гэтага акна. І раз-пораз будзем азірацца, помнячы, што вось за гэтым акном жыве шчасце…

Яно не вечнае, — запярэчыце вы. Як сказаць. Калі мы не будзем болей зазіраць у тое акно, то ў нашай памяці яно застанецца вечным. Дый будзе так!

ТАЦЦЯНА БАРЫСІК

*З ЦЫКЛА «ШЛЯХ З ЛІТАРАТУРЫ»*

## Прыступка да поспеху

Віталь Мурашоў з дзяцінства быў паслухмяным і здольным. У школе за што ні возьмецца — усюды першы, паводзіны ўзорныя. Настаўнікі не нахваляцца, бацькі не нацешацца. Сям'я ў хлопца была не дужа багатая, але недахвату ні ў чым не меў. Дзед па матчынай лініі ўсё жыццё марыў выбіцца ў вышэйшае кіраўніцтва. Не ўдалося. Дык ён унуку загадаў на гістфак паступаць, каб мару ягоную спраўдзіў. Віталь не пярэчыў. Ва ўніверсітэце ўсё тое ж самае — выкладчыкі не нахваляцца, бацькі не нацешацца.

Выдатнік, дошка гонару ў калідоры. На людзях не губляецца, знешнасць прыемная. Ды яшчэ на сваю бяду вершы пісаць пачаў — адразу на трох мовах: беларускай, рускай і ангельскай! На чацвёртым курсе далі імянную стыпендыю, загадалі ўдзельнічаць у грамадскім жыцці. Віталь не пярэчыў. Бээрэсэмаўскую суполку ўзначаліў, у літаратурнае аб'яднанне «Раніца» пры студэнцкай шматтыражцы запісаўся.

А тут як раз гарадскі паэтычны конкурс абвясцілі. Старшыня конкурснай камісіі ажно з самой сталіцы прыехаў. То быў знаны беларускі літаратар Адам Кашлаты (Віктар Пятровіч Бязменаў), зямляк, ураджэнец прыгараднай вёскі Міхалёва, выпускнік універсітэта.

Найлепшы студэнт і грамадскі актывіст, канешне, не мог абысці такую падзею.

— Піша вершы, нават па-беларуску можа! — адрэкамендавалі Адаму Кашлатаму творы Віталя Мурашова.

Трэцяе месца ў конкурсе заваявала дзевяцікласніца Ірына Гарбуз, якая надта жаласна распавяла аб смерці любімага цюцькі ў вершаванай форме, другое аддалі навучэнцу музычнага каледжа, нейкаму кіраўнічаму ўнуку, бо за яго дужа з выканкама прасілі. Адгадайце, хто ж быў першы? Правільна! Віталь Мурашоў, дакладней, ягоны верш «Зімовы плач». Чаму? Ды таму, што падаўся Адаму Кашлатаму, бадай, адзіным творам, каторы напісаў жывы чалавек. Ідэйны змест зімовага плачу пераказаць было цяжка, але вобразы яскравыя, часам супрацьлеглыя, апаноўвалі назаўжды і не адпускалі. То жах і роспач, як перад безданню, то ўтульная сцішанасць роднай хаты… Нават не верылася, што такое мог напісаць гэты прылізаны, узорна-паказальны маладзён з бадзёрай усмешкай.

На ангельскія вершы Віталя Кашлаты нават не паглядзеў, бо недастаткова добра ведаў мову, а па праўдзе кажучы, па-ангельску не разумеў зусім. Рускія ж творы былі гэткія, як і ў астатніх канкурсантаў, бы пад капірку пісаныя,

прысвечаныя дзвюм тэмам: нешчасліваму каханню, якога не было ніколі, і любові да роднага горада, які Кашлаты цярпець не мог з тае самае пары, калі ўпершыню яго пабачыў: на захадзе хімкамбінат, на ўсходзе клейзавод, між імі хрушчоўкі ды новабудоўлі спальных раёнаў. Вядомага літаратара заўжды апаноўваў жывёльны жах пры адной думцы, што калі б дзядзька па бацькавай лініі Васіль Сямёнавіч Бязменаў, былы супрацоўнік міністэрства, царства яму нябеснае, у свой час не перацягнуў пляменніка ў сталіцу і не ўладзіў яго тамака на працу ў часопіс, дык замест Адама Кашлатага быў бы Бязменаў Віктар, у лепшым выпадку настаўнік рускай мовы ў пэтэвэ хімікаў, пазаштатнік раёнкі.

Жывы класік павіншаваў пераможцаў, пасядзеў у прэзідыуме, пад'еў і выпіў на банкеце як мае быць. Сказаў колькі развітальных слоў пра сустрэчу з роднымі, дарагімі сэрцу мясцінамі. І ўчысціў у Мінск, толькі яго бачылі.

Адам Кашлаты з'ехаў, а Аляксандр Міхайлавіч, кіраўнік літаб'яднання «Раніца», ды Валянціна Пракопаўна, намеснік дэкана па выхаваўчай рабоце, засталіся. Дужа ганарыліся сваім выхаванцам Віталем Мурашовым.

А тут наступны год выдаўся ўраджайным на разнастайныя юбілеі, атэстацыі. Правяраючыя і госці не зводзіліся, не паспявалі рыхтаваць тэматычныя вечарыны і самадзейныя канцэрты. Вось Валянціна Пракопаўна і папрасіла маладога паэта нумар адзін напісаць оду на адкрыццё факультэта і выступіць з ёю на ўрачыстым сходзе. Можна было, канешне, каго іншага напружыць, але Віталь ёсць Віталь, прыгожы, выхаваны, адказны, да таго ж імянны стыпендыят, дыпламант гарадскога конкурсу — а гэта гучыць. Няхай ведаюць, якія ў нас студэнты, мо менш чапляцца будуць!

Віталь не пярэчыў, як заўжды. Напісаў «Оду», хаця назваць гэты твор арыгінальным, таленавітым было цяжка, затое кіраўніцтва факультэта і правяраючыя задаволены. Але з таго моманту ужо, на жаль, не «Зімовы плач», а клятая «Ода» зрабілася самым запатрабаваным вершам; большасць студэнтаў думала, што ён увогуле адзіны. Чытаць яе прымушалі незлічоную колькасць разоў, перарабляючы тэкст у залежнасці ад нагоды. А кволыя спробы Віталя прапанаваць для выступаў нешта іншае рашуча адхіляліся. Часы надышлі не тыя, кожны за сваё месца калаціўся, тут ужо не да талентаў.

Няўмольна набліжаўся галоўны юбілей — 70-годдзе заснавання ўніверсітэта. Валянціна Пракопаўна зноў выклікала пачынаючага паэта да сябе ў кабінет і, расплываючыся ў ласкавай усмешцы, паставіла перад фактам:

— Віталік, на наступным тыдні ў нас вялікае свята. Падрыхтуйся. Будзе канцэрт. Прачытаеш сваю «Оду». Падпраў, каб у кантэксце гучала. Не мне цябе вучыць.

І тут упершыню Віталь запярэчыў у адказ:

— Вы мне прабачце, але я больш не хачу і не буду гэта чытаць.

— Ну што ты, не выдумляй, цудоўны верш! Нам так падабаецца, праўда, Аляксандр Міхайлавіч? — звярнулася па падтрымку да кіраўніка літаб'яднання. Ды марна.

— Не хачу і не буду. Ужо ўсе студэнты смяюцца! — стаяў на сваім Мурашоў.

— Дурні смяюцца, бо зайздросцяць, — угаворвала, бы спявала, намесніца дэкана.

Пабачыўшы, што справу з месца не зрушыць, да спрэчкі далучыўся Аляксандр Міхайлавіч:

—Ты, хлопец, мусіць, на сонейку перагрэўся? Угодкі ўніверсітэта — адказнае мерапрыемства, а не ёлка ў дзіцячым садзе! Хачу, не хачу… Табе навошта стыпендыю далі імянную? Каб удзельнічаў.

— Дык я ж не супраць. Толькі давайце я лепш «Зімовы плач» пачытаю. Сам Адам Кашлаты хваліў, — прапанаваў ужо без ранейшай непахіснаці, але яшчэ з кволай надзеяй нешта змяніць, Віталь.

Тут ужо Валянціна Пракопаўна, адчуўшы слабіну ў голасе, насупіла бровы і рэзка абарвала просьбу:

— Толькі Кашлаты ў Мінску, а мы тут. І адказнасць за ўрачыстую вечарыну нясе не ён, а адміністрацыя ўніверсітэта. Нам і вырашаць. Ты ж разумны хлопец, на пятым курсе ўжо. Марыш на кафедры застацца. Мо табе ў Краснапольскі раён хочацца ці ў горад Дрыбін? Падумай, падумай…

Віталь памаўчаў якую хвіліну. Пры словах «Краснапольскі раён» перад вачыма ўмомант пранесліся спалоханыя бацькі, незадаволены дзед, усмешачкі аднакурснікаў: во, маўляў, са скуры вылузваўся, а карысці? Гразкая дарога, новабудоўлі ў чыстым полі са шчылінамі таўшчынёю ў палец.

— Я згодны, зразумеў памылку…

У актавай зале — не прабіцца. Віталь выйшаў да мікрафона, завучана ўсміхнуўся:

— Ода на открытие университета!

Першыя шэрагі займалі студэнты філфака. Яны лузгалі семкі і балбаталі міжсобку:

— Во, дарваўся чувак да сцэны! Зноў пад Дзяржавіна косіць.

— Ага, прычым тупа…

Мурашоў быў рахманым і безадказным але не глухім і дурным. Скончыўшы свой выступ, ён выбег на ганак, абапёрся аб сцяну і прашаптаў, ледзь стрымліваючы слёзы:

— Як жа я ўсім надакучыў.

Знічкаю мільганула думка аб адрознасці дзіцячай і дарослай паслухмянасці, а потым прыйшло цвёрдае рашэнне ніколі не пісаць вершаў, бо ад іх адзін клопат.

Прайшло сем гадоў. Віталь насамрэч кінуў свае літаратурныя спробы. Застаўся на кафедры, абараніўся. Чытае лекцыі ў родным універсітэце. Нагрузка неблагая. Увосень збіраецца ажаніцца з дачкою дырэктара аднаго з найбуйнейшых прадпрыемстваў горада. Бацькі не нацешацца! Паспяховы чалавек, што і казаць! І, ведаеце, амаль што шчаслівы.

*2011*

## Без чытачоў

— Люблю я Амара Хаяма, яго рубаі! «Уж лучше голодать, чем что попало есть…» — натхнёна прамаўляў хрыпаты голас пасярод вясковай вуліцы.

На хвіліну мне падалося, нібы я знаходжуся на пасяджэнні літаб'яднання ці на лекцыі па замежнай літаратуры. Але п'янкі пах бэзу ды павалены плот насупраць імгненна вярнулі да рэчаіснасці. Не, гэта не ўніверсітэт і не карпаратыў у рэдакцыі. Мы сёння на нашых сотках талакой бульбу садзілі. Потым, як належыць, пілі магарыч. Папаліць і адпачыць ад мінібанкету выйшлі на свежае паветра. І прыхільнік Амара Хаяма — не спіты выкладчык-філолаг, не пазаштатны аўтар раёнкі, а адзін з нашых добраахвотных памочнікаў Міша — ці то бульдазерыст, ці то трактарыст па спецыяльнасці, майстар з залатымі рукамі і гэткай жа душой — апошняя надзея пенсіянераў.

У маладосці пад час вайсковай службы, або, мо, на цаліну з'ехаўшы, ён апынуўся ў Казахстане. Пасля вярнуўся на бацькаўшчыну. Зараз сям'і сваёй не мае, жыве на цётчыным лецішчы без сталай працы, з казахскім грамадзянствам і дыягназам «сухоты». П'е, паліць і чыфірыць. Да яго з горада шчэ дзядзька прыязджае — чырванатвары здаравец з наборам гэткіх жа шкодных звычак, але зусім адрозным характарам. Міша працавіты і чулы, дзядзька — гультаяваты і нахабны аматар дармаўшчыны. Цётка звычайна перадае сала ці масла. Але ўвесь харч імгненна прадаецца і прапіваецца. Да таго ж хітры дзядзька мае звычку цягацца за пляменнікам па заробках бы бясплатны дадатак. Крыху глынуўшы для настрою, Міша йдзе працаваць. Дзядзька ж часцяком спасылаецца на кепскае самаадчуванне, імкнецца прылегчы і праз якую хвіліну храпе як пшанічку прадаўшы.

Не, вы ж хаця не падумайце! Нашы мясціны славутыя не толькі Мішам і ягоным сваяком. У вёскі багатая падзеямі мінуўшчына, спрадвечныя традыцыі, вось толькі людзей амаль няма. Усяго восем-шаснаццаць чалавек, у залежнасці ад сезону. Сярод іх ёсць, канешне, і былыя настаўнікі, заатэхнікі, ударнікі працы, але ўсім ім пад восемдзесят ці за восемдзесят. Міша ж тут не толькі самы малады (няма й пяцідзесяці ), але й самы адметны.

Ну скажыце, хто ж яшчэ здатны, дзябнуўшы конаўку брагі, з запаленай папяроскай у зубах залезці на тэлеграфны слуп, наладзіць ліхтар і гэткім жа чынам спусціцца долу, не выкінуўшы з зубоў папяроскі? У чыстым полі восенню разам з суседам усю ноч вартаваць выкапаную ў кааператыве бульбу, каторую сусед не патрапіў завезці дахаты. Сваю ж уласную карову аднойчы забыць на вуліцы, не загнаўшы ў хлеў. На шчасце, бедную жывёлу не скралі. Не было каму.

Але мяне захаплялі найперш нават не гэтыя неардынарныя, у разуменні сярэднестатыстычнай асобы, учынкі, а Мішава прыхільнасць да Амара Хаяма, ягоны падарунак сябру — былому настаўніку — кніга «Уладзімер Высоцкі. Выбранае», пільная ўвага да ўніверсітэцкага паэтычнага зборніка. Што ўжо казаць пра Міхасёвы размовы на бяседах! Людская гамана даўно ўжо

ператварылася ў перадачу малацікавай інфармацыі пра асаблівасці ўласнага побыту.

— Буракоў дробных наварыла, пад'ела. От смачна!...

— Мой унук паступіў на завочнае, на платнае, другі курс ужо, на сесію паехаў. Дык я ўжо сяджу, думаю, хаця ж бы ён здаў экзамены тыя…

— Я такая чысцёха! Люблю парадак у хаце. Як маладзейшая была, усё паўмываю, паўчышчаю, фіранкі накрухмалю, мост пашкрабу, пыл з фікуса анучкай выцеру…

Вось так бывае: сядзіш, слухаеш і маўчыш, лянота язык аб зубы біць. Бо смак буракоў не змяняецца год ад году, бабулін унук абавязкова вывучыцца, уладкуецца і шчэ папап'е людское крыві. Бо калі, пражыўшы жыццё, табе няма чаго распавесці нашчадкам, апроч прыбірання ў хаце, дык пэўна не хваліцца, а галасіць варта.

Міхась жа ў гутарках не кранаў тэлесерыялаў, не ўзвялічваў сябе, пахваляючыся штодзённымі клопатамі. І тут справа, бадай, не ў адсутнасці тэлевізара ды наладжанага побыту, проста для гутарак знаходзілася нешта цікавейшае, больш важнае. Так, аднаго разу ён прызнаўся, што не толькі чытае чужыя вершы, але й мае свае ўласныя:

— У мяне іх багата. Я іх пішу і пад койку кідаю! «Лебедзь, рак і шчупак. У падражанне Крылову», — абвясціў Міша назву ўласнага твора і пачаў чытаць. Твар ягоны адразу пасвятлеў, бы на імшы, але голас… Голас хрыпеў і зрываўся. Каб разабраць праз хрып і сіпенне тэкст, змоўклі ўсе, хто сядзеў побач. Тое, што ўдалося пачуць, мо і не з'яўлялася скарбам сусветнай літаратуры, але было куды самабытнейшым за скляпаныя наспех шэдэўры зорак раёнкі. Дый заканчэнне байкі атрымалася цалкам сучасным. Героі Крылова цягнулі воз у розныя бакі, персанажы Міхася ўвогуле адмовіліся брацца за працу.

На жаль, голас паэта я тады чула ў апошні раз. Нейкі час сустрэцца не выпадала. Казалі, нібы Міша быў бы не супраць надрукавацца, хаця б на старонках мясцовай прэсы. Але ў хуткім часе яму стала не да вершаў. Урачы выявілі апроч сухотаў яшчэ й анкалогію. Некаторыя ў вёсцы імкнуліся не сутыкацца з Мішам, каб хвароба на іх не перайшла.

Ён завітаў да нас напярэдадні дзявятага траўня. Знакам папрасіў у мяне асадку з папераю. Павіншаваў старых са святам. Я ў адказ пажадала яму здароўя.

— Мне засталося год ці паўтара, — прачытала я на аркушы сшытка. Вось так і скончылася наша гутарка-ліставанне.

Чакаеце трагічнага фіналу? А трасцу ў бок! Стары, які напярэдадні Дня Перамогі збаяўся пацісную Мішу руку, нечакана перакуліўся праз тыдзень з невядомай прычыны. Мішавага дзядзькі-здараўца не стала праз год. А Міхасю зрабілі аперацыю. Ён акрыяў, нават звычкі выпіваць не кінуў. Праўда, свой голас паэт страціў назаўжды. Далі інваліднасць. У вёсцы ён не паяўляўся. Цётка прадала лецішча. Болей з Міхасём я не бачылася, у друку ягоныя вершы так і не з'явіліся, ды і наўрад ці ён працягвае іх пісаць. Навошта? Уго-

лас іх чытаць няма як, а напісанае ад рукі хто ж цяперашнім светам разбіраць будзе. Некаторыя толькі друкаванымі літарамі чытаць умеюць.

Ну і тае бяды! Адным графаманам меней, — прабурчыць нехта. І будзе мець рацыю. Нашай квітнеючай краіне патрэбны графаманы іншага кшталту — маладыя, здаровыя, без шкодных звычак, каб скапыціліся не хутка, амбітныя, усюдыісныя, адукаваныя настолькі, што аж жах бярэ, і, галоўнае, з абсалютнай няздатнасцю шпурнуць чарговы твор пад ложак, цытаваць усходніх паэтаў без узгаднення і пільнай на тое патрэбы. Толькі ці ўслухоўваецца хто-кольвечы ў іхняе гучнае, бы мацюгальнік да вуха прыклалі, дэкламаванне, як услухоўваліся мы тады ў знікаючы голас вясковага паэта Міхася, хворага на сухоты і анкалогію грамадзяніна Казахстана? І хаця ён ніколі не меў сваіх чытачоў, але ўсе ягоныя нешматлікія слухачы, што пакуль шчэ не адышлі ў лепшы свет, дасюль памятаюць і самога паэта, і назву яго самага вядомага твора — «Лебедзь, рак і шчупак.У падражанне Крылову».

Час бяжыць хутка. Дзесяць год мінулася, а можа і болей…

*2011*

## Няўдалы прарок

Маладзёнам Паўла назваць было цяжка: першая сівізна кранула скроні, дзеці ягоныя ўжо ў школу бегалі. Але сам Паўлік лічыў інакш. І дасюль пачуваўся юнаком, ледзьве не падлеткам, асобай творчай, пакуль малавядомай, але з вялікай будучыняй і ўсеагульным прызнаннем у перспектыве.

Нездарма ж з маленства чуў ад бацькі: «Мой Паўлік нас на ўвесь свет праславіць!» У школьныя гады хлопец наведваў і мастацкую студыю, і музычную школу, і ў хоры спяваць спрабаваў. Ды толькі нідзе надоўга не затрымаўся. А калі дзясяты клас заканчваў, дык вылепіў на лецішчы сабаку Рэкса з гліны — ну як жывы! Абяцаў шчэ й ката Мурзіка зрабіць.

Вось, нагледзеўшыся на таго сабаку, бацькі і вырашылі — сын мусіць паступаць у вучэльню, дзе на скульптара вучаць. Інстытут маладому таленту не свяціў усё роўна — адны траякі ў атэстаце.

Але ж, як кажуць, — не лёс. Адзін экзамен Паўлік праспаў, на другі — забыўся. Па восені ў войска забралі. Адслужыў, вярнуўся дадому. Пагуляць хацелася, глузды засохлі. Кар’ерны рост спыніўся, так і не пачаўшыся. А тут Ларыса Мацвеенка з першага пад’езда — вочы блакітныя, валасы бялявыя, бацькі заўсёды на лецішчы. А грошай няма! Вось тады і ўзгадаў Паўлік пра сілу мастацтва ды свае музычныя здольнасці. Пазычыў гітару ў суседа — і да Ларысы. Штовечар прыходзіў і ўсё граў, граў, пакуль тая Ларыса не зацяжарала. Што рабіць, ажаніўся, бацька ўладкаваў на завод вучнем слесара. Пацягнулася шэрая будзённасць. Тут ужо не да музыкі!

— Дрынканнем гэтым сыты не будзеш, — бурчэла цешча.

— Песні твае мне заўжды да лямпачкі былі, замуж хацелася, дурніцы, вось і слухала, — прызналася Ларыса.

Але творчы пачатак упарта не даваў сябе забіць. Унікаючы ад хатніх клопатаў, прыахвоціўся Паўлік цягацца ў інтэрнат да сябра Васі, халасцяка і шырокай душы чалавека. У каторага тады магнітафон зламаўся, а сяброў і выпіўкі — быў поўны пакой. Паўлікавы спевы і гранне там шанавалі! На адной з бяседаў пазнаёміўся музыка з Васевай сяброўкай Марынай. Марына працавала выкладчыцай у пэтэвэ і ў адрозненне ад прадавачкі Ларысы умела цаніць мастацтва, а галоўнае — самога Паўла.

Цяпер, ідучы да каханкі, Паўлік заўжды цягаў з сабою гітару, выдумляючы неіснуючыя рэпетыцыі самадзейнага аркестра, гастролі на раёне. Ларыса не крыўдавала і нават, здаецца, была задаволена: не п'е, у хаце не дрынкае — што яшчэ трэба! А вось сябар Вася задаволены не быў. Прыраўнаваўшы Марыну, ён патэлефанаваў Паўлавай жонцы ды распавёў пра ягоныя «музычныя захапленні». Ларыса выперла мужа з хаты. З Марынай таксама нешта разладзілася. Абедзве падалі на аліменты. Давялося да бацькоў вяртацца. «Такі хлопец, такі хлопец, а вось з жонкамі не шанцуе», — уздыхала маці.

На працы Паўлік пасварыўся з майстрам і звольніўся. Спачатку патужыў трохі, а потым зразумеў — не так яно і блага! Талерка супу заўжды ёсць, аліменты бацька з пенсіі плоціць, каб сына не пасадзілі. Дзеці гадуюцца самі сабою. Вольнага часу шмат — а гэта важна для творчага чалавека. Узяўся нейкія кітайскія таблеткі для пахудзення распаўсюджваць, заробак абы-што, але на кішэнныя расходы хапае. Грошы ж у жыцці не галоўнае. На жаль, песні ягоныя ў інтэрнаце ўсім абрыдлі, ды і з Васем пасварыліся, а гітару скраў нехта.

Тады Павел пачаў цікавіцца містычнымі вучэннямі і пісаць вершы. Толькі бацька ўжо не пахваляўся таленавітым сынам, а ўсё часцей наракаў на ягонае раздзяўбайства і ляноту ды абцяжарваў земляробчымі клопатамі. Вось і сёння прымусіў ехаць да бабы Валі капаць бульбу, папярэдзіўшы: «Будуць усе, дзядзя Валера з сям'ёй прыедзе, толькі паспрабуй праспаць!» І Паўлік пагадзіўся, бо меў наконт гэтых дакопак таемны намер. Не так даўно ён напісаў даўжэзную паэму на ўвесь сшытак. Як вядома, душа паэта патрабуе прызнання. Вось ён і вырашыў, што кампанія сваякоў за сталом можа стацца ўдалай аўдыторыяй для літаратурнага дэбюту.

На бабіных сотках літаратар-пачынальнік не дужа каб шчыраваў, але мяшкі з бульбаю пацягаць усё ж давялося, куды ж ты падзенешся. А ўжо як селі за стол, яго нібы прарвала. Гаманіў без перапынку, ніхто слова ўставіць не мог. Спачатку бубнеў пра нейкія звышчалавечыя здольнасці, паралельны свет і акультызм. Сваякі рэагавалі па-рознаму. Баба Валя праз слова перапытвала: «Га, унучак?» Стрыечная сястра з цёткай цішком пасміхаліся, прыгадваючы колішнія бацькавы словы: «Да, праславіў бацьку з маткай, дык праславіў — нарабіў дзяцей па ўсім свеце!»

— Якой халеры ты тут сцёбаешся? У цябе ж нават гэпэтэвэ за плячыма няма! — прамовіў уголас дзядзька Валера, не вытрымаўшы пляменнікавага маналогу.

Далей маўчаць пра паэму не было як. «Трэба неадкладна ратаваць свой гонар», — падумаў Паўлік, выпіў чарку і ўрачыста абвясціў:

— Я вось кнігу напісаў!

— Ну, і пра што? — запытаўся дзядзька дзеля прыліку.

— Пра маё жыццё.

— Ты што, Ленін хіба? Чым тваё жыццё знакамітае? — задаўшы рытарычнае пытанне, дзядзька павярнуўся і пайшоў, валюхаючыся, да канапы.

Стратаю аднаго слухача Паўлік асабліва не засмуціўся, але дарма. Хаця й быў абазнаны ў містыцы, інтуіцыя ягоная спрацоўвала не заўсёды. Не змог прадбачыць, што слухачоў не застанецца ўвогуле літаральна праз некалькі хвілін. Чытаць напісанае глухой бабе Валі не мела сэнсу. Маці паэзіяй не цікавілася, затое ўмела добра закатваць памідоры, і са школьных гадоў мо і літары пазабывала, бо з кніжкай яе ніхто ніколі не бачыў. Бацька буркнуў: «Ачарцеў ты мне са сваімі вершамі!» — і ўтаропіўся ў тэлевізар. Цётка пабегла на паратунак дзядзьку — той зваліўся з канапы і ніяк не мог ускараскацца назад. А сястра настолькі замарылася, пакуль капала бульбу, рыхтавала пачастунак, падавала кожнаму то лыжку, то гурок з кладоўкі, што ў канцы бяседы страціла магчымасць успрымаць навакольны свет наогул, а ўжо пра Паўлікавы вершы — дык няма чаго й казаць. Хацеў непрызнаны паэт у роспачы узяць рэштку паўлітры і пайсці да суседзяў з паэмай, але дзядзька Валера ўсё выжлукціў. А куды ты з пустымі рукамі пойдзеш?

Тады Паўлік, мармытнуўшы нешта пра нейкага прарока ў сваёй айчыне, са злосцю шпурнуў сшытак у грубку. А засынаючы, прыгадаў ката Мурзіка, якога ў юнацтве так і не вылепіў, хаця й абяцаў. Ці вартай была паэма? Гэтага мы ўжо ніколі не ўведаем — рукапіс згарэў дашчэнту.

*2010*

## Па наезджанай каляіне

Я, настаўніца пачатковых класаў паводле адукацыі, сведчу: школьныя падручнікі беларускай літаратуры нахабна хлусяць. Пісьменнікаў з бедных сялянскіх сем'яў не бывае і, мабыць, не было ніколі. Я пра гэта яшчэ з дзяцінства здагадвалася, а цяпер пераканалася канчаткова. Паспрыялі такой выснове не столькі газетныя артыкулы 90-х гадоў, лекцыі прагрэсіўных выкладчыкаў у педкаледжы, колькі жыццёвыя назіранні і, на жаль, уласны досвед. Мажліва, мая гісторыя падасца вам тыповай і нецікавай, усё ж мушу яе распавесці. Бо ў нядзелю падчас рэлігійнай перадачы па тэлевізары святар сказаў, нібы закопванне талентаў у зямлю — вялікі грэх. Я ж у царкву не хаджу, дык калі не перад людзьмі, то хоць перад Богам апраўдаюся, мо лягчэй зробіцца.

Завуць мяне Вольга Іванаўна. 28 год. Вясковая настаўніца. Замужам, двое дзетак. Нарадзілася ў беднай сялянскай сям'і, у палескай вёсцы за дваццаць кіламетраў ад райцэнтра. Бацьку свайго не памятаю. Нас у мацеры пяцё-

ра — усе ад розных бацькоў, я самая старэйшая. Маці працавала свінаркаю, не скажу, каб яна дужа піла ці была гультайкаю, але мела схільнасць да неразважных учынкаў, бязладнага жыцця. Магла звалачыся ў якія госці ці на бяседу, пакінуць непарадчаную гаспадарку і малых дзяцей. Лапатаць недзе па чужых дварах, пакуль па яе не прыходзілі. Пасля з патроенай сілай за працу бралася і рабіла, ледзь ад стомы не падала. Або, атрымаўшы заробак, ехала ў горад і амаль усе грошы распускала на цюль для вокнаў, новую куртку айчыму ці іншую дарагую непатрэбшчыну. Твары айчымаў змяняліся бы шкельцы ў калейдаскопе, але карысці і дапамогі мы ад іх не мелі ніякай.

Усім на дзіва, вучылася я добра. Нават у прадметных алімпіядах удзельнічала. Асабліва падабалася пісаць зацемкі ў насценгазету і сачыненні. Хаця сачыненні мае неаднойчы на раённыя конкурсы настаўнікі дасылалі, ні аб якім прыгожым пісьменстве я і марыць не марыла. Бо астатнія дзеці з бедных сялянскіх сем'яў, гэткіх жа, як і ў мяне, недагледжаныя, напаўгалодныя, у чужых абносках, таксама не йшлі ў пісьменнікі ды артысты. Яны ўвогуле нікуды не йшлі. Хлопцы туляліся па вёсцы, пакуль іх не забіралі: каго ў войска, каго ў турму, — ужо як пашанцуе. Дзеўкі заставаліся дома, яшчэ ў школьныя гады нараджалі дзіця, гадавалі як давядзецца, прапіваючы мізэрную грашовую дапамогу разам з сужыцелем. Або знікалі ў невядомым кірунку, а праз колькі гадоў адзін чорт аб'яўляліся на бацькаўшчыне змучаныя, абдрыпаныя з плоймай мурзатых дзяцей.

Я ж такой долі не хацела. І ўсё роўна чула ў спіну: «Гэта пакуль яна яшчэ малая, дык і вучыцца, такая харошая ды правільная, а пабачыце — падрасце, будзе ўся ў маці. Сава не родзіць сакала…»

І я спадзявалася. Спадзявалася ў будучым стаць нармальнай. Такой, як дочкі агранома, як суседчыны гарадскія ўнукі. Пасля дзявятага класа паступіла ў педкаледж. Чым сталіся для мяне чатыры гады вучобы ў горадзе, успамінаць не хачу. Дзякуй мамінаму брату, дзядзьку Паўлу, дапамагаў трохі ежай і грашыма. Інакш уцякла б адтуль і не атрымалася б з мяне настаўніцы. На танцы і гулянкі не хадзіла, сяброў не займела. Каму патрэбна кепска апранутая, затурканая дзеўчына?

На працу накіравалі ў суседнюю школу, жытла не далі. Давялося ездзіць штодня на прыгарадным аўтобусе, а жыць у роднай хаце. Там усё было па-старому — пустая лядоўня, вечны тлум ды лямант. Зробленыя грошы разыходзіліся, расцягваліся ўмомант, часцяком без майго на тое дазволу. Меншыя браты ды сястра без догляду, самі па сабе. Апошняе матчына каханне — дзядзька Віця, калі п'яны безупынку, то галаву тлуміць, а калі цвярозы — соўгаецца па двары ў расхрыстанай кашулі.

Аднойчы вярталася са школы дадому і спазнілася на аўтобус. На шашы спыніўся, каб падвезці, шафёр мясцовай зверагадоўчай фермы. Пазнаёміліся, пачалі сустракацца, праз паўгода Дзяніс прапанаваў выйсці за яго замуж. Пагадзілася адразу, хоць галава ад кахання не кружылася. А хто яшчэ мяне тут узяў бы? Дома мне нічога не свяціла. А Дзяніс хлопец непітушчы, працавіты, адзіны сын у бацькоў. Сям'я прыстойная, не раўня маёй. Кожнай хаце-

лася б у такую ўбіцца. Маці бухгалтар на звераферме, дом на дзве палавіны пабудавалі, гаспадарка вялікая.

Згулялі вяселле. Праз год дачушка нарадзілася, пасля сын. Абжыліся. Свякруха абстаноўку дапамагла купіць. На падворку — свінчо, куры, качкі, дзесяць трусоў у клетках. Цяперака мясцовыя пляткаркі ўжо не прарочылі мне матчынай долі, а дзівіліся і зайздросцілі: «Бач ты! Вывучылася, вылюднела».

Здавалася, ад мяне мінулай — смаркатай дзяўчынкі ў падраных калготках — не засталося й следу. Збылася дзіцячая мара. Вёска прызнала мяне нармальнай. Усё як у людзей. Па святах — бяседы ў Дзянісавай цёткі Лілі, праз тры хаты ад нашай. Гэта адзінае, што не выклікала захаплення. Але ж не бывае так, каб усё гладка. Не, шашлыкоў у яе канешне хапала — поўны тазік! А як жа інакш? Мужык заатэхнікам рабіў. Сама ж Ліля — да ўсіхных штаноў гузік. Дае парады, выказвае свае думкі, нават калі й не цяміць зусім, пра што размова. А ўжо пра засолку агуркоў і мужыкоў гастрыт гадзінамі баяць можа. Рот не закрываецца. Як трохі падап'е, сыпле мацернымі показкамі, зацягвае нязменнае: «Ой, мароз, мароз, не марозь міня…» Праўда, на сярэдзіне песні змаўкае, бо так і не патрапіла да канца яе вывучыць. «Во, ізноў Лілька раве», — пасміхаюцца суседзі. «Наша Ліля малайчына — што выпіць, што пагуляць!» — падхвальваюць сваякі. «Канешне, бо нашто такая жызьня! — рагоча Лілька, піхаючы мяне ў бок — А ты чаго такая неапшчыцельная?» Маўчу, каб радню не ўгнявіць. Мне ж яе апшчыцельнасць бы стрэмка ў пяце.

А ў астатнім усё няблага ішло. У дзевяноста восьмым пасля дэкрэтнага ў школу вярнулася. Працы па спецыяльнасці мне не знайшлося. Давялося ісці педагогам-арганізатарам і выхавацелем групы падоўжанага дня. Пасады тлумныя, малааплатныя. Спраўлялася, бо выйсця не было. Муж бурчэў: «У цябе то канцэрты, то вечары ў клубе. Хіба іншых настаўнікаў няма?»

Тут раптам высветлілася: здольнасці мае літаратурныя нідзе не падзеліся, а якраз тут і спатрэбіліся. Сцэнарыі святаў ствараліся на адным подыху. І падбіла ж мяне ліха напісаць тое першае сваё апавяданне, шчэ ў газету даслаць яго!

А пачалося ўсё з перадачы абласнога радыё на тэму каляднай абраднасці. Я ўзяла ды ўзгадала, як на маёй памяці каляды святкавалі. Пра бясконцыя чароды калядоўшчыкаў, каторыя па двойчы ў адну хату ідуць, пра казу, якая ўпала, каб далі сала, але, колькі ні давалі сала, падняцца так і не здолела. Спірту перабрала, на руках з хаты вынеслі. Ведама, нашы п'яніцы — два разы тупнуць, а ты нясі ім і выпіўку і закуску! Шмат хто ў шчодры вечар вокны чорным занавешвае, каб святла відаць не было.

Даслала апавяданне «Калядны вечар» у раёнку. Надрукавалі, рэдактар патэлефанаваў у школу, пахваліў, запрасіў да супрацоўніцтва, да ўдзелу ў літаратурных вечарынах. Выступалі ў сваёй школе, у суседніх вёсках, у раённым ДК, нават на радыё мясцовым. На працы мною ганарыліся: «Трэба ж так пісаць, слова не выкінеш!»

А вось радні маёй было не ў нос. Асабліва шчыравала цётка Ліля, нават падбухторвала свякрову звазіць мяне да бабкі пашаптаць, маўляў, здурнела дзеўка, сурочылі яе. Ды я ў галаву не брала, для цёткі Лілі ўсё за межамі мужавага гастрыту і салення агуркоў — вар'яцтва. Астатнія маўчалі пакуль што. Прычыны наракаць не было. Заробак маю, у хаце папарадчана. Так цягнулася ажно да запрашэння на двухдзённую сустрэчу для маладых літаратараў нашай вобласці. Я вагалася, ехаць ці не, але рэдактар угаварыў, а дырэктарка школы нават дарогу ў абодва бакі аплаціла, папрасіла кніжак для школы прывезці. І я рызыкнула, за гаспадаркаю пагадзілася прыглядзець свякруха.

Імпрэзу зладзілі будзь здароў! Абласное тэлебачанне здымала. Прысутнічалі і знаныя літаратары, багата творчай моладзі. У асноўным усе з універсітэта — цікавыя, разняволеныя людзі. Я напачатку пачувалася скавана. Але, як пачала свае творы чытаць, — куды тая сціршанасць падзелася! Два апавяданні ўзяў для друку адзін дужа паважаны часопіс. Параілі не спыняцца, пісаць далей.

Выканаўшы даручэнне дырэктаркі, з гарадскімі гасцінцамі для дзяцей у адваротны шлях ляцела бы на крылах. Непадалёк ад аўтобуснага прыпынку пераняла мяне вучаніца і выгукнула: «Вольга Іванаўна! А я вас учора па тэлевізары бачыла». Родная хата сустрэла мяне напружаным маўчаннем. Дзяніс, не вітаючыся, патэпаў у сенцы пры маім з'яўленні. Зацішша перад бурай. Ад дачушкі ўдалося дазнацца, што ж такога непапраўнага здарылася за два дні: здохлі двое трусянятак, бабу паклікалі на працу, дык тата мусіў двойчы сам сабе гатаваць вячэру і сняданак. І тут Дзяніса нібы прарвала:

— Мне тваё пісанне да ср… Мне трэба, каб дзеці ды гаспадарка дагледжаныя былі! Для гэтага жонка ў хаце. А не для таго, каб у горад ездзіць, хвастом круціць, купляць кніжкі вазамі! Карысці з іх! Цётка Ліля праўду казала…

Святочны настрой знік імгненна.

— Трусы для цябе, канешне, галоўныя. А мае жаданні ў разлік не ідуць, — толькі і прамовіла я ў адказ. Даводзіць сваю невінаватасць у трусінай смерці не мела сэнсу. Блізкія людзі? Ды яны проста побач. Пэўна, каб загуляла на два дні на якой бяседзе, гэта было б ім лягчэй зразумець і перанесці. Не размаўлялі два дні. Блізіўся дваццаць сёмы дзень нараджэння. І правіць яго не было ніякага жадання.

Раніцаю ў хату завітала свякруха з віншаваннямі ды вялізнай торбай:

— Паслухай мяне, Волечка, памірыцеся вы. Ды не лётай нікуды больш. Мужыка ды дзяцей глядзі. Дзяніска во як усердзіўся! Ты ж ведаеш баб нашых — умомант мужыку галаву закруцяць. За яго любая пойдзе. Кіне сям'ю, а каму патрэбныя ты і твае дзеці будуць? Нашто табе тое пісанне? Абы сляпіцца. Ты ж ужо матка дваіх дзяцей, не школьніца якая. Лепш паляжы, адпачні, паглядзі тэлевізар, — ушчувала, улагоджвала свякрова.

Адтуль са сховаў маёй памяці выплыў азызлы твар дзядзі Віці, гнілая матчына хата. Нібы наяве пачуліся галасы пляткарак:

— Я ж вам казала, толку не будзе! Матка семярых памяняла, і дачка з мужыком не ўжылася.

Мурзатае дзяўчо ў падраных калготках, аказваецца, нікуды не збегла, да скону ў ва мне будзе. Міжволі падумалася: «Насамрэч, дзе ж я падзенуся? У мяне ж нічога свайго няма і заробак малы». На хвіліну ўявіла, як мае дзеці ўсё дзяцінства і маладосць мусяць выбівацца з галечы і апантана даказваць сваю «нармальнасць». На мары, здольнасці, свабоду выбару сіл ужо не застанецца. Зачараванае кола. Не бывае пісьменнікаў з бедных сялянскіх сем'яў.

— У цябе ж дзень нараджэння сёння, дык я дару табе шапку норкавую, у кошт заробку ўзяла. А то ўсё ў вязанай, як дзіцёнак, бегаеш. Праздраўляю! — усміхнулася свякрова і паклала на край стала, ссунуўшы кубак, высокую, падобную на цэбар шапку. Кубак бразнуўся долу, разляцеўся на дробныя аскепкі. А разам з ім ляснулася ўся мая маладосць і творчасць.

— На шчасце, на шчасце! — узрадавалася свякруха.

Аж млосна стала. Падзякаваўшы, я выбегла на двор. Трэба ж такому здарыцца: па вуліцы перлася цётка Ліля.

— Паглянь на яе! Пісацелька знайшлася, разумніца зас…ная! Дзяніска наш з сям'і харошай, а сціплы, не вытыркаецца нідзе. А яна, галадранка, адзелася, ад'елася, волю пачула! Казала яму: не бяры ты гэтай галытвы, вазьмі Аньку Макараву. Не паслухаў цёткі…

І тут я ўпершыню не стрывала звягі:

— Маўчы, авечка тарапатая! Мяне з-пад плота не падняў, на сваім хлебе была! Даўбешка ты, дзве звіліны, а ўсюды язык свой паганы ўткнеш, глядзі, адкусяць.

Цётка ад нечаканасці аж збялела. Нешта буркнуўшы пад нос, пашыбавала дахаты.

З таго часу жыццё маё пайшло па наезджанай каляіне. Адзін дзень на другі падобны. З мужыком памірылася. Па першым часе на просьбы напісаць нешта адказвала рашучай адмовай. Пасля адчапіліся. Радня задаволена. Нават Ліля больш не вяжацца, пасля таго, як я ёй адлуп дала, прызнала за сваю. Ды я яе і не пільнуюся. Вось з Нінай Адамаўнай, нашым заўклубам, пасябравала. Тая ўсё скардзіцца, што бацькі дзяцей у гуртку не пускаюць, кажуць, няхай лепш у градах. А я думаю, то яно і правільна, вышэй за галаву не скокнеш.

Машыну новую купілі. Бычка на адкорм узялі. Дзеці здаровыя. Чаго Бога гнявіць — цяперашняе маё існаванне не такое ўжо і кепскае. Толькі вось ніяк не вызначуся, што яно мне больш нагадвае: нішчымны сталоўскі боршч ці вечарыну ў цёткі Лілі, дзе ўсе вакол рагочуць, а я — «неапшчыцельная».

*2010*

*З ЦЫКЛА «НА МЯЖЫ»*

## Перамагчы палтэргейст

«У з'яўленні палтэргейсту могуць быць вінаваты язычніцкія пахаванні» — артыкул раёнкі пад такой назвай патрапіў мне на вочы ціхай летняй ранічкай, каб змяніць жыццё назаўжды.

Але гэта ўжо потым, тады ж я ні пра што такое і блізка не магла здагадацца ці напрарочыць. Проста мой позірк выпадкова зачапіўся за чарнічны россып дробных літарак і ўжо не здолеў адпусціць той газетны радок далей. «У з'яўленні палтэргейсту вінаваты язычніцкія пахаванні» — да такой высновы прыйшлі супрацоўнікі абласной газеты «Дняпроўскія хвалі». Нагадаем, у ноч на дзясятае ліпеня ў доме па завулку Кастрычніцкім рабіліся дзіўныя рэчы: са столі то лілася вада, то сыпаўся пясок, самастойна перамяшчалася мэбля, загараліся фіранкі. «Як паведаміла дырэктар краязнаўчага музея Анціпенка С., некалькі год таму непадалёк ад завулка, на беразе ракі Вільчанкі былі знойдзены старажытныя пахаванні II–III стст. н. э., што ўтваралі сабою кола, у цэнтры якога, магчыма, знаходзіўся ідал, і праводзіліся рытуальныя ахвярапрынашэнні», — чытала я, і абурэнне скаланала мяне.

Канешне, нават па гэткім пытанні ўласных думак няма, абавязкова найперш з вышэйстаячай інстанцыяй параіцца трэба! Усё яны ў вобласці лепей за нас ведаюць — і хто вінаваты, і дзе ідал у II ст. нашай эры стаяў. Так ужо павялося — які б бязмен з вобласці ці сталіцы ні прыехаў — ён тутака і найвышэйшы суд і першы разумнік, адным словам, ледзь не намеснік Госпада на зямлі.

«Не выключана, што палтэргейст звязаны са старажытнымі могілкамі. Ніякіх рацыянальных тлумачэнняў няма», — запэўнівала раёнка.

«Ёсць, яшчэ й як ёсць», — затахкала раптам у скронях. Пахаванні тыя стагоддзямі не заміналі нікому, дый гарадскі парк адпачынку куды бліжэй да завулка Кастрычніцкага, чым рэчка Вільчанка. Хаця на памерлых усё спіхнуць, вядома, прасцей. Мая віна, мая віна, мая вельмі вялікая віна, — нечаканае прызнанне ўсплыло словамі калектыўнай споведзі ў касцёле. А ў памяці паўстаў той спякотны травеньскі дзень, за які да сёння сорамна.

Высокае блакітнае, яснае аж да рэзі ў вачах неба. Сонца паліць асфальт бы патэльню. Гарадскі парк адпачынку. Рэзкі гарлавы вокліч, паўсотні ног, нібы адбіваючы нейкі вар'яцкі рытм, крочаць па зачараваным коле. Грукочуць, грукочуць нешта забытае, нетутэйшае барабаны. Змярцвелая сцішанасць. Напаказ буйным цветам, быццам у апошні раз, красуе старая яблыня. Пісягі чужое крыві на дзіцячых шыях. Вялізная шыльда з надпісам «Дзень піянерскага сяброўства. Агляд сцягавых груп». Дзяўчынка гадоў дзесяці, ёй бы лялькам косы заплятаць, страявым крокам з каменным выразам твару шыбуе да стала ў цэнтры. Смірна! Рука да пілоткі. Рапарт. Вольна!

Ля стала стаяць, бы старажытныя ёлупні, чальцы камісіі. Кіраўнік усіх піянераў раёна Ніна Раманаўна, мажная цётка з чырвоным тварам, мужна

перамагаючы цяжкасці міжзапойнага перыяду, паблажліва ўсміхаецца: «Малайчына, і я з гэтага пачынала. Да заканчэння школы яшчэ лепш маршыраваць навучышся!» Старшыня ветэранскай арганізацыі, бадзёры дзядок гадоў сямідзесяці, цікава, у якой вайне удзельнічаў, пацiскае дзяўчынцы руку і ўручае дыплом пераможцы: «Расце змена!»

А я, педагог-арганізатар прыгараднай школы, хаваюся ля яблыні, бліжэй да сваіх выхаванцаў. Мае вусны шапочуць як мантру: «Тая ж выхаваўчая работа, тая ж выхаваўчая работа». Мае глузды ўпершыню адмаўляюцца гэта слухаць і ніяк не могуць дапяць, дзе ж мае вочы ўжо бачылі такое жудаснае відовішча. Ага, спапяляючая гарачыня. Ахвярная кроў на руках і шыях хударлявых падлеткаў. Іх ногі зладжана рухаюцца па коле. Гэткія ж гарлавыя воклічы са змярцвелым маўчаннем мяжуюцца. Вялізныя тамтамы ва ўсю моц б'юць. Нават дрэва збоку ёсць. Не яблынька ў квецені, а нешта на акацыю падобнае ці на баабаб які… Тэлеперадача «Клуб кінападарожнікаў», прысвечаная традыцыям дзікіх афрыканскіх плямёнаў.

Абрад нетутэйшай ініцыяцыі на Беларусі. Хіба што ў пыле забыліся пакачацца, і птушка грыф у небе не кружыць, і я, саўдзельніца чужынскага дзікунства, у белую блузачку ўстроілася. Хоць ільвіная грыва або футра якой гіены былі б больш дарэчы.

Адразу прыгадаліся піянерскае дзяцінства сярэдзіны васьмідзясятых. Хлусня і страх — тая ж выхаваўчая работа. Нейкі ідыёцкі парад у трэцім класе. Я крочу ў форме, якая нагадвае марацкую, на галаве — дзіўны ўбор накшталт бесказыркі. Ён вось-вось збіраецца зваліцца долу, я ж баюся гэтага больш за ўсё на свеце, бо нам знімуць нейкія балы і мяне ўзненавідзяць праз тую клятую шапку, як узненавідзелі тую дзяўчынку з 4-га «Б», што зараз плача ля сцэнкі. Побач са мною ідзе мая сяброўка Аня. Яе не прынялі ў піянеры ў першых шэрагах праз урачыстае абяцанне, напісанае чорным фламастарам замест чарнільнай асадкі. Усё-такі добра, што ў хуткім часе тая піянерыя ляснулася! Ужо праз якія два-тры гады пераканаць мяне збіраць макулатуру, то бок бясплатна валтузіцца з бруднай паперай, або насіць піянерскі гальштук на шыі ці ў лепшым выпадку ў кішэні не здатныя былі ані ўхвала, ані пагрозы.

І вось на́ табе — мінулася дзесяць-дванаццаць год — я, тая, што хранічна забывалася гальштук дома і як магла ўнікала пазакласнай работы, сама рыхтую вучняў да ўдзелу ў дзікунстве раённага маштабу! Чаму абрала такую работу? Ды гэта работа абрала мяне!

Хаця я й не была актывісткай у грамадскай дзейнасці ў школьныя гады, але вучылася ледзьве не на выдатна. Вось і паслалі мяне ад раёна па мэтавым накіраванні ў інстытут культуры паступаць. Паступіла. Адвучылася. Вярнулася. А тут за пяць год усё перайначылася. У ДК людзей хапае, гурткоў больш, як гурткоўцаў, у аддзеле культуры спрэс працоўныя дынастыі. Тады ў райвыканкаме прапанавалі ў школу педагогам-арганізатарам, маўляў, будзеш дыскатэкі ды ранішнікі ладзіць. Я пагадзілася — дзявацца не было куды. А пра піянераў ужо на месцы дазналася. «Тая ж выхаваўчая работа», — запэўніла завуч, пабачыўшы мой спалоханы позірк, я ж верыла, што

ўся тая лажа даўно ў мінулым. Аж не! На сценах піянерскага пакоя — тыя самыя міфалагічныя істоты, запомніць якіх праз адсутнасць індывідуальных рысаў у іхніх абліччах я так і не здолела. І чаму на розных партрэтах Паўлік Марозаў ды Марат Казей па-рознаму выглядаюць? Мо, таму, што насамрэч такіх людзей не было ніколі?

Я пачала працаваць. Па першым часе нават, падавалася, прыносіла плён грамадству. Ладзіла бясконцыя Дні: ведаў, касманаўтыкі, непалення, барацьбы са СНІДам, Канстытуцыі, вываду войскаў з Афганістана, здаровага ладу жыцця, Савецкай Арміі, дарожнага руху, маці, Восьмага сакавіка, Святога Валянціна і халера ведае чаго яшчэ. Павязвала разумнейшым вучням гальштукі і везла на раённыя конкурсы ды канцэрты. І, ведаеце, неяк выпадала ў плынь патрапіць, ніводнага разу без прызавога месца не вярталіся. Аднаго разу загадалі выпусціць насценгазету на ваенную тэматыку. «І калі ўжо тая вайна скончыцца», — стагналі настаўнікі. Я не стала маляваць сонечнага зайчыка і ляпіць яму на лоб фотаздымак мясцовага ветэрана, не перапісвала самастойна перадавіцу з раёнкі, як арганізатар суседняе школы, а пайшла іншым шляхам. Памяняла ў той перадавіцы месцамі сказы, а перапісаць прымусіла вучаніцу, не дужа кемлівую, але старанную дзяўчынку, каб кідаўся ў вочы дзіцячы почырк, апроч таго ўнізе пазначыла выходныя дадзеныя органу друку. У выніку стала пераможцай, атрымаўшы саламяную ляльку ў падарунак.

Піянерскімі справамі ў раёне кіравала Ірачка, дваццацівасьмігадовая маладзічка. Караценькая спаднічка ў гармонік, заўсёдны піянерскі значак на камізэльцы; як гулліва сцвярджала яна сама — цудоўная нагода для знаёмства. Гэтая супрацоўніца аддзела адукацыі хутчэй нагадвала пераспелую васьмікласніцу і ніколі не забывалася нават на адказных мерапрыемствах у гонар Вялікай Айчыннай страляць вочкамі ў бок баяніста Лёнечкі. Але крыві асабліва не псавала, крыху раззлаваўшы толькі аднойчы. Калі ў дваццаціпяціградусны мароз запрасіла настаўнікаў з аддаленых вёсак на семінар, каб павучыць іх вырабляць паштовачкі ў форме сэрцайка да дня Святога Валянціна.

Але як бы там ні было, Ірачка свайго дамаглася, зацугляла Лёньку і сышла ў дэкрэт. Вось тут і пачалося самае цікавае! Горай за ўсё, што вайна не толькі не жадала заканчвацца, а нават умацоўвала свае пазіцыі. І прычынаю стаўся не столькі юбілейны год, колькі прызначэнне на пасаду метадыста Ніны Раманаўны, адзінай жанчыны-ваенрука ў раёне. Здольнага арганізатара, фанаткі піянерскай справы, што апроч мужчынскае прафесіі мела нязломны характар, суровую знешнасць, гучны нізкі голас і нязвычнае для старой дзеўкі захапленне — чарка, часам некалькі дзён запар. Сваю кар'еру ў далёкія васьмідзясятыя Ніна Раманаўна распачала ў якасці піянерважатай вясковай школы, а ваенную падрыхтоўку ўзялася выкладаць ужо потым, скончыўшы тры курсы нечага завочнага і празмерна захапіўшыся маршыроўкай ды ганаровымі каравуламі. Таму найперш арганізавала так званую сустрэчу важацкіх пакаленняў. Звалакла аднекуль сяброў баявога юнацтва, з якімі разам у барабан лупіла, каб тыя павучылі нас працаваць.

Фуршэт зладзілі ў Доме дзіцячай творчасці, сталы ламіліся ад закускі і выпіўкі. Забаўляльнай частцы мог нават сталічны цырк пазайздросціць! Падпітыя дзядзькі і цёткі шыхтамі хадзілі ў пілотках пад піянерскім сцягам і спрабавалі спяваць дзіцячыя песні часоў пачатку перабудовы.

А пасля былі бясконцыя вучэнні сцяганосцаў, барабаншчыкаў, агляды песні і строю. Складалася ўражанне, нібы напярэдадні Дня перамогі да ўлады прыйшла ваенная хунта ў асобна ўзятым раёне.

«Дзецям маршыраваць карысна, ля кожнага помніка героям вайны неабходна паставіць піянерскую варту». Гэтым разам чарговая дырэктыва Ніны Раманаўны выклікала нечуваную радасць у вясковых школьнікаў. Абеліскі збольшага месціліся на могілках альбо ля дарогі, месцах для дзятвы асабліва вабных і аддаленых. А юныя вартавыя вызваляліся ад заняткаў і мелі выдатную магчымасць гуляць у хованкі паміж магільных камянёў цёплымі вясновымі дзянькамі.

Але росквіт мілітарызму прыпаў на вышэйпамянёны дзень піянерскага сяброўства. Колькі вяровачцы ні віцца, а канец усё адно відаць.

Ад таго відовішча я не магла ачомацца яшчэ доўга. Самым брыдкім было ўсведамленне таго, што я і такія, як я, дапамаглі яму адбыцца. Празмерна паслухмяныя хлопчыкі і дзяўчынкі пасталелі, ссівелі, а дарослымі так і не зрабіліся. Ласыя на пахвалу старэйшых па пасадзе, па званні, па ўзросце — не істотна. Не разумелі? Не бачылі? Шчыра верылі ў сваю правільнасць? Былі і такія. Большасць жа проста сапла ў дзве дзіркі. Прыняўшы правілы гульні, жыццё ў стане перманентнае ганьбы ўзамен на больш-менш забяспечаную старасць. Прыкінуліся ягадкамі-дурнічкамі! Я не такая — чакаю трамвая! Тая ж выхаваўчая работа… Усё перамелецца — неяк будзе…

Не перамалолася гэтым разам. Дачакаліся трамвая! Чужынскія нячысцікі, гукамі тамтамаў пакліканыя, спачатку ў нашыя вантробы ўсяліліся, а потым пачалі і звонку бушаваць. Роўна праз сорак дзён пасля таго сатанінскага парада ў горадзе аб'явіўся палтэргейст. Мая віна, мая віна, мая вельмі вялікая віна.

Скачуць, скачуць афрыканскія чэрці па нашай зямельцы, а мо гэта духі старога капішча з імі сілаю мераюцца? Мусіць, абрыдла стагоддзямі глядзець, як кожнае заезджае быдла на іхняй бацькаўшчыне мала што прыжываецца, дык яшчэ і парадкі свае пачынае ўсталёўваць.

З палтэргейстам трэба змагацца — ясна, як божы дзень. Але як? Наўрад ці на гэтую нетутэйшую субстанцыю падзейнічаюць царкоўныя водары накшталт ладану; дыхлафос таксама тут не памочнік. Нічога ж іншага я прыдумаць не змагла і тады звярнулася па параду да аднаго з самых дасведчаных людзей нашага горада ў справах цудадзейных рэчываў і анамальных з'яў.

Вядома, ні эзатэрыкам, ні акультыстам Юра Хвост не быў, такія ў нашых краях не вядуцца, затое захапляўся ўсім — ад сатанізму да магіі, паліў усякую дрэнь, марыў з'ехаць у Тыбет, каторы год забіваў на вучобу і працу, трэплючы бацькоўскія нервы. Карацей, нефармал круцей няма куды — іракез на галаве, на нагавіцах больш дзірак, чым тканіны.

Юрка выслухаў мяне ўважліва і адразу прапанаваў вырашэнне — канoплі, мясцовыя каноплі з гарода бабы Адэлі. І як я адразу не скеміла! Па-першае, растуць дзе заўгодна — значыць, іхні дым нячысцікам знаёмы. Па-другое, знайсці іх няцяжка, гэта ж наша роднае зелле! Каноплі, гонкія, як сосны, раслі ля ганка і пад вокнамі ў нашай сваячкі, бабы Адэлі, каторая жыла непадалёку ад райцэнтра ў спусцелай вёсцы, амаль на хутары. Лічылася, нібыта яны добра адганяюць мух, каб не ляцелі ў сенцы. Ну, я зрэзала адно каліва, наведаўшыся ў госці. Усё адно на колькасць мух расліны не дужа ўплывалі — хлеў быў насупраць хаты.

У азначаны дзень, напхаўшы сушаных канопляў у нейкія папяросы, Юркам прынесеныя, мы абкурылі ўвесь гарадскі парк, абышоўшы яго тройчы па гадзіннікавай стрэлцы і на ўсялякі выпадак супраць яе, са словамі: «Прэч, духі, прэч, тут людзі жывуць». Словы тыя я чула ў нейкім фільме пра цёплыя краіны, з імі на вуснах вузкавокая, маршчатая, як печаны яблык, старая абыходзіла мазанкі.

Можа, мы і выглядалі вар'ятамі, але не больш як тады, на сатанінскім парадзе. Ну, а каб канчаткова пазбавіцца ад палтэргейсту не толькі звонку, а і ў душы, я падала заяву на звальненне. У райаддзеле адукацыі паўпіраліся:

— Вы падумайце. Ніну Раманаўну у вобласць збіраюцца пераводзіць, магчыма, на яе месца станеце. Маладая, перспектыўная…

Ад перспектыў галава не закружылася. Я была непахіснай. Прызвання да хлусні і выхаваўчай работы болей не адчувала. Палтэргейст — апошняя кропля. Вось і ўсё. Цяперака няхай вырабляюць што хочуць. Хоць сабе ў тамтамы ў парку лупяць, хоць сабе пудзіла Паўліка Марозава на цэнтральнай плошчы спальваюць, маёй віны ў гэтым ужо не будзе.

Самае цікавае, што неадэкватныя захады супраць анамальнае з'явы насамрэч далі свой плён. Зніклі нячысцікі, як бабка пашаптала. Вось ужо дзесяць, дванаццаць ці нават пятнаццаць гадоў пра палтэргейст ніхто не чуў. Куды ён падзеўся? Можа, на бацькаўшчыну паляцеў, туды, дзе так шмат дзікіх малпаў, можа, у душу Юрыка Хваста ўсяліўся, дакладна ж не вызначыш. Але цалкам верагодна: ён калі-небудзь вернецца. Бо за гэтыя дзесяць-дванаццаць, не варта падлічваць, колькі гадоў жыццё застыла, нічога ў ім не змянілася, за выключэннем дробных дэталяў у біяграфіях некаторых жыхароў нашага райцэнтра, акалічнасцяў, амаль не заўважных староннямy воку.

Ніна Раманаўна з'ехала ў вобласць, і надалей яе сляды там губляюцца. Пагаворвалі, што, цягаючыся па піянерскіх святах ды камсамольскіх злётах, яна спілася дашчэнту. Метадыстка Ірачка пасля дэкрэту выйшла на працу, але Ірынаю так і не зрабілася, адразу пачала пакрысе ператварацца ў Васільеўну. За гады працоўнага стажу яна ладна раз'елася, а піянерскі значак недзе збаёдала. Вочкамі Васільеўна больш не страляе, наадварот, глядзіць пільна, каб Лёнечка не падгульнуў і не напіўся, таму лётае па Доме творчасці як шалёная. Пагаворваюць, можа, яшчэ ў другі дэкрэтны збярэцца. Недзе падрастае ці падрасла ўжо новая Ніна Раманаўна.

Толькі вось каноплі на падворку бабы Адэлі звяліся, старая сама іх зрэзала, бо наркоты ўвесь гарод стапталі. Як што якое — ратавацца няма чым.

І, канешне, даўно сышоў у нябыт іракез з галавы Юрыка Хваста. Ужо іншыя прыбіраюцца ў майкі са шкілетамі і захапляюцца акультызмам. А Юрык павыдурваўся яшчэ гадоў колькі і, на радасць бацькам, за розум узяўся: аднавіўся ў педінстытуце і такі дамучыў яго. Атрымаўшы дыплом, у міліцыю меціў. Ну чаму менавіта самыя крутыя нефармалы ў юнацтве пасля ў мянты ці вайскоўцы ідуць? Не пашэнціла Хвасту, для органаў біяграфіяй не выйшаў: ці то ягоны дзед з фронту ўцёк, ці то маці ў краме прагандлявалася.

Так што зараз Юрка, перапрашаю, Юрый Ігнатавіч, зусім у іншым месцы. Дзе? Вядома, што не ў Тыбеце, працуе ў пэтэвэ, выбачаюся, прафесійным ліцэі тэкстыльшчыкаў. Спачатку выкладаў там гурток выразнага чытання, пасля прыбраў да рук усю выхаваўчую работу. Штогод ладзіць конкурсы плакатаў на тэму «СТОП СНІД», вышуквае нелегальныя кіпяцільнікі ды прасы ў пакоях інтэрната. Пыхкае, як паравоз, выцірае насоўкай залысіну на ілбе, жаліцца на паводзіны навучэнак. Гэта ж трэба! Замест таго, каб слухаць у актавай зале ягоную лекцыю аб інавацыях у галіне маладзёжнай палітыкі, забаўляюць камандзіровачных з будтрэста!

Я ж па страчаным не тужу, яно было мрояй. Толькі людзі з мінулага, найчасцей тыя, што вечна чакаюць сваёй долі на чужым карку, наманікюраныя лапкі склаўшы, дасталі спачуваннямі. Маўляў, разумніца, выдатніца, адукацыя вышэйшая, а рыбай у шапіку гандлюеш.

А па мне праца як праца, усё, як ва ўсіх. Сям’я шчаслівая. Праўда, шчаслівы ў ёй кожны паасобку. Сын, калі да камп’ютара дарвецца. Дзе знайшоў сваё шчасце муж, нават дакладна не ведаю, але, мусіць, недзе ўсё ж знайшоў, ля крамы не відаць даўно. Я ж наймацней адчуваю задавальненне жыццём увечары, калі пасляпрацоўная цемра мікрараёна заглынае мяне ў сваю пашчу і я, дабраўшыся дадому, ахінаюся коўдраю і падаю на канапу.

Нягледзячы на сумесь шкадавання і дакору ў бацькоўскіх вачах, я не зайздрошчу перспектыўнай моладзі. Часам лаўрэаты, стыпендыяты, дыпламанты ды іншыя маладыя ўзыходзячыя зоркі, якія так і не ўзыдуць, ні аб чым не здагадваючыся, усміхаюцца з блакітнага экрана ў кароткіх рэпартажах праграмы «Навіны». Нават тады я не зайздрошчу. Бо ў іх усё яшчэ наперадзе. А я сярод селядцовага смуроду ў адзежы, запэцканай тлустымі плямамі, бруднымі справамі не займаюся.

*«Наша Ніва». 2013. 13 лютага*

## Жанчына і леапард

У аўтобусе смярдзела саляркаю, пад сядзеннем дрынчэла скрыня з нейкім жалеззем. За акном плылі ўчарнелыя ад восеньскіх дажджоў слівы, напаўпустыя вёскі; гарбузы на ганках хат, крытых шыферам ці чырвоным рубероідам, быльнёг у рост чалавека пад праваленымі стрэхамі з дранкі або гонты.

Карэспандэнту раённай газеты «Працоўны шлях» Івану Гаўрыльчыку падавалася, што ў гэтую камандзіроўку ён едзе ўжо вельмі даўно. Як два-

наццаць год таму сеў у аўтобус Панкратавічы–Слабодка, так з яго і не выходзіў — настолькі аднастайным і звыклым падаваўся яму навакольны краявід, ягонае штодзённае жыццё і праца.

Сёння, па заданні рэдактара, ён мусіў браць інтэрв'ю ў перадавікоў колішняга філіяла завода гароднінных кансерваў, а зараз ААТ «Добры гаспадар», стратнай вытворчасці, што ўжо больш як чвэрць стагоддзя вырабляе нязменную закуску «Бурачковая» і кабачковую ікру ў паўлітровых слоіках. Прадукцыя тая, хаця і была добра вядомая айчынным і замежным спажыўцам, але попыту ў іх не знаходзіла. У выніку тры гады таму завод быў абвешчаны банкрутам, што аднак не перашкодзіла ягонаму кіраўніцтву працягваць будаваць сабе катэджы, набываць аўтамабілі, рэарганізаваўшы прадпрыемства ў акцыянернае таварыства, і па-ранейшаму працягваць выпуск экалагічна чыстай кабачковай ікры ды закускі «Бурачковая».

Заўчора ў ААТ «Добры гаспадар» адбылося ўжо традыцыйнае ўшанаванне ўдарнікаў працы, прымеркаванае да Дня работнікаў сельскай гаспадаркі і перапрацоўчага комплексу, а тут якраз у газеце на другую паласу не было чаго ставіць, вось і давялося Гаўрыльчыку перціся ў Слабодку.

Божухна! Колькі ж інтэрв'ю даярак, механізатараў, замалёвак, прысвечаных работнікам гандлю і лясніцтва, рэпартажаў са святаў ураджаю напісаў ён за пятнаццаць гадоў сваёй працы! Спачатку, як толькі прыйшоў пасля заканчэння інстытута ў рэдакцыю раёнкі, спрабаваў нават рабіць такія матэрыялы цікавымі. Тады былі іншыя часы, нават не верыцца ўжо. На старонках «Працоўнага шляху» знаходзілася месца і праблемным артыкулам, і нарысам мясцовых краязнаўцаў аб гісторыі вёсак, трагічных лёсах землякоў, знявечаных рэпрэсіямі, і вершам беларускамоўных паэтаў з тутэйшага літаб'яднання.

Але хутка ўсё змянілася — і часы, і галоўны рэдактар. З усяго шматаблічча і шматгалосся на палосах раёнкі засталіся толькі звесткі з палёў, старанна спісаныя з райвыканкамаўскага інфармацыйнага стэнда, дурнавата-бадзёрыя рэпартажы з пасяджэнняў ды мерапрыемстваў, абавязковыя віншаванні-памінанні з нагоды юбілеяў або ўзнагароджанняў якою граматай мясцовых кіраўнікоў. Фотаздымак з пратакольным выразам твару, нуднае апісанне жыццёвага і працоўнага шляху, якое наўрад ці хто чытаў апроч самога юбіляра.

Памiналаўка — так найчасцей клікалі газету яе прымусовыя падпісчыкі. Афіцыйная ж назва дашчэнту сцерлася з народнай памяці, і толькі прынцыповая пазіцыя выканкама не давала органу друку канчаткова спыніць сваё існаванне. «У раёне далжна быць свая печаць! А каму не наравіцца, няхай у другі раён едзець!» — гучала нязменнае на ўсіх сходах, днях інфармавання з кіраўнічае трыбуны.

— Дык мы ж не супраць, каб жа нармальная газета была, — звыкла бурчалі бюджэтнікі, супрацоўніцы калгасных кантор, паштаркі, падпісваючыся на «Працоўны шлях» узамен на прэмію ці адгул.

«Шчырыя» споведзі «простых» людзей засталіся таксама, асабліва множыліся напярэдадні прафесійных святаў, пісаў іх звычайна Іван Гаўрыльчык.

Цяперака ўжо сталы журналіст, ён без лішніх мудрагельстваў мяняў месцамі сказы, падстаўляў патрэбныя імёны. Ды і самі простыя людзі імкнуліся выглядаць як мага прасцейшымі, у сваіх расповедах баяліся ляпнуць языком лішняе. У выніку артыкулы, прызваныя ўславіць чалавека працы, выходзілі падобнымі адзін да аднаго, бы меладрамы на тэлеканале «Расія», і пачыналіся прыкладна так: «Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння школы (варыянты: службы ў войску, вучобы ў сельгастэхнікуме) застаўся працаваць у роднай гаспадарцы…»

Калі ж герой інтэрв'ю ці нарыса быў не з мясцовых, а з наезджых, што апошнім часам здаралася ўсё часцей, дык з яго вуснаў чулася наступнае: «Родом я с Рязаншчыны (Казахстана, Малдавии…), мать из Вологды, отца не помню. Вербовался на целину, служил на Дальнем Востоке, с первой семьёй на Сахалине жили, в Монголию по контракту ездил, в восьмидесятых снова на родимой Рязанщине очутился, потом судьба сюда закинула. Да, побросала меня жизнь…» Больш падрабязна, хаваючы татуіроўку — крыжык — на руцэ, знаёміць з акалічнасцямі свайго лёсу грамадзянін свету не спяшаўся. І Івану заўжды карцела запытацца: «Што ж у цябе,чалавеча, за жыццё такое было, што кідала цябе, бы футбольны мячык па полі? Адусюль праганялі ці сам уцякаў, ажно пяты блішчэлі, так ад адыходнай кіем па спіне ратаваўся? Чаму ж толькі тут такія, як ты, знаходзяць адвечны прытулак?»

Далейшы працяг размовы быў аднолькавы без варыянтаў. Усе перадавікі выказвалі шалёнае захапленне сваёй працай на родным прадпрыемстве ці ў калгасе, некаторыя нават спрабавалі акрэсліць перспектывы ягонага развіцця, праўда не заўжды ўдала, дзякавалі свайму кіраўніцтву, чуламу да патрэб простага чалавека. Часам імкнуліся паведаміць цікавыя факты сваёй біяграфіі кшталту: «Маці мая Лаўрынько Ганна Паўлаўна двойчы абіралася дэпутатам сельскага Савета.У 1988 годзе мяне за ўдарную працу ўзнагародзілі пуцёўкай у санаторыю, але ж я нікуды не паехала, бо не было каму хадзяйства глядзець».

Вольнага часу ў гэтых людзей амаль не было, таму ўзгадкі пра адпачынак разнастайнасцю не вылучаліся: «Люблю кветкі, у маім гародчыку іх багата. Па святах, альбо як кабана заб'ём, уся сям'я збіраецца за сталом…» Цікавосткі іншага кшталту з недалёкае пары лічыліся шкоднымі для друку. Ды і самі затурканыя «простыя людзі» лічылі за лепшае не распавядаць карэспандэнту ані пра даўнія крыўды, ані пра несправядлівасць, ані пра бацькоў і сваякоў з сумнеўным мінулым.

«Пасля васьмігодкі засталася ў вёсцы. І вось ужо дваццаць чатыры гады працую на ферме.Аб сваёй долі не шкадую», — з робленым аптымізмам прамаўляе жанчына, што ў свае няпоўныя сорак глядзіцца на пенсіянерку. А ў вачах такі сум — хоць задавіся, пэўна ад шчаснага жыцця.

Нічога іншага, мусіць, не выпадала чакаць і ад сённяшняй сустрэчы. Дабраўшыся да Слабодкі, Гаўрыльчык патэпаў па гразкай разбітай трактарамі дарозе да знаёмай жалезнай брамы, пафарбаванай сёлета ў блакітны колер. Ля акенца цаглянай прахадной вартаўніца — мажная жанчына, абвязаная

пуховай хусткай, расклала на стале разнастайныя вырабы замежнай вытворчасці: стракатыя кітайскія шкарпэткі, скрыначкі смаленскіх селядцоў, украінскія цукеркі. Мусіць, гандаль на працоўным месцы існаваў амаль легальна, з нечага негалоснага дазволу, бо, пабачыўшы карэспандэнта, прадпрымальная цётка ніколькі не збянтэжылася, пачала нахвальваць свой тавар:

— Во, бярыце ўсё свежанькае, сястра толькі ўчора з Хмяльніцкага прыехала!

Але Гаўрыльчык купляць нічога не збіраўся. Таму, пачуўшы пра нейкіх там перадавікоў, вартаўніца наогул страціла да яго прыхільнасць і ўвагу:

— Няма ў нас перадавікоў, усе адзінакава робяць. Была Алка — п’яніца, дык выгналі яе. Ідзіце во па сцежцы ў жоўтыя дзверы, я зараз Генадзеўне, нашаму начальніку цэха, пазваню.

Кабінет уладнай дамы ў атачэнні іржавай абдрыпанасці наваколля ўразіў пластыкавай бялюткасцю. А сама Вікторыя Генадзеўна глядзелася мястэчковаю зоркай ва ўсім сваім бляску: на вушах, на шыі, на пальцах і ў роце пераможна ззяла золата. Жыццё ўдалося.

— Пра перадавікоў, значыт, пісаць будзеце. Очэнь рады, очэнь рады. Адной нашай работніцы тожа грамату ўручылі. Эта гордасць нашага праізвоцтва, душа калектыву, брыгадзір аператараў. Січас пазаву…

Ляпанне дзвярэй у калідоры:

— Ленку Багуненку прыгласіце!

Яшчэ хвілін пяць. Шорханне, тупат. Ліслівы шэпт за дзвярыма:

— Генадзеўна, мы тут кабанчыка ўчора калолі, дык я вам гасцінчыку прынесла. Самі ў гардэробе забераце ці мне вечарам падысці?

Паблажлівае:

— Патом, Лена, патом, ідзі з карэспандэнтам пагавары, толька сматры не забудзь нічога.

І ў кабінет увайшла, дакладней увалілася, цягнучы за сабою нагу, гордасць вытворчасці — ускудлачаная кабета перапенсійнага веку. Ленка была старэйшай за Генадзеўну гадоў на дзесяць-дванаццаць, ранейшым часам у вёсцы яе б клікалі ўжо цёткай Аленай ці Багуненчыхай.

— Прывітанне. Давайце знаёміцца. Я — Іван Гаўрыльчык, карэспандэнт раённай газеты, вырашыў напісаць пра вас артыкул. Дарэчы, Алена, як ваша імя па бацьку? А то кіраўніцтва нешта забылася паведаміць.

— Я, Багуненка Алена Мікалаеўна, ветэран працы. Гэта Генадзеўна маладой мяне лічыць, дык Ленкай заве. Дый няёмка ёй мяне па бацьку клікаць, усё ж начальства, хаця і ставіцца да мяне па-добраму. І я яе вельмі паважаю як спецыяліста і чулага кіраўніка, — ззяла, як новая капеечка, Ленка Багуненка, нібыта кіраўнічая прыхільнасць была найвялікшым шчасцем у яе жыцці.

«Ага, толькі чуласць у вас нейкая узаемавыгадная атрымліваецца, — зазначыў у думках Гаўрыльчык, — ты перад ёй лістом сцелешся, паляндвічкі носіш, а яна цябе ў перадавікі піша і, мусіць, не пасылае перабіраць гнілую моркву з цыбуляй, як іншых. А што дасюль Ленкай кліча, бы смаркачку якую, то бяда невялікая».

Між тым усё ішло паводле плана.

— У нас на ўчастку плануюць запускаць новую лінію па перапрацоўцы ягад. Заработную плату выплочваюць воўрэмя, — тарабаніла душа калектыву, камечачы ў руках нейкую паперчыну. І раптам захвалявалася, змоўкла на хвілінку, пасля зірнула ў сваю цыдулку і зноў пачала шпарыць па-пісанаму, як выдатніца на ўроку:

— У нас на прадпрыемстве праводзяцца святы: «Провады зімы»…

З аптымістычнага маналогу вынікала: ААТ «Добры гаспадар» — проста рай на зямлі, ягонае кіраўніцтва — анёлы божыя, бо няма ў цэлым свеце нічога смачнейшага і якаснейшага за кабачковую ікру з закускай «Бурачковая». Сама ж ветэран вытворчасці раскладанне па слоіках падгулялай гародніны лічыць самым захапляльным і прыбытковым у свеце заняткам.

— А кім вы марылі стаць у школьныя гады? — перапыніў Гаўрыльчык у пошуках дазволеных цікавостак. Алена Мікалаеўна памаўчала хвілінку, глыбока ўздыхнула.

— Заўмагам марыла стаць. Пасля школы паступала ў гандлёвы тэхнікум. На субяседванні зрэзалася. Запыталі ў мяне, як прозвішча міністра гандлю. А я ці знаю? Хіба сваяк ён мне? — праз маску штучнай самазадаволенасці пакрысе праступаў чалавечы твар. — Што рабіць было? Вярнулася, уладкавалася сюды, спачатку на сарціроўку. Наступным годам у кулінарны паступаць меціла. А тут Грышка з войска вярнуўся, якая ўжо вучоба! Пасля вяселля, думала, у горад з’едзем, мужу інтэрнат абяцалі, але мяне апературам паставілі, ды і ў дэкрэтны ўжо збіралася. Як нарадзіўся сын — свякруха нам паўдома адпісала. Карацей, вось ужо трыццаць чацвёрты год я працую тут.

— Раскажыце пра сваіх бацькоў, мясцінку, дзе нарадзіліся? — карэспандэнт так і сыпаў звыклымі пытаннямі, якія яму ўжо за пятнаццаць гадоў аскому набілі. Для Алены ж гэта была хвіліна славы, магчыма, адзіная ў жыцці, таму яна асцярожнічала, як магла, асабліва зараз, калі ўсе «хатнія нарыхтоўкі» былі вычарпаныя.

«Так, — разважала ў думках «душа калектыву», — мацерай пахвалюся, пра бацьку толькі ўзгадаю, хопіць таго, што ў школе паліцайкай дражнілі, кожнаму ж не давядзеш, чаму ён, вучаны чалавек, рабіў даглядчыкам і нідзе яму ходу не было, што не па сваёй волі трапіў у палон. Пра сястру Тамару раскажу, хай ведаюць, што і ў мяне радня не абы-якая! Ірку і ўспамінаць не буду, зашмат гонару. Ціхая-ціхая, нідзе не чуваць і не відаць было, ледзь васьмігодку агорала, цялятніцаю робіць. Вось так цішком і прыбрала матчыну хату да рук, а мне там ужо і месца нямашака. Толік, той наадварот змалку быў — адарві ды выкінь! Сваволіў ён — а рэмня зараблялі іншыя. І цяперака ні на грам не змяніўся, бацькавы грошы, што з Нямеччыны за палон прыйшлі, сцягнуў, машыну купіў і кватэру абставіў, а спіхнуў усё на заезджых цыганоў».

— Нарадзілася я ў вёсцы Тамашова Рудня, за два кіламетры ад Слабодкі, у дружнай шматдзетнай сям’і, — ізноўку нацягнуўшы маску паспяховасці, працягнула Ленка Багуненка, узважваючы кожнае слова. — Бацька мой,

Мікалай Пракопавіч, працаваў на ферме даглядчыкам, маці, Марыя Макараўна, паштаркаю. Яна спявала ў хоры пры нашым клубе, а ў восемдзесят сёмым годзе яе абралі дэпутатам сельскага Савета. Мая старэйшая сястра Тамара жыве ў Гродзенскай вобласці, замужам за дырэктарам мукамольнага завода. Катэдж у іх свой, дзве машыны, дзеці ў Мінску вучацца… — натхнёна нахвальвала сястрын дабрабыт Ленка, зусім забыўшыся на астатніх сваякоў. Гаўрыльчык і не настойваў, неаднойчы пераканаўшыся на ўласным досведзе — калі ў справу мяшаюцца грошы і спадчына, ад дружбы ў шматдзетнай сям'і і следу не застаецца.

— Ну, а муж ваш дзе працуе?

Абысці правакацыйнае пытанне не ўдалося:

— Дзе і ўсе цяпер, у Расіі, — незадаволена буркнула Алена. І паспрабавала перавесці гаворку ў больш пазітыўнае рэчышча: — Большы сын уладкаваўся механікам на заводзе, меншая дачка дзясяты клас заканчвае. Я ва ўсім люблю чысціню і парадак, у мяне ў гародчыку багата кветак. Асабліва мне падабаецца даглядаць хатнюю гаспадарку. Я аддаю ёй увесь вольны час, бо змалку да працы прывучаная… — з апошніх сіл змагалася са сваёю знявечанай свядомасцю ударніца працы, імкнучыся выдаць жаданае за сапраўднае.

— Ну, а як адпачываеце?

— Ат, пакуль усё папарадчыш ды свінням дасі, які адпачынак! Нагу сваю ўкручу ды гляджу тэлевізар. — Зразумеўшы, што вырвалася нешта не тое, Мікалаеўна паспрабавала выправіць становішча. — Камп'ютар дачцэ ў крэдыт узяла. Бывае, з сястрой Тамарай, што за дырэктарам замужам, перапісваюся…

У гэты момант у кабінет зайшла сакратарка, жанчына неабыякавая да чужога гора:

— Вы ўжо выбачайце мне, я вазьму паперы ды пайду, бо дадому трэба, абяцалі брыкету прывезці. А ты, Лена, раскажы журналісту пра Сярожу. Хай бы ён у газеце яго прапясочыў ці міліцыі пажаліўся, каб прыстрашылі трохі. А то ж жыцця не дае: п'е, з двара цягне, хату спаліць грозіць…

Суразмоўніца спачатку відавочна сумелася. Старанна абмаляваны свет ілюзіі ўласнага шчасця сыпаўся на вачах, бы сечка з дзіравага меха. І тут яе нібы прарвала, трываць набалелае не было як:

— Гэта ж мужыка майго брат, у другой палове дома жыве. Алкаш, не робіць нідзе, сябрукі яго цягаюцца. У двары таза алюміневага пакінуць няможна. Краёў не знойдзеш, жыві і бойся! Даруй божа, ці грэх ці два, хай бы ён ужо пайшоў куды — ці ў прымы, ці ў турму, ці на той свет. Раз бы адплакалі, затое жылі б па-чалавечы. Толькі не пішыце пра гэта, калі ласка, наша Рая, сакратарка, па сваёй дурасці ляпнула. Вечна лезе, куды не просяць!

— Я ўсё разумею, супакойцеся, давайце лепш пра добрае пагутарым. Ці ёсць у вас запаветная мара? — запытаўся Гаўрыльчык па звычцы, хаця праўдзівы адказ быў відавочным — пакуль Сярожа на падворку, яго знікненне і ёсць адзіная праўдзівая мара Алены.

— Ай, хаця б да пенсіі дарабіць і нага не балела. Мульціварку яшчэ купіць хацелася б. У дачкі — гастрыт.

Штучна створанае аблічча ўдарніцы засталося ў мінулым, расплылося, бы туман над канаваю. Насупраць карэспандэнта сядзела пажылая жанчына з хворай нагой, якой уся гэтая вытворчасць і вытворчыя паказнікі былі патрэбны як леташні снег.

— Ну, а калі зірнуць на жыццё шырэй, з аптымізмам? — не здаваўся Гаўрыльчык у чаканні дзяжурных словаў. Але дзіўна, Алена яго не даслухала, прыпыніўшы шматкроць чутае, агаломшыла бывалага журналіста з ходу:

— Леапардам хачу стаць, у будучым жыцці.

Пстрыкнула кнопка дыктафона.

— А цяпер не для друку.

Дзяціны спалох у вачах кабеты:

— Што, ізноў нешта не тое? Ну, вам не дагодзіш.

— Не, працягвайце, калі ласка, мне вельмі цікава.

— Я пра яго ў кніжцы даччынай прачытала і па тэлевізары бачыла. Ён у зграі не жыве. Ляжыць на галіне дрэва над сцежкаю, кудой антылопы на вадапой ідуць, і палюе сабе сваю здабычу. А футра ў яго — майму паліто не роўня!

Кволы камячок павагі да сапраўднага, а не прыдуманага, аблічча сваёй суразмоўніцы заварушыўся ў душы Івана, дзе хвіліну таму панавала сумесь іроніі і шкадавання. Ад нечаканасці, не знайшоўшы патрэбных словаў, ён проста падзякаваў Алене Багуненчысе за змястоўную размову і на развітанне сфатаграфаваў яе на фоне новага абсталявання, якое ўжо больш як паўгода ў куце пылілася.

Усё ж такі леапард у Індыі і чалавек са Слабодкі, што ні кажыце, шмат агульнага маюць: абодва вольнымі нараджаюцца. Але пасля ў чалавека з'яўляецца прысядзібная гаспадарка, праца, дзеці, раскрадальнік алюмініевых тазікаў Сярожа, хворая нага — і ён паўстае на раздарожжы: або ўласная годнасць, чыстае сумленне, але замардаванае існаванне штодня ды малыя шанцы дасягнуць пенсійнага веку ў выніку, або паўзці з аптымізмам у будучыню — з паляндвічкай для чулага кіраўніцтва пад пахай, варыкозныя ногі за сабой цягнучы. Тады фінал крыху іншы — трансфармацыя імкнення да свабоды і самапавагі ў нечаканае жаданне стаць леапардам.

Інтэрв'ю пад назвай «З любоўю да працы» ў чарговым нумары раёнкі заняло ўсю паласу. З фотаздымка змучана ўсміхалася ўдарніца Ленка Багуненка ў бялюткім халаціку, пазычаным для такога выпадку. Ад цёткі Алены Багуненчыхі і яе мары ў газеце, вядома, не засталося і следу.

— Фатаграфія красівая. І напісал харашо, дажа і па-беларускі, — зазначыла Вікторыя Генадзеўна, прымацаваўшы «Шлях працы» на інфармацыйным стэндзе ля прахадной. Не засталіся абыякавымі да інтэрв'ю і ў сям'і Багуненкаў, дачка прапанавала нават паслаць яго цётцы Тамары ў Гродзенскую вобласць, муж маўчаў, пасміхаючыся ў вусы. Сярод астатніх жыхароў раёна публіцыстычны твор не займеў ніякага рэзанансу.

А вось у Івана Гаўрыльчыка тая камандзіроўка ўпершыню за апошнія гады не йшла з галавы.

Па першым нетрывалым сняжку ён крочыў у кнігарню. Рэдакцыйная бухгалтарка Галіна Карпаўна дала грошы і папрасіла набыць фоташпалеры ці каляндар, каб закрыць урэшце гэтую пляміну на сцяне. А то няёмка — у кабінеце ж начальства бывае рознае і так людзі прыходзяць. Напярэдадні ў кнігарні быў завоз друкаванай прадукцыі. У Івана аж вочы разбегліся, чаго тут толькі не было! І васількі ў жыце з надпісам «Квітней, Беларусь!», і кацяняты ў кошыку, і садавіна побач з бутэлькаю віна ў атачэнні курортных краявідаў, і вялізны каляндар з хакеістамі. Але жыццё не пакінула яму выбару з тае секунды, як ён заўважыў тыя фоташпалеры ў куце паміж кніжнымі паліцамі.

У абедзенны перапынак прыбіральшчыца Сямёнаўна зайшла на хвілінку да сяброўкі бухгалтаркі Карпаўны, каб чарговы раз абмеркаваць набалелае:

— Здаецца ж, граматныя ўсе і культурныя, у газеце пішуць, у прафкаме і на радыё робяць, а бесталковыя. Колькі прасіла — у акно ля лесвіцы пустыя бутэлькі не кідаць! Рыльцы ж б'юцца, хто іх у мяне потым прыме? Не даходзіць!

— Ой, не кажы, Сямёнаўна, няма цяперашнім светам самастаяцельных мужчынаў, няма. Вось, наш Ваня Гаўрыльчык, здаецца ж не раздзяўбай які і не п'яніца. Папрасіла яго каляндар купіць, думала, ён з кветкамі возьме, каб прыгожа, а ён звяругу прывалок, страшыдлу гэтую. Вунь паглянь, Сямёнаўна…

Са сцяны цеснага рэдакцыйнага кабінета на Карпаўну з Сямёнаўнай спакойна і гожа пазіраў леапард у атачэнні зялёных шатаў. Над ім дыхала гарачынёй паўднёвае неба, а пад ім ляжала родная зямля і дарога, па якой ягоная здабыча на вадапой ходзіць.

*2013*

---

Барысік Таццяна Іванаўна нарадзілася 18 жніўня 1977 г. у Магілёве.У 1999 г. скончыла МДУ імя А. Куляшова, атрымаўшы спецыяльнасць «сацыяльны педагог, метадыст дашкольнага выхавання». Працавала ў школах Бабруйскага і Магілёўскага раёнаў. Цяпер працуе апаратчыкам на гарводаканале. Піша вершы і прозу. Аўтарка шэрагу публікацый у газетах «Наша Ніва», «Новы час», часопісе «ARCHE», на старонках мясцовага друку Бабруйшчыны, паэтычнага зборніка «Гаркну ў бліскучы мацюгальнік» (Асіповічы, 2002). Нізка апавяданняў змешчана ў зборніку «Жанчыны выходзяць з-пад кантролю» (Мінск, 2007).

---



## Таццяна Барысік

# ДЗЯНІС СІДАРОК



Між багны замшэлай, па краі забытым
Богам, надзеяй і неба блакітам,
Між знешне жывых і духоўна забітых
Брыдуць сутарэннямі барацьбіты.

Ў руках іх — апошнія кроплі свабоды,
У сэрцы ж нязломнасць, упартасць і вера.
Да зор не дайсці без цярністых нягодаў —
Шлях чалавека зорамі мераць.

Брыдуць па тумане душэўнай галечы,
Скрозь адчай і вар’яцтва сляпых і знямелых,
Брыдуць, ды вачыма кіруюць у вечнасць
Зямлі тутэйшай пад крыламі белымі.

З іх вуснаў зрываецца боская мова,
Іх думкі святлом, цеплынёю разліты…
Між здрады, пакут і чужога слова
Брыдуць сутарэннямі барацьбіты.



Мы існуём па прыкладах
І забываем думаць,
Што кожны з гэтых прыкладаў
Нехта калісьці прыдумаў

Нас трэба весці пад локці,
Нам трэба паказваць шлях,
Мы верым лягчэй у казкі,
Чым у слёзы ў чужых вачах.

Мы твары хаваем пад маскі
І кажам: «Часы такія!»
Ды людзі змяняюць час,
А мы ўсё меней жывыя…



Я палятаю, як стану анёлам,
Я буду танчыць з зорамі
І буду малюнкі на небе рабіць
Маленькім кішэнным сцізорыкам.

І буду з вышыняў глядзець уніз
На мноства дробненькіх атамаў,
На тых, каму вечна карціць
Скрозь шукаць вінаватага.

І буду маланкі з далоняў пускаць,
Дажджы нараджаць ды сняжынкі
І разам з сонцам заўжды ўставаць,
Ісці па адное сцяжынцы.

Я буду слухаць ветравы байкі
І спаць пад пярынай аблокаў,
Ладзіць чаргу ў чысцяцы райскім,
Даваць справаздачы Богу.

Мне часта карціць сарвацца да зораў,
Але ж я здолеў пра крылы забыць…
Я палятаю, як стану анёлам,
А зараз я прагну жыць!



Я збягу, ад усіх збягу
Ў край дзівосны, у край вольны,
У край, дзе неба кранае зямлю,
У край, дзе зоры ловяць у далоні.

Я збягу, ад усяго збягу,
Не пакіну масткоў цэлых,
У край, дзе здолею, дзе змагу
Жыць душою найперш, не целам.

У край, дзе мара сталася явай,
Дзе пагрукала ў сэрца вечнасць,
Але хто мне дасць права,
Ад сябе хто дазволіць збегчы?



Дзяніс Сідарок

Сідарок Дзяніс Сяргеевіч нарадзіўся 10 чэрвеня 1989 г. у г. Калуш Івана-Франкоўскай вобласці Украіны. У 1992 г. сям'я пераехала ў Беларусь. Жылі ў Барані, што пад Оршай, і ў в. Чачэвічы Быхаўскага раёна. У 2006-м скончыў Магілёўскі абласны ліцэй і паступіў на факультэт філасофіі і сацыяльных навук БДУ.

*ДА 60-ГОДДЗЯ БАЗЫЛЯ КАМАРОВА*

ВАСІЛЬ АЎРАМЕНКА

# Голас і рэха, або Настальгічныя вандраванні Базыля Камарова

Што можа быць прыгажэйшым за ўспаміны?
Толькі мары. Мары аб недасяжнай будучыні.

«Няма таго, што раньш было…» — сказаў паэт. «А што ж ёсць? — спытаў празаік. — Няўжо тое, што ёсць, горшае за тое, што было?» Палітык на гэта скажа, што мінулае — проста жах, цяперашчына — таксама «не фантан», а вось будучыня, асабліва пад ягоным кіраўніцтвам, — гэта будзе рай. Гісторык з ім не пагодзіцца: то даўней былі «залатыя часы», калі жылі волаты і героі. Цяпер жа народ здрабнеў, даўно няма геніяў і тытанаў, а ўсё што нас чакае — дэградацыя, заняпад і шэраг непазбежных катастроф. Селянін, паслухаўшы іх, скажа: мо і сапраўды раней трава была зялянейшая і сала на кабанах таўсцейшае, але ж гной па-ранейшаму пахне гноем, а бульбу, як і калісь, трэба садзіць у зямлю. І толькі мастак прамаўчыць. Бо мастакі заўсёды гавораць мала, ім больш падабаецца крэмзаць паперу ці фарбаваць палотны, не зважаючы на курс даляра або эканамічную кан'юнктуру за сценамі майстэрні.

І ўвогуле, што такое мастак сёння, у эпоху татальнай эканамічнай мэтазгоднасці і камп'ютарных рэвалюцый? Як выжываюць прадстаўнікі гэтай не самай прэстыжнай і не самай прыбытковай прафесіі? А як да мастака, то чаму б не да Базыля Камарова? Колькі год не бываў у яго ў гасцях. Дый нагода ёсць не абы-якая — 60 год. Узрост сур'ёзны для любога мужчыны і мастака. Ёсць што паказаць ці хаця б пра што ўзгадаць.

### Мастак і майстэрня

Даўно заўважыў: каб лепш пазнаць чалавека, пазнаёмся з ім у хатнім інтэр'еры. А калі гэта мастак, то лепш у майстэрні. Базылёва майстэрня практычна не змянілася за дзесяць год маёй адсутнасці. Тыя ж палічкі са збанкамі, сухімі кветкамі, адмысловымі каранямі і макетамі замкаў, зашмальцаваны стол з кубкам недапітай гарбаты і слядамі тытунёвай залежнасці гаспадара, нізенькая канапа, рыпучае крэсла, рамы, палотны, стосы аркушаў, фарбы, палітры, алоўкі і маса розных мастакоўскіх дробязяў. Рэчы, да якіх не дакраналіся гадамі, пакрыты пылам, карыстаныя кожны дзень ільсняцца і просяцца ў рукі, каб аддаць цяпло і давесці невыпадковасць сваёй заканасці ў гаспадара. Адным словам, той самы мастацкі вэрхал і жывапісны развал, у якім, бадай, толькі і магчыма бесперапыннае творчае жыццё. Бо як з хаосу вырастае сапраўдны парадак, так і з бруду — найлепшыя кветкі.

Роўныя шыхты, ідэальны парадак — канец творчага неспакою, а стэрыльная чысціня — то ўжо прыкмета смерці. Здаецца, я разумею, чаму ў Базыля няма настальгіі па роднай вёсцы ці жадання змяніць гарадскую прапіску. Бо ў яго ёсць майстэрня! А майстэрня для мастака — і радзіма, і радзільны дом, і дом адпачынку, а часам і спачыну. Менавіта яе сцены першымі бачаць нараджэнне ці смерць карцін, узлёт ці падзенне свайго гаспадара. Мастакоўскія прылады становяцца саўдзельнікамі поспеху, а часам і творчымі абярэгамі майстра. Мастак без майстэрні як селянін без зямлі або патрыёт без Айчыны. А тым больш такі «ўкаранелы» мастак, як Базыль Камароў.

**Мастак без узросту**

Неардынарнасць Камарова як мастака ў тым, што як творца ён бадай што ўніверсал. Па акадэмічнай адукацыі кніжны графік, ён не толькі валодае ўсімі графічнымі тэхнікамі, але плённа працуе ў жывапісе, мастацтве інтэр’ераў, роспісах сценаў, дызайне эмблем і лагатыпаў. Нават у вандроўцы, у лесе ён знойдзе час, каб са старога карча сякерай ці нажом зрабіць адмысловую міні-скульптуру або з галінкі выразаць элегантны кіёчак ці свісцёлку. Пастаянная зацыкленасць на мастацкім пераасэнсаванні ўбачанага і здольныя да любога інструменту рукі робяць з яго ўніверсальнага майстра без «выходных і вакацый». Мастацтвам ён можа займацца 24 гадзіны ў суткі, а ідэй і сюжэтаў мае больш, чым магчымасцяў іх рэалізаваць. І з гадамі іх не менее — яшчэ адна адметнасць Камарова, для якога ўзрост азначае не творчы застой, а непазбежнае паскарэнне часу, і як вынік (на жаль) — адставанне спрыту рук ад палёту думак і жаданняў. Як і многія будучыя пенсіянеры, ён цешыць сябе надзеяй, што вось-вось пазбавіцца ад казённа-музейнага «прыгону» і тады ўжо з’явіцца час на ўласную творчасць, поўную самарэалізацыю і на ўсякія «неактуальныя» рэчы. Бо так шмат яшчэ хочацца зрабіць, дарабіць і перарабіць…

**Мастак і горад**

Нягледзячы на шырокі мастацкі дыяпазон Камарова, у яго ёсць улюбёныя ці нават эксклюзіўныя рэчы. Гэта, найперш, выявы старога Магілёва. Захопленасць Базыля гісторыяй і беларускай мінуўшчынай не выпадковая. Выхаванец знакамітага «Парната» (рэспубліканскай школы-інтэрната для адораных дзяцей), ён ужо ў 15 год адчуў сябе мастаком і бадай адначасова — беларусам. Вясковец па нараджэнні, у 6–7-м класах спецшколы амаль што «пераламаны» на «русско-городской манер», пасля адной з экскурсій у Прыбалтыку (гэта была Рыга) задумаўся спачатку над сва-





ёй беларушчынай, а потым і над лёсам Беларусі. «Парнат» ужо тады, у канцы 60-х, меў настаўнікаў і навучэнцаў, што пераймаліся гэтымі праблемамі і спрабавалі іх неяк прэзентаваць. Таму сярод гадаванцаў школы і калег Камарова быў немалы працэнт «будучых нацыяналістаў». Само гэтае слова тады было пад забаронай, але думка пра адметнасць і нерэалізаванасць беларускага шляху паціху тачыла ідэйны маналіт «зборачнага цэху» СССР. У канцы 80-х — пачатку 90-х таемныя памкненні выйшлі вонкі, а разам з імі стала актуальнай ды сацыяльна запатрабаванай творчасць нацыянальна-арыентаваных мастакоў. Жыццё ў Магілёве і, бадай, праца ў тутэйшым музеі паўплывалі на творчы выбар. Значная частка пейзажных твораў Камарова — гістарычныя краявіды Магілёва розных часоў ці проста настраёвыя гарадскія пейзажы старога горада. Мастак акадэмічнай школы, ён рабіў нешта падобнае да справы Васняцова, які ў канцы XIX стагоддзя «ажыўляў» у сваіх карцінах старадаўнюю Маскву. Але акрамя гістарычна-адраджэнскага працы Камарова, мне здаецца, нясуць іншы эстэтычны і светапоглядны пасыл. Ён піша не проста «рэальны Магілёў», які набліжаны да будзённага жыцця XVI ці XVII стагоддзя, а казачна-дасканалы, амаль пазачасовы горад, у атачэнні фантастычна прыгожых аблокаў і чароўнага ландшафту. У такім месцы не можа быць гора, нэндзы, пакут ці нават кепскіх месцічаў. Гэта ідэальны горад. У біблейскай традыцыі такім апісваецца Нябесны Ерусалім, у Кампанэлы — Горад Сонца, у Томаса Мора — Утопія, у кожнага народа, а то і пакалення, гэта можа быць свой горад Мары. Ці можна такое мастацтва сёння назваць актуальным, калі стары рэалізм даўно заняпаў, а вакол пануюць постмадэрн, перформанс і татальны канцэптуалізм? Ці магчыма ўвогуле цяпер актуальнае мастацтва?

Кожны чалавек у жыцці стварае ўласны свет: селянін засявае яго раслінамі, будаўнік — узведзенымі гмахамі, сямейнік — уласнымі дзецьмі, падарожнік — калекцыямі ўражанняў ці экзатычных сувеніраў. Мастак — не выключэнне. Ён стварае свой свет на палатне. Мо ён не такі ўежны, як у селяніна, не такі грунтоўны, як у будаўніка, але больш відавочны, чым у паэта ці музыкі. І чамусьці галоўны крытэр да мастакоўскага свету заўсёды быў адзін — прыгажосць. Не каларыйнасць, надзейнасць і дакладнасць, а толькі краса. Мяняюцца ўяўленні людзей аб прыгажосці, яе ўзоры і ідэалы, але патрабаванне да мастака «рабіць прыгожа» пакуль не адмянілася. Што робяць карціны ў нашым жытле? Упрыгожваюць яго. Чаго мы ходзім на выставы? Палюбавацца мастацтвам. Мастакі — ледзь не апошнія невылечныя рамантыкі грамадства, бо нават самыя барадатыя і панурыя сярод іх зацята кшталтуюць уласныя мары і да апошняга руху рукі шукаюць свой ідэальны вобраз.

Вось і Камароў у сваіх выявах старога Магілёва, свядома ці незнарок, увасабляе мару беларуса аб «вечным горадзе», які б не разбураўся дазвання ў кожным стагоддзі ці з прыходам кожнай новай улады, у якім бы мірна жылі ў суладдзі між сабой і ў гармоніі з наваколлем месцічы-беларусы. Мара, бадай, фантастычная і недасяжная, як, у прынцыпе, і любы ідэал, але ж прыгожая і звабная для рамантыкаў ды маладых. А хіба варта пазбаўляць людзей мары і будучыні? Усе маюць права верыць у нешта лепшае, чым было ўчора, ці ў нешта прыгажэйшае, чым маюць сёння. Таму, на мой погляд, Базыль Камароў ёсць не толькі мастаком-рэаніматарам нашай мінуўшчыны, але і творцам будучыні. А мастацтва, якое дае надзею ці імкнецца ў будучыню, заўсёды будзе актуальным.

**Мастак і рэха**

Мастацтва бывае розным: папулярным, модным, авангардным, камерцыйна-паспяховым ці палітычна-запатрабаваным, аднак у многіх мастакоў застаецца нешта асабістае, інтымнае, часам неназоўнае, што хочацца зрабіць «для сябе». Не сказаць, што Базыль Камароў у гэтым вельмі арыгінальны, бо і яго з узростам цягне да вытокаў жыцця і радзімы, радзімы не ў сацыяльным, а ў метафізічным сэнсе. Яго роздумы аб повязі чалавека з зямлёй, вадой і небам, вобразы «каранёў і крон», «вытокаў і плыні» знаходзяць увасабленне ў графічных аркушах і палотнах. Метафары гэтых твораў не заўсёды лёгка чытаюцца, стрыманы каларыт і гармонія іх не так відавочныя і відовішчныя, як дасканаласць архітэктурных ансамбляў ці вясёлкавасць імпрэсіянічных пейзажаў. Але для беларуса, што любіць гаі ды крыніцы, рэкі і пагоркі свайго краю, неабыякавы да іхняга лёсу, большыня ягоных работ будзе добрай нагодай да здумлення і эстэтычнага суперажывання. Не ўсё самае прыгожае кідаецца ў вочы, і не любая ісціна агаломшвае сваёй безапеляцыйнасцю.



Апошнім часам Базыль выношвае ідэю зрабіць цыкл на тэму «Пошукі рэха». Рэха — не толькі водгук жывых галасоў, а і вібрацыя думак і пачуццяў тых людзей, што сышлі, адгалоскі тых падзей, што даўно мінулі. Аднак ёсць надзея, што недзе ў сусветным эфіры, у памяці зямлі або нашым генетычным кодзе яны засталіся рэхам, пачуць якое можа далёка не кожны. Толькі чалавек чуйны і таленавіты, духоўна настроены на тую глыбінную хвалю можа адчуць даўно забытае. Не ведаю, наколькі рэальна гэта зрабіць мастаку — узнавіць карціны мінулага. Ці можа чалавек увогуле выказаць нешта большае, чым даў

яму жыццёвы досвед? Мо гэта толькі голас дзеда, які, кляпаючы касу ды прыгаворваючы свае дзіўныя прымаўкі, узбуджае няясныя дзіцячыя фантазіі. Ці старадаўняя песня бабулі за працай у полі ажыўляе даўно забытыя пахі і мроі. Скептыкі ды рацыяналісты так усё і патлумачаць. Але, па-мойму, жывапіс, і тым болей графіка, у адрозненне ад палітыкі, ёсць мастацтвам немагчымага. Бо гэта пастаяннае пранікненне за межы відавочнага і будзённага, здольнасць зрабіць нешта большае за рэальнасць ці магчымасць лагічнага вытлумачэння. Таму, напэўна, сапраўдныя мастакі часцей такія нешматслоўныя, бо думаюць вачыма і бачаць душой значна лепш, чым могуць сказаць языком. А мо яшчэ й таму, каб неасцярожным словам не разбурыць магію ліній і колераў, цуд, які можна толькі ўбачыць.

Я спадзяюся, што настальгічныя вандраванні Базыля Камарова па магілёўскіх нетрах і лабірынтах уласнай памяці, гэтак жа як і вандроўкі па рэальнай Беларусі, якія ён вельмі любіць, яшчэ працягнуцца. А рэха ягонай творчасці будзе чутна ў мастацкай і культурнай прасторы не толькі нашага горада, але і краіны.

БАЗЫЛЬ КАМАРОЎ

## Карацелькі



Ты і я.
Мы поруч, заўзятыя.
Справай і думкай
Адзінай зацятыя.
Як блізнюкі-браты,
Я і ты.
І сонца нам свеціць шчодрае,
У сэрцы адзін кірунак,
Даём сабе слова цвёрдае.
Гордае.
Мова яднае родная.
І толькі ў ёй ратунак.
Нібы Каралеўны,
Голас яе напеўны
Узняў да вышынь намераў.
Мераў
Я вартасць людскую ёю
З тваёю,
Сваёю.
Яна супакой душэўны.
Пэўны.
Прычына натхненняў нашых…
А вашых?
Чаму не вашых?



Кружляе вецер у замкавым дзядзінцы —
Віхурыць памяць да нябёсаў.



Толькі знайшоўшы сябе ў натоўпе, ты адчуеш суладдзе з адзінотай.



Гляджу ў нябёсы.
Хай люструюцца зоры.
У вачах слёзы.



Свайго абутку вывучаю адбіткі.
Даўно чакаю…



Гайдае вецер цеплыню арэляў… Не спіць дзіця.



Руйнуе памяць час…
Глыбеюць зморшчыны
На твары
Вечар.



Дух, днём стамлёны,
Грувасткасць ночы доўгай
Ці супакоіць?



Аб корань
У лесе
Спатыкнуўся
Баліць
Мне
Прабач
Дрэва



Старонкі Бібліі на падваконні вецер гартае.
А мо Усявышні правярае напісанае?



Запаланілі двор стамлёныя аўто.
Маўклівыя ў цішы, у задуменні.
Ім помніцца пара іх маладосці,
Імклівы бег па еўрапейскіх аўтабанах.



Празрысты бель над золатам вады
Парушыў свістам крылаў зімародак…
Разбурыць праз імгненне люстрагладзь
Бязважкі дыямент,
Што скрыбаўкаю стрэсены з травінкі,
І рэха-круг памкне да берагоў,
Каб перадаць вітанне соннаму чароту.



Усмешку выклікаў дзіцяці
І свой на міг падоўжыў век.
У сталым веку чалавек
Усмешку выклікаў дзіцяці.
Блішчыць сляза праз соль павек.
Што можна больш сабе жадаці?
Усмешку выклікаў дзіцяці —
І свой на міг падоўжыў век.



Далягляд, які зафіксаваўся з дзяцінства, усё жыццё люструецца памяццю сэрца. Крывізна гэтага люстэрка залежыць ад дабрыні і чуласці сэрца.



Што больш радуе — адкрыццё новага, раней невядомага, ці вяртанне да таго, што ведаеш да драбніц здаўна і па чым паспеў засумаваць?



Час вызначыць, віно ці воцат атрымаецца з той сумесі, што мастак-чараўнік згатаваў на сваёй кухні-бровары і прапануе гледачу.



Прайдуся напрасткі па мяккай сцежцы, у скверы вытаптанай, лісце счарнелае нагамі варушачы, — развітаюся з восенню.

Выйду на дарожку брукаваную, першым снегам прысыпаную, — павітаюся з зімой.



Бялюткае поле чысцюткага лёну
Паквэцаў бязлітасна пэндзаль рухавы.
Рука, што трымае яго, —
Квінтэсенцыя руху траістасці:
Чуллівасці сэрца,
Пластычнасці розуму,
Пяшчоты душэўнай.



Упэўнены, што ранняю вясной
Абудзіцца пупышка на галінцы,
На дол сыры злятае жоўты ліст.



У маёй Роднай краіне
Маё Роднае Слова
Глухата паглынула,
Немата ахапіла.
Не было разумення,
Не было паяднання.
Бачыў круглыя вочы здзіўлення,
Мутна-жоўты погляд абыякавасці
Ды пагарды слінявы выскал.
Але слова адазвалася рэхам
Ад маўклівага дрэва старога,
Ад сцяны старасвецкага мура,
Адбілася бляскам вільготных вачэй
Старой на прыпынку чужога ёй горада.
І мне на міг падалося, што былі
Гэта вочы матулі маёй.



Магілёўская тапаніміка: калі стаць на галоўнай плошчы тварам да дома Саветаў, то пад нагамі ў нас будзе плошча Леніна, перад вачыма — помнік Леніну, ззаду — бульвар Леніна, справа — вуліца Ленінская, за ёй — адміністрацыя Ленінскага раёна.



Карані не жывяць галіны, лістота не радуе вока.
Застыла ва ўспамінах старое дрэва.

**Антылогіка**

— Я не настолькі багаты, каб браць з цябе за гэтую працу грошы.
— А я не настолькі багаты, каб ты рабіў мне гэта бясплатна.



Зубцамі-грабеньчыкамі яліны ў неба вяршыні свае выткнулі — расчэсваюць асеннія нізкія хмары.



Асірацелае бусловае гняздо
На даху стронцыем зламанай хаты…
Здзічэлая ігруша каля плота
Кідае долу свой апошні чорны ліст.
Паслаўся ручніком туман калючы,
Абняў рачулку ў нізкіх берагах,
Што ў Бесядзь коціцца гаротнаю слязою…
І прыдарожны крыж, пакрыты мохам,
Маўклівы ў палоне палыновым,
Чарнее шыбеніцай на ружовым небасхіле,
Дзе праразае рыскай залатой без гуку,
Нібы з другой цывілізацыі,
Страла…



Мастацтва нараджаецца не ад сузірання, а ад трымцення сэрца, выкліканага сузіраннем.



Цалуе пэндзаль дотыкам ледзь чутным
Бялюткую, цнатлівую паперу.
Пакінутыя знакі пацалункаў
Народзяць гожае дзіця —
Мастацкі твор.



На рынку блышыным куплю нешта з мінулых часоў,
што будзе радаваць вока, цешыць і вярэдзіць думкі.
Буду рады я, набыўшы нешта бясцэннае.
Будзе рады той, хто збыў нешта непатрэбнае.



Дванаццаць прыступак угару,
Дванаццаць — уніз.
Спяшаюся, раблю шэсць крокаў уверх.
Згадваю мінулае — дванаццаць уніз.



Пісаць шырокім пэндзлем неба — усё роўна, што імправізаваць на піяніна.



Верш настолькі ўзрушыў, што —
як на добрую карціну на выставе
ці цікавую асобу на вуліцы —
азірнуўся, пачаў чытаць спачатку.



Пазалаціла дол асенняя лістота.
У парку светла, нібы ў Божым храме.
Святло ў чырвона-чорна-жоўтай раме.
Наўкол вільготная празрыстая самота.
Ды хутка стане ўсё ў свінцова-шэрай гаме..
Зімы прыход халоднай немінучы,
Бо дворнік прыгажосць усю змятае ў кучы.



Мружачы вочы, ляжу ў высокай траве.
Зялёны лісток закрывае паўдзённае сонца.
У дзедавым садзе здзічэлым
З унукам гуляю ў хованкі.

Бясконца доўга коціцца яблык дзяцінства.



Выціснутая ветрам ці ўспамінамі сляза коціцца па старэчым твары, як горная ручаіна, шукаючы зморшчыны-цясніны.



Прыснілася: сяджу ў Санкт-Пецярбургу на ўзбярэжнай з томікам вершаў Васіля Быкава насупраць адрэстаўраванага дома, дзе жыў Францішак Скарына.

Міма праходзіць Кастусь Каліноўскі.

— Каго любіш? — пытаю.

І чую ў адказ:

— Люблю Польшчу.



Пах цёплага з-пад праса льнянога абруса, вытканага рукамі маці, выклікаў шчымлівыя, балюча-салодкія ўспаміны дзяцінства і яшчэ нешта невытлумачальнае.



Чорныя крыкі
Ў карунках чорных дрэў.
Падоўжыўся дзень.

**Дванаццаць кропелек**

У заледзянелым шкле халоднага аўтобуса прашкроб адтуліну старэчым змерзлым пальцам. Глядзіць у свет свайго далёкага маленства.

Студзень

Нязвыкла падаюць у снег сухія верталёцікі явара. Абляпілі дрэва залётныя снегіры.

Люты

Нагрэтыя сонцам і вясновымі сокамі дрэвы адагналі снег ад сваіх карэнняў, утварыўшы кола чорнай зямлі і леташняй травы, дзе вароны і галкі шукаюць нешта, увосень згубленае.

Сакавік

Пахмурны дзень. З раніцы цярушыць дробны дождж. На слупе буслянка, дзе ўвесь дзень мокне бусліха. А ніжэй у галлі таго гнязда чубяцца вераб'і. У іх гняздо пад страхой.

Красавік

Аглядаюся наўкола — адкуль гэткі водар парфумны? Узняў галаву — стаю пад чаромхавым дрэвам у квецені.

Травень

Ля балацінкі за полем управа-ўлева гайдаецца ссутуленая постаць касца. У ранішнім сонцы маланкай паблісквае адпаліраванае рукамі кассё.

Чэрвень

Конь сцішыўся пад алешынай, схаваўся ад заедзі — туга. Па яго спіне бегае, патрасаючы хвастом, порсткая сітаўка. О, радасць.

Ліпень

Надвячоркам у цішы стукнуўся аб дах хлеўчука яблык, скаціўся і мякка ўпаў у нявыкашаную ў садзе траву.

Жнівень

Да мокрага ад расы бота грыбніка прыляпіўся жоўты лісток і вандруе па лесе.

Верасень

Вільготны пахмурны дзень, але свеціцца парк ад золата лісця. Свінцовыя хмары чапляюцца за вершаліны яловага лесу. На ўзлеску — свечкі бяроз.

Кастрычнік

Насупраць сонца мокрым надвячоркам — бісер на вішняку. Мроіцца зімовы сон.

Лістапад

У зімовым тумане агні ліхтароў і машын ззяюць ёлачнымі шарамі. Чакаю Новага года.

Снежань

---

Камароў Базыль (Васіль) нарадзіўся ў вёсцы Міхайлаўск Магілёўскага раёна 12 ліпеня 1953 г. З 1981 г. жыве ў Магілёве. Скончыў Рэспубліканскую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве імя І. Ахрэмчыка, тэатральна-мастацкі інстытут (аддзяленне графікі, майстэрня В. Шаранговіча). Сябра Беларускага саюза мастакоў з 1988 г. (суполка «Пагоня»). Грунтоўна вывучае гісторыю і архітэктуру Магілёва, старажытныя планы горада і аднаўляе знішчанае на сваіх карцінах. Многія яго працы маюцца ў розных музеях і прыватных калекцыях. Адзін з яго гарадскіх пейзажаў вісіць у кабінеце старшыні Магілёўскага гарвыканкама.




Базыль Камароў

МІХАСЬ БУЛАВАЦКІ

## Горад мастака

*Базылю*

Мастак горад велічны намаляваў
з каронай касцёлаў і цэркваў
на месцы, дзе некалі час віраваў
і Пярун маланкі растрэсваў,
дзе дзвынкалі стрэлы, шукаючы цэль,
і ядры ўгрызаліся ў сцены,
кроў з пылам і дымам, як чорны кісель,
сцякала па вуліцах-венах.
Мінала вайна, і ўздымаўся народ,
не выбіты чорнай навалай,
якога не ўсмерціў ні мор, ні няўрод,
якога бяда не зламала.
І з ім уздымаліся сцены, дамы
і храмы да сіняга неба…
Ды зноў наляталі захопнікаў цьмы
і храмы мяшаліся з глебай…
І так — з веку ў век, за гадамі гады —
знікалі і людзі, і храмы.
І горад марнеў, быццам кіт без вады,
быў блізкім канец яго драмы.

У горадзе гэтым і жыў той Мастак,
Мастак, улюбёны ў свой горад.
І ён не хацеў пагадзіцца ніяк,
што горад знікае ў прасторы.
І ён аднаўляў на палотнах сваіх
і школы, і мост, і тэатры,
і храмы, і ратушу, і караблі
у порце з замежным таварам.
Дамы ён рамеснікамі насяляў,
а ратушу — людам службовым.
Званар на званах так бадзёра іграў —
хто чуў, той рабіўся здаровым.
І людзі глядзелі на горад — на свой, —
і людзі ўздымалі галовы.
І ў душы ўсялялася вера, з якой
вярталіся розум і мова.

І людзі ўглядаліся ў стромкасць царквы,
у вокны дамоў самавітых —
і бачылі людзі, што горад жывы,
што войнамі ён не забіты,
што вось Спірыдон дапісаў свой «Буквар»,
і меч апусціў Левановіч;
Машэка, Гартынскі ды мужны ваяр
у парку пра вечнасць гамоняць.
Усё аднавіў і усіх ажывіў
Мастак на шырокіх палотнах.
Падмешваў да фарбы ён кроплі крыві,
што ў жыцці вярталі самотных.
І люд, памаліўшыся Богу ў царкве
ці ўславіўшы Бога ў касцёле,
і сёння кахае, стварае й жыве…
Дай Бог яму міру і волі!

Як горад завецца і дзе ён ляжыць —
блукаюць паданні па свеце.
У горадзе гэтым мне хочацца жыць
і хочацца — тут — памерці…

ТАМАРА АЎСЯННІКАВА

## Нявестка

Двое старэйшых сыноў і дачка Хведара і Ганны былі пры іх, у вёсцы. А меншы, Іван, у горад падаўся вучыцца на інжынера.

Іван — хлопец прыгожы, разумны. Бацькі ганарыліся сынам. Шкада, што рэдка бачацца, далёка заехаў. Пасля інстытута паслалі працаваць аж у Хабараўск. Ажаніўся Іван нядаўна. Узяў гарадскую. Бацькі перажывалі. Ведама, якія тыя гарадскія: вусны намалююць, пазногці адпусцяць, рабіць нічога не ўмеюць і не хочуць, толькі перад люстэркам круцяцца ды ўборы часцей дыхання мяняюць.

— Ой, нагаруецца наш Іванечка з той гарадско-ю-у, — лямантавала Ганна. — Узяў бы суседскую Аленку. І прыгожая, і рабацяшчая, і пявуння, і плясуння, і ўсяму час ведае. Без патрэбы не пабяжыць па вёсцы мянтачыць языком.

— Ганначка, ну чаго ты галосіш, можа, і гарадская будзе, як Аленка, — супакойваў жонку Хведар. — У горадзе таксама прыстойныя дзяўчаты ёсць.

— Ой, Хведар, чуе маё сэрца, што акруціла нашага Іванечку крашаная.

Нарэшце сыночак прыехаў. Як убачылі Ганна з Хведарам нявестку, дык і мову ў іх адняло. Анямелі і аслупянелі. Побач з іх Іванечкам, высокім, прыгожым, у самай сіле хлопцам, стаяла маленькая, нават да пляча Івану не даставала, непрыгожая дзяўчына. Ні рожы, ні кожы. Вусны, праўда, не накрашаныя. «Вой-воечкі, — галасіла Ганна, даглядаючы худобу, — няхай ба лепш крашаная была, гэта ж трэба за свет паехаць ды такую негадзяшчанькую выбраць! Няўжо ж там лепшых не было? Куды ж яго вочачкі глядзелі? А мой жа ты сыночак!»

Жаніцьба Івана не ўкладвалася ў галаве не толькі ў бацькоў, але і ва ўсіх аднавяскоўцаў. На пытанне маці: «Можа, яна цябе, сынку, апаіла чым?» Іван адказаў: «Мама, калі б вы паглядзелі на яе маімі вачамі, то і вам яна была б прыгожай».

Гэтыя сынавы словы прымусілі Ганну задумацца: «Калі Іванечка так сказаў, значыць, я чагосьці не ўбачыла, не зразумела», — разважала яна. Але праз момант зноў галасіла: «Вой-воечкі, а на што ж там глядзець, глядзець жа няма на што!..»

Між тым Ганна пачала прыглядацца да нявесткі. І вось дзіва! Паліна станавілася для яе з кожным днём усё прыгажэйшай і прыгажэйшай. Ганна заўважыла, які ў яе шчыры і сардэчны пагляд і якая прывабная ўсмешка. Ды і сама Палінка, хоць і маленькая, але такая складненькая і да работы здатная. Калі бабы пачыналі з Ганнаю гаворку пра яе гарадскую нявестку, яна ім адказвала:

— Не-е-е, бабы! Палінка прыгожая, толькі на яе трэба глядзець вачамі майго Іванечкі.

*2.01.2012*

## Помста

Яўдоха прачнулася, як заўсёды, на досвітку. Узяла ўсё неабходнае і пайшла ў хлеў. Дала Чарнушцы кавалак хлеба і ласкава загаварыла: «Ах, ты мая карміцелька даражэнькая, як табе адпачывалася?» Жанчына прымасцілася на ўслончыку каля каровы і стала мыць вымя. Правяла рукою адзін раз, другі — вымя напалову пустое. Маладзіца ўстрывожылася: што з Чарнушкаю, якая немач напала на карову? Малака Яўдоха не надаіла і паўдаёнкі. «Калі б карова захварэла, то паводзіла б сябе па-іншаму, магла не падпусціць», — разважала жанчына. Выганяючы Чарнушку на пашу, Яўдоха пажалілася пастуху, збегала да суседкі. Яны толькі паціснулі плячыма ды развялі рукамі.

З пашы Чарнушка прыйшла з малаком. А раніцою гісторыя паўтарылася: карову быццам бы хто падаіў. Яўдоха не ведала, што і думаць. Яна вырашыла прасачыць, які ж гад кароўку яе доіць. З вечара трошачкі пакімарыла і пайшла ў хлеў. Кінула ахапак сена пад сцяну, да якой прыхілілася і не заўважыла, як задрамала. Праз сон яна пачула цмаканне. Расплюшчыла вочы. Толькі-толькі бралася на зорку, таму было шчэ цемнавата. Яўдоха прыгледзелася і не паверыла вачам сваім — вуж ссаў карову. Яна чула пра такое, ды думала, што гэта байкі. У іх вёсцы вужы не вадзіліся. Жанчына схапіла палку, што трапіла пад руку, і кінулася на вужа. Той юрнуў у сена, толькі яго і бачылі. Цяпер Яўдоха ведала, хто злодзей.

Не дачакаўшыся раніцы, яна падаіла карову і вырашыла выжыць злодзея з хлява. На дапамогу пазвала мужа. Карп адказаўся. Ён паведаў, што ў яго родзіча ў Дзяражычах вуж жыве не толькі ў хляве, але і ў хаце пад печчу. Дзеці з ім гуляюць і ядуць разам. Вуж ахоўвае іх дом і гаспадарку.

— Нічога сабе ахоўнік, карову выссаў, а чым дзяцей карміць? Вунь іх колькі, палічы, калі забыўся, дзевяць душ. Ты як хочаш, а я яго выжыву.

На вужа Яўдоха адкрыла сапраўднае паляванне. Дзявацца таму не было куды, вуж выпаўз з хлява, і жанчына пагнала яго за гароды. Вуж сыкаў, але поўз. Забіць яго Яўдоха не асмелілася. Некалькі начэй яна карову сцерагла, а потым перастала. Відаць, вуж пакінуў назаўсёды некалі аблюбаванае ім жытло.

Гісторыя з вужом ужо стала забывацца. І тут на табе. Ідуць бабы на Тройцу ў царкву. Усе па-святочнаму апранутыя, задаволеныя, што выдаўся дзень вольны. І раптам як быццам бы хто пугаю ляснуў. Яўдоха ад болю ўскрыкнула і азірнулася. Ззаду колам каціўся вуж. Ён ударыў яе ў грудзі. Яўдоха ледзьве на нагах утрымалася.

Бабы кінуліся ўрассыпную. Яўдоха бегла па вуліцы, вуж каціўся за ёю і раз-пораз ляскаў па спіне, аж у вушах звінела. Потым, пэўна, стаміўся і адстаў.

Яўдоха доўга хварэла, хадзіла шаптаць зляк да бабы Агапы. Пасцілася, спавядалася. Свяшчэннік адпусціў ёй гэты грэх. Ды Яўдоха сабе не даравала. Яна і перад смерцю вужа ўспамінала.

*14.10.2012*

---

Аўсяннікава Тамара Пятроўна нарадзілася 24 мая 1949 г. у в. Сяўкі Лоеўскага раёна Гомельскай вобласці. У 1966 г. скончыла Малажынскую сярэднюю школу і паступіла ў БДУ на філалагічны факультэт. Пасля заканчэння працавала на Віцебшчыне настаўніцай рускай мовы і літаратуры. З 1973 г. жыве і працуе ў Магілёве. Кіраўнік гарадскога літаратурнага клуба «Святліца». Першая публікацыя з’явілася ў 2000 г. у газеце «Магілёўская праўда». Успаміны і літаратуразнаўчыя даследаванні друкаваліся ў часопісах «Полымя», «Роднае слова», «Маладосць», у газетах «ЛіМ», «Наша слова», «Магілёўскія ведамасці» і «Прыдняпроўская ніва». Выдала тры кнігі паэзіі: «Ноты сэрца», «Лістапад гадоў», «Стромкая галінка»; кнігу прозы «Любачка». Сябра СБП.



ТАМАРА АЎСЯННІКАВА

---

## АЛЯКСЕЙ КАРПЕНКА





Іржавеюць са сталі мячы,
Храм становіцца грудам гліны…
Ты адчуеш руку на плячы,
Шапяне чыйсьці голас з-за спіны.

Не паспееш і крыкнуць — бядзе
Перашкодзіць не здолееш. Лёдам
Стане кроў, і цябе павядзе
Хтось праз безліч сырых пераходаў…

Задрыжыш перад тварам Суддзі,
Ды не знойдзеш сабе апраўдання
І на роспачы чорнай ладдзі
Ты ў пякельнае сыдзеш выгнанне.



Мозг бессэнсоўна збіраў рэшткі розуму
З асобных скамечаных частак
  бярвення
  наркозу
  мух
У п’янага свету малюнак з дурных элементаў
  арол
  араў
  сеяў
  бясконцае
  явар
  яд
Апошняя звязная думка:
«А я вар’ят!
Ламаюцца час і прастора і чэзнуць у шале дашчэнту».

## Беларусі

Не, лепей стаць прывідам, ценем, ахвярай нябыту,
Няхай ужо вечныя здзекі, пакуты, пагарда ды жах,
Каб толькі не ўбачыць цябе разарванай, раздзертай, разбітай,
Каб толькі над Краем і Мовай ніколі не ставіць крыжа.

Калі тваё сонца закоціцца ў пашчу драпежнага лёсу,
Калі твой народ цябе кіне і роспач заб’е ў ім імпэт,
Калі ты — дарэмная мара, — няўжо дзеля здзеку Нябёсы
Далі мне ў сусветны вар’яцкі тэатр білет?

Няўжо ўсё святое — падман і чыёсьці вар’яцтва?
І нехта прыдумаў і славу, і рэкі крыві?
…Мы будзем з табою да смерці, да Боскага царства,
І жыцці табе аддамо — але толькі жыві!



Карпенка Аляксей нарадзіўся ў 1991 г. Вучыўся ў сярэдняй школе № 5 г. Магілёва. У 2008 г. удзельнічаў у раённым фестывалі дзіцячай творчасці «Магілёўскія зорачкі». Вершы з фестывалю былі надрукаваныя ў газеце «Веснік Магілёва». Цяпер вучыцца ў Магілёўскім дзяржаўным універсітэце імя А. А. Куляшова.

Аляксей Карпенка

ФЕЛІКС ШКІРМАНКОЎ



Мне вядома — я не першы,
Нават не другі,
Хто складае свае вершы
Поўныя тугі.

Пра будзённае, што з намі,
Маіх думак рой,
Яно ўсё перад вачамі,
Кожны дзень са мной.

І на лірыку не цягне,
Бо няма падстаў.
А душа кахання прагне, —
Нехта мне сказаў.

Хто ён, гэты незнаёмец,
Як знайшоў мяне?
Можа, гэта толькі мроі
Ці было у сне?

Але гэта знак, што цемра
Нам не засціць свет,
І да лірыкі кахання
Вернецца паэт.

## Аб чым сумуеш, ветэран?

Аб чым сумуеш, ветэран,
Не спіш сярод начы?
Што непакоіць, што баліць?
Адкрыйся, не маўчы.

Мо ўспамінаеш маладосць —
Якім ты зухам быў?
Ці нешта страшнае з вайны,
Што не хацеў, прысніў?

— Ды не, вайна тут ні пры чым,
На слова мне павер,

А справы сённяшняга дня
Гнятуць мяне цяпер.

Чаму ніяк не ўладкаваць
Жыццё за шмат гадоў?
А мы ж умеем працаваць,
Ды… жабракі ізноў.

## Ля брацкай магілы

Прыходзім разам мы да брацкае магілы,
Каб кветкі ўскласці і хвіліну памаўчаць.
І малады, і ветэран, сабраўшы сілы,
Плячо ў плячо ля помніка стаяць.

У ветэрана успаміны наплываюць,
Малюнкі той крывавае вайны.
Што маладыя ў гэты момант адчуваюць,
Ці будуць вернымі нашчадкамі яны?

Ці зразумеюць, што ў імя свабоды
Загінуў той, хто мог і сёння жыць,
Што з кожнага людскога радавода
Тут нехта разам з іншымі ляжыць?

Франтавікоў зусім ужо нямнога,
І напамін вам — маладым — у гэты час:
Шчаслівай будзе вашая дарога,
Як памяць захаваеце пра нас.

## Не забудзем ніколі

Да кагосьці яно ў дзяцінстве
прыходзіць,
І яны па жыцці з ім
шчасліва ідуць.
А кагосьці яно стараной
абыходзіць,
І яны, што краты, без святла
існуюць.
Да яго не закрыта нікому
дарога.
Яго хопіць на ўсіх,
хто не плюшчыць вачэй,

Хто ў каштоўнасцях розных,
якіх дужа многа,
Адшукаць здольны тую,
што ўсіх даражэй.
Не забудзеш ніколі
ты момант спаткання
Пачуцця з акрыялай ад шчасця
душой,
І гучаць малітоўныя словы
прызнання
Аб сыноўняй любві
да Айчыны сваёй.

Шкірманкоў Фелікс Уладзіміравіч нарадзіўся 27 траўня 1926 г. у Прапойску, сённяшнім Слаўгарадзе Магілёўскай вобласці. Пятнаццацігадовым падлеткам стаў у шэрагі абаронцаў Айчыны. Доўгі час працаваў геолагам на Далёкім Усходзе. Пасля вяртання ў Беларусь землякі абралі Ф. Шкірманкова старшынёй Слаўгарадскага гарадскога Савета народных дэпутатаў. Выдаў некалькі кніг розных літаратурных жанраў: вершаў, апавяданняў, успамінаў, замалёвак, абразкоў.

## Фелікс Шкірманкоў

АНАТОЛЬ САНАЦЕНКА

## Жорсткасць лёсу

*Апавяданне*

Таццяна Іванаўна думала, што яе жорстка абдурылі.

Падмянілі яе, Таццяны Іванаўны, жыццё чужым.

Бо ёй жа калісьці было абяцана іншае: выдатнае, яркае, казачнае… Напрыклад так: клапатлівы муж, паслухмяныя дзеці, дастатак, балы, прыёмы… Або так: замежжа (хай будзе Францыя), буцікі, дыяменты, кафэшантан… А на самай справе — сціплае існаванне правінцыйнай настаўніцы рускай мовы, муж аб'еўся груш, дзяцей няма, і ні грошай, ні баляў, ні буцікаў.

Таццяна Іванаўна была не згодная.

Прабачце, вы што мне ў дзяцінстве абяцалі? Дзе гэта ўсё? Вярніце маё, а забярыце ваша!

Але дзесьці там, у вышэйшых, не згаджаліся. Што, маўляў, ёсць у асартыменце, тое і бярыце.

Іншага не маецца.

Як жа так? Бязладдзе! Дайце кнігу скаргаў!..

І Таццяна Іванаўна скардзілася — сяброўкам, маме, якая ўсё разумела, мудраму, але маўкліваму кату, які па-філасофску вуркатаў на падушцы, свайму адлюстраванню ў люстэрку…

Але лёс, відаць, так хацеў, лёс рабіў сваю справу, не звяртаючы ніякай увагі на ейныя скаргі і слёзы.

І так дзень за днём, год за годам… Цямрэча!

Калісьці ў дзяцінстве, намарыўшы сабе жыццё феерычнае, жыццё дзіўнае — з прынцам, з ружамі, з белай сукенкай з батысту, — Таццяна Іванаўна спакваля і сама паверыла ў яго. Ну, калі ёй усё бачыцца так выразна і ярка, значыць, гэта не фантазія, не выдумка, а самая што ні на ёсць рэальнасць!

Насамрэч, у Папялушкі ж атрымалася. Чаму не можа атрымацца ў яе?

Таму — уздымем планку вышэй, зробім адзнаку на такой вышыні, каб ніхто не мог дацягнуцца.

Ніхто — з гэтай сумнай, гідкай, не вартай яе, Таццяны Іванаўны, рэчаіснасці.

Акрамя прынца, зразумела.

Ніхто і не дацягваўся. Маўляў, і не трэба.

Між тым час ішоў, нічога не змянялася. А Таццяна Іванаўна, вядома, не маладзела. Як гаворыцца, дзе 25, там і 30. Ва ўсіх ужо даўно сем'і, дзеці, сямейныя клопаты. Таццяна Іванаўна ж працягвала пільнаваць ля сваёй адзнакі: раптам знойдзецца такі лёгкаатлет, які возьме гэтую вышыню?

Не знаходзіўся.

«Млін», — думала Таццяна Іванаўна, дыпламаваны філолаг.

Не, у яе, вядома, былі ўхажоры. Аднаму з іх (крыжуючы ў душы пальцы) яна нават абяцала стаць законнай жонкай. Пад уплывам акалічнасцяў і бацькоў справа зайшла далёка — да падачы заявы. Але — у самы апошні момант — яна збегла, не з'явілася ў Палац, дзе чакаў яе не прынц, а так, інжынер нейкага НДІ.

— Добрую справу людзі «браком» не назавуць, — тлумачыла яна потым сяброўкам. Сяброўкі згодна ківалі, але думалі па-іншаму.

Была ў гасцях, пазнаёмілася з мясцовым паэтам.

Нібыта нічога асаблівага: пацёртыя джынсы, старэнькі швэдарык, нос, вушы, вочы — усё, як у людзей.

Але ж — паэт!

Папілі чаю, пагаварылі аб творчасці Блока. Божа мой, — роднасная душа! Але — не паказваць выгляду. Трымацца…

Пачаліся адносіны: платанічныя, ідэальныя.

Паэт, як і ўсе, натхніўся спачатку яе прыгажосцю — прыгажосцю спячай прынцэсы, — падышоў бліжэй, каб разгледзець лепей, паскакаў трохі разам з іншымі, імкнучыся дацягнуцца да планкі, зразумеў, што не, не яго гэтая справа, хацеў ужо адваліць, але Таццяна Іванаўна не пусціла.

Усё-ткі — узнёслая істота. Рэдкая. Хоць і не прынц.

Ды і гады, ведаеце, ідуць, трэба вызначацца, будаваць сваё гняздзечка. Як гаворыцца, у птушкі ёсць гняздо, у звера ёсць нара…

І яна ўважыла, пусціла яго ў свой Палац.

— Прынцэса мая,— захоплена шаптаў паэт, націскаючы на яе далікатную скуру сваім двухдзённым шчаціннем.

Таццяна Іванаўна была нібыта шчаслівая. Распісаліся.

Аказалася, што ў побыце паэт — нязносны. Надоўга сыходзіць у сябе, блукае па кватэры, як самнамбул. Шмат курыць, маўчыць і не звяртае аніякай увагі на прыгажосць Таццяны Іванаўны.

А гэта ўжо сур'ёзнае злачынства. Таццяна Іванаўна злавалася.

Асабліва яе ятрыла звычка паэта замыкацца — з нататнікам і ручкай — у туалеце.

— Набокаў, калі жыў у Берліне, таксама ў клазеце свае аповеды пісаў, — тлумачыў ён.

— Але ж ты не ў Берліне, — уядала Таццяна Іванаўна. — І не Набокаў, — дадавала яна пра сябе, ціха зларадначаючы.

Былі за паэтам яшчэ і іншыя жахлівыя грахі.

Так, напрыклад, любіў ён падоўгу сядзець у ваннай, ядучы яблыкі.

Наконт яблыкаў у яго таксама было апраўданне: прыводзіў прыклад нейкай ангельскай пісьменніцы (ці пісьменніка?), — Таццяна Іванаўна ўжо не слухала, стаміўшыся ад усёй гэтай недасканаласці.

Калі ж, мыючыся на хуткую руку, паэт прымаў душ, то спяваў рознымі галасамі. Арыі!

Гэта таксама злавала.

А то прычапілася на яго дзівацтва — гаварыць пра Чэхава.

Ледзь што: а вось Чэхаў, а вось у Чэхава… Замучыў зусім.

— Ты, мусіць, таксама лічыш сябе вялікім пісьменнікам? — пытала Таццяна Іванаўна, міргаючы часцей звычайнага. І было незразумела, ці то здзекуецца яна, ці то шчыра кажа.

Паэт, на ўсякі выпадак, крыўдзіўся.

Але самым непрыемным была яго звычка ў добрым настроі перад тым, як сесці за пісьмовы стол, паразмінаць свае паэтычныя пэндзлі.

— Нятленка прэ, — тлумачыў ён і, задаволены, храбусцеў пальцамі.

Жах!

— Не пой, красавица, при мне… — гундосіў ён праз паўгадзіны ёй у вуха, нечакана з'яўляючыся за спіной і хапаючы за стан, у той час як яна пераварочвала катлету на скваргатлівай патэльні.

— Прашу цябе, адыдзі, — раздражнёна казала Таццяна Іванаўна, соўгаючы назад локцямі.

— Не, радасць мая, ты паслухай, які верш я напісаў! — захоплена казаў паэт, ужо становячыся ў паставу дэкламатара. — «Тэлефон»: «У поўнач выйдзеш. Змрок бяззорны / Цябе абступіць, павядзе. / І розум табе скажа: «Позна», / А пачуццё не павярне…»

Тацяна Іванаўна слухала і не слухала. Катлеты сквырчалі, і голас мужа зліваўся з гэтым гукам. Праз сквырчанне прарывалася: «Аплату прагна прыме зумер / Срэбралюбівы, як Харон, — / І ўсіх, хто жыў, і ўсіх, хто ў думках, — / Пакліча гэты тэлефон…»

— Ну як? — з надзеяй пытаў ён.

Таццяна Іванаўна маўчала. Ёй ужо было ўсё роўна. Жыццё не атрымалася.

Пры такім жыцці ў яе сур'ёзна знізілася самаацэнка, сапсаваўся настрой. Даймалі частыя дэпрэсіі, якія накатвалі хвалямі і ад якіх ратавала толькі адно — шопінг.

Але каб прайсціся па крамах, патрэбныя, ведаеце, сродкі. Сродкаў жа не было: у школе плацілі мала, яшчэ менш зарабляў паэт, які перабіваўся разавымі выпадковымі заробкамі ў мясцовых газетах.

«Усё, патрапіла. Гэта канец, — халаднеючы, разумела Таццяна Іванаўна. — Гэта навекі — пражыванне ў чужым жыцці, з чужымі людзьмі, з нялюбым, нязносным чалавекам…»

Таццяне Іванаўне хацелася манерна, як у чорна-белым кіно, паднесці руку да лба, працягнуць: «Ах, пакіньце мяне, мне нічога ад вас не трэба, і наогул, гэта не маё жыццё…», але яна разумела, што такі жэст марны — няма чаго і для каго.

А паэт усё спадзяваўся, усё матляўся. Хутка, маўляў, хутка наступіць мой час.

У іх горадзе ў яго была пэўная вядомасць. На творчых вечарах, якія зладжвалі ў школах і бібліятэках, жанчыны глядзелі на яго з захапленнем.

Таццяну Іванаўну гэта абурала.

Што вы гледзіце так, што вы гледзіце, вы ж не ведаеце: у побыце ён — пачвара! Ён спявае ў ваннай, ён храбусціць пальцамі, ён гаворыць пра Чэхава,

ён, ён, ён… Але жанчыны не чулі ўнутранага крыку Таццяны Іванаўны і станавіліся ў чаргу па аўтографы.

Паэта ў сталіцах не друкавалі. Раней былі публікацыі, а потым — як адрэзала. Ён штораз адпраўляў напісанае ўсё ў новыя і новыя часопісы. Адказаў не было.

У лепшым выпадку паведамлялі: «Не падыходзіць».

— Баяцца канкурэнцыі, — тлумачыў ён. — Самі ж даўно пісаць развучыліся…

На 99-й адпраўцы ён зламаўся, упаў у дэпрэсію. Запіў, вядома.

Потым стаў услых размаўляць з Пушкіным, сварыцца з Лермантавым. Балела печань, падстраўнікавая…

Адвезлі ў лякарню.

— Панкрэатыт. Востры, — казалі лекары.

Выпісалі далечвацца дадому. Ён ужо не спяваў арыі, не храбусцеў натхнёна пальцамі. Толькі ляжаў ці хадзіў з кута ў кут.

Так і дахадзіўся да шырокага інфаркту. Потым быў другі — не менш шырокі. І паэта ўрачыста знеслі за горад, на сельскі могільнік, вельмі паэтычнага выгляду.

Мінула дваццаць гадоў. Паэта забылі. Нібы і не было.

Таццяна Іванаўна, адчуваючы сябе ўжо ўдавой-каралевай, так і не разабрала яго архіў.

А навошта? Для каго? На самай справе…

Аднойчы ў іх горад прыехаў сталічны дацэнт, кандыдат навук (чорны шыракаполы капялюш на філалагічнай галаве, доўгае скуранае паліто таго ж колеру, кій з бронзавай булавешкай — любоў да антыкварыяту і дапамога пашкоджанай на веласіпедным шпацыры назе).

Дацэнт збіраў матэрыялы для доктарскай. Ён і растлумачыў Таццяне Іванаўне, што паэт з’яўляецца спадчыннікам па прамой Сярэбранага веку.

Так сказаць, пляменнікам Хадасевіча, унукам, калі хочаце, Цютчава. Не пабаімся гэтага слова: апошнім класікам XX стагоддзя!

— З геніяльнымі сучаснікамі заўсёды так, — элегантна запальваючы з дазволу Таццяны Іванаўны цыгарэту, элегантна адстаўляючы руку з нетутэйшай, імпартнай папяросай убок, казаў ён спагадлівым тонам. — Здаецца, можна стварыць нешта больш таленавітае, чым яны, не шануеш іх. Але праходзіць час, і разумееш: не, нельга; гэта — вяршыня.

Слухаючы гэтыя словы, якія вымаўляліся аксамітным барытонам дацэнта, Таццяна Іванаўна была шчаслівая: яе мара збылася, ёй вярнулі яе жыццё, здавалася б, назаўсёды згубленае.

Заўтра трэба б з’ездзіць за горад, на разрослы за гэтыя гады могільнік — паправіць стужку на ўжо мемарыяльным вянку.

*Пераклад з расійскай*



Санаценка Анатоль Казіміравіч нарадзіўся 2 кастрычніка 1969 г. у Бабруйску. Вучыўся ў мастацкай вучэльні. Паэт, празаік, драматург. Галоўны рэдактар інтэрнэт-газеты «Бабруйскі кур'ер». Публікаваўся ў часопісе «Абажур» (цыклы вершаў), штотыднёвіку «Новы час» (дадатак «Літаратурная Беларусь»: п'еса-анекдот, апавяданні) і іншых перыядычных выданнях. Аўтар дзвюх кніг вершаў: «Пранізлівае быццё» (2001), «Праклятыя вершы» (2007).

# Анатоль Санаценка

ЁЎГА КАЗЛОВА

## Чэрвеньскія травы

Белыя рамонкі,
Свежыя лугі
Косіць чэрвень звонкі,
Ставіць у стагі.

Высахлыя травы
Збераглі свой пах.
Соладка-гаркавы,
Ён плыве ў лугах.

Выйду з дому рана —
Чэрвень так люблю.
І зачаравана
Водар той лаўлю.

## Вечаровы луг

Пакалыхвае вятрыска
Капялюш званочка.
Падыходзіць блізка-блізка
Чэрвеньская ночка.

Адлятайце, пчолкі! Хутка
Сыдзе дзень працоўны.
Будзе спаць званочак гнуткі,
Бачыць сон цудоўны.

Будзе заўтра дзень дзівосны,
Дзень прыгожы, новы.
І на луг квяцісты, росны
Прыляціце зноў вы.

## Пяшчота

Пойдзем, любы, з табой ціхім вечарам летнім
Па сцяжынках старых, дзе хадзілі не раз.
Будзе месяц свяціць таямніча і светла.
Будуць сэрцы спяваць пра каханне ўвесь час.

Будуць ногі мае і твае лашчыць травы,
Будуць рукі сплятаць зноў кахання вянок.
Будзе плысці ў лугах водар цёпла-гаркавы.
Будуць вусны шаптаць словы шчасця знарок.

Будзем марыць з табой мы аб вечным каханні,
Будуць вочы гарэць трапяткім пачуццём.
Будуць сэрцаў лунаць маладыя жаданні,
Акунаючы нас часам у забыццё.

Пойдзем, любы, з табой ціхім вечарам летнім
Па сцяжынках старых, дзе хадзілі не раз.
Будзе месяц свяціць таямніча і светла,
Будуць сэрцы спяваць пра каханне ўвесь час.

Казлова Ёўга (Яўгенія). Нарадзілася 6 траўня 1949 г. у Вільні. Па заканчэнні Віцебскай медвучэльні 35 год працавала ў сістэме аховы здароўя. Сябра Кансерватыўна-хрысціянскай партыі. Першы верш на беларускай мове напісала ў 1997 г. Друкавала вершы ў газетах, у іншых выданнях, у зборніку «На піку сумленьня», выступала на рэспубліканскім радыё і радыё Свабода, брала ўдзел у паэтычных конкурсах. Зборнік вершаў «Спеў флейты» выдала выдавецтва «Наша будучыня» (Вільня, 2004).



Ёўга Казлова

## УЛАДЗІМІР САВІЧ

### Лінія

Тая, ужо досыць далёкая падзея здарылася напрыканцы красавіка. На вуліцах і завулках старога вялікага горада смаркацела вясна. Чаканнем «*des aventures incroyables*» (неверагодных здарэнняў) і прадчуваннямі лёсавызначальных падзей варушылася яна ў душы сямнаццацігадовага хлопца.

Усё прадказвала цуд — і вецер, які з лёгкім стукам форткі залятаў у клас, і старыя дрэвы за акном, гатовыя вось-вось выбухнуць клейкай маладой лістотай, і красавіцкі маладзік, што заглядваў у мае рамантычныя сны каліграфічнай літарай «С» (секс, секс…).

Нязведаны, загадкавы свет прыадчыняў там сваё покрыва. У тых снах гулялі ружовыя вятры, шапацеў-плёскаўся блакітны акіян і чароўныя жанчыны раскрывалі мне свае таямніцы. Што такое вятры, хлопец, які жыў у мікрараёне з рамантычнай назвай «На сямі вятрах», ужо ведаў. Што такое чароўная жанчына — толькі здагадваўся. Здагадкі патрабавалі пацверджанняў. Таму я прагна ўглядваўся ў твары сустрэчных жанчын, намагаючыся ўбачыць сярод іх тую, што стане маім першым адкрыццём, але яны не звярталі на мяне ніякай увагі і прабягалі міма. Ці то мой позірк быў занадта пажадлівым, ці то маладжавы мой выгляд выклікаў пэўную іх асцярогу. Дый што іншае маглі выклікаць у іх недарэчны чубчык ды камечаны пінжачок сарамлівага, бітком набітага комплексамі маладога (метр з кепкай) чалавека? З такімі данымі трэба піць бром ды чытаць Фройда, а не зашчэплівацца ў цёмным закутку, празваным бацькам «цешчыным пакоем», і драпаць там грубым металічным пяром на цнатлівай чысціні мелаванай паперы рамантычныя вершы, прысвечаныя той, навечна першай.

Зараз, ужо даўно раскусіўшы розныя варыянты жаночых загадак, я ведаю, што рабіць. Тады ж пісаў, чуючы ў музыцы рыпучага пяра жарсныя акорды будучых асалод. О, калі б ведаў, якія віршы мне хутка давядзецца страчыць, я зусім не еў бы той зімой памяранцаў з аліўкамі.

Пры чым тут аліўкі? — запытаецца чытач. А вось пры чым. Той зімой, якая папярэднічала маёй сямнаццатай вясне, у гароднінную краму, што размяшчалася якраз у нашым доме, завезлі нябачаных да той пары таўстаскурых мараканскіх памяранцаў і масляністых, як вочы сытага ката, грэцкіх алівак. Сказаць, каб яны мне спадабаліся, гм!!! Але мама! Ох, ужо тыя мамы, дай ім Бог здароўя!

— Вітамін Б, вітамін С… Эпідэрміс, імунітэт, гены росту… — Якіх толькі навуковых тэрмінаў ні напрыдумвала маці, запіхваючы ў мяне чарговую порцыю тых вітамінаў.

Цяпер памножце мае сямнаццаць год на той багаты спектр вітамінаў, якія спрыяюць павышэнню сексуальнага тонусу, і вы зразумееце і юрлівы бляск у маіх вачах, і маё рыфмаплёцтва, і эратычныя сюжэты маіх сноў.

Як хутка высветлілася, шапацелі аркушы і рыпелі пёры не толькі ў маім закутку. Гнулася пяро і пад пальцамі вялікага драматурга чалавечых лёсаў, які ставіў тымі вясновымі днямі апошнія кропкі ў п′есе з рабочай назвай «Першае сексуальнае адкрыццё нецярплівага юнца». Даваліся апошнія ўказанні касцюмерам, грымёрам, асвятляльнікам, а стуканне малатка работніка сцэны, які рыхтаваў тэатральныя падмосткі, гарманічна супала з патрабавальным дзвынканнем будзільніка.

Заслона была ўзнятая, і сюжэтная лінія пачала разварочвацца мудрагелістай спіраллю, уцягваючы мяне, галоўнага героя, у віхуру хутказменных сцэн, няхітрых маналогаў і забаўных дыялогаў. Хаця цяжка сказаць, хто быў у той п′есе галоўным, хто другасным, а хто й проста выпадковым героем. Дый ці ставілася яна ўвогуле, а не была нейкім нагрувашчаннем хаатычных непаразуменняў. Як бы там ні было, але падзеі таго дня ад самага дэбюту развіваліся зусім незвычайна.

Адразу ж пасля таго, як *la cloche a sonne au premier cours* (празвінеў званок з урока французскай мовы), ранішнюю цішыню ўзарваў сігнал пажарнай трывогі. Усхваляваныя настаўнікі загадалі ўсім школьнікам выйсці на школьны двор, што тымі было ўспрынята з бурнай радасцю. Па зацверджаным вышэй плане эвакуацыі мой дзясяты «Б» развярнуўся ля масіўнай школьнай брамы.

Хутка на двары запанавалі вясёлыя жарты і шум. Хтосьці курыў, кідаючы бычкі ў праёмы школьных сутарэнняў, адкуль ужо цягнуўся жоўты смярдзючы дым ад шклаваты, якая тлела падобна няўдаламу любоўнаму раману. Дзесьці спрачаліся аб тым, на які час закрыюць школу. А хто й проста пазяхаў, лежачы на ўжо зафарбаваным маладой травой перыметры школьнага газона. Прыніклыя да зямлі цені яшчэ не прыкрытых лістотай галінак дрэў неміласэрна таптала наша класная — настаўніца французскай мовы.

— *Mes amis, mes amis,* — крычала Ганна Самойлаўна, спрабуючы зарганізаваць дзясяты «Б» у кіраваную масу. *Des efforts vaine* — намаганні яе былі марнымі. Хвілін праз трыццаць, раскалоўшыся на «пралетарыяў» ды «інтэлектуалаў», клас знік з школьнага двара. «Пралетарыяў» паглынуў мясцовы рэгенератарны завод. «Інтэлектуалаў» прыгрэлі парэшткі старога касцёла.

У першых расла колькасць выгружаных вагонаў, у другіх — колькасць завучаных дамінантсептакордаў і расповедаў аб перапрабаваных аднакласніцах. Распавядалі ўсе, сарамліва маўчалі двое. Другім быў сектант-пяцідзясятнік, наш выдатнік Алейнік. Першым — ваш апавядальнік.

Паміж «класавымі» групамі расцягнулася вузкая паласа прычыгуначнай лесапасадкі — «лінія», як называў яе мясцовы люд. Тая лінія і стала сцэнічнымі падмосткамі, на якіх была сыграна кульмінацыйная частка далей апісанай мною трагікамедыі — нейкага «сюррэалістычнага сну ў красавіцкі дзень».

Такія «лініі» пазней я сустракаў у мностве і ў нас, і ў розных канцах свету. Іх прызначэнне, здаецца, у тым, каб вецер не выдзімаў насып летам і не засыпа́ў рэйкі снегам зімой. Не ведаю, магчыма, дзе-небудзь яны й выконваюць сваё прамое прызначэнне. Наша ж лінія спакон веку (асабліва ў цёплы час года) была прытулкам алкашоў і бескватэрных закаханых…

Аднак вернемся да падзей п’есы. На сцэну выходзіць дэкласаваны элемент Себасцян Сатаноўскі.

— А Лявонцеўна, каб ёй скулля, бэндзіла: «Прапашчы ён у цябе, Вандачка. Вой, убачыш, кабетка, загіне за понюх табакі». І як у ваду глядзела, — так пракаментавала першы турэмны тэрмін сына Ванда Францаўна Сатаноўская.

Бліжэй да вечара, калі класная «арыстакратыя» амаль забыла пра сваіх пралетарскіх таварышаў, у пахіленай касцельнай браме ўзнік Сатаноўскі. На яго захмялелым твары блукала таямнічая ўсмешка. У рэзкіх рухах адчувалася ўсхваляванасць, тое ж чулася і ў яго бязладнай таропкай гаворцы. З недагрызкаў Сатаноўскіх сказаў можна было зразумець, што на лініі адбываюцца нейкія загадкавыя і досыць цікавыя падзеі.

— Карацей, пацаны, бабу хочаце? — выгукнуў пад канец Себасцян.

Пасля гэтых слоў у Міхася на гэдээраўскай гітары лопнула шостая струна і густы гук яе вібрацыі доўга чуўся ў мярцвецкай цішыні, якая апанавала касцельную прастору.

— Ну, дык мы рыем? — сплюнуўшы бычком дарагой цыгарэты «Опал», разбудзіў цішыню Себасцян. Твары тых, каму адрасавалася гэтае пытанне, выцягнуліся і выявілі крайнюю заклапочанасць, якая межавала з лёгкім вар’яцтвам. Адчуванне магчымасці нечаканай і блізкай асалоды несумненна замінала пацанам засяродзіцца. Усе чамусьці запытальна паглядзелі ў мой бок (быццам гэта я толькі што пахваляўся сваімі сексуальнымі перамогамі), нават сектант Алейнік грахоўным позіркам утаропіўся ў мае спалоханыя зрэнкі. Не буду хлусіць, мне гэта спадабалася.

Крыху сабраўшы думкі і выяўляючы найграную абыякавасць, я пацікавіўся:

— Ісці далёка?

Гэта прагучала так, нібыта недзе побач у мяне была іншая альтэрнатыва.

— Ды не. Вунь, у кустах на лініі, — патлумачыў Сатаноўскі.

Адкінуўшы масіўную з выкшталцонымі лацінскімі літарамі пліту, мы спешна пазапіхвалі нашы гітары ў цёмную катакомбу…

Уздымаючы вясёлкавы пыл дарогі, якая вілася паміж кааператыўных гаражоў ды нейкіх будак, «інтэлігенцыя» кранулася насустрач дурманлівай навізне. Адлегласць паміж «класамі» пачала скарачацца.

Па дарозе Сатаноўскі распавёў нам аб падзеях, што адбываліся на лініі. Вызвілася, што майстар-пастаноўшчык уключыў у п’есу новых герояў. Мужчыну і жанчыну. Дакладней, двух мужчын і адну жанчыну. Класічны трохкутнік, які лёгка вырашаўся ў палявых варунках прычыгуначнай лесапасадкі. Трохкутнік ужо нястрымана наталяўся сексуальна-гарэлачнымі ўцехамі, калі на лінію ступіла нага «пралетарыяў» дзясятага «Б». Пралетарыі былі нагружанымі «Кагорам» і «Жыгулёўскім півам», набытымі за грошы, заробленыя на разгрузцы вагонаў.

Школьнікі пілі. Хмялелі і з цікавасцю назіралі за трохкутнікам, хаваючыся за кустамі зазелянелага глогу. Пасля чарговай шклянкі адбылося ўзбуджэн-

не, пасля наступнай — бунт, і рэвалюцыянеры выйшлі з падполля. Убачыўшы рашучыя твары маладых секс-агрэсараў, гаспадары жаночага цела прапанавалі кампраміс. Два «Кагоры» — і цела, якое мірна пахрапвала на ядвабнай траве, перакачавала да «пралетарыяў». Што адбывалася з ім, пакуль на лініі не з'явілася наша «інтэлігенцыя», чытач можа здагадацца сам. Я гэта апісаць не ў стане. Хаця й ведаю падрабязнасці…

Мяккае сонечнае святло ласкала набухлыя пупышкі канадскага клёна і фрывольны ветрык блукаў у віхрастых чубах маладых хлопцаў, што стоўпіліся на ўзлеску лініі. Цэнтральнай фігурай, што кіравала гэтым урокам першых азоў сексалогіі, быў невысокі, каржакаваты падлетак Іван Каробка. Ваня быў жывым увасабленнем таго, як прозвішча калі-нікалі дакладна перадае фізічныя і маральныя якасці яго носьбіта. У жыцці я ведаў маёра Г. Гаўнова. Завяраю вас, будзь у яго іншае прозвішча — яно зусім не пасавала б да яго ўнутранага зместу. Ці мой узводны — старшы сяржант К. Казёл. Ну казёл казлом! Ад яго нават смярдзела казлячынай.

Іван Каробка квадратурай цела і маральнаснай пустэчай сваёй галавы на здзіўленне яскрава нагадваў кардонную абутковую каробку. Але ж, Божа праведны! — як мяняюць людзей абставіны! У тыя вечаровыя хвіліны цюхцяй Каробка сваімі ўпраўнымі дзеяннямі і ўпэўненымі камандамі выглядаў як масціты вараціла секс-індустрыі.

Распіхваючы локцямі натоўп, да распарадчыка наблізіўся Сатаноўскі.

— Во, новых прывёў.

Шоргатлівай паходкай жакея Іван наблізіўся да нашай групы і раптам спытаў:

— Voulez-vous la femme?

«Інтэлектуалы» азірнуліся на мяне. На іх спалоханых фізіяноміях жыў страх дзяцей, якія баяцца праспаць навагоднюю ноч. Ад пачуццяў, якія перапаўнялі мяне, язык мой распух і ператварыўся ў рашпіль, нараджаючы не словы, а нейкія шыпучыя з падсвістам гукі. Нарэшце ў мяне вырвалася адна больш-менш звязная фраза:

— Pourquoi pas. (Чаму б і не.)

— Тады за мной, — усміхнуўся Іван, павярнуўся і дзелавіта панёс мажны квадрат свайго цела да ледзь прыкрытых маладой лістотай кустоў. Побач дагодліва затупаў Сатаноўскі. За імі бязладнай шарэнгай пасунулася «інтэлігенцыя».

— Стоп! — загадаў секс-распарадчык. Мы ў чаканні заціхлі на ўзлеску і, выцягнуўшы шыі, заглядвалі ў ціхую шэрань прыдарожных кустоў. Там ляжала тое, аб чым я так горача марыў, аб чым плакаўся ў начной цішыні глянцаванай паперы. Адтуль насустрач нам мядзведжай паходкай выйшаў злодзей-рэцыдывіст Саша Шпак.

— Гэй, Яшчык! — звярнуўся Шпак да Каробкі. — Вы каго бамбілі?

Азначэнне было даволі трапным, бо за Шпакам, хістаючыся і гудучы падобна бамбардзіроўшчыкам, пікіравалі некалькі падлеткаў.

— Як каго? — здзівіўся Каробка і ўпэўнена дадаў: — Бабу.

— Баба ж таго… Мёртвая. Нябожчыцу вы трахалі, Каробка, — спакойна паведаміў Шпак.

— Ды што ты гоніш! — з дрыжыкамі ў голасе запярэчыў Іван. — Мінут дваццаць таму яе Крывы пірдоліў. Казаў, што яна аж храпла ад кайфу.

— Дурань ты, Яшчык. І Крывы твой такі ж мудзіла. Падыха́ла баба, а вы, лохі, думалі, што кайфуе. Карацей, сушы сухары, Яшчык! Крымінальны кодэкс, артыкул сто пятнаццаць, частка першая.

Пасля гэтых слоў, асабліва пасля ўпамінання Крымінальнага кодэксу, мой хрыбетнік задрыжэў і абсыпаўся ў ахаладзелыя апорна-рухальныя канечнасці.

Заслона ўпала. П’еса была бліскуча завершана. На начной лініі да раніцы застаўся ляжаць халодны жаночы труп.

Што было далей, я помню туманна. Здаецца, было нейкае броўнаўскае гойсанне па мікрараёне ў спадзяванні знайсці хаця б якое выйсце з бяды, што звалілася на мае кволыя плечы. Але што мог прыдумаць падлетак, ахоплены жахам першага сексуальнага пазнання?

Крыху супакойвалі дзве абставіны. Па-першае, я з’явіўся на лініі, калі аб’ект сексуальнага дамагальніцтва ўжо быў зусім халодным да любоўных асалодаў. Па-другое, распачатая крымінальная справа па факце забойства грамадзянкі (я так і не даведаўся яе прозвішча) давала мне шанц не ўдзельнічаць у ненавіснай першамайскай дэманстрацыі.

Наступным днём пад канец першага ўрока ў класны кабінет завалілася міліцэйская брыгада. У яе ар’ергардзе калыхаўся дырэктар школы Іван Філімонавіч Швырок.

Самае дзіўнае было ў тым, што называлі яны менавіта тых, хто ўдзельнічаў у той оргіі. Я не стаў выключэннем. І спакойна пачаў збірацца, калі міліцэйскі начальнік тыцнуў у мой бок агрызкам хімічнага алоўка.

У закрытым газіку было цёмна і задушна. Мы, моўчкі прыціснуўшыся плячом да пляча, сядзелі на яго мулкіх услонах. Наперадзе была невядомасць і непазбежнасць часткі першай артыкула сто пятнаццатага.

А за акном гаспадарыла вясна. «Вясна трывог нашых» праціскалася цёплымі праменямі ў закратаванае акно міліцэйскай машыны. Ёй, гэтай непазбежна пераможнай вясне, было глыбока чхаць і на Крымінальны кодэкс з усімі яго артыкуламі і часткамі, і на нашу будучыню, і на жаночы труп, які перавезлі ўжо ў трупярню…

Хутка, седзячы ў паўзмрочным кабінеце, дзе ў слоіку з-пад марынаваных агуркоў бярозавай галінкай зелянела тая ж вясна, я даваў паказанні занадта цікаўнаму і дапытліваму чалавеку — следчаму Чмырову. Спрабуючы падмануць яго дапытлівасць, я часта карыстаўся выратавальным «Не помню».

— Свабодны, — нарэшце сказаў следчы і праехаўся прэс-пап’е па маім подпісе.

У другой палове наступнага дня адбылося пахаванне памерлай. З-за цюлевай фіранкі свайго акна я з цікаўнасцю глядзеў, як жалобна галасіў натоўп і пралівала слёзы невялікім дажджом сумнае неба вялікага шэрага горада.

Было ў тым нешта сімвалічнае. Спрадвечна рускае. Учорашняя бязмежная самадайка, забубенная шалава, якая раней ці пазней скончыла б сваё жыццё гэткім жа чынам, раптам стала святой. О, гэтая невынішчальная расейская жарсць узводзіць распуснікаў у святыя!

Праз некалькі дзён быў Першамай. Мае спадзяванкі на вызваленне ад дэманстрацыі не спраўдзіліся. Наадварот, усе вінаватыя ішлі ў першых шэрагах, нагружаныя аксамітнымі, колеру запеклай крыві, сцягамі. Івану Каробку, які гучней за ўсіх крычаў «Ура!» на вітальныя заклікі з начальніцкай трыбуны, і мне даручылі несці транспарант, які патрабаваў чыёйсьці свабоды.

— Да здраўствует савецкая маладзёж! — неслася з трыбуны.

— Ураааааааа! — расцягваючы канчатак магутным дыяпазонам свайго голасу, адказваў Іван.

Магчыма, Каробкіна рвенне было прыкмечана. На судовым паседжанні, якое адбылося праз месяц, Івану далі два гады, і тое ўмоўна. Па дзесяць зарабілі двое добрых мужычкоў, што перадалі сваю «каханку» ў рукі маладых сексуальных рэвалюцыянераў. Некага з маіх аднакласнікаў пакаралі вымовамі. Я атрымаў вымову па камсамольскай лініі і добрую лупцоўку ў сваім закутку ад бацькі.

Паступова тая гісторыя забылася.

Праз колькі год мне давялося прысутнічаць на пахаванні, якое адбывалася на непрэстыжных гарадскіх могілках.

— Глядзіце, — паказала маці сваёй сяброўцы запушчаную магілу з нахіленай тумбай. Гарачыня і холад, снегапады і дажджы зрабілі сваю каварную справу, сцершы і надпіс, і фотаздымак той, што была пахаванай пад пабляклай пяціканцовай зоркай. Той, што ледзьве не стала маім першым сексуальным адкрыццём. Той, што пралегла нейкай сімвалічнай лініяй па маім лёсе. Лініяй, што аддзяліла мяне ад самага яркага перыяду майго жыцця — дзяцінства.

*2002*

*Пераклаў з расійскай Міхась Булавацкі*



Савіч Уладзімір нарадзіўся 6 сакавіка 1957 г. у Магілёве. Скончыў педагагічны факультэт Магілёўскага педінстытута. Мае свой «рускі драматычны тэатр», для якога сам піша п'есы, сам ставіць і сам грае галоўныя ролі. Паралельна займаецца літаратурнай творчасцю, пераважна ў малых формах (апавяданні). Сваю творчасць прэзентуе прыдуманым ім тэрмінам prerealism. Жыве ў Манрэалі (Канада).

Уладзімір Савіч

## АЛА ЯЦКОВА



Без цябе ў віры
майго адчаю
Гіне час.
Без цябе каханне
пазычаю
У адказ.
Без цябе самота развітання
і снягі,
Пад ільдом хаваюцца кахання
берагі.



Чаму — не я?
Чаму вісіць праклён
Над тым, што даражэй
за ўсё на свеце?
Чаму не для мяне цяпер
у свеце
Пяшчота слоў
і рук тваіх палон?
У час дажджу
Ужо каторы раз,
Калі зямля заходзіцца
ад плачу,
Я вырашаю цяжкую
задачу
Без спадзявання атрымаць
адказ.



Да радасці —
шчыльныя дзверы
замкнутыя.
Згубіліся недзе ключы —
і пакутую.
Вось толькі маны адкрыццё —
як атрутаю…
Да радасці — шчыльныя дзверы
замкнутыя.



Свой першы яблык Ева выбірае,
Жадаючы каханага спакусіць.
Хай будзе так!
А можа, нас таксама
Вароты раю за сябе запусцяць?..



Халады у паветры носяцца,
Намятаецца лісце зжаўцелае.
Залатыя сумёты восені
Хутка зменяць сумёты белыя…



І узнікае слова на паперы,
Затым — радок.
Як быццам праз адчыненыя дзверы
Дзьме халадок.
І чым бліжэй доўгачаканы бераг,
Тым ўсё часцей
Радкі кладуцца на лісты паперы —
Яшчэ… яшчэ….

## Па дарозе ў Кракаў

Ноч. Уздоўж дарогі
прывідаў далоні…
Здаецца, такое было ўжо калісьці.
Па чорным бязмежжы
спяшаецца поўня,
Чапляецца ў кронах,
хаваецца ў лісці.

У цемру знікае ўсё наваколле,
Як быццам, у бездань…
Шукаючы выйсця,
Па чорным бязмежжы
спяшаецца поўня,
Чапляецца ў кронах,
хаваецца ў лісці.

## Трыялет

Я бачу сон, дзе я і ты,
Счапіўшы рукі,
побач крочым
Праз сонца вэлюм залаты…
Я бачу сон, дзе я і ты…
Што гэты сон нам напрарочыць?
Нам хораша да нематы…
Я бачу сон, дзе я і ты,
Счапіўшы рукі,
побач крочым.



Краніся так пяшчотна,
нечакана —
Я адгукнуся тонкаю
струной.
Мы будзем з асалодай
піць каханне,
Шалёна, прагна —
як на развітанне,
Зрабіўшыся істотаю адной.

І гэта ноч, як цуд,
як дзіва тое,
Не дасць нам ні хвіліны супакою —
Аж цемра захлынецца пачуццём…

А потым прыйдзе смагі
наталенне,
І знікне разам непаразуменне,
Пакінуўшы нам вечнае зліццё.



Асенняя нуда.
Акраец поўні.
І чорная вада.
І чорны човен.

## Па дарозе ў Варшаву

Ноч палахліва дадому збіраецца,
Зноўку імчым па дарозе
ў прыцемках.
Хутка Варшава. Зямля прачынаецца.
Зараз яскравае сонейка выкаціць,
Вымеце цемру гарачымі промнямі.
І ўзляціць над лясамі і гонямі…

Кракаў. Варшава.
Яскравае полымя…
Да Беларусі нясёмся Пагоняю.

## Кракаўскі матыў

Па бруку стагоддзяў
Апошнія крокі.
Хвіліна-другая —
І зменіцца час.
Хаваецца Вавель
У шэрых аблоках,
І зноўку дарога —
Дадому, да нас…



Скажы, ці хочацца згубіць?
Ізноў убачыць і забыць,
Каб потым іншымі вачыма
Зірнуць на тое, што, магчыма,
Магло і ў нас з табою быць?
І не спазніцца дагадзіць
Пачуццям нашага кахання?
Скажы, ці хочацца згубіць?
Скажы, ці хочацца расстання?..



Ала Яцкова

Яцкова Ала Міхайлаўна нарадзілася 7 чэрвеня 1948 г. у г. Жлобіне Гомельскай вобласці. Скончыла Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум імя А. Пушкіна і Магілёўскае вучылішча культуры імя Н. Крупскай. З 1981 г. жыве і працуе ў в. Брылі Магілёўскага раёна. Выдала дзве кнігі паэзіі: «Хочу любовью всё измерить» і «Адчыненыя дзверы».

АЛЕНА КАЗЛОВА

## «Мінск-2»

У аэрапорце «Мінск-2» мы з Верай чакаем самалёт, п'ём каву ў пляме электрычнага святла над нашым столікам. Над сусветам зіма і чорна, людзі глядзяць у цемру праз шкляныя сцены і пазяхаюць. Па той бок іх дыханне крышталізуецца.

Вера засоўвае нос у папяровы кубак. Я кажу, што яна падобная да матылька з хабатком.

А чацвёртай раніцы разам з намі на борт садзяцца Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, жонка і муж, музычны дуэт, папулярны за савецкім часам. Паплаўская і Ціхановіч — гэта маё маленства. Яшчэ ад тых часоў у Беларусі застыла паветра. Калі яго патрэсці, як шкляную цацку з хаткай і елачкамі, узнімецца заўсёдны снег і будзе кружыцца над намі буйнымі белымі шматкамі.

Падчас узлёту я звычайна пачуваюся нядобра — у жываце і галаве робіцца суспензія. Толькі калі вырульваем гарызантальна, галава зноў адасабляецца ад жывата.

Памятаю, як я ляцела ўпершыню. Авіякампанія «Air Baltic» пасадзіла мяне тады на свой самы малы самалёт з птушынай анатоміяй. Такая анатомія ва ўсіх іхных самалётаў, настолькі жывёльная, што няёмка заглядаць ім пад хвост. У Рызе на аэрадроме яны сядзяць радком, павярнуўшыся да пасажыраў дупкамі рознага дыяметру.

Такі самалёт спачатку проста ідзе па лётнай дарожцы, потым набірае хуткасць і бяжыць, нарэшце падціскае лапы да жывата, і мы ляцім. У палёце ён можа пачухаць пузік, і тады нас злёгку трасе.

Мы з Верай пазіраем у ілюмінатар, па чарзе мяняемся, спачатку ў процьму заглядае Вера, потым я. Унізе плывуць трывожныя хмары, паміж якімі — зямля, утыканая агеньчыкамі.

Вера ўключае плэер і слухае музыку праз навушнікі, яна любіць падарожнічаць адна і рада, што я нарэшце заняла сябе аблокамі.

Калі я бачу самалёт у начных хмарах з зямлі, напрыклад ідучы асветленым праспектам каля кавярні «Васількі», мяне часта прабірае боязь. Па скуры бяжыць адчуванне, як у небе халодна, самотна, неспакойна і няўтульна пад шкарлупінай, а ў «Васільках» гарачую салянку падаюць. Але калі ты ўжо ў небе, то не баішся, нібыта ў пакоі сядзіш, асабліва, калі не глядзець у акно.

Праз праход насупраць сядзяць муж і жонка з Расіі. Жонка гартае часопіс на планшэтніку. Яна разглядае карцінкі з гадзіннікамі, упрыгожанымі брыльянтамі. Жонка праўджвае ў мужа, колькі можа каштаваць гадзіннік з такой колькасцю і такой велічынёй брыльянтаў.

— Тыщ двадцаць пять, — адказвае муж і тлумачыць розніцу цэн і памераў брыльянтаў вось у гэтым гадзінніку і ў тых завушніцах, якія яна мае

дома. Па тым, як жыва яны абмяркоўваюць гадзіннікі, брыльянты і цэны, заўважна, што тэма іх напраўду кранае. Мяне брыльянты не цікавяць, але я не снабірую тэмы. Усе тэмы раўнавартасныя: і тэма аблокаў, і тэма цэнаў на брыльянтавыя гадзіннікі ў далярах. Але гэтая пара мне ўсё ж не падабаецца. Калі пры ўзлёце сцюардэса прасіла ўсіх выключыць электронныя прылады, жонка бывалым хамяком шапнула мужу, што нічо выключаць не будзе. Сцюардэсе, якая правярала, ці ўсе выканалі просьбу, давялося пастаяць каля дамы, пакуль тая ўсё ж не выключыла планшэт. Зрэшты, яна зноў уключыла яго адразу ж, як адышла сцюардэса.

Вера кажа, што ёй падабаецца твар сцюардэсы, і прыязна глядзіць на яе. Твар для нашых краёў звычайны. Такі, як у мяне, як у Веры, як у паловы маёй фрэнд-стужкі ў фэйсбуку. Тым, відаць, ён і падабаецца. Прыемна бачыць знаёмае і роднае, калі вісіш на вышыні і невядома, чым усё скончыцца. Але сцюардэсу завуць Цэцылія, так на ёй напісана.

Я засынаю. Прачынаюся ад паху курынага кары — нехта на самоце абедае ў бізнес-класе.

Мы перакусваем скрынькамі, у кожнай — сухаваты сэндвіч з белым хлебам і вяндлінай і абрубак марынаванага агурка. П’ём таматны сок. Вера збірае крошкі і сыпле іх у латок ад сэндвіча. Выціраемся сурвэткамі. Прыбіраем раскладныя столікі.

У салоне даволі халодна, таму Вера накідае на сябе паліто. Потым яна затыкае вушы навушнікамі і ўключае рыдар. Я думаю, што мне рабіць.

Заплюшчваю вочы і сяджу адна, адчуваю на сабе самалёт скурай, у яго мерзне абшыўка, лапы і кончыкі крылаў, так доўга сяджу, што, здаецца, зноў засынаю.

І раптам уздрыгваю ад адчування, што правальваюся некуды, што нехта мяне штурхануў. Так бывае ў паўсне.

Расплюшчваю вочы — мы ўсё яшчэ ціха ляцім, але за акном буйнымі белымі шматкамі закружыўся снег. Вера варушыцца. Я гляджу на яе паліто ў фіялетавую клетку і бачу, як Верына галава паволі ўбіраецца ў каўнер, але Вера не заўважае гэтага, яна працягвае чытаць кнігу. Яе рукі таксама ўцягваюцца ў рукавы, пальцы больш не могуць трымаць рыдар, і ён падае на падлогу. Вера ўжо ўся знікла ў паліто. Яно яшчэ трохі варушыць клеткамі, вуркоча і паказвае аб’ём, але потым аціхае і ляжыць на крэсле проста вопраткай, якую нехта пакінуў. Яго гузікі не глядзяць на мяне, а дачыняюцца са столлю.

Я ўздыхаю, адварочваюся і гляджу ў ілюмінатар. Мы ўжо зніжаемся і хутка будзем дома, ува мне зноў суспензія ад несумяшчальных часціц. Дастаю фотаапарат і раблю некалькі добрых кадраў. Мая прага здымаць мацнейшая за жывот і галаву разам узятыя.

Кідаю погляд на суседняе крэсла, Верына паліто адпачывае ўжо лагоднае. Думаю, яно асатанела ад залішняй увагі. Зашмат яго апраналі і здымалі, зашпільвалі і расшпільвалі, а кожная адзежына знае свой апошні раз.

Выпусцілі шасі, хутка колы ўжо точацца аб лётную дарожку. Я агледаюся. У салоне больш нікога няма. Толькі я. Там, дзе сядзелі расіяне, засталася

чорная скураная куртка ад расіяніна. Падобна, што Верына паліто здэтанавала. Выцягваю сваё паліто з самалётных антрэсоляў. Маё паліто чорнае з клеткамі ніжэй таліі, у яго вінаваты выгляд, але я ні за што не крыўдую на яго. Не люблю крыўдаваць — усё мінае, і ўсё заўжды выходзіць, як вядзе лёс. Нават калі нехта бывае вінаваты, з цягам часу гэта не важна. Я запускаю рукі ў рукавы, зашпільваюся, накручваю на сябе шалік, перакідаю праз локаць Верына паліто, на плячо чапляю сваю дарожную торбу і іду па праходзе да выхаду. На крэслах ляжыць яшчэ пару куртак, тры палітоны і адно рудзенькае лісінае футра ад спявачкі Паплаўскай — бывай, Ядвіга, бывай, маё маленства. Няшмат засталося ад пасажыраў. У Мінск мала хто лётае.

Сцюардэсаў няма — каля выхаду на падлозе ляжыць сіні касцюм і пілотка. Можа быць, гэта Цэцылія. Мне даводзіцца самой адчыняць дзверы. У гэтым самалёце «Белавія» яны замыкаюцца на цяжкую старую засаўку з глыбокімі драпінамі. Засаўку я ссоўваю дзвюма рукамі.

Выходжу з абалонкі і цісну да грудзей чужое паліто. Перада мною — хатка аэрапорта, паабапал — елачкі, па-над усім кружацца буйныя белыя шматкі штучнага снегу.

Вера, дзе цяпер твой хабаток?

*Паўгадовая зіма, 2013*



Алена Казлова

Казлова Алена Уладзіміраўна (Анка Упала, Anka Upala) нарадзілася 14 сакавіка 1981 г. у Магілёве. Скончыла факультэт замежных моў Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, вучылася на літаратурна-філасофскім факультэце Беларускага калегіума. Апавяданні, вершы і пераклады публікаваліся ў зборніку «Святая праўда ды іншыя казкі» (2009), беларускім перыядычным друку, шведскай анталогіі перакладаў сучаснай беларускай літаратуры «Беларусь — літаратурнае падарожжа» (Стакгольм, 2011). Аўтар кнігі «Дрэва энталіпт» (2012).

## ВІКТАР КАЧАН

### Чорная быль

Хлопчык кахае дзяўчынку,
Дзяўчынка ў чаканні вясны;
Хлопчык жадае абдымкаў,
Ды разам не будуць яны.

Дзяўчынка моцна хварэе,
Не шмат засталося ёй дзён…
І белая кружыць завея —
Нейкі чароўны сон.

Зімою даўгія ночы,
Наколькі ж даўжэй зіма?!
Хлопчык, блакітныя вочы,
Не стой ля яе вакна!

Хлопчык кахае дзяўчынку,
Дзяўчынка чакала вясну...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ляцелі пясок і сняжынкі
І падалі ўніз, на труну…



Качан Віктар Міхайлавіч нарадзіўся 12 кастрычніка 1967 г. у в. Вішнёўка Бабруйскага раёна. Вучыўся ў Бабруйску — у школе, у тэхнікуме. Працаваў на ААТ «Беларускі шынны камбінат». Адначасова супрацоўнічаў з бабруйскай незалежнай прэсай. Працуе карэспандэнтам «Бабруйскага кур'ера». Як паэт і празаік публікаваўся ў мясцовых бюлетэнях і газетах.

Віктар Качан

## ТАМАРА АЎСЯННІКАВА





Немаўляткамі нараджаемся,
А пясчынкамі рассыпаемся.

Углядаемся ў неба зорнае,
Летуценныя, непакорныя.

Мы сняжынкамі сустракаемся,
А дажджынкамі расцякаемся.

Сэрцы нашыя незласлівыя,
Душы чулыя і ранімыя.

Мкнемся думкамі да высокага,
Па жыцці ідзём адзінокімі.



Была спякота
І адзінота —
Вокны адкрыла.

Была сустрэча,
Халодны вечар —
Расправіла крылы.

Была спакуса,
Радасць чакання,
Ўзлёт і падзенне.

Была надзея,
Расчараванне,
Боль і здзіўленне.

Было маўчанне.
Крыўда была.
Адзінота.

Вокны адчынены,
Дыхаць няма чым —
Спякота!



У тлуме дня жадаю адзіноты,
У адзіноце трызню тлумам дня,
У цішыні я чую сэрца ноты,
У шуме глохне музыка мая.

Жыццё бяжыць галопам і алюрам,
А лёсам правіць доля непазбежнасці,
І стрэлы, што адпушчаны амурам,
Не мне. Святкую дзень свой незалежнасці.



Пакуль што рукі звязаны,
А можа быць, развяжуцца
Пад позіркам якім.
Тады рукамі чулымі,
Як птах крыламі белымі,
Кагосьці абаўю.
І позіркам, як вэлюмам,
Стан гнуткі мой укрыецца,
І вуснамі дрыготкімі
Кахання чашу поўную
Я вып'ю ўсю да дна.



Добры дзень, дарагі…
Добры дзень, дарагая…
Мы яшчэ не былі
Блізка так каля краю.

Я любіла Вас светла,
Так высока любіла!
Ваша імя святое
Дадавала мне сілы.

Пры спатканні аднойчы,
Апавіты спакусай,
Цалавалі Вы тройчы.
Нечакана — у вусны.

Пацалунак гарачы —
Ён, магчыма, штось значыць…



З пажоўклага фотаздымка
глядзяць на мяне
яшчэ маладыя,
але без часу пастарэлыя
бацька і маці,
ва ўдумлівых паглядах якіх
столькі перажытага,
што хапіла б
на некалькі жыццяў.



Ад зімы да лецейка
Цягнуцца дзянёчкі,
Ўспамінае маміны
Словы доня-донечка.

Ах, як грэе маміна
Прыгаворка гэтая:
— Перазімавалі зімачку,
Можа, й пералетуем.

Ападае лісцейка —
З мамай не сумуем:
Лета пералеталі,
Мо й перазімуем.

Мамачка, матулечка,
Як бы сёння чулася,
Да цябе, гаротніцы,
Сэрцам прыгарнулася!

А вясной з салоўкаю —
Прыгаворка гэтая:
— Перазімавалі зімачку,
Можа, й пералетуем.



А хто ж мне парадачку дасць?
— Татачка родненькі.
А хто ж мяне пашкадуе?
— Матуля любая.
А хто ж мяне прыгалубіць?
— Каханы-суджаны.
А хто ж са мной пагаворыць?
— Сястрыца мамчына.
А хто ж мяне, хто прыплача?
— Сястрыца таткава.
Да каго ж я прыхілюся?
— Да брата кроўнага.
Пагукала, пагукала…
Ніхто не азваўся.

## Замова

Сілы Нябесныя і Зямныя!
Дапамажыце маёй сястрыцы,
Стромкай галінцы!
Не дайце ветру-віхуры яе зламаці,
Ліхой сіле знішчыць.
Няхай дождждык яе абмывае,
Лагодны ветрык лашчыць,
Добрае слоўца лечыць,
Бяду-гора адводзіць,
Ад нячыстай сілы ратуе.
Яна не зломак, не калека,
А Божае стварэнне.
Сыдзі, нячыстая сіла,
На гнілое балота, на сухі лес.
Ты там. А мы тут.
Цьфу, цьфу, цьфу!



Час спыніўся.
Не дрогне лісточак ніводзін...
І галінку не кратае вецер.
У квяцістым сваім карагодзе
Лес застыў урачыста. Вечар.

Час спыніўся.
Спакойна ў душы, наваколлі.
Сэрца светлаю поўніцца радасцю.
Адцвітае прырода паволі:
Без жарствы,
без трывог
і без зайздрасці.



Падземнае кручу верацяно.
І набягаюць думкі хвалямі…
І вось сяджу і гавару з Басё
Пра хайку, ды чамусьці ямбамі.

Ван Гог вар'ятам на мяне глядзіць,
Заносіць нож над вухам,
Сваім, канешне, не маім,
А я Басё ўсё слухаю і слухаю.

І раптам промнем
кропка Мандэльштама
У небе засвяцілася!
І мексіканкі Фрыды драма
Сюр-
рэалістычнымі палотнамі
раскрылася.

Ўзнікае жоўты дом перада мной
І поле, што з варонамі,
І скрыпка плача за сцяной,
А я схіляю голаў прад іконамі.



Прабач, прабач, Зямля-матуля!
Прабач грахоўнае маё жаданне.
Я не цураюся твайго святога ўлоння,
Але…
        мой прах няхай агонь ачысціць.

Бліжэй да бацькі-Неба быць хачу,
Да срэбных зор і месяца Яго.
Адтуль змагу я сузіраць
Ўсю прыгажосць тваю зямную.

Прабач, прабач, Зямля-матуля!
Прабач, душа прастору просіць.



Я прашу у Бога,
я прашу у неба
аднаго.
Каб далі не хлеба,
а далі мне слова
для таго:
выказаць не думкі—
ўсе яны чужыя, —
сэрца трапяткое
выказаць сваё.



# Драматургія

## ВІТАЛЬ ЕЎМЯНЬКОЎ

### Бязбацькавічы

*П'еса ў дзвюх дзеях*

**Дзейныя асобы:**

Л я в о н  З я б л і к — беларускі селянін.
Б р о н я  і  З о с ь к а — здані, былыя жонкі Лявона.
С ы м о н — старэйшы сын Лявона, журналіст.
Д а н і л к а — малодшы сын Лявона, чыноўнік у Міністэрстве культуры.
Л ю б к а — жонка Сымона.
А й ц е ц  П а в е л — святар.
У ч а с т к о в ы  м і л і ц ы я н е р.
В а ў н я н ы  К а с ц ю м, П я с ц о в а е  Ф у т р а — анёлы.
А н ж э л а  К а р п а ў н а — сакратарка, ламія.
Н е з н а ё м ы.
М у ж ы к.
Л ю д з і.

**ДЗЕЯ 1**

**З'ява 1. Бацька**

Вясковая хата. У невялікім пакоі — стол, накрыты чырвоным абрусам. За сталом — мужчына сталага веку. Моўчкі ўглядаецца ў жаночыя партрэты, прымацаваныя да сцяны. На партрэтах — памерлыя жонкі. На акне — талерка. На ёй — лыжка кашы, кавалак амлету і два кілішкі. Гарыць znічка. Позна.

Л я в о н. Прабачце, не пайшоў на могілкі. Заўтра прыйду. Бліны спёк, кашу зварыў, яйкі пафарбаваў. А дзень сёння такі… Сэрца баліць, злое прадчувае. З раніцы карова спудзілася, абярнула даёнку. Кажу ёй: «Чаго ты ўсхадзілася?» А яна нібы ашалела. Сабака захварэў. (*Памаўчаў, устае, адчыняе нізенькі сервант. Дастае пляшку. Налівае. Выпіўшы, занюхвае кулаком, садзіцца за стол.*) Што ў вас чуваць? Ці хутка Бог мяне прыбярэ? (*Углядаецца ў партрэт маладой жанчыны з прыгожымі блакітнымі вачамі і кароткімі завітымі валасамі.*

*Усміхаецца.*) Прывітанне, Броня. Кажу: прывітанне, жонка! Маўчыш? Не дзіва, бо пры жыцці была надта зацятая. Западэнка, палячка… Толькі што ні па ёй: «Ідзь до лясу, хаме!» Я тады хлопцам хадзіў. Думаю, падкачуся… А што? Кавалер зайздросны — дырэктар саўгаса. Што ні рабіў! У дзень яе народзінаў устаў, памятаю, а чацвёртай гадзіне, з'ездзіў у Магілёў, набыў дваццаць тры ружы. Аддаю. А яна спакойна і кажа: «Чалавек (чалавекам мяне называла), я рамонкі люблю». Халера! Рамонкі! І не сорамна было? (*Звяртаецца да партрэта.*) Га, Броня? Маўчыш?! (*Налівае гарэлку, адным махам перакульвае. Пасля паўзы.*) Узяў яе ў ахапак, вывез у луг, нарваў цэлы венік праклятых рамонкаў, аддаю, а сам думаю: «Будзе незадаволеная — прыганю касілку, спляжу луг і на трактары ўсе рамонкі, якія ёсць, пад акно ёй прывязу». Дзякуй Богу, не давялося! Кветкі ўзяла і мяне нават пацалавала. Эх! (*Зноў — да партрэта.*) Усё ж любіла мяне, Броня, га? Ці не?

Б р о н я. Любіла, Лявон…

Л я в о н (*цягнецца левай рукой да пляшкі, але на паўдарозе спыняецца*). І раўнавала, канешне?

Б р о н я. Было.

Лявон задаволена пляскае ў ладкі.

Л я в о н. Ці ж мог ведаць, што так будзе? Што чорт карты паблытае? (*Глядзіць на партрэт другой жонкі — таксама блакітнавокай, але з даўгімі, прамымі валасамі.*) Зося?!

З о с я. Я тут, любы.

Л я в о н. Дзе? Зосечка! Ды што я пытаюся? Канешне, ты — на небе! Слухай, а як там?

З о с я. Добра.

Л я в о н. А ці ёсць там мужыкі нашы — Юрка, для прыкладу, Ілля, Пятрок?

З о с я. Так, усе — побач са мной.

Л я в о н. Юрка баб любіў — ні адной спадніцы не мінаў. Парваўся. Ілля свіран саўгасны спаліў, падла. Сядзеў. Пятрок піў — дзіва, як не захлынуўся. А ці добрае ў вас надвор'е?

З о с я. Добрае, толькі бульба не родзіць.

Л я в о н. І ў нас не родзіць! У мінулым годзе жукі ўсю з'елі… Зося, ты прабач мне, калі ласка… Сам не ведаў, што рабіў! І ты Бронечка, прабач.

Па сухіх, перакрыжаваных зморшчынамі шчоках Лявона цякуць слёзы. Махнуўшы рукой, мужчына налівае яшчэ адзін кілішак — поўны.

У горадзе згвалціў Зосю нейкі п'янчуга. Яна — да бацькі, а бацька на парог не пусціў. Маўляў, у падоле байструка прынясеш. Ведаў я, канешне, пра гэта. У вёсцы не схаваешся. Але не зважаў — не мая справа. Звечара неяк еду на ток, думаю пагляджу, як жыта вартуюць. Фарамі «бліс» з-за павароту — ажно пад дрэвам дзеўка сядзіць. Каленкі абшчапіла, хістаецца. Я да яе… Хто? Чаму? Карацей… Узяў з той дарогі. Пасяліў Зосю ў саўгасны дамок. Прыязджаў, прывозіў ежу, і так неяк застаўся аднойчы…

Б р о н я. А навошта мяне каламуціў? Жаніўся б са сваёй Зосяй і жыў як чалавек!

Л я в о н. Зося змянілася. Я падыду, а яна вочы апусціць — плача. Колькі разоў прыязджаў, сумкі на парозе пакіну — і назад. А потым…

З о с я (*жалобна*). Напалохалася я. Уцячы хацела — куды заўгодна, толькі б падалей. Засынала, думала раніцай ехаць, а ўночы цябе сніла… Увесь дзень у акно глядзела — «Волгу» тваю чакала. А ты перастаў прыязджаць, Лявон!

Л я в о н. У аблвыканкам выклікалі… Пачалі пясочыць. Маўляў, скажаю вобраз камуніста. Сядзеў і думаў: «Якая вам справа да мяне? У саміх жа — па дзесяць каханак». А старшыня і гаворыць: «Лявон, ты мяне ведаеш, а я — цябе. Яшчэ раз да яе завітаеш, партбілет на стол — і гной кідаць». Я і спалохаўся. (*З прыкрасцю.*) «Узяўся за розум». Думаў, слабасць.

Б р о н я. Мяне сустрэў. Рамонкі. Вяселле. Недзе ў траўні мы з Зосяй і пазнаёміліся. Я печ паліла. Гляджу: мой Лявон у пуні схаваўся. Сама сабе думаю: чаго пайшоў? Выйшла — і за ім услед. Зайшла — вісіць. Я за ногі яго — ну, паднімаць. Крычу: «Лявон, што ты нарабіў?» А ён хрыпець пачаў. Дзякуй Богу, Юрка, сусед, дапамог. Знялі, Верка прыбегла, фельчарка, дала нашатыру. Ачуняў, пачаў варушыцца. Я зноў да яго: «Што ты, чалавек, надумаў?» Маўчыць. Дзён дзесяць слова нельга было дачакацца, а потым усё і распавёў…

З о с я. А я даведалася — і з усіх ног бегчы. У хату ўляцела — ажно ты, Броня, плачаш.

Б р о н я. І так раўлі мы, быццам дзве сястры…

З о с я. І жылі, як дзве сястры. Толькі сышлі рана… Сыноў «прыпуціць» не паспелі.

А б е д з в е (*уголас*). Лявон, ратуй сыноў.

З о с я. Майго Данілку!

Б р о н я. Майго Сымонку!

Л я в о н. Сыноў…

**З'ява 2. Сымон**

Кавярня на другім паверсе мінскага чыгуначнага вакзала. За пластыкавым сталом — С ы м о н і Д а н і л к а. Данілка не выпускае з рук шэрую валізу. Вакол — людзі. Раз-пораз аб'яўляюць пасадку на цягнікі.

Д а н і л к а. Вось ты, брат, — беларус, а набыў бігмак з бульбай фры, замест таго, каб есці дранікі. Не патрыятычна…

С ы м о н. Нічога не маю супраць дранікаў, але зараз я хачу бігмак! Дарэчы ты, брат, — таксама жарэш бігмак. І таксама без асаблівага патрыятызму.

Д а н і л к а. Але мой бігмак — ніхалеры не значыць, а твой — значыць.

Сымон здзіўлена ўскідвае вочы.

Мой — гэта проста 250 грамаў гаўна з папрыкай. А твой — 250 грамаў крывадушша. Праўда, без папрыкі, але затое з кетчупам.

Сымон моўчкі назірае за тым, як з бульбы фры на белую пластыкавую талерку капае кетчуп.

(*Адкусвае і праз паўзу тлумачыць.*) Мне па барабане ў істоце — бігмак ці дранік: абы смачна! Але ж ты — нацыяналіст! Значыць, мусіш есці нацыянальнае, піць нацыянальнае, глядзець нацыянальнае. Нават каханнем павінен займацца неяк па-нацыянальнаму. Напрыклад, у бульбе. Ха-ха!

С ы м о н. Па тваёй логіцы, калі чалавек, які знаходзіцца на дзяржаўнай пасадзе, у прыбіральні захоча выкарыстаць кавалак «Нашай нівы», абавязкова здрадзіць дзяржаўным інтарэсам?

Д а н і л к а. Канешне, бо нават у прыбіральні дзяржаўныя людзі мусяць карыстацца дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі. Але, пагадзіся, адна справа пераблытаць газеты, і зусім іншая — свядома хлусіць…

С ы м о н. Патлумач…

Данілка аглядаецца навокал і спыняе позірк на мужчыне з вялізным жыватом. Мужчына п’е піва і есць смажанку. На барадзе і вуснах у яго — тлушч.

Д а н і л к а (*пасля хвіліннай паўзы*). Бачыш гэтага дзядзьку?

С ы м о н. Я не сляпы…

Д а н і л к а. Я не кажу, што ты сляпы. Я пытаюся, каго менавіта ты бачыш.

С ы м о н (*крадком стрэліць вокам на чалавека*). Мужык. Напэўна, з Клічава ці Хоцімска. Праглынае беларускі бігфуд, запівае беларускім півам. Хутчэй за ўсё, праз тры гадзіны будзе глядзець беларускія навіны, а ўночы ўзлезе на беларускую бабу. З раніцы будзе ўсім задаволены! Яго дэвіз: «ніякіх змяненняў!».

Д а н і л к а. Ты кажаш пра жывёлу.

С ы м о н. Я кажу пра гістарычны баласт, які перашкаджае рухацца далей тысячам нармальных людзей.

Д а н і л к а. Значыць, ты не супраць, каб такіх дзядзек не было?

С ы м о н. Я — не супраць!

Данілка ад задавальнення б’е па стале кулакамі. Прытарна сексуальная, з радыкальным макіяжам бармэнша занепакоена глядзіць у яго бок.

Д а н і л к а. Табе патрэбная Беларусь без беларусаў! Ты не любіш суайчыннікаў, Сымонка! Цябе ванітуе нават ад іх выгляду.

С ы м о н. Мяне ванітуе ад іх рабскай пакоры.

Д а н і л к а. Я б назваў гэта памяркоўнасцю і сялянскай мудрасцю.

С ы м о н. Калі зладзеі лезуць у хату, трэба не мудрасцю карыстацца, а сякерай.

Д а н і л к а. А калі яны лезуць у хату да суседа?

С ы м о н. Гэта не мае значэння.

Браты адкаркавалі кока-колу, выпілі. Як па загадзе, адкусілі кожны ад свайго бігмака. З’яўленне дзядзькі са смажанкай заўважылі толькі тады, калі ён, шырока ўсміхаючыся, расцёкся па суседнім крэсле.

Н е з н а ё м ы. Прабачце, што без запрашэння.

С ы м о н  і  Д а н і л к а. Нічога!

Н е з н а ё м ы (*да Сымона*). Хацеў выказаць захапленне глыбінёй і трапнасцю вашага выказвання адносна сякеры.

С ы м о н (*крыху збянтэжана*). Дзякуй!

Н е з н а ё м ы. Але ўсё ж вы не маеце рацыі! На жаль, восем з дзесяці беларусаў ніколі не возьмуцца за сякеру, каб дапамагчы суседу.

С ы м о н. Гэта няпраўда!

Н е з н а ё м ы. І я б хацеў, каб гэта было няпраўдай, але што зробіш — такі народ.

Д а н і л к а. Вось! Разумныя словы.

Н е з н а ё м ы (*да Данілкі, залішне пафасна*). План вашага брата адносна будучыні Беларусі — чыстай вады авантура.

Данілка і Сымон з усё большым здзіўленнем глядзяць на Незнаёмага.

С ы м о н. Які яшчэ план?

Н е з н а ё м ы. План забойства васьмі з дзесяці беларусаў.

С ы м о н. ???

Н е з н а ё м ы (*дастае з кішэні тры кілішкі і пляшку «Тутэйшай», разлівае*). Вашыя бігфуды з кока-колай — атрута. Прапаную за сустрэчу. Не супраць?

Браты вагаюцца, але п'юць. Таўстун дастае цыгарэту, паліць. Тое ж робіць Сымон. Ён ужо нешта пачынае разумець. Сядзіць, сцяўшы зубы.

Уф-х! Добрая тут гарэлачка… (*Закусвае.*) Беларусы — людзі двух вымярэнняў: хата і дзяржава. Праблема ў тым, што хата ім куды даражэйшая. Дзяржава — гэта бясконцыя суседзі. А беларус не любіць суседзяў. Таму калі ў дзяржаву ўрываецца злодзей, ён не хапаецца за сякеру. Ён проста зачыняе дзверы і моўчкі трывае. А вось калі ўжо злодзей завітае ў яго хату…

С ы м о н. Не ўсе такія!

Н е з н а ё м ы. Канешне, не ўсе! Ёсць і Каліноўскія. Але іх мала. Два з дзесяці. Гэта ім трэба Свабода, Незалежнасць, Дэмакратыя, Мова, Гісторыя, а астанім — проста патрэбны хлеб.

Д а н і л к а (*з усмешкай*). І відовішчы…

Н е з н а ё м ы (*бярэ ў рукі кілішак*). Ну што, зямелі, — па другой?!

Выпіваюць, закусваюць.

Свабодная і незалежная Беларусь, якую ты, Сымон, жадаеш будаваць, — гэта Беларусь каліноўскіх, краіна, хаты якой не маюць дзвярэй. Такія хаты нельга зачыніць, каб схавацца ў іх і перачакаць навальніцу. Але на Белай Русі няма такіх хат! І не было! Астатняе — хлусня! Хіба пазрываць дзверы з пяцель? Як рабіў Ён у 1862 годзе, грукаючы ў кожны дамок. Толькі Яму не адчынілі! І тады Ён зразумеў галоўнае: той, хто не адчыняе, — вораг, варты шыбеніцы. Бо толькі шыбеніцы, на якіх будуць боўтацца абыякавыя ашмёткі электарату, здольны падперці Горад Нябесны — Свабодную і Незалежную Беларусь. Жыць у ёй пачнуць толькі вартыя людзі, тыя хто не зачыняе дзверы і каму не ўсё роўна, што адбываецца навокал. Два з дзесяці!

С ы м о н. Вы — з Камітэта бяспекі?

Н е з н а ё м ы (*рагоча*). Я? Што вы?! Я з другога балота. Але гэта не істотна. Казаў Яму: не шкадуй шыбеніц, але Ён не паслухаў, хоць быў страшна расчараваны ў сваім народзе. Крычаў яму: «Ідыёт! Уцякай, тут нікому ўжо не дапамагчы! Хіба толькі ўзысці за людзей на шыбеніцу, каб выкупіць іх грэх смерцю, вартай Хрыста».

Д а н і л к а. Хто — ён? Каму ты казаў?

Н е з н а ё м ы. Каліноўскаму.

Д а н і л к а (*таксама здагадаўся*). Зразумела! І што Каліноўскі?

Н е з н а ё м ы. А-а-а! Не паслухаўся. Не захацеў будаваць Беларусь на крыві. Павесілі яго, як сабаку, а мог бы плюнуць на ўсё і з'ехаць у Паўднёвую Амерыку. Палякі выдалі яму пашпарт. Ідыёт! Не тое, што ты, Сымонка…

С ы м о н. Што? Ты пра што кажаш, дзядзька?

Н е з н а ё м ы. Я кажу пра карту паляка ў тваёй кішэні і пра месца на Белсаце, якое табе абяцалі. Правільна робіш — валі з гэтага пекла!

Д а н і л к а. Ні халеры сабе! Сымон, няўжо праўда?

С ы м о н. Я не буду гэта зараз абмяркоўваць!

Д а н і л к а. Ну, ты і гад! І хто, скажы, бацьку пахавае?!

С ы м о н. Хіба, не ты?

Д а н і л к а. Я — не магу!

Н е з н а ё м ы. Ён не можа, Сымон… Ён атрымаў месца ў «Газпраме». Але трэба ўжо і па трэцяму разу. (*Разлівае па паўнюткаму кілішку.*)

Браты п'юць.

Нешта мы не чокаемся. Быццам на хаўтурах сядзім.

Мінае хвіліна. Браты страчваюць прытомнасць. Незнаёмы задаволена ўсміхаецца. Чуецца жаночы, металічны голас: «Фірменны цягнік "Мінск–Магілёў" будзе адпраўляцца з пятага пуці трэцяй платформы. Час адпраўлення 10:00».

**З'ява 3. Данілка**

За дзень да апісаных падзей. Кабінет намесніка Міністра культуры. Вялізнае скуранае крэсла. У ім — расхрыстаны, надзвычай узбуджаны Д а н і л к а. Крыху збоку — прыгожая жанчына. Нервуецца. На стале — бязладдзе, раз-пораз лямантуюць тэлефоны. Адзін з іх пасля кароткіх ваганняў Данілка бярэ ў руку. Робіць намаганні, каб супакоіцца.

Д а н і л к а (*роўным голасам*)**.** Слухаю. Сымон, ты? У нас тут такая дупа — не да цябе, брат. Якое інтэрв'ю? Не лезь у хамут, дурань. Кінь гэту тэму. Чуеш? Я табе кажу. Хто? Любка — так, побач. Прывітанне? Перадам. Усё. Пакуль.

Л ю б к а. Сымон?

Д а н і л к а. Так.

Л ю б к а. Табе не шкада яго?

Д а н і л к а (*са злосцю*). Шкада? На Бога! Толькі не трэба зараз гэтых дурных бабскіх размоў. Усё — выбар зроблены! Ты сама яго зрабіла!

Любка пачынае плакаць.

(*Кідае тэлефонную трубку, ідзе да Любкі, супакойвае.*) Ты сама ведаеш! Сама разумееш — з ім не будзе ў цябе будучыні. Зараз — ён на волі. Заўтра, а можа і сёння ўжо, будзе сядзець. І так бясконца! Як у замкнёным коле. Ты — не жонка касінера. Ты — не збіраешся пайсці за ім у чарговы тур па калоніях. Ён сам так захацеў. Яго воля! А ты — яшчэ маладая. Ты можаш нарадзіць дзяцей. Нашых дзяцей, Любка! Мы пабудуем дом, нібы адмысловую скрыпачку, якая будзе граць толькі вясёлыя песні. Што нам да людзей? Што нам да краіны? Няма нічога, Любка. Толькі мы з табой ёсць! Чуеш?!

Нечакана ў кабінет урываецца с а к р а т а р к а, высокая бландзінка, вочы якой гараць, нібы два ліхтары.

С а к р а т а р к а. Данііл Лявонавіч, пад вокнамі нейкія людзі — сотні з дзве, а мо і болей. Яны крычаць, што ўсе мы запраданцы і халуі, патрабуюць вас. Калі не дасце згоду з імі размаўляць, пагражаюць уварвацца ў будынак. Дарэчы, усё гэта ў прамым эфіры перадае «30 канал».

Д а н і л к а (*уключае тэлевізар*). Дзякуй. Анжэла, тэлефануйце ў міліцыю, няхай дашлюць АМАП. Гарлапанаў гэтых тут быць не павінна.

З тэлевізара даносіцца голас вуліцы. Вялікі натоўп нешта скандуе — што канкрэтна, не разабраць. На транспарантах, якія трымаюць у руках пратэстуючыя, напісана: «Без гісторыі — няма будучыні!», «Касцёл павінен быць захаваны!». Аператар дае буйны план рэпарцёра. Гэта С ы м о н. Моцна хвалюецца, імкнецца перакрычаць натоўп.

С ы м о н. Прынята рашэнне аб перадачы будынка касцёла XIV стагоддзя расійскаму «Газпраму». Усходні манапаліст плануе пабудаваць на яго месцы буйны лагістычны цэнтр. Сума кантракту не агалошваецца. Невядомыя і ўмовы перадачы храма. Упэўнена можна казаць толькі пра тое, што інтарэсы «Газпрама» пралабіравалі ў Міністэрстве культуры. Хутчэй за ўсё, спрацавала карупцыйная схема, супраць якой выступілі студэнты і выкладчыкі мясцовага ўніверсітэта. Як можна бачыць (*гучыць закадравы голас Сымона; аператар пераводзіць камеру на натоўп*), гэта мірная акцыя, мэта якой — захаваць гісторыка-культурную спадчыну Беларусі. Дэманстранты патрабуюць адмены рашэння, а таксама прыцягнення вінаватых чыноўнікаў да адказнасці.

Д а н і л к а (*выключае тэлевізар, з абурэннем*). Ідыёт! 36 год, а розуму — ні на шэлег.

Л ю б к а (*у роспачы*). Што цяпер будзе?

Д а н і л к а. Што? Ды нічога! Дадуць ім па азадках, і ўсё на гэтым завершыцца.

Л ю б к а. Я пра касцёл пытаюся. У ім бралася шлюбам мая маці, яе маці — таксама, і так далей — усё ў нашым родзе звязана з тым княжацкім касцёлам.

Д а н і л к а. Ты даўно бачыла касцёл? Там засталіся голыя муры. Нават даха няма. Няма алтара. І што нам да гэтага касцёла? Мы пойдзем да шлюбу ў іншым — іх жа безліч у свеце. Тысячы, калі не мільёны касцёлаў. Захочаш, паедзем у Ватыкан — там станем перад Богам.

Л ю б к а. Я ўжо станавілася з ім!

Д а н і л к а. З Сымонкам? (*Крычыць, нібы звар'яцелы.*) Ён кінуў цябе! Выракся! Разумееш? Змяняў на трыццаць срэбранікаў, якія даюць яго працадаўцы. Ты — не патрэбная. Мы яму не патрэбныя! Ён прагне славы пакутніка. Ён хоча застацца ў падручніках. Ён — здраднік! Бо здрадзіў самаму святому — сям'і, дому, будучым дзецям…

Л ю б к а. Ён сапраўды ідыёт, але не здраднік!

У кішэні Данілкі раздаецца мелодыя «Бацькоўскі дом». Мужчына, набраўшы паветра, каб нешта сказаць, гучна выдыхае і дастае тэлефон.

Д а н і л к а. Слухаю! Хто? Бацька, ты? Прывітанне! Што? Як паміраеш? Калі? Ну, ведаеш… Знайшоў час. Я не магу прыехаць да цябе. У мяне справы. Так, Сымона пастараюся даслаць. Я нікуды не ўліп, бацька! Проста працую. Што? Прывітанне Любцы? Перадам. Давай. Трымайся!

Л ю б к а. Што з бацькам?

Д а н і л к а. Кажа, памірае.

Л ю б к а. Езус! Як, памірае?

Д а н і л к а. Так! Кажа, труну ўжо паставіў, святара запрасіў, гарэлку на хаўтуры набыў. Прыязджайце, кажа, заўтра, згадайце Лявона добрым словам! (*У прастрацыі.*) Вар'яцкі дом!

Зноў галосіць мабілка. Гаспадар аўтаматычна адказвае.

Хто? Журналісты? Ідзіце нахер, журналісты! Адкуль? (*Нечакана робіць «Смірна».*) Выбачайце! Не пазнаў. Канешне, гатоў даць каментар. Перадачу касцёла ўзгаднілі на самым версе. Так, ёсць папера з Акадэміі навук. Гісторыкі засведчылі: рэстаўраваць яго нельга. Што зробіш!? Канешне, шкада! Але замест спарахнелых муроў Беларусь атрымае прамыя інвестыцыі. Больш за мільярд даляраў! А гэта — працоўныя месцы, заробкі, развіццё цэлага рэгіёна. Так, усе дамовы падпісаныя. Узвядзенне лагістычнага цэнтра пачнецца ў наступным месяцы. Хто? Вы маеце на ўвазе гэтых гарлапанаў? Скажу адно! Выступаць у дадзеным выпадку супраць «Газпрама» — значыць, выступаць супраць беларускага народа, яго дабрабыту, стабільных заробкаў, сытых, задаволеных сем'яў. Дзякуй. Усяго добрага!

Мінае хвіліна. Нечакана галас за акном спыняецца. У кабінеце ўсталёўваецца цішыня. Любка сядзіць на крэсле, хістаецца, глядзіць у адну кропку. Данілка стаіць тварам да сцяны.

Л ю б к а. Я сон бачыла: быццам іду я па дарозе, бясконцым пыльным шляху, сярод мільёнаў людзей. Побач — ты, таксама — Сымонка, бацька твой, мой, усе нашы знаёмыя, сябры, родныя. І кожны хоча піць. Прагне хоць кропельку вады. І мы ідзём наперад, бо ведаем, што недзе там — далёка — вада ёсць. Чужыя людзі вакол нас яе п'юць і прапаноўваюць нам. А мы не можам у іх тую ваду ўзяць, бо няма куды… Так і ідзём — па пякельнай спёцы. Босыя, абдзёртыя, гаротныя. Ідзём немаведама куды!

Д а н і л к а. А я наогул сноў не бачу…

Зноў у пакой уваходзіць сакратарка Анжэла.

Сакратарка (*салодкім, прытарна-сексуальным голасам*). Данііл Лявонавіч, да вас прыйшлі. Кажуць, што з «Газпрама». Прынеслі тое, што абяцалі. Запрашаць?

Данілка. Канешне, Анжэлачка! Канешне, дарагая! Запрашай.

У кабінет уваходзяць людзі, падобныя да агента Сміта*, у чорных дарагіх гарнітурах. Шырока ўсміхаюцца. Адзін з іх ставіць пад стол валізу бруднага шэрага колеру.

**З'ява 4. Любка**

За чатыры гадзіны да апісаных вышэй падзей. Раніца. Старая мінская кватэра. Маленькая кухня. Вузкі калідор. На сцяне квадратнай залі боўтаецца свяцільнік. Навокал бедна, але даволі чыста і нават утульна. Сымон прымацоўвае да фотаапарата вялізны аб'ектыў. Некуды збіраецца. З ваннага пакоя гучыць шчаслівы голас Любкі.

Любка. Дзве палоскі!

Сымон. Што?

Любка. У мяне дзве палоскі!

Сымон. Якія палоскі? Я не магу засяродзіцца! Дзе мая сарочка?

Любка (*танчыць па калідоры*). Яна мяне пачула! Уяўляеш?! Я абышла сотні дактароў, з'ела тоны лекаў і зёлак. Безліч намаганняў, часу, сродкаў — усё марна. І вось — цуд! Адзін разочак усяго памалілася каля абраза Маці Боскай у нашым касцёле — і атрымалася! Дзякую, дзякую, дзякую табе, Святая Марыя! (*Нечакана спыняецца каля Сымона, які запінае гузікі сарочкі.*) Сымонка, ты верыш у цуды?

Сымон. Не! Я не веру, Любка, я ведаю, што калі праз пяць хвілін не выпаўзу з гэтай кватэры — буду каяцца ўсё жыццё. Бо, літаральна, буду звольнены. Дзе мой блакітны гальштук?

Любка. Ляжаў побач з сарочкай… Але ж ты не адказаў.

Сымон. Ты перашкаджаеш засяродзіцца! Добра! Толькі каб адчапілася: не веру!

Любка хутка пахмурнее, назірае за тым, як па кватэры ліхаманкава носіцца Сымон.

Любка. Дарма не верыш. Сымонка! Сымоначка?

Сымон. На Бога, Любка, адчапіся. Не да цябе зараз!

Любка (*спрабуе лашчыцца*). Ну Сымоначка…

Сымон (*спыняецца на паўдарозе*). Так, касцёл — старажытны, вядомы ва ўсім свеце. Наша годнасць, гісторыя, зрэшты — наша ўсё! За яго варта змагацца. Я і спрабую гэта рабіць. Але, Любка, абраза, пра які ты кажаш, у кас-

* Персанаж кінастужкі «Матрыца» (ЗША). Сімвал бяздушнай сістэмы кантролю і падпарадкавання.

цёле няма. Яго вывезлі ў Маскву, і ніколі не вернуць, як і тысячы іншых нашых каштоўнасцей. Людскія размовы пра тое, што абраз нібыта адбіўся на сцяне — не больш, чым хімеры. Ты не бачыла маё пасведчанне?

Л ю б к а. У кішэні сарочкі. Але ж я не пра абраз…

С ы м о н (*чапляе журналісцкае пасведчанне да кішэні*). А пра што?

Л ю б к а. Толькі, прашу, скажы мне праўду.

С ы м о н. Угу.

Л ю б к а. Скажаш?

С ы м о н. Нам трэба будзе з'ехаць. На час. У Варшаву, магчыма ў Беласток. Табе гэта спадабаецца. Сваякі мае там. (Упэўнена.) Дапамогуць! Пакрыху збірай манаткі.

Л ю б к а. Дык скажаш ці не?

Яны спыняюцца пасярод залі. Сымон страчвае цярпенне, але намагаецца трымаць сябе ў руках.

(*З мальбой заглядае Сымону ў вочы.*) Скажаш?

С ы м о н (*скрозь зубы*). Пастараюся.

Л ю б к а. Сымоне… Сымонку! Ты… мяне… любіш?

С ы м о н. О, на Бога, Любка! Я ўжо думаў, штосьці сур'ёзнае…

Л ю б к а. Я пра сур'ёзнае.

С ы м о н. Не час зараз высвятляць адносіны!

Л ю б к а. Я не пра адносіны, Сымон, я пра тое…

Сымон пацалункам спыняе яе. Куляй вылятае з кватэры. На лесвіцы чутны яго голас: «Бацька? Прывітанне. Што ў цябе? Паміраеш? Калі?» Любка стаіць разгубленая.

(*Нібы праз сон.*) Я пра тое, што цяжарная… (*Праз хвіліну стаіць насупраць балкона, заламаўшы рукі, звяртаецца да некага на нябёсах.*) Ён усіх любіць. Чуеш? Народ! Беларусь! Праўду! Толькі не мяне. Мяне ён спажывае, як ранішнюю каву. Ён прагне пражыць не дарма… А я дарма? Маё дзіця — таксама дарма? Не разумею. Чуеш? Не разумею, як можна любіць увесь народ — гарадзенцаў, віцяблян, берасцейцаў… Іх жа мільёны. Мужчыны, жанчыны, падлеткі, цёткі на кірмашы. Гэта лёгка… любіць некага абстрактнага, невядомага, і цяжка любіць таго, з кім з дня ў дзень крочыш, упаўзаеш у будучыню. А яшчэ, Маці, я не разумею, як можна парадкаваць краіну і не ўмець упарадкаваць уласны дом, сям'ю. Ці не ёсць ва ўсім гэтым нейкая хлусня? Дурасць?! Д'ябальскае насланнё?

Сцэна пачынае цямнець. Любка стаіць на каленях. Уверсе, над галавой жанчыны, гарыць знічка. Моліцца. У цемені гучыць яе голас.

Матка Боская, Святая Дзева Марыя, Святыя пакутнікі, Езус! Заступіцеся за нас усіх перад Бацькам нашым! Не дайце памерці без яго міласэрнасці. Амэн!

**ДЗЕЯ 2**

**З'ява 1. Дамавіна**

Тая ж самая вясковая хата. Пасярод — драўляная лаўка. На ёй — дамавіна. У дамавіне — Л я в о н. Ляжыць, як і належыць нябожчыку, — у добрым гарнітуры, прычасаны, памыты, склаўшы рукі. Пад абразом — запаленая знічка. Побач з Лявонам — а й ц е ц  П а в е л.

А й ц е ц  П а в е л. Так і будзеш ляжаць?

Л я в о н. Сыны прыедуць — вылезу…

А й ц е ц  П а в е л. А калі не прыедуць?

Л я в о н. Памру… увечары.

А й ц е ц  П а в е л. Хавай Божа!

Л я в о н. Бог тут ні прычым. Захачу — памру; захачу — не. Мая воля.

А й ц е ц  П а в е л. У касцёл табе, Лявонка, трэба!

Л я в о н. Усё жыццё не хадзіў, а зараз прывалакуся. Людзі падумаюць: стары смерці спужаўся. Грахі замольвае. Ты ж ведаеш, што пра мяне кажуць — дзвюх жонак у труну загнаў, сыноў па свеце раскідаў.

А й ц е ц  П а в е л. Можа, цыгарэту?

Л я в о н. У мяне свае… Запалкі падай.

Айцец Павел шукае па кішэнях. Нарэшце запалілі ўдваіх. З дамавіны пацягнуўся густы едкі дым.

(*Абурана.*) На бацьку забыліся. На вёску забыліся. Занятыя дужа… Данілка, паскуднік, запанеў. У Маскву лыжы навастрыў. Кажа, толькі там — людзі. З жонкаю не жыве, падла. Сваю першую не здолеў утрымаць — закруціў раман з нейкай… (*Высоўваецца з дамавіны і з агідаю плюе на падлогу.*) А зараз яшчэ лепш — Любку звёў. Няўжо баб мала? Няўжо абавязкова трэба брату ў грэх уводзіць? Не падумаў, як жыць будзе, як людзям у вочы паглядзіць. Эх… (*Цяжка, усім нутром уздыхае.*)

А й ц е ц  П а в е л. Бог дасць, усё зменіцца да лепшага.

Л я в о н. А Сымонка? Сорамна сказаць — апазі-цы-янер. Колькі разоў даводзіў яму: ну, не падабаецца табе ўлада цяперашняя, не падабаюцца парадак, законы. Прыедзь да мяне — на табе зямлю, сваімі рукамі пабудуй на ёй такі парадак, які сам захочаш. Улада — цьфу! За мой век столькі іх змянілася… Не палічыць! А зямля — во!

З труны паказваецца каржакаваты, счарнелы ад працы кулак Лявона.

Якая была, такая і ёсць! Карміла і будзе карміць. (*Перавёў дух.*) Не так даўно тэлефануе, пытаецца: «За каго галасуеш, бацька?!» Я яму адказваю: «Ні за каго. Няма калі галасаваць — карова целіцца». Пакрыўдзіўся. Сказаў, што я — стары пень. (*Пасля працяглага маўчання.*) Ты ведаеш, што мяне сапраўды непакоіць? Я не пра смерць, не пра пакуты і не пра Страшны суд зараз кажу. Зямлі мне шкада. Разумееш? Як пух стала, усё на ёй расце. Аднак сынам пляваць! Так я іх выхаваў, што ім да Бацькаўшчыны спраў ніякіх… І я ўсё часцей ду-

маю: няма ў нашага краю будучыні. Колькі я яшчэ пратрымаюся? Год, пяць? А потым? Пазарастае бур’яном, як у суседзяў. Разумееш, праз пяць гадоў усё абрынецца — адны бязбацькавічы будуць хадзіць па свеце. Будуць яны парабкамі ў людзей — без гонару і павагі да сябе і да дзяцей сваіх.

Айцец Павел. Да чаго ты вядзеш, Лявон?

Лявон. Часта думаю: хто вінаваты ў тым, што мае сыны такія: Бог — не, д’ябал — не! Я сам і вінаваты, бо гэта ж я накіраваў іх ва ўніверсітэт, дапамог уладкавацца ў горадзе, адвучыў ад зямлі. А мог бы пакінуць тут, каля сябе. Атрымоўваецца, што я сам — адзіная мера і Дабра, і Зла. Захачу — Зло, захачу — Дабро. І вось тут я не магу зразумець — калі ўсё залежыць ад дурной галавы чалавека, чаму Бог не скажа, не тузане: «Лявоне, куды цябе чэрці нясуць? Трымай мацней руль, едзь па бальшаку!»

Айцец Павел. І Зло, часам, патрэбнае… Бо наша жыццё — хуткаплынная рэчка, а ў яе, вядома, павінны існаваць берагі — левы і правы. Без іх не данясе рэчка ваду да мора, пераўтворыцца ў багну. Так і чалавеку — каб данесці душу да Бога, патрэбныя берагі: левы — Зло, правы — Дабро. Ударыцца аб адзін — вернецца да другога. І так заўжды, пакуль трывае жыццё. Важна бачыць гэтыя берагі, адрозніваць адзін ад аднаго. Інакш — чалавек патоне ў мутнай вадзе паняверкі. (*Пасля паўзы.*) Дай цыгарэту…

Лявон дастае з кішэні цыгарэту.

(*З задавальненнем праглынае моцны тытунёвы водар.*) Берагі ў жыцця павінны быць!

Лявон. Берагі? (*У задуменні.*) Ты хочаш сказаць, што так і павінна быць, каб сыны мяне выракліся? Няўжо думаеш, што яны нацешацца і вернуцца на Бацькаўшчыну?

Айцец Павел. На ўсё воля Боская… Ты, галоўнае, веру не губляй.

Нечакана ў хату ўваходзіць участковы міліцыянер. Са здзіўленнем глядзіць на дамавіну і на айца Паўла.

Участковы. Грамадзянін Зяблік тут пражывает?

Лявон (*з дамавіны*). Тут!

Участковы (*зняў шапку*). Можна вас на мінутку?

Лявон. Няўжо не бачыш — я памёр.

Участковы. Віжу! Аднака трэбую, штоб вы неадкладна ўваскрэслі! На час ці два. Патом памірайце сабе, колькі ўгодна.

Лявон (*крахціць, узнімаецца з дамавіны*). Ну, чаго табе?! Паміраю. Нікому, здаецца, не перашкаджаю. Вось і сведкі ёсць (*паказвае пальцам на святара*) — усё па-людску, законна.

Участковы. Дзела не ў вас, грамадзянін Зяблік, дзела ў вашых сынах. Ані абнаружаны ў раёне местнага храма. У очаньна нетрэзвым відзе. Хуліганят. Давялі дзела да мардабою. Пастрадалі расіяне і адна жэншчына, кажацца, наша, но это всё раўно. Сейчас ані забрэкадзіравалі дзверы, выражаются па мацеры і нікаво не пускают унутр. Вся надзежда на вас, грамадзянін Зяблік.

Лявон і айцец Павел пераглянуліся. Лявон нават ушчыкнуў сябе за калену.

Л я в о н (*да айца Паўла*). Вось табе і берагі — левы і, ліхаманка на яго, правы…

А й ц е ц  П а в е л. Я казаў табе, Лявон: на ўсё не твая воля, а воля Боская. Кідай дамавіну. Ідзі ратуй сыноў.

Л я в о н. Маці Божая… Гэта ж трэба!

Лявон устае з дамавіны. Размінае рукі і ногі. Праз хвіліну сыходзіць з хаты разам з супрацоўнікам міліцыі.

**З'ява 2. Адшчапенцы**

Вялікі шлях. Па ім моўчкі сунуцца людзі ў напрамку старажытнага касцёла, які стаіць на пагорку. Касцёл разрабаваны. Нельга зразумець — дзень ці ноч… Чуюцца енкі і лямант. Паўз дарогі — барозны бульбы. У іх — безліч людзей. Усе нешта робяць.

С ы м о н. Дзе гэта мы?

Д а н і л к а (*жартам*). На тым свеце.

С ы м о н. Не смешна, братка!

Д а н і л к а. Я і не смяюся.

С ы м о н. І дзе дакладна? У раі ці ў пекле?

Д а н і л к а. Зараз даведаемся. (*Звяртаецца да натоўпу.*) Гэй! Людзі!

На імгненне людская плынь спыняецца. Падарожныя прыглядаюцца да братоў. Неўзабаве пачынаюць рухацца зноў.

Д а н і л к а (*выходзіць на шлях, бярэ за руку аднаго з мінакоў*). Пачакайце, калі ласка! Усяго хвіліначку… (*У жудасці адхінаецца і вяртаецца да Сымона.*)

С ы м о н. Каго ты ўбачыў?

Д а н і л к а. Гэтага не можа быць!

С ы м о н. Дык каго?

Д а н і л к а. Наш настаўнік геаграфіі. Памятаеш, Арон Майсеевіч?

С ы м о н. Памятаю, канешне.

Д а н і л к а. Вось!

С ы м о н. Але ж ён памёр…

Д а н і л к а. На мінулым тыдні. Так бацька казаў…

Браты ў жудасці глядзяць адзін на аднаго.

С ы м о н  і  Д а н і л к а (*у адзін голас*). Гэтага не можа быць!

М у ж ы к (*з-за баразны*). Хлопцы, чаго крычыце?

Д а н і л к а. Дзядзька, мы што — памерлі?

М у ж ы к. Вядома ж, раз тут шлындаеце…

С ы м о н (*ціха, амаль шэптам*). А куды людзі ідуць?

М у ж ы к. Куды Марка цялят не ганяў.

Д а н і л к а. Прабачце?

М у ж ы к. Бачыце, на пагорку касцёл стаіць? Там — офіс, чыноўнікі сядзяць. Страшны суд там.

Д а н і л к а. Нейкі вар'яцкі дом…

М у ж ы к. Хлопцы, ёсць цыгарэтка?

Сымон дастае пачак «Мінска» і запалкі. Удваіх паляць.

Д а н і л к а. А ты, дзядзька, чаму да касцёла не ідзеш?

М у ж ы к. Захацеў ты! Нас туды не пускаюць!

Д а н і л к а. Каго «нас»?

М у ж ы к. Беларусаў, вядома… Каго ж яшчэ?

С ы м о н і Д а н і л к а. ??

М у ж ы к. Кажуць, на Белай Русі — або рускія, або палякі. Вось нашых і накіроўваюць або да першых, або да другіх. Хто не жадае «рекаць» і «пшэкаць» — партызаніць. Мы, для прыкладу, вырашылі гэтую дарогу да Страшнага суда абжыць. А што? Бульбу пасеялі! На Радаўніцу да сваіх ходзім. Нармальна! Неяк прыцярпеліся. Гарэлкі дзеткі нальюць — вып'ем, кашаю ды яйкамі чырвонымі заямо і нічога…

Д а н і л к а. І колькі вас тут?

М у ж ы к. Мільёны.

С ы м о н. Ні халеры сабе!

Д а н і л к а. Дзядзька, нам што рабіць? Парай! Няўжо бульбу з вамі сеяць?!

М у ж ы к. Можаш сеяць, можаш жукоў збіраць, а можаш і па шляху пайсці. У офіс. Толькі праўды не знойдзеш. (*Шэптам звяртаецца да абодвух братоў.*) Анёл, які зараз адказвае за Страшны суд, нам незнаёмы. Злы, хцівы, як змяя, і тлусты, як свіння. Набраў ён сабе ў штат каханак і сабутэльнікаў. Першыя пазногці паліруюць, другія — пахмяляюцца. Дзе тут будзе праўда?

Д а н і л к а. А хабар яны бяруць?

М у ж ы к. Яшчэ як бяруць! Толькі ўсё роўна падмануць.

С ы м о н. А Бог-Бацька? Чаму ён маўчыць?

М у ж ы к. Бог — ёсць, Бацькі няма. Адвярнуўся Ён ад нас! Вось дзе бяда. Нічога з той прычыны няма! Ні раю, ні пекла! Зямля толькі гэтая, слязамі палітая. Ды так, што бульба горкаю родзіцца. Сядзім на ёй тысячагоддзі, бачым, як людзі ідуць: немцы, рускія, палякі, французы. Каго толькі няма! Усе праходзяць, усё мінае, а мы — ТУТ! Мы застаёмся!

Д а н і л к а. Ты гаворыш, як наш бацька. Той усё чаўпе: «Вяртайцеся, хлопцы, будзем гаспадарыць на зямлі». Быццам бы гэта шчасце вялікае — у гнаі і брудзе вошкацца. (*З прыкрасцю плюе пад ногі.*)

С ы м о н. Вас, нас — мільёны! Не рускіх і не палякаў… Беларусаў. Не горшых за людзей, вартых справядлівасці! Зямля — добра. Аднак зямля без праўды — пясок. Трэба дабівацца!

М у ж ы к. Праўды? Было тут і такое. У пазамінулым стагоддзі з'явіўся да нас чалавек з пятлёй на шыі. Спачатку, як і астатнія, бульбу сеяў, а потым сабраў малойцаў — такіх, як сам, — зухаў і рызыкантаў. Павыганялі яны з касцёла п'янчуг ды ліхадзеяў. А замест іх прапанавалі абраць «ронд» — з на-

шых, тутэйшых мужыкоў. Аднак ці бачыў хто «ронд», з мужыкоў складзены? Не! Гэта ж смешна! Вось паразважалі мы, пагутарылі і вырашылі тых п'янчуг і прайдзісветаў назад вярнуць. Якія ні ёсць, а свае! Мы да іх прызвычаіліся. Самі ведаеце: над мужыком пан павінен быць! Такі парадак…

С ы м о н. Быдла! Ненавіджу нас за гэта!

Д а н і л к а. Зрэшты, якая розніца — да палякаў або рускіх? Галоўнае — у рай. А там агледзімся. Нашы ж усюды жывуць. Дапамогуць!

С ы м о н. Тут, братка, я з табой згодны. Быць патрыётам хлопскай нацыі не хачу. А вось чаго хачу, дык гэта паскудніку таму, таўстуну лісліваму, які нас гарэлкай апаіў, кішкі выпусціць.

Д а н і л к а. Далучаюся, братка! Знойдзем — заб'ём паразіта!

**З'ява 3. Офіс**

Два анёлы сядзяць за камп'ютарамі. На першым — строгі ваўняны касцюм, на другім — пясцовае футра. На фоне месяца можна заўважыць постаць не старога яшчэ архангела — гэта Н е з н а ё м ы. Ён перабірае паперы і час ад часу паглядае ў бок сакратаркі — салодкай блакітнавокай ламіі А н ж э л ы К а р п а ў н ы.

А н ж э л а К а р п а ў н а (*какетліва*). Тэлефанавалі з КУП «Рай», прасілі сёння нікога не дасылаць — казалі: зламалася печ, прысмакаў на ўсіх не хапае.

Н е з н а ё м ы. Х-м-м, усё праз адно месца… Пацікаўся, хто сёння на прыём. І скажы хлопцам, няхай думаюць. Хоць са скуры вылезуць, а ў рай нікога не накіроўваюць.

А н ж э л а К а р п а ў н а. Канешне. Яшчэ тэлефанавалі з канцылярыі Самога, прасілі нарэшце вырашыць, што рабіць з гэтымі (чытае па складах) бе-ла-ру-са-мі. Там наверсе дужа занепакоеныя, лаюцца, ніхто не можа ўцяміць, адкуль яны з'явіліся. Раней, кажуць, іх не было.

Н е з н а ё м ы (*стомлена падае на спінку высокага крэсла*). Мне гэтыя беларусы! А якая пазіцыя ў Самога?

А н ж э л а К а р п а ў н а. На мінулым тыдні, выступаючы на селектарнай нарадзе, быў дужа раздражнёны. Размаўляў з усімі падвышаным голасам. Маўляў, на паперах сярэдняя Еўропа пад юрысдыкцыяй Царквы або Касцёла. Адпаведна, нябожчыкі з Захаду трапляюць на Польскі той свет, а нябожчыкі з Усходу — на Расійскі. Куды накіроўваць беларусаў — невядома. Лаяўся ён дужа-дужа, нават стукнуў кулаком. Бо, аказваецца, па законе, калі ёсць беларусы, павінен існаваць і Беларускі той свет. Вельмі прасіў. Нават паставіў задачу: нештачка такое разумнае прыдумаць, каб ніякіх новых структур ствараць не трэба было. І самае галоўнае, каб адмову ў стварэнні Беларускага таго свету мы на паперы цудоўным чым абгрунтавалі. Вельмі ён нас цэніць…

Н е з н а ё м ы (*задаволена*). А як ты хацела? Землякі мы з ім, у адной школе вучыліся, да дзевак разам хадзілі (*лагодна мацае сакратарчыны грудзі*). Ідзі да

маіх нукераў, скажы, няхай усіх, хто прыйшоў на прыём, хуценька размятаюць і за справу прымаюцца! А пакуль яны працуюць, прыходзьце, Анжэла Карпаўна, разам паперы разбіраць будзем…

А н ж э л а  К а р п а ў н а (*салодкім галасочкам*). Адна ножка — тут, другая — там! Вы ж ведаеце.

Н е з н а ё м ы. Мая ластавачка!

Мізансцэна змяняецца. В а ў н я н ы  К а с ц ю м п’е каву. На маніторы відаць старонку пошукавай сістэмы Google — у акенцы высвечваецца радок: «Самазабойства для анёлаў». П я с ц о в а е  Ф у т р а разззлавана шукае нешта ў Яндэксе. У кабінет урываецца А н ж э л а.

А н ж э л а  К а р п а ў н а. Хлопцы, хопіць лайдачыць! З’явілася праца…

П я с ц о в а е  Ф у т р а (*з-за манітора*). Анжэла, Анжэлачка, ты сёння як Венера Мілоская!

А н ж э л а  К а р п а ў н а. Хто гэта яшчэ такая?

В а ў н я н ы  К а с ц ю м. Не, не, Анжэлачка, ты як зорка Венера…

А н ж э л а  К а р п а ў н а. Ну, гэта я дазваляю! «Зорка!» Але хопіць лайдачыць — на вас распісаная папера. Шэф даў трыццаць хвілін, таму бярыцеся за справу.

П я с ц о в а е  Ф у т р а (*дачакаўся, пакуль сакратарка схаваецца за дзвярыма*). Карова!

В а ў н я н ы  К а с ц ю м. Падтрымліваю… Не толькі карова, але і прасталытка.

П я с ц о в а е  Ф у т р а. Шкада, што мы не бабы… Даўно б ужо ў міністэрствах нага за нагу сядзелі. І вучыцца не трэба было б, і батрачыць з раніцы да вечара. Апрануў кароткую спадніцу, дэкальтэ да пупа, абцасы і…

В а ў н я н ы  К а с ц ю м (*голасам сакратаркі*). «Мілы начальнік». Цьфу! І як не сорамна? Не разумею! І куды ні плюнь: усюды яны сядзяць — або чыесьці каханкі, або чыесьці жонкі. Усе цёплыя месцы разабраныя пад іх! А што? Працаваць не трэба — кіруй і, галоўнае, не забывайся па каталогах бялізну замаўляць. Інакш — пішы-прапала, сэрца шэфа возьме ў палон другая.

П я с ц о в а е  Ф у т р а. Або другі… (*Рагоча. Пасля паўзы.*) Добра, што там у нас сёння? (*Бярэ паперу. Чытае.*) «Беларусы…»

В а ў н я н ы  К а с ц ю м (*расчаравана*). Зноў?

П я с ц о в а е  Ф у т р а. Ага! (*Чытае далей.*) «Размеркаваць па нацыянальных сектарах пекла. Бульбу скасіць. Даведку напісаць».

В а ў н я н ы  К а с ц ю м. Усё?

П я с ц о в а е  Ф у т р а. Ага!

В а ў н я н ы  К а с ц ю м. Асабіста я з гэтым ахвосцем працаваць не буду. У мінулы раз вілкі ледзь у бок не ўсадзілі.

П я с ц о в а е  Ф у т р а. Вось няхай сам і едзе да іх. Няхай тую бульбу і косіць. Я ўжо накасіўся, слава Богу. З мяне хопіць!

Нечакана з селектара даносіцца ўсхваляваны голас Незнаёмага: «Хлопчыкі, як у вас справы?» Анёлы, штурхаючы адзін аднаго, кулём кідаюцца да апарата

і па-вайсковаму рапартуюць: «Мы ўсё зробім!», «Мы ўжо пачалі рабіць!» — «Засталіся толькі неістотныя дэталі», «Не будзе ніякіх праблем!» — «Добра!» — на тым баку адключыліся.

П я с ц о в а е  Ф у т р а. Ну што, чуў? Трэба неяк рабіць…

**З'ява 4. Жыве Беларусь!**

У офіс уваходзяць Д а н і л к а і С ы м о н. Здзіўлена аглядаюцца. Данілка трымае шэрую валізу.

Д а н і л к а. Гэта ж мой кабінет! Халера! Шпалеры, карціны, крэслы, стол… Усё — тое самае.

С ы м о н. Табе не ўяўляецца, што мы спім, а ўсё навокал — твая або мая п'яная фантазія? Хутчэй за ўсё, канешне, твая, бо я б сніў дэмакратычны, дасканалы Той свет, а тут, як у нас дома, — з бізуном і праз пень-калоду.

Д а н і л к а. Не, я ўяўляў Той свет іншым… З пахам ладану, з анёламі ў белых портках, з Богам, які сядзіць на пасадзе… А тут, сапраўды, як на зямлі — кабінеты, сакратаркі і дубаломы-чыноўнікі. (*Заўважае анёлаў.*) Дзень добры, таварышы!

В а ў н я н ы  К а с ц ю м (*сурова*). Прасіў бы вас заткнуцца!

С ы м о н. Прывітанне, спадары!

В а ў н я н ы  К а с ц ю м. Гэта датычыцца абодвух… Адказвайце толькі на тыя пытанні, якія мы задаём. Такім чынам, адкуль вы з'явіліся?

Д а н і л к а. З Мінска…

С ы м о н. Ехалі да бацькі і сустрэлі аднаго нягодніка. Вы яго, дарэчы, не бачылі?

П я с ц о в а е  Ф у т р а. Маўчаць! З якога месца вы родам?

С ы м о н. З Магілёўскага раёна.

В а ў н я н ы  К а с ц ю м (*страчвае цярпенне*). Якога вы роду-племені, прыдуркі?

С ы м о н  і  Д а н і л к а. Беларусы мы!

Анёлы аслупянелі. Недаверліва паглядзелі на братоў. Параіліся. Заўсміхаліся.

В а ў н я н ы  К а с ц ю м. Папёрла дык папёрла! Наш сёння дзень! Кажаце, беларусы? Няўжо! А чаму пра вас ні ў якіх паперах не напісана? Адкуль вы павылазілі? Хто вас выдумаў, беларусы?

С ы м о н. Мы заўжды былі! І вылазілі мы, як усе добрыя людзі, з нашых матак.

Д а н і л к а. Паслухайце, давайце цывілізавана пагаворым. Колькі вы хочаце за нашыя месцы ў раі?

Анёлы зноў аслупянелі. Пасля дзвюх ці трох хвілін нерухомасці пачалі шаптацца.

Хлопцы, вы чуеце? У мяне ёсць грошы! Шмат грошай…

Пясцовае Футра бярэ з рук Данілкі валізу з грашыма, ставіць яе пад стол.

Там два мільёны газпрамаўскіх зялёных рублёў.

Сымон. Някепскі хабар для Міністэрства культуры.

Данілка. Гэта не хабар, гэта кошт майго сумлення. (*Да анёлаў.*) Ну, дык як? Дамовіліся?

Ваўняны Касцюм. Значыцца, у рай?

Данілка. У рай! Толькі мяне — у маскоўскі, а яго (*паказвае на Сымона*) — у варшаўскі. Каб без праблем і валтузні. Каб хутчэй!

Пясцовае Футра. З такімі грашыма праблем не будзе. Не будзе і валтузні. Толькі…

Данілка. Калі паперу якую падпісаць — мы не супраць.

Ваўняны Касцюм (*зусім ашалеў ад неспадзяванага шчасця*). Якую паперу?

Данілка. Вядома, якую. Мы адмаўляемся быць беларусамі дзеля кожны свайго раю.

Ваўняны Касцюм. Паперу? Трэба! Канешне… Вы сапраўды згодны такое падпісаць?

Данілка. Што рабіць? Лепей быць расіянінам і жыць як чалавек, чым вечна бульбу ў балоце садзіць! Давайце! Падпішам!

Сымон. Пачакай!

Данілка. Не лезь! Ты ў Польшчу збіраўся — вось і едзь. Выбару ўсё роўна няма!

Анёлы зноў пачынаюць раіцца. Штосьці пішуць, гучна б'юць пальцамі па клавіятуры. Праз хвіліну задаволена рагочуць. Пясцовае Футра адпраўляе паперу на друк.

Ваўняны Касцюм (*чытае надрукаванае*). «З апытання двух так званых беларусаў зрабілася відавочным: 1. Сымон Зяблік — на самай справе Шымон Зябліцкі, паляк, нягледзячы на тое, што абрусеў; 2. Данілка Зяблік — на самай справе Данііл Зябліков — русак, нягледзячы на тое, што спольшчыўся. 3. На падставе таго, што ўнікальная беларускасць абодвух рэспандэнтаў нічым не пацверджана, вырашыць лічыць яе міфам. 4. Стварэнне Беларускага таго свету лічыць немэтазгодным, а з'явіўшыхся зараз і тых, хто будзе з'яўляцца надалей, накіроўваць адпаведна да палякаў або да расіян у пекла…»

Пясцовае Футра. А што?! Не падкапаешся…

Ваўняны Касцюм (*задаволена*). Маю досвед! (*Да братоў.*) Гэй, крэтыны, распісвайцеся. Лічыце, нарадзіліся пад шчаслівай зоркай.

Сымон і Данілка стаяць, нібы жабу праглынулі. Першым голас падае Сымон.

Сымон. І бацьку з маці ў пекла? І астатніх — мільёны мужыкоў, баб, дзяцей — тых, хто стаіць паўз дарогу на Страшны суд?

Пясцовае Футра. Ды не пераймайся ты! Заўтра будзеш бігас есці і танчыць мазурку. Там вашых шмат. Міцкевіч, аўтар «Дзядоў», Ажэшка з-над

Нёмана, Кандратовіч, Марцінкевіч, Касцюшка… Усе разважылі, прыкінулі: а якая альтэрнатыва?! Хіба ў рай расійскі?! А там, як у сібірскім лагеры, — Ленін ды Сталін кіруюць. Па мне, дык лепей у пекла!

В а ў н я н ы  К а с ц ю м (*іранічна*). Ха-ха-ха! У польскім раі, трэба думаць, лепей… Не рай, а бясконцыя звады і спрэчкі. Ад вас нават Ян Павел уцёк, бо галасу не вытрымаў. Баб цягаеце ды адзін аднаму чубы круціце. Лепей ужо парадак ды жалезная дысцыпліна, чым анархія і тузаніна! (*Да Данілкі.*) Праўду я кажу?

Д а н і л к а. Вам лепей ведаць.

С ы м о н. Што будзе з нашым народам?

В а ў н я н ы  К а с ц ю м. Народам? Калі ты маеш на ўвазе тых дзікуноў, што ад Страшнага суда хаваюцца, дык іх месца ў пекле. Што табе да іх?

П я с ц о в а е  Ф у т р а. Яны пры жыцці жралі на могілках. Варвары! І зараз свет каламуцяць. Толькі Радаўніца — душы на зямлю вяртаюцца. Гэта ж грэх! Бо сказана: жывым — зямное, памерлым — нябеснае. Мы спрабавалі праблему вырашыць. Ды не было юрыдычнай падставы. Толькі возьмемся за бізун, як вэрхал узнімаюць праваабаронцы. А зараз ім цыдулку пад нос: «Вось вам, слізнякі! Вось вам… Дуліну-цыбуліну. Што вы кажаце? Якога народу?» Ну, падпісвайце, хлопцы, і ідзіце сабе.

В а ў н я н ы  К а с ц ю м. Мы тэлефанавалі. Лазню для вас ужо вытапілі, дзевак запрасілі. Гарэлачка ў лядоўні млее, агурчыкі на відэльцы сохнуць. Усё ж уключана! Ну, хутчэй, падпісвайце!

П я с ц о в а е  Ф у т р а. Вы толькі ўявіце сабе, цэлую вечнасць бесклапотнасці, як у пяцізоркавым гатэлі на ўзбярэжжы Мармуровага мора. Вечнасць!

В а ў н я н ы  К а с ц ю м. Вечнасць — гэта заўжды.

Мінае хвіліна. Застаецца тая ж мізансцэна. Анёлы сядзяць за камп’ютарамі. Сымон і Данілка стаяць у задуменні. Раптам у пакой уваходзіць задаволены, са шчаслівай усмешкай на вуснах Н е з н а ё м ы. Поруч з ім — змучаная А н ж э л а.

Н е з н а ё м ы (*да анёлаў*). Ну, што, хлопцы, справа зроблена? Даведку напісалі?

Сымон і Данілка пазнаюць дзядзьку з мінскай кавярні. Не згаворваючыся, кідаюцца да яго і пачынаюць душыць. У валтузню ўлазяць анёлы і сакратарка. Гармідар. Мітусня. Чуецца лаянка. Недзе з глыбіні сцэны гучаць галасы Сымона і Данілкі.

С ы м о н. Я вам, паскуды, пакажу польскі рай і беларускае пекла! Пачастую па-нашаму, як дзяды частавалі…

Д а н і л к а. Братка, грошы! Даляры! Валізу забяры ў гэтага ваўнянага барана.

Раздаецца аплявуха.

Вось учапіўся, падла. Аддай!

С ы м о н. Адкуль тут гэта баба? Кіпці, як у раззлаванай коткі.

Даносіцца візкат Анжэлы Карпаўны. Аплявуха. Яшчэ адна.

Д а н і л к а. Кінь яе. Шукай валізу!
С ы м о н. Заб'ю. Аддай!
Д а н і л к а. Вось уліплі дык уліплі.

З а с л о н а.

Аднекуль з'яўляюцца ў ч а с т к о в ы м і л і ц ы я н е р, Л я в о н, Л ю б к а. Гучыць вясёлая музыка.

**З'ява 5. Радаўніца**

Сцэна выглядае як тыповы кабінет РАУС. Усё пафарбавана ў цёмна-зялёны колер. За сталом — у ч а с т к о в ы складае пратакол. У «клетцы» — С ы м о н і Д а н і л к а. П'яныя дазвання. Моцна пабітыя. Спяць пад лаўкай. Побач з «клеткай» у крэслах — Л я в о н і Л ю б к а. На экране тэлевізара, прымацаваным да сцяны, паўстае вядучы тэлеканала НТВ. Транслююць расійскія навіны.

В я д у ч ы. Папярэднія дамоўленасці паміж Мінскам і «Газпрамам» аб буйных інвестыцыях у беларускую эканоміку сёння былі скасаваныя па ініцыятыве прадстаўнікоў расійскага канцэрна. Як паведамілі нашы крыніцы, прычына таму — тэракт, які адбыўся ў прадстаўніцтве бізнес-структуры.

Аператар дае буйны план Н е з н а ё м а г а. Апошні — у бінтах, левая рука — у гіпсе. Каля яго завіхаецца сакратарка А н ж э л а.

Н е з н а ё м ы (*крычыць наўпрост у камеру*). Няхай яны падавяцца сваёй бульбай, дзікуны праклятыя! Ніякага ім газу, ніякіх інвестыцый! Нічорта не дадзім. Няхай здохнуць у сваіх балотах! Сюды больш — ні нагой!

У ч а с т к о в ы (*піша пратакол, у задуменні*). Во разашолся! Зра я гэтага чорта з дракі выцягвал. Няхай бы яму і правую руку зламалі.

В я д у ч ы. Нагадаем, сёння а 15-й гадзіне ў будынак касцёла, прыстасаваны пад офіс рэгіянальнага аддзела «Газпрама», уварваліся два браты Зяблікі. Усяго за пяць хвілін яны пераўтварылі памяшканне ў Брэсцкую крэпасць. Пацярпелі служачыя кампаніі і яе кіраўнік. Дададзім, што гэта акцыя, ужо кваліфікаваная Міністэрствам замежных спраў Расійскай Федэрацыі як тэракт, была падтрыманая мясцовымі жыхарамі. Каля тысячы так званых тутэйшых кідалі ў газпрамаўцаў бульбу і пляскалі ў ладкі. Мы сочым за развіццём сітуацыі. Заставайцеся з намі.

Гучыць застаўка навінаў НТВ.

У ч а с т к о в ы (*глядзіць на Зяблікаў*). Дзел нарабілі і спяць. Тожа мне тэрарысты. Яно, канешне, правільна — трэба іх пасадзіць. З другой стараны — нградзіць. Бо такое шоу ўстроілі. Раён праславілі. Дажа меня сёння па тэлевізару два раза паказалі. Таварышы! (*Да Любкі з Лявонам.*) У вас ручкі случайна нет? А то мая закончылась… Нет чым пратакол дапісаць.

Любка шукае асадку, знайшоўшы, аддае яе ўчастковаму. Той шчыра дзякуе.

Л я в о н (*у бок Любкі*). Ты і праўда цяжарная?
Л ю б к а. Праўда.
Л я в о н. Які месяц?
Л ю б к а. Трэці.
Л я в о н. Божа, Божа… Твае берагі! (Уздыхнуўшы.) Хто бацька?
Л ю б к а. Хутчэй за ўсё, Данілка.
Л я в о н (*спалохана*). Як «хутчэй за ўсё»? Ты што — дакладна не ведаеш?

Любка спачатку маўчыць, а потым пачынае плакаць. Лявон дастае цыгарэту і са шкадаваннем хавае.

Курва, ты Любка!
Л ю б к а (*раздражнёна*): Я — баба, бацька! Мне дзеці патрэбныя. Сям'я. Мужык. А Сымон? Яму б толькі перад тэлекамерай пакрасавацца. Дзень дома — тыдзень у турме або ў замежжы. Прарок хрэнаў! Данілка той хоць пад сябе грабе. Усё так — паскуднік і эгаіст, але затое можа даць мне і майму дзіцяці дах і кавалак хлеба з маслам.
Л я в о н. Значыць, справа не ў Святой Марыі.

Любка захінае твар рукамі. Плача.

Я так і думаў… (*Памаўчаўшы.*) Мне ўсё роўна, хто з іх бацька. Яны абодва мае сыны. Унук ці ўнучка народзіцца — дзякуй Богу. Іншага шчасця не трэба. А іх болей не каламуць! Скажаш, што нагуляла. Быў грэх ды сплыў. З Сымонам разводзься. Жыві з Данілкам. Толькі глядзі мне, нявестка. Каб апошні раз!
Л ю б к а. А дзіцяці? Бязбацькавічам будзе жыць?
Л я в о н. Бязбацькавічам? Чаму ж! Сваё імя дам: калі хлопец, то Лявонавічам, а калі дзеўка — Лявонаўнай будзе. Пакуль жывы, нікому крыўдзіць ні яго, ні цябе не дам. Зразумела?
Л ю б к а. Так. Зразумела.
Л я в о н. І больш да гэтай размовы вяртацца не будзем! А наконт дзіцяці не хвалюйся — сам выхоўваць буду, па-вясковаму. Каб людзей паважала ды зямлю любіла. Не тое, што гэтыя: пры жывым бацьку бязбацькавічамі выраслі.

У памяшканне РАУС уваходзяць П я с ц о в а е Ф у т р а і В а ў н я н ы К а с ц ю м. Важныя, натапыраныя. Са скуранымі партфелямі ў руках.

П я с ц о в а е Ф у т р а. Чэсьць! Естэм амбасадожэм Жэчыпаспалітай Польскей. Хцэў бы запытаць пана, чы не естэсь в тэм (паказвае на «клетку») мешканні обыватэль Шымон Зябліцкі?
В а ў н я н ы К а с ц ю м. Добрый день. Я — представитель посольства Российской Федерации. Хотел бы поинтересоваться состоянием здоровья российского гражданина Даниила Зябликова…
У ч а с т к о в ы. Дзень добры. Вы што, па Зяблікаў прыйшлі? Дык яны пад следствам… А бачыць іх можна — яны пад лаўкай. Адпачываюць! Перагарам ад іх, як ад Клімавіцкага завода, нясе.
П я с ц о в а е Ф у т р а. Пан не розуме…

Ваўняны Касцюм. Видите ли, господин милиционер, мы бы хотели их забрать.

Участковы. Як забраць? Куды?

Пясцовае Футра. В Варшавоу.

Ваўняны Касцюм. В Москву.

Лявон сціскае кулакі і сунецца да анёлаў. Тыя спалохана хаваюцца за спіну ўчастковага.

Лявон. Ніякай Масквы! Ніякай Варшавы! Толькі калі я здохну, мае сыны з'едуць з Бацькаўшчыны.

Ваўняны Касцюм. Тише, тише, дедушка. Не нужно нервничать. Мы лишь заберём то, что принадлежит нам. А эти уголовники пусть остаются. Мы не против.

Анёлы заўважаюць шэрую валізу ў руках Данілкі. Пясцовае Футра адкрывае «клетку» і спрабуе тую валізу забраць. Нечакана прачынаецца Сымон Зяблік і б'е Пясцовае Футра кулаком у твар. Пачынаецца валтузня. Лямант. Гармідар.

Заслона.

Участковы (*з глыбіні сцэны*). Грамадзяне! Таварышчы! Гаспада! Спыніце бойку! Сёння ж Радаўніца.

*3 жніўня 2013 года*

Еўмянькоў Віталь Іванавіч нарадзіўся 5 чэрвеня 1977 г. у Магілёве. Вучыўся спачатку ў школе № 13, а потым у абласным ліцэі № 1. Пасля былі ўніверсітэт (МДУ імя А. А. Куляшова) і служба ў войску. Затым – каляіна выкладчыцкага і навуковага жыцця. Абараніў кандыдацкую дысертацыю. Выкладае ва ўніверсітэце. Аўтар больш за 100 навуковых артыкулаў. Выйшлі з друку яго манаграфія, прысвечаная беларускай іпастасі паэта Адама Міцкевіча, і аповесць «Пялёсткі белай ружы». Перакладае з польскай мовы.

## Віталь Еўмянькоў



# ПЕРАКЛАДЫ

МІХАСЬ БУЛАВАЦКІ

## Мой Высоцкі

*(да 75-годдзя Паэта)*

На 2013 год Магілёў быў абвешчаны культурнай сталіцай СНД. На культуру пачалі выдзяляць дадатковыя сродкі. І гарвыканкам заклікаў магілёўцаў распрацоўваць праекты, якія могуць атрымаць невялічкую падтрымку. Сярод падтрыманых аказаўся і праект Алеся Агеева «Вершы ў метро». Такі праект меў папулярнасць у Маскве. Сутнасць яго ў тым, што на рэкламных месцах вагонаў метрапалітэна змяшчаліся аркушы з вершамі вядомых і любімых народам паэтаў, каб пасажыр, маючы вольны час у дарозе, зірнуў на той аркуш і ўзгадаў прыгожыя радкі, чым залагодзіў сваю душу.

У Магілёве метро пакуль няма, калі не лічыць начны клуб «Метро», таму тут аркушы з вершамі змяшчаліся б у тралейбусах.

Алесь звярнуўся да мяне: «Можаш даць свае пераклады з Высоцкага, няхай людзі чытаюць». — «Але ж гэта Высоцкі. У чыноўнікаў дагэтуль алергія на яго». — «Не. Думаю, пройдзе. У Расеі ж ён прызнаны паэт. А мы ж з Расеяй сябруем. Дый год для Высоцкага юбілейны». Не верачы ў рэальнасць Алесевай задумкі, я ўсё ж падрыхтаваў тры аркушы, выбіраючы з творчасці паэта самае лагоднае.

Прайшло колькі месяцаў, і я пацікавіўся ў Агеева вынікамі праекта. Выявілася, што я быў правы ў сваіх сумненнях. Гарадскія ідэолагі не прапусцілі тэксты Высоцкага на публічнае чытво. Занадта востра чытаецца Высоцкі ў сённяшняй Беларусі, усё вельмі пазнавальна.

Не дзіва, што савецкая ўлада так не любіла Высоцкага, гэтага «ваўка», які рваўся «за флажкі, прага волі мацней». Але ў народзе ён быў самым папулярным паэтам. Нашмат папулярнейшым за тых, хто, пахлопваючы яго па плячы, павучалі, як правільна рыфмаваць, як трэба пісаць. Дзе сёння тыя павучальнікі? А Высоцкі жыве. Жыве ў сваіх песнях, у кінавобразах, жыве на тэлебачанні, якое штогод у дзень народзінаў і ў дзень смерці паэта (дый не толькі ў гэтыя дні) прысвячае яму некалькі гадзін свайго часу. І — галоўнае! — жыве ў душах людзей.

У кожнага свая дарога да Высоцкага. У мяне яна была такой.

У 1979 годзе мяне запрасілі на працу ў педагагічны інстытут. Пасялілі ў студэнцкім інтэрнаце. Паверхам ніжэй у такім жа пакойчыку жылі студэнты, якія любілі гучную музыку. Ставілі магнітафон на падваконне і ўключалі на максімальную моц. Неяк адтуль пачуў: «Скалолазка ты моя ласковая!..» Голас пазнаў, бо раней даводзілася чуць тое, што сам аўтар называў «блатной даўнінай». Прызнаючы небесталаннасць спевака, я шкадаваў, што свой талент ён растрачвае на такую нікчэмшчыну, і таму ставіўся да яго іранічна. А тут зноў далёка не шэдэўр. «Скалолазка» прагучала раз, потым другі раз, трэці… Маім суседзям знізу яна, мабыць, вельмі падабалася. А можа, нічога больш з Высоцкага запісаць не знайшлі. На …наццаты раз я не вытрымаў, зайшоў да студэнтаў і папрасіў прыглушыць гук ці закрыць акно.

Гэтая падзея толькі паглыбіла мой скепсіс стасоўна твораў Высоцкага.

Недзе праз паўгода я бавіў час з сябрамі. «Хочаш паслухаць Высоцкага?» — спыталі ў мяне. Я прамармытаў нешта з’едлівае пра «Скалолазку» і турэмную тэматыку. «А ты паслухай!» — сказаў сябрук і ўключыў магнітафон. Адтуль загучаў хрыплы барытон: «Сам виноват — и слёзы лью, и охаю: попал в чужую колею глубокую…»

Мала сказаць, што я ўслухоўваўся ў тыя гукі, у сэнс энергічных радкоў. Я разумеў больш: для таго, каб *такое* і *так* спяваць, мала мець талент паэта-спевака, патрэбна яшчэ смеласць. Смеласць, якую метадычна вытраўлівалі з насельнікаў СССР і якая мала ў каго засталася.

Я праслухаў усё, што было на магнітных стужках сяброў, і пайшоў адтуль агаломшаны. З таго дня я пачаў шукаць песні Высоцкага, перазапісваць іх і слухаць, слухаць. Слухаць самому і даваць слухаць іншым.

Аднойчы мне захацелася напісаць Уладзіміру цёплы ліст. Я ведаў, наколькі неабходныя такія лісты чалавеку, што абраў сабе долю жыць свабодным. Супраць такіх паўстае ўвесь дзяржаўны «парнас», і чалавек вымушаны абараняць сваю свабоду ад шалёнай агрэсіі чыноўніка ці прыцiскаць яе. Спакойнага жыцця такі чалавек не дачакаецца. Штодзень яму прыйдзецца пераадольваць тысячы цяжкасцяў. І любое слова падтрымкі як глыток чыстага паветра ў смуродным памяшканні. Але, пакуль я думаў, што напісаць у тым лісце, прыйшло паведамленне аб смерці. Мой ліст пасылаць ужо не было каму.

…Напрыканцы 80-х, у разгар перабудовы, выкладчыкам беларускіх ВНУ было «літасціва» дазволена чытаць лекцыі студэнтам на роднай мове. Хто таго захоча. Я быў сярод тых, хто захацеў. Але доўгія гады адасобленасці ад роднай мовы не прайшлі безвынікова: мова ўспаміналася натужна. Каб паскорыць гэты працэс, я пачаў перакладаць расейскамоўныя тэксты на беларускую мову, спачатку тыя, якія мне былі патрэбнымі для лекцый, потым іншыя.

Неяк слухаў «Паляванне на ваўкоў» і адчуў, што два радкі песні добра кладуцца на нашу мову. Захацелася перакласці ўвесь твор. Так пачаўся новы

этап майго сяброўства з Высоцкім. Ён працягваецца. Зараз маю ўжо болей за трыццаць яго твораў, перастворaных у нашай мове…

Вось некаторыя, дзе ён — ПРА СЯБЕ:

**Дзеці Расіі**

На міражы я мроі не мяняў,
У новы рай не складваў чамадана.
Настаўнікаў пажвакала хлусня
І павыплёўвала ля Магадана.

Між невукаў і я, у рэшце рэшт,
Калі і вылучаўся — вельмі мала.
Ні стрэмкі не пакінуў Будапешт
І Прага сэрца мне не разарвала.

А мы ў жыцці шумелі і на сцэне:
Мы блытанікі шчэ, мы хлапчукі!
Ды хутка нас заўважаць і ацэняць!
Гэй! Супраць хто? Намнём яму бакі!

Але мы адчувалі небяспеку
Зараней, як пачнуцца халады.
Прыходзіла прасветленасць аднекуль
І душы замыкала на гады.

І, хоць расстрэлы нас і не касілі,
Жылі мы — дзе праз сорам, дзе праз боль.
І ў нас, дзяцей той жудаснай Расіі,
Ўлівала ліхалецце алкаголь.

**Я не падману**

Не сплю я, ды прарочы сон мне сніцца…
Пігулкі п'ю, — магчыма, так засну…
Ды колькі я ўжо сліны горкай праглынуў! —
Інстанцыі, чыноўнікі-рупліўцы
Абвесцілі мне жорсткую вайну —
За тое, што спакой я ўзварухнуў,
Што хрыпам я краіну скалануў,
Каб даказаць, што ў коле я не спіца,
За тое, што карціць мне, што не спіцца,
Што ў перадачах іхніх заграніца
Дае маю блатную даўніну
І лічыць абавязкам павініцца:
— Даруйце, што без згоды… — Ну і ну!

За што яшчэ? За жоначку-вясну?
Маўляў, не мог з савецкай ажаніцца!
Маўляў, упарта лезу ў чужыну
І надта ж не хачу на дно зваліцца!
Што песню напісаў, ды не адну,
Пра тое, як мы калісь білі фрыца,
І пра байца, што бег на дзот зваліцца,
А сам — ні сном ні духам пра вайну!
Крычаць, нібыта месяц я сцягнуў
І шчэ што ўкрасці я не праміну, —
І небыліцу даганяе небыліца.
Не спіцца мне… Ну, як жа тут не спіцца?!
Не! Не сап'юся! Рукі працягну
І свой тэстамент крыжам чыркану,
І не забуду сам перахрысціцца,
І песню напішу, ды не адну,
І ў песні той кагосьці пракляну,
Ды ў пояс не забуду пакланіцца
Ўсім, хто пісаў, каб мне не даць зваліцца!
Хай келіх горкі мой, — я іх не падману!

**Мой шлях**

Мой чорны homo ў гарнітуры шэрым —
Ён быў дырэктарам, міністрам, афіцэрам…
Як злы паяц, мяняў ён маскі чынна,
І біў пад дых знянацку, без прычыны.
І, смеючыся, мне ламалі крылле,
А я хрыпеў — ці гэтак, можа, выў.
І знемагаў ад болю і бяссілля,
Адно шаптаўшы: «Дзякуй, што жывы!»
Я верыў прымхам і шукаў прыкметы —
Маўляў, міне! Цярпі! Такой бяды!
Я нават прарываўся ў кабінеты
І заракаўся: «Ні нагой — туды!»
І клікуны навокал галасілі:
«Парыж яму, нібыта нам Загорск!..
Такога трэба вытурыць з Расіі!
Але ж начальству, бач, не да яго…»
Пляткарылі пра дачу і зарплату,
Маўляў, начамі грошы я кую…
Я ўсё аддам — бярыце без даплаты
Трохпакаёўку — камеру маю!
Давалі мне парады, як дэкрэты,

Абняўшы мяне злёгку за плячук,
Мае сябры — вядомыя паэты:
«Не трэба рыфмаваць: крычу — тырчу…»
І лопнула ўва мне цярпення жыла!
І я са смерцю перайшоў на ты!
Яна даўно вакол мяне кружыла,
Пабойвалася толькі хрыпаты.
Суда ўнікаць не маю я намераў.
Спытаюць — адкажу, які мой лёс.
Я да секунд жыццё сваё абмераў
І добра-дрэнна, ды цягнуў свой воз.
Я зразумеў, дзе лжывасць, а дзе святасць
Даўным-даўно. І гэта — як алмаз!
Мой шлях адзін! — Другіх шукаць не варта!
На шчасце, ў мяне выбару няма.

**Мая цыганская**

Сняцца жоўтыя агні.
І хрыплю у сне я:
«Пачакай, перадыхні —
Ранкам памудрэеш!»
Ранкам зноў нутро гарыць
І няма вяселля.
Ці то нашча закурыць,
Ці заліць пахмелле?

У шынках — пітво ў гляках,
Белыя сурвэткі, —
Рай для блазна, жабрака.
Мне ж — як птушкам клеткі.
А ў царкве — паўзмрок, смурод,
Дзякі паляць ладан…
Не, і там не мой народ,
Мне і там не зладна.

На гару я ўзахапкі,
Каб чаго не выйшла.
На гары стаяць дубкі,
Пад гарою — вішня.
Можа, дзе ручэй цячэ,
Спеў птушыны з неба?
Хоць што-небудзь бы яшчэ…
Ўсё не так, як трэба.

Я па полі ўздоўж ракі:
Ў цемры свет без Бога!
А ў тым полі — васількі,
Доўгая дарога.
Паўз дарогу лес густы
З бабамі-ягамі.
А за лесам знойдзеш ты
Плаху з абцугамі.

Недзе скачуць коні ў такт,
Плаўна скачуць полем.
Паўз дарогу ўсё не так,
А ў канцы — тым болей.
Ні царква і ні карчма
Ўжо не вабяць штосьці.
Не, браточкі, ўсё дарма!
Ну не так, браточкі…

**Коні наравістыя**

Побач з ярам, па-над безданню, ля самага ля краю
Пугай коней я сваіх усё сцябаю, падганяю…
Нешта мне паветра мала — вецер п’ю, туман глытаю!
Чую з гіблым захапленнем: прападаю! прападаю!

Не спяшайце, мае коні! Хоць са свістам я
Пугай ляскаю!.. Не трэба ляцець!
Але ж патрапілі мне коні наравістыя —
І дажыць не паспеў, і дапець не паспець.
Коней я напаю. І куплет дапяю, —
Хоць імгненне яшчэ на краі пастаю…

Згіну я — мяне пушынкай ураган змяце з далоні,
І галопам мяне ў санях павязуць па снезе ўранку.
Вы хадою нетаропкай рушце далей, мае коні!
Хоць крыху падоўжце шлях мой да апошняга прыстанку…

Памарудзьце, коні шпаркія, агністыя!
Хай бізун будзе марна трымцець!
Ды патрапілі мне коні наравістыя —
І дажыць не паспеў, і дапець не паспець.
Коней я напаю. І куплет дапяю, —
Хоць імгненне яшчэ на краі пастаю…

Я паспеў: да Бога ў госці не спазняюцца ніколі.
Што ж анёлы там пяюць такімі злымі галасамі?!

Ці званочак так заліў сваім рыданнем наваколле,
Ці то коням я крычу, каб не так хутка неслі сані?!

Не спяшайце мае коні — ветры шквальныя!
Я малю вас наўскач не ляцець!
Ды толькі коні ж у мяне неўтаймавальныя…
Раз дажыць не паспеў, дык хаця б як — дапець!
Коней я напаю і куплет дапяю, —
Хоць імгненне яшчэ на краі пастаю…



Міхась Булавацкі

Булавацкі Міхась нарадзіўся 11 кастрычніка 1947 г. у в. Восы Глускага раёна Магілёўскай вобласці. У 1971 г. скончыў фізіка-матэматычны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута. Працаваў настаўнікам матэматыкі ў школах, ліцэях, выкладчыкам універсітэта. Сябра Беларускага ПЭН-цэнтра (з 2001), сябра СБП (з 2012), першы кіраўнік абласной арганізацыі ТБМ (1993–2002). Напрыканцы 90-х пачаў займацца паэтычнай творчасцю, выдаў зборнік перакладаў твораў У. Высоцкага на беларускую мову «Я не падману». Паспяхова ўдзельнічаў у літаратурных конкурсах радыё Свабода. Жыве ў Магілёве.

ВІТАЛЬ ЕЎМЯНЬКОЎ

# Пераклады, наследаванні

## Побач з А. Міцкевічам

Анёлы п’юць капучына,
А таксама каханне з майго сэрца.
Іх высокія грудзі, як альпійскія горы.
А ў руках —павуцінне пачуццяў.
Танкія шляхетныя пальцы,
Якія ўрачыста гралі паланэзы
Для нашага беззаганнага караля.
Вусны, якія створаны для пацалункаў.
І вочы, у якіх бясконцасць.
А пагляд такі, што выцягне з пекла
І перанясе ў святы чысцец —
Вечны прытулак для пераможаных.
Анёлы п’юць капучына.
У мінскіх кавярнях яны побач
З няголенымі мужчынамі.
Захінаюць іх крыламі
Ад зладабра чалавечай існасці.

## Побач з Л. Стафам

1

Валасы ў цябе з залатога сатканы ільну,
З спеваў жніўных, з разлітага ў чаркі віна.
У іх пяшчотны, мядовы, чаромхавы пах,
У іх жар-птушчыных крылаў маланкавы ўзмах.
Валасы ў цябе, як бурштын, як ядваб, як агонь.
У іх раскоша апошніх кастрычніцкіх дзён.
У іх — шчымлівая поўня каляднай зімы,
У іх бруянні — лагоднае рэха вясны.
Валасы ў цябе — раздзьмуханыя іскры завей.
То лагоднае мора, то шыпенне атрутнае змей!

2

У вусны цябе цалаваў,
Косы твае расплятаў.
Толькі ўсё гэта сышло,

Сёння другая ты ўжо!
Я не шукаю віны —
Знаю: шчаслівая ты!
Гэтак шчаслівы ж і я.
Мусіць, мая ў тым віна…
Разам блукаем ў завеі,
Разам старэем-марнеем,
Разам не спім уначы,
Я — на ўсходзе;
На захадзе — ты!

**Поруч з М. Паўлікоўскай-Яснажэўскай**

**1**

ведаю — ты недзе ёсць, ёсць, ёсць!
мой каханы!
дазволь пераканацца ў гэтым,
дазволь яшчэ раз дакрануцца да цябе
спакутаванымі
далонямі і вуснамі!
яшчэ раз голас пачуць твой,
насыціцца пахам,
зразумець цябе назаўжды ўсімі думкамі
і зноў згубіць цябе,
і зноў спасцігаць пацалункамі.
ведаюць пра яго
мае ўсхваляваныя грудзі,
абуджаныя пацалункам у змроку!
ведае пра яго душа мая, што жабрачкай
вымольвае столькі год пяшчоту.
і зламанакрылыя птушкі
маёй гаротнай душы
таксама ведаюць пра яго.

2

маё каханне, як
асуджаны на смерць:
счэзне за кароткія месяцы.
бо ў свеце ёсць прастора і час,
у іх схаваешся ты ад мяне, мой любы.
бо ў свеце ёсць хваробы і смерць.
не адбіць мне цябе ў іх
пацалункам.

**Адчуваючы В. Шымборску**

1

Заманулася яму Шчасця,
Заманулася яму Праўды,
Заманулася яму Вечнасці,
Паглядзіце на яго!
Ледзь адмяжуе сон ад явы,
Ледзь уцяміць, кім ён ёсць,
Ледзь крапіву ад жыта адрозніць!
З пяску будуе замкі,
Гатовы ўтапіцца ў лыжцы з супам,
Шукаць залеташняга снегу,
Гняздо зязюлі, дзявочую цноту!
Нават не смешны, бо гора не смешыць —
Вачамі бачыць,
Вушамі чуе!
Розум — курыны,
Але пра ўсіх ведае, усіх навучае.
Занадта мудрае мяса еў у дзяцінстве!
Паглядзіце на яго — разумнік!
Знайшоў сабе месца
Пад зоркамі правінцыі,
Жыве, як чарвяк гнаявы!
Знойдзе якую кніжку — і тым шчаслівы!
Не пакінуў дзяцінства — анёлак.
Каб яго трасца або халера!
А які заўзяты! Які апантаны —
Хоць кол яму на галаве чашы.
З ветрам у галаве, у падраных джынсах,
Непаголены, без фрызуры і шкарпэтак,
Гора, адным словам!
Сапраўдны чалавек…

2

Спакусніцы, жаночая фаўна,
Як бразгатанне бочак — голыя!
Гняздзяцца ў растаптаных ложках,
Спяць з вуснамі, адкрытымі для пацалункаў.
Вочы іх — гнуткія ліяны,
Што пранікаюць да ўнутраных залозаў,
Дзе кіпяць дрожджы і кроў.
Барочныя горы. Узыходзячае цеста ў дзяжы,

Распараныя ў лазні, румяныя ад віна,
Надзьмутыя, як ліпеньскія аблокі,
Гатовыя да фізічнага шалу.
О, раскошныя! О, празмерныя!
Падвойным адмаўленнем адзення,
Патроенай гвалтоўнасцю паставы!
О, тлустыя-тлустыя жрыцы кахання!
Сёння прывітаныя іх сёстры-дошкі,
За якімі відно ўвесь пейзаж на карціне.
Раней яны непрыкметна ішлі гужам
На другім плане ледзь зафарбаванага палатна.
Бежанкі стылю!
Адпрэчаныя жабрачкі!
Птушыная прырода ног і далоняў,
На тырчачых лапатках спрабуюць уляцець у рай.
Стагоддзе трынаццатае размесціла б іх на залатым фоне,
Дванаццатае — на срэбраным пастаменце!
Сямнаццатае — выкінула б гэтыя дошкі на сметнік.

### З Адама Нарушэвіча

*На выявы старажытных грамадзянаў Рэчы Паспалітай, па загадзе Яго Каралеўскай Мосці Станіслава Аўгуста ў бібліятэку Замкавую сабраных*

Прад вашым абліччам слабее сусветны парадак.
Мяшканцы вы мрояў і рыцарскіх згадак!
Вы — сведкі атруты, што ў жылы народныя ўлілася,
Што подлаю плямай на славе дзяржавы адбілася.
Палёгку ў скрусе знаходзіць, у горы смяяцца.
Трызніць няшчасцем, шалёнай хлуснёй сілкавацца.
Чароўнаю фарбай расквечваць нязбытныя мары.
У люстры крывым сляды шукаць даўняе звады.
Ды годзе! З партрэтаў няўжо старых, маляўнічых
Покліч рыцараў слаўных не зляціць ваяўнічы,
Ад якога б ільды спрэсаваныя ў прах рассыпаліся,
Вежы гоцкія, зграі дзікунскія з страху хісталіся?
Дон бяжыць задуменны ад вытокаў сваіх патаемных.
З пячораў Дняпро дастае юху сокаў падземных.
Нясе іх праз месцы, крывёй раксаланаў палітыя ў злосці.
Зброю трушчыць старую, варушыць нябожчыкаў косці.
Іх слава ў маскоўскіх палацах, у папскіх пакоях гучала
З вянком трыумфальным Еўропа сарматаў чакала.
Там надпіс мы знойдзем крывавы, на шаблі — шчарбіну,
Дзе Трэці Ян выкапаў хціваму турку магілу.

На іх зіхацяць дарадцаў разумных парадныя тогі,
Упрыгожвае строй святара іх — прасцяцкі і строгі.
Любоўю, нібы ланцугом залатым, яны зніtаваны,
Мовай айчыннай і духам адным яны ўзгадаваны!
Не прыватная справа… займала іх сэрца патрэба народа.
Дзеці маткі адной, панавалі над імі законнасць ды згода.
Соймы ніхто не зрываў, каб пацешыць сваё самалюбства.
Не пярэчыў дзяржаве, не штурхаў яе ў вір самагубства.
Адной нівы калоссе, аднаго неба зоркі.
Лёс адзіны на ўсіх — ці салодкі, ці горкі.
Каралеўскія слугі, без заганы і здрады.
Не для іх былі згубы пачатак — інтрыгі і звады.
Кіраваліся не самавольствам, не злюсцю, а верай!
Не зухвальства — сумленне было для іх мерай.
Пазбягалі хлусні, да багацця, як зараз, не рваліся.
Цанілі свабоду, ад парадку, ад розуму не адмаўляліся.

Згода, мудрая пакора, пільнае шанаванне закону,
Магутнасць сляпая ні ўлады не мела, ні плёну.
Пры іх чужынцы краіну, як авечку ваўкі, не рвалі,
Тыранамі не былі, людзей за рабоў не трымалі.

Ці быў той век справядліва залатым названы?
Няўжо ўрад не меў хоць дробязнай заганы?
Дзе ўлада — там і зло. Сказаць жа лепей будзе:
Раней урад быў злы, ды праўду шанавалі людзі.

Заўжды чарговы абарот свет з горам зводзіў.
Па залатым век іншага металу надыходзіў.
Медзь выцясняла срэбра. Хто ж паручыцца за сына,
Што па жалезным бацьку будзе ён не з гліны?!
Ужо прыкметы золата з душы Багіня часу сцерла.
Сталёвыя мячы іржа, як футра моль, пажэрла.
Свабода растаптана ў імя заўжды «святой прываты».
Засценкі стогнуць, шалёныя, рагочуць маястаты.

На пергаменах Статута злачынства толькі пакарана,
Закон адзін для ўсіх там — для пахолка і для пана.
Ды ўсё няпраўда гэта… Хлусяць правасуддзя шалі,
Дзе вострыя меч і золата да ўлады шлях прыдбалі.

О вы, што ўладарылі над краем нашым бедным!
Ляжыце ў трунах, сном спіце жалезным.
Няўмольны лёс для ўладароў… Блукаць па свеце годзе.
Вавельскім сном сплацілі рэшту вы прыродзе.
Каб хоць на міг паўстаў, адпрэчыў Боскі план

Непераможны Уладзіслаў або кароль-жаўнер Стэфан.
Ён быў бы сведкам, як у бездань Каралеўства
Штурхаюць слабасць, злосць, бяспраўе і шаленства.
Чужынцаў гвалт у сяброўстве з хатняю нязгодай
Урываюцца, як віхар страшны, у жыццё народа.
Айчыну кідае, як карабель падчас жахлівай навальніцы.
Бязладдзе — вось прычына зла, бяды крыніца.

У тлуме дзікіх душ улада сірацее,
Ні загадаць, ні папрасіць яна не ўмее.
Хада гісторыі спынілася! Час — усё, што маю.
Гісторыю хвалю, сучаснасць — толькі лаю.





# ПАДЧЫНА. УСПАМІНЫ. ДАКУМЕНТЫ

ІВАН АНОШКІН

## Рабінка

*Апавяданне*

Зорнай, кароткай-кароценькай ночкай Сямён выпраўляў Насцечку да цягніка. Насцечка ехала ў свой Лужок на летнія канікулы. Паколькі цягнік адыходзіў яшчэ не хутка, а чацвёртай гадзіне, то знайшлі сабе зацішнае месцейка ў прывакзальным скверыку.

На сэрцы ў Сямёна было троху радасна, троху сумна. Радасна таму, што ўчора здаў апошні экзамен, засталося атрымаць дыплом і прызначэнне ў школу. Сум жа наводзіла само гэта расстанне. Насцечка скончыла толькі першы курс, вучыцца ды вучыцца яшчэ! Цэлы год!

Цэлы год… Яно, бадай, не так і доўга. Бо і сам нават не ўгледзеў, як апошні год праляцеў. Ну ці даўно, здаецца, была восень… З усіх бакоў, з блізкіх і далёкіх месцаў, з'язджаліся дзеці. У інтэрнаце — шум і гам. «Петрык!.. Здароў, братка!..» — «Здароў, Сёма!» І пляскалі адзін аднаго па плячы, гарэзліва штурхалі кулакамі пад бакі, сціскалі ў абдымках. Захоплівалі месцы каля вакна, ды каб з тумбачкай. Выкладвалі на агульны студэнцкі стол яблыкі і ўсякую матчыну ежу. Хто пыхліва, хто паблажліва глядзелі на першакурснікаў.

А на першакурсніц? Зноў жа — хто як.

Шторання хлопцы штурхаліся на пляцоўцы перад лекцыйнай залай. У чаканні званка распавядалі анекдоты, сваволілі. Кідалі задзірлівыя шпількі-словы, калі па лесвіцы падымаліся інстытуцкія прыгажуні. Не ўмелі зайздросціць шчаслівчыкам, на якіх такія царэўны звярталі ўвагу. У першы ж дзень прыкмецілі харошанькіх і паміж новенькімі.

А Насцечку ніхто не заўважыў, ніхто не змеціў. Можа, што нічым не вылучалася з нясмелага, смяшлівага дзявоцкага табунка — хіба мала такіх кожную восень прыязджае з вёскі ў Дняпроўск. Прашмыгне шэрай мышкай у аўдыторыю, пасля заняткаў — у сталоўку, увечары — у чытальную залу. Мабыць, і Сямён не прыкмеціў бы яе ў шумнай таўханіне. Можа, толькі ў твар і ведаў бы, калі б не той, ёдкім восеньскім днём, нядзельнік.

Перад Кастрычніцкім святам якраз насупраць свайго інстытута, на былым кірмашовым пляцы, закладвалі парк Рэвалюцыі. То выпраўлялі ў лес каго па слупкі і жэрдкі, каго па саджанцы. Сямён прыбег, калі хлопцы з'ехалі ўжо. Заставалася хіба што ямы капаць. Але і тут няўдача: пакуль засмучана глядзеў услед грузавіку, дзяўчаткі расхапалі лапаты. Няўжо якая саступіць? Толькі пасмяяліся: «Праспаў? Санлівы і лянівы — братачкі!..» Ад сораму хоць у яму праваліся. Добра, Восіп Мацвеевіч, географ, выручыў: «Што, нясмеламу няма дзе падступіцца? Нічога, будзеш каморнікам. Аддай, Насцечка, яму тэадаліт!..»

Хай сабе цацка на трыножку, накшталт фотаапарата, не такая ўжо і грувасткая, але кволай дзяўчынцы будзе валтузні і са сталёвай рулеткай ды няўклюднай драўлянай нівелірнай рэйкай. Аднак жа каморніка з Сямёна, як ні стараўся, не атрымалася. Зірне ў зашклёную трубку, а там Насцечка на галаве ходзіць — нават смех разбірае. З-за сваёй несур'ёзнасці вышэй падсобніка не падняўся: перанясе з месца на месца трыногу, заб'е, дзе пакажуць, калкі. А Насця (вось табе і сельская дзяўчынка, першакурсніца!) адразу стала спрытнай памагатай Восіпу Мацвеевічу. Зрэшты, ніякага дзіва ў тым няма: на іх гісторыка-геаграфічным факультэце студэнты, пэўна, ужо займаліся межаваннем, вымяралі вуглы гэтай прыладай…

— Не забылася, Насцечка, як ля Дняпра дубок і рабінку пасадзілі? — аддаўся марам неспадзеўкі Сямён, шчыльней прыціснуў да сябе сваю радасць.

— Хіба забудуся? — ціхенька засмяялася Насцечка, саромеючыся, адвяла гарачую Сямёнаву руку. — Хай растуць… На памяць…

— Так… Калі-небудзь прыедзем, пасядзім над рэчкай у цянёчку…

А пакуль сядзелі на лавачцы ў прывакзальным скверыку. Над імі прыціхла, быццам хацела падслухаць чужыя сакрэты, цікаўная бярозка, і сама з ветрам шапталася — шу-шу-шу, быццам хто авёс перасыпаў. У кусце акацыі прачнулася, ціўкнула нейкая птушачка, з-за перона прастуджаным басам адгукнуўся паравоз. Прастукалі падковы па бруку: няйначай, усяму гораду вядомы рамізнік-балагол Шмерка прывёз да цягніка заспаных пасажыраў.

— Ой, можа, пачалася пасадка? — спахапілася Насцечка.

— Пайшлі на перон!

Але абодва нават не варухнуліся, захмялелы ад шчасця Сямён яшчэ мацней абняў сваю Насцечку.

— Сёма!.. Вакол жа людзі!..

— Каго нам баяцца?

— Што падумаюць?

— Падумаюць, што пажаніліся… Дык жа… Цэлы год…

— Спознімся…

— А, праўда, як бы не спазніцца, — і Сямён падняў чамадан.

Якраз своечасова паспелі: толькі што абвясцілі пасадку. Восьмы вагон — у канцы саставу. Давядзецца стаяць усю дарогу, калі зойдзеш апошнім. Зараз на чыгунцы самая тугая плынь: валам павалілі студэнты.

Уздоўж цягніка быццам кіпела. Чарга загаціла платформу, не давала выйсці пасажырам. А хай выходзяць — вальней будзе ў вагоне. Вось ужо і Насцечка ўхапілася за поручні, паднялася, як па трапе. Сямён над людскімі галовамі падаў чамадан. Падаў і перабег на суседнюю платформу: збоку лепей бачна, што робіцца ў вагоне. Ага, вунь яна. Вунь як, мілая! Нейкі чубаты хлопец (Сямёнава сэрца балюча сціснулася) дапамог Насцечцы падняць на багажную паліцу рэчы. Насцечка ўсміхнулася: здавалася, мяккае святло забруілася з яе чыстых, як кропелькі расы, вачэй. Не, зусім не таму чубатаму ўсміхалася — Сямёна заўважыла. Праціснулася да вакенца.

— Глядзі там, Сёма, каб у школе ўсё было добра!..

— Абы трапілася добрая школа!

— І сам будзь добры! Не заманіся вучняў дзерці за вушы!

— А калі заслужаць? — зноў павесялеў Сямён.

— Не чытаў Макаранкі?..

— Напішы, як даедзеш!

— А куды пісаць? Ты бо сам яшчэ не ведаеш!..

— «На-пиши ку-да ни-бу-у-удь…»

— Вось ужо, праўда, як у той песні…

Хто мог тады падумаць, што яно так і будзе! Хто мог тады падумаць, што якраз у гэты час на досвітку Мінск і Кіеў абудзілі бомбы!

* * *

Збіраўся ў школу Сямён, а патрапіў да чорта ў зубы. Урочышча так і называлася — Чортаў зуб. Можа, таму, што з чэзлага хмызняку на пагорку, быццам ікол фантастычнай пачвары, вытыркаўся шэра-зеленаваты валун. За грудам цягнулася балаціна, а з іншага боку прылягаў круты яр. Міма валуна жоўтым палавікам пралягла гравійка.

Сямён так і не атрымаў у інстытуце дыплом. Не да выпускнога вечара было. Хлопцы, не чакаючы позваў, рынуліся ў ваенкамат. А там ужо людзі з усяго наваколля!

Каб гэта адслужыў сапраўдную службу ў арміі, прасцей бы да ваенкаматаўскіх камандзіраў падступіцца. Перш-наперш стрыглі навучаных салдацкай справе. А да настаўнікаў, да студэнтаў калі яшчэ чарга дойдзе. Пашанцавала, што сустрэў тут Восіпа Мацвеевіча.

— У апалчэнцы, бач, запісаўся, — паказаў географ вінтоўку. — Мэблевай фабрыкі.

— То, можа, і мяне?..

— Паспрабуй!

Упрасіў-такі. Запісалі. Не бяда, што хтосьці пакеплівае:

«Батальён мэбельшчыкаў? Гэта што ж — для мэблі? Для большай колькасці?»

Але мэбельшчыкі — нуль увагі на злыя жарты. Большасць то былі сталыя, у гадах ужо дзядзькі, якія пабачылі немца яшчэ ў Першую сусветную вайну. А сам дырэктар фабрыкі Тарас Каржанец, быццам апраўдваючы сваё імя і

прозвішча, гэтакі прысадзісты, камлюкаваты вусач, меў нават ордэн з грамадзянскай. То і маладыя апалчэнцы, хоць да таго не трымалі ў руках ніякай зброі, акрамя дробнакаліберкі, жадалі паказаць сябе бравымі салдатамі. Бо салдатамі не нараджаюцца, успамінаўся нечы афарызм.

У мітусні тых суровых дзён Сямён нават забыўся пра Насцечку. Радыё прыносіла трывожныя весткі. Фашысты захапілі ўжо Мінск. Бамбілі Дняпроўск, прыстань і чыгуначную станцыю. Апалчэнцы ні днём, ні ноччу не мелі перадыху. Вучыліся стральбе і кідаць гранату. У розных канцах горада тушылі пажары. Лавілі досвіткам высачаных фашысцкіх парашутыстаў. Нарэшце Сямён знайшоў хвіліначку, чыркануў колькі слоўцаў сваёй Насцечцы. А ўвечары фабрычныя грузавікі-паўтаратонкі перакінулі батальён да гэтага самага Чортавага зуба.

Пакуль развіднела, перакапалі гравійку глыбокім ровам і самі абкапаліся. Загад быў кароткім: не прапусціць ворага па дарозе. Дарога вяла прама ў Дняпроўск.

Дзень разгараўся ясны, празрысты. Сонца, быццам залатой коўдрай, выслала поле, наваколле. Гулі-звінелі пчолкі, крылцамі ўсіх колераў і адценняў трапяталі матылькі. Любавацца б прыгажосцю роднага Прыдняпроўя, слухаць перашэптванне вербавых лісточкаў. Ды на сэрцы нібы коткі скрэблі…

Сямён з вачэй не спускаў гравійку, а ў галаве, як узоры ў калейдаскопе, наплывалі думкі, бачыліся карціны, інстытут, экзамены, што, здавалася, былі даўно і далёка. А Насцечка — быццам з казкі…

…Пасадзіўшы тыя дубок і рабінку, Насця тоненькім, прыемным галаском заспявала: «Если б мне, рябине, к дубу перебраться…»

І Сямён тады раптам адчуў сябе гэтакім волатам-дубам, Насцеччыным верным абаронцам. Хай сабе ніхто яе не крыўдзіў, ніхто не збіраўся на яе замахвацца… Ніхто не збіраўся? А гэтыя самыя… Фашысты! Ужо тады…

«Тра-та-та-та!..» — нібы правёў хто кіем па частаколе.

Сямён ачуўся, машынальна прыціснуў да пляча прыклад: гэта ж з-за валуна сыпанулі з кулямёта. Па гравійцы імчалі ў чорным матацыклісты — вось-вось кульнуцца ў роў. Зусім няма патрэбы на іх траціць патроны: самі сабе зломяць галовы. Але, відаць, ад тахкання сэрца грукнула і Сямёнава вінтоўка. Першы матацыкліст паляцеў пад схіл.

— Ёсць адзін! — крыкнуў Сямён, але тут жа астудзіў свой трыумф: можа, то з кулямёта, можа, хто іншы пацэліў… Ну і што? Абы валіліся! Куляліся б нежывымі ў роў! Вунь другі распластаўся на дарозе, вунь трэці… Немцы, як чорныя здані, распаўзаліся па лагчыне. Застрачылі іх аўтаматы. Брыдка засвісталі над галавой кулі.

«Матацыклісты, — здагадаўся тады Сямён, — толькі разведка».

І сапраўды, неўзабаве данёсся рокат матораў. Танкі!

Аднойчы, яшчэ ў дзяцінстве, Сямён выпрабаваў жах танкавай атакі. Бадай, то была не атака, а толькі падалося. Да таго ж, як пазней даведаўся, то былі і не танкі — танкеткі. Тым летам праходзілі ваенныя манеўры. Сёма вяртаўся з ягад, калі вось так з-за ўзгорка загрымела. Спалоханы, прыціснуўся

да прыдарожнай бярозы, а міма грозна грукаталі гусеніцы. Але ж тады былі манеўры. Бо то былі свае, нашы… А тут… Колькі ж іх?!. Няўжо пяройдуць роў? Што зробіш танку з вінтоўкай ці нават з кулямётам? Раптам бабахнула, і на гравійцы ўзвіхрыўся цёмна-шэры слуп. Гармата? Адкуль узялася? Ды тут і чырвонаармейцы! Б'юць снарадамі па дарозе. Ура! З пярэдняга танка паваліў дым. Малайцы артылерысты!

Загрукатала і з іншага боку, ад балаціны. Адтуль вось-вось пакажацца танк. І танк паказаўся. Праскочыў дзесьці ў абыход. «Цяпер загінем», — сціснулася сэрца. Усіх перадáвіць! Там яго гарматай не дастанеш. Хаця б прайшоў міма, наводдаль ад Сямёнавага акопчыка… Недзе наўзбоч… Наўзбоч?! Адзін і другі?.. А прарвуцца ж у Дняпроўск… І ў Насцеччын Лужок… Сямён ужо і не думаў, што хтосьці іншы павінен спыніць танк. Схапіў адзіную гранату, папоўз насустрач смерці. Ды нехта апярэдзіў. Хтосьці падхапіўся, размахнуўся, кінуў гранату. Зямлю скалануў выбух. Танк быццам падкінула, паволі нахіліўся, асеў. І дзядзька Тарас асеў, паваліўся…

Уначы пахавалі свайго камандзіра Тараса Каржанца. Восіпа Мацвеевіча таксама пахавалі. І яшчэ многіх апалчэнцаў. Пахавалі і адступілі. Адыходзілі і днём. Сямён ужо не чакаў ад сваёй Насцечкі вестак.

А потым ляжаў Сямён у шпіталі. І мроіліся яму Насцеччыны льняныя косы. У трызненні бачыў, быццам схілілася мілая над самым ложкам. У сініх вачах — скруха і дакор. Эх, Сёма, Сёма! Кляўся, што кахаеш, ды пакінуў на здзекі…

Насця-Насцечка! Гаротная рабінка! Як табе прыйшлося ў тваім Лужку?..

Сямёну так і не прывялося пабываць у тым Лужку, але быццам уласнымі вачамі бачыў убаку ад гасцінца вёсачку, саламяныя дахі, за частаколам садочкі. Вельмі ўжо складна расказвала Насцечка пра свой Лужок.

Увесь гарачы, Сямён кідаўся на цвёрдым тапчане. Ірваўся вызваляць бедную рабінку… І смерць уважыла, адпусціла салдата на вайну…

* * *

Вайна, вайна… І яе канец Сямён сустрэў на шпітальным ложку. Без нагі, без рукі, са знявечаным тварам. Ну каму, каму ён такі патрэбен?!

У расчыненае акно ўрывалася музыка. Начное неба аздаблялі феерверкі перамогі. А Сямён, уторкнуўшыся тварам у падушку, употай ад людзей плакаў. Навошта ацалеў? Чаму не закапалі дзе ў брацкай магіле? Анідзе роднага, блізкага чалавека!

Бацькі Сямён не памятаў. Маці знайшла сабе іншага і з'ехала на край белага свету. Гадавалі яго бабуля, дзіцячы дом… Успомніў інстытут… Насцечку…

Насця-Насцечка!.. Дзе ты, рабінка? Напісаць у твой Лужок? Можа, адзавешся? Але ці мае права такі вось, нікуды не варты, дамагацца жалю, навязвацца?

З галавы не выходзіла песенька, якую сумна спявалі ў шпіталі параненыя. Вяртаўся салдат з вайны. Ляжаў на брычцы — толькі галава тырчала з-пад

плашч-палаткі. Папрасіў фурмана, каб клікнуў з хаты жоначку. Выбегла маладзіца, а салдат: « Не плачь, жена, злой врач откорнал обе мои ноженьки…» Цуралася калекі маладзічка: «Чикильгай помаленечку, как-нибудь проживёшь…» Але ж у песні хітры салдат правяраў вернасць жонкі: ацалелі яго рукі і ногі…

Зрэшты, хоць і не паспелі пажаніцца, Насцечка не адштурхнула б, вядома, пашкадавала. Ды толькі дзе жаль, ці застаецца там каханне? Якое ўжо там каханне да такога вось калекі! Насця ж любіла ва ўсім прыгажосць. Бывала, паўтарала чэхаўскія словы: «У чалавеку павінна быць усё прыгожым: і твар, і адзенне, і душа, і думкі». Прыгожую адзежу можна набыць. Душа Сямёнава (гэта ён ведае) не кепская. А твар?

Хоць вельмі кахаў Сямён сваю Насцечку, але і тады, у настаўніцкім інстытуце, не заўсёды яе разумеў. Не ва ўсім, бывала, прыходзілі да згоды. Колькі часам спрачаліся! Неяк Сямён давай пасмейвацца з купрынскага Рамашова. Нікчэмны афіцэрчык! Не хапіла сілачкі адабраць у іншага каханую. Як жа тады Насцечка абараняла таго небараку! Маўляў, затое хапіла сілы сярод тых салдафонаў застацца чалавекам!

Чалавекам!.. А вось у яго, у Сямёна, ці хопіць сілы застацца Чалавекам?..

Сямён не разумеў і не хваліў тады Насцін запал, быццам у смаркатай пяцікласніцы, да Майн Рыда, Вальтара Скота, Фенімора Купера… Ну, што асаблівага ў «Айвенга» ці «Апошнім з магікан»? Так сабе, баечкі. Насцечка, бывала, на гэта смяялася: «Сказка ложь, да в ней намек, добрым молодцам урок…» А то за горадам, калі заканчвалі збіраць бульбу інстытуцкай дапаможнай гаспадаркі, пачне на памяць чытаць:

Ласточки пропали,
А вчера зарёй
Всё грачи летали
И, как сеть, мелькали
Вон над той горой…

Знайшла кім захапляцца! Фет — самы што ні ёсць рэакцыянер! Калі праязджаў міма рэдакцыі «Современника», нават пляваў з акна карэты. І Майкаў, і Цютчаў такія ж! Пра Буніна і казаць не варта — белаэмігрант! Лекцый на філалагічным Насцечка не слухала, не ўсё, відаць, ведала. То хіба яе пераканаеш? Не дзяўчына — загадка!

Аднак не Сямёну зараз тую загадку разгадваць. Насцечка, нібы нейкая нязведаная мара, была заўсёды з ім і ў той жа час заставалася нейкім даўнім сном. Насцечка снілася ў выглядзе рэмбрантаўскай Данаі. Ды не Сямёну суджана пераўвасобіцца ў сонечны прамень, каб пракрасціся да яе ў вежуцямніцу. Таму што і сам апынуўся ў цямніцы, якою стала для яго шпітальная палата.

Дні складаліся ў тыдні, тыдні — у месяцы… Грубелі рубцы пад бінтамі. Станавіліся зноў пругкімі мускулы ацалелай рукі, і яна ўжо трымала мыліцу. Ды не гаіліся душэўныя раны. З імі і падаўся за вароты. «Чикильгай помаленечку, как-нибудь проживёшь…»

Так і чыкільгаў, жыў пакрысе. Закрадвалася і ўсё мацнела думка напісаць у запаветны Лужок.

Пісаць не стаў — намерыўся з’ездзіць. Не адразу пасля шпіталя, а калі ўжо адчуў цвёрдасць нагі ў адзіным чаравіку. Калі ўжо школьнікі перасталі палохацца шнараў на яго твары. Вырашыў з’ездзіць так сабе — як былы сябар далёкай маладосці, як знаёмы да знаёмай, а можа, вагаўся, нават і не паказвацца Насцечцы на вочы? Зірнуць здалёку ці толькі распытаць у суседзяў…

…Шафёр самазвала быў не тутэйшы, але ведаў усе вакольныя дарогі. З вясны развозіў па раёне то вапну, то мінеральныя ўгнаенні. Да Лужка ад шашы якіхсьці дзвесце метраў. Вунь за садамі блішчаць дахі!

Сямён падзякаваў хлопцу, праводзіў вачамі самазвал, пакуль не схаваўся за грудам. Размінаючы зацёклую ў кабіне нагу, закульгаў на прасёлак. І тут помнік? Сцягнуў з галавы кепку і… здрыгануўся. Пад кашуляй пабеглі мурашкі…

Насцечка, быццам жывая, глядзела на гасцінец, па якім кацілі грузавікі, на сенажаць за дарогай, на пабурэлыя башлыкі стагоў. Вось-вось прыветна кіўне галавой, усміхнецца…

«…1923–1942…»

Насця-Насцечка! Рабінка…



ІВАН АНОШКІН

Аношкін Іван Архіпавіч нарадзіўся 21 студзеня 1928 г. у в. Антонаўка Чавускага раёна Магілёўскай вобласці. У гады Вялікай Айчыннай вайны падлеткам знаходзіўся ў канцлагеры «Азарычы». Першыя яго творы з’явіліся ў друку ў 1946 г. Першы зборнік апавяданняў і гумарэсак «Лішні мінус» выйшаў у 1959 г., усяго ім выдадзена больш за 10 кніг розных жанраў. Працяглы час працаваў сакратаром Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. Памёр 3 лютага 2013 г.

ТАМАРА АЎСЯННІКАВА

## Яе талент быў навідавоку

*Старонкі жыцця Яўгеніі Янішчыц*

Адметнасць творчасці і асобы Яўгеніі Янішчыц — святло. У адным яшчэ школьным вершы яна выказала жаданне «беляхцець» у небе хмаркамі, «каб на белых крылах разнясці святло». Гэтае святло яна несла сваімі творамі ўсё жыццё. І ў памяці тых, хто яе ведаў, яна засталася таксама светлым чалавекам. Кажуць, калі хочаш лепш зразумець паэта, трэба пабываць на яго радзіме. Піншчыну я наведала ў 2011 г. У жывапісных мясцінах раскінуліся чатыры вёскі — Мерчыцы, Велясніца, Рудка і Парэчча, — з якімі звязана дзяцінства і школьныя гады Яўгеніі Янішчыц. Усё ўразіла: і рака Ясельда, апетая ёю, і наваколле, і парк з 36 экзатычнымі відамі дрэў, і Парэчча ў пяць кіламетраў даўжынёю. Добрая і Парэцкая школа. Яна была адкрыта ў 1863 г. Будынак, у якім вучылася Жэня, узведзены ў 1956 г. Школа і адна з вуліц вёскі носяць імя Яўгеніі Янішчыц.

У Рудцы, 20 лістапада 1948 г., Жэня нарадзілася. Яе бацькі, Іосіф Сцяпанавіч Патапчук і Марыя Андрэеўна Янішчыц, працавалі ў калгасе. Бацька іграў на гармоніку, і ніводнае свята ў вёсцы не абыходзілася без яго.

У 1955 г. Жэня пайшла ў першы клас Рудкаўскай пачатковай школы. Яе першая настаўніца **Вольга Васільеўна Новак (Лойка)** успамінае: «Жэня расла цікаўнай дзяўчынкай. Вучылася добра. Яна лепей за ўсіх пісала сачыненні. Асабліва любіла апісваць поры года. Выразна дэкламавала вершы, добра чытала прозу. Пачатковая школа размяшчалася ў звычайнай вясковай хаце, Жэнін дом быў насупраць. Тады першы клас вучыўся разам з трэцім, а другі — з чацвёртым. Пасля заняткаў Жэня часта ў школе заставалася, яе маці прыбірала ў класах. Бывала, правяраю сшыткі, а Жэня побач стаіць — яна любіла глядзець, як я сшыткі правяраю, — і гаворыць: «Вольга Васільеўна, я так люблю чытаць, а матэматыку не люблю». Нічога, Жэнечка, кажу я ёй, ты дзяўчынка разумная і ў матэматыцы разбярэшся.

Што яшчэ запомнілася? Жэня любіла спяваць. Я жыла ў Мерчыцах, на веласіпедзе ездзіла ў школу. Еду дадому, а Жэня сядзіць на плоце і песні спявае, народныя: «Каля грэблі шумяць вербы», «Біла мяне маці беразовым прутам», «Чаму не прыйшоў, як месяц ўзышоў» і іншыя. Яна ад маці іх пераймала. Мне скажа: «Да пабачэння, Вольга Васільеўна», рукою махне і далей спявае.

Ці адчувала я, што Жэня стане паэтам? Што такім, мабыць, не. Але аднойчы яна мяне здзівіла. Не магу дакладна сказаць, у якім гэта было класе, мабыць, у трэцім, але добра помню, што па вуліцы ішоў статак кароў. Жэня стаяла, глядзела і раптам выпаліла:

Идут коровы чередой,
Несут с собою сыродой.

Была ў ёй нейкая адметнасць. Шчырасць. Мая дачка паступала ў інстытут. Ідзём мы з ёю па Мінску, і чую — мяне хтосьці кліча. Азірнулася — Жэня бяжыць. Абняла мяне, пацалавала, распытала, у госці запрашала, але я не хадзіла, часу не было. На вакацыях Жэня працавала ў Мерчыцах у піянерскім лагеры. Падаравала мне дзве кнігі з вершамі» (запісана са слоў В. В. Новак 20.01.2012).

Затым Жэня вучылася ў Мерчыцкай васьмігодцы. У гэтай школе талент будучай паэтэсы праявіўся больш ярка. Дырэктар школы і настаўнік беларускай мовы і літаратуры Аркадзь Міронавіч Грэчка даў заданне падрыхтаваць верш Я. Коласа «За падаткі». У Жэні нарадзілася думка: а што, калі самой напісаць верш і прысвяціць яго Я. Коласу? І яна напісала свой другі верш. Першы быў прысвечаны маме, ён не захаваўся, яго Жэня напісала ў Рудкаўскай школе. Аркадзь Міронавіч падтрымаў дзяўчынку ў яе творчых памкненнях. У музеі Парэцкай школы захоўваецца «Тетрадь для собственных сочинений», у якой Жэня запісала: «Затем мне посоветовали писать дальше и не останавливаться на достигнутом. И целью моей жизни был и будет лозунг: “Искать и найти, найти и не сдаваться”».

Напачатку Жэня пісала і на беларускай мове, і на рускай. Усе вершы акуратна занатоўвала сваім прыгожым почыркам у сшытках, спецыяльна для гэтага заведзеных. Там яна пазначыла і свае першыя крокі ў паэзіі, пачынаючы з верша, прысвечанага Якубу Коласу. А калі ў газеце «Полесская правда» за 12 студзеня 1963 г. быў надрукаваны верш «Голуб», яго Жэня напісала за 27 хвілін у Пінску, пра што згадвае аднакласніца і сяброўка Раіса Ганчарык: «Гэта стала вялікай падзеяй у жыцці Жэні і Мерчыцкай школы, было многа радасці і лікавання. Менавіта пасля верша “Голуб” Жэня ўсур’ёз задумалася аб паэзіі».

Аб вучобе Жэні ў Мерчыцкай школе свае ўспаміны пакінула настаўніца рускай мовы і літаратуры **Кацярына Васільеўна Патапчук (Шчурэвіч)**. Яны захоўваюцца ў музеі паэткі. «Жэня Янішчыц вучылася ў Мерчыцкай васьмігадовай школе 4 гады, з 1959 па 1963. Я адразу звярнула ўвагу на гэтую незвычайную дзяўчынку, яна мне вельмі спадабалася, яе любілі настаўнікі і вучні. Дзяўчынка была вельмі старанная, працалюбівая, сціплая, добразычлівая. Вучылася добра, любіла гуманітарныя прадметы, асабліва мову і літаратуру, выдатна пісала сачыненні. Калі я задала напісаць сачыненне на тэму: «Кім я мару стаць», то яна напісала на цэлы сшытак. Жэня марыла стаць настаўніцай, і мара яе збылася, яна стала не толькі настаўніцай, але і знакамітай беларускай паэткай.

Жэня Янішчыц любіла сваю малую Радзіму, родную прыроду, людзей, шмат вершаў ім прысвяціла, ніколі не зазнавалася, была простай у размовах з людзьмі. Я захавала два яе рукапісныя вершы. «Пісьмо да настаўніцы» датавана: 1 верасня 1964. Вось некалькі радкоў з гэтага верша:

Абяцаю, што ўсё асілю я…
Вецер ходзіць, пяе за стаўнямі.
Добры дзень, Кацярына Васільеўна,
Дарагая мая настаўніца.

У «Палескай праўдзе» за 1962 г. была змешчана падборка яе артыкулаў пад назвай «Заметки из колхоза “Большевик”, дзе яна пісала пра сваіх землякоў, пра любімых настаўнікаў. А калі Жэня, ужо вядомая беларуская паэтка, прыязджала да маці ў сваю родную вёску Рудка, яна ніколі не абмінала маёй хаты. Мы садзіліся на канапу і гутарылі пра жыццё-быццё. Я вельмі ганаруся тым, што такая вядомая беларуская паэтка вучылася ў Мерчыцкай школе».

У Парэцкай сярэдняй школе паэтычныя крылы Яўгеніі Янішчыц акрэплі і ўзнялі яе высока над зямлёю. Вялікая роля ў гэтым належыць настаўнікам, з якімі я мела шчасце гаварыць. На вялікі жаль, з самым галоўным настаўнікам Жэні, Фёдарам Фёдаравічам Цудзілам, мне не давялося ні ўбачыцца, ні пагаварыць.

Расказаць аб Жэні я папрасіла былога бібліятэкара Парэцкай сярэдняй школы **Антаніну Міхайлаўну Нікалайчык**. «Бібліятэка для Жэні — святое месца. Ніколі не праходзіла міма. Як толькі з'явілася ў нашай школе, то першай прыйшла ў бібліятэку. Помню, як Фёдар Фёдаравіч стаяў у калідоры і размаўляў з Жэняю, дзверы бібліятэкі былі адчынены. Потым яны зайшлі, і Фёдар Фёдаравіч падаў мне часопісы: “Полымя”, “Маладосць” і “Юность” і папрасіў запісаць на Жэню. Так і павялося — спачатку часопісы чытаў Фёдар Фёдаравіч, а потым Жэня. Фёдар Фёдаравіч — свяціла нашай школы. Калі ўзнікала якое пытанне, то ўсе звярталіся да яго. Фёдара Фёдаравіча запрашалі на працу ў Мінск, але ён не паехаў.

Вучылася тады ў Парэцкай школе каля пяцісот вучняў. Выпускнікоў сто чалавек. А фонд — тысяч шэсць. Кніг не хапала. Праграмныя творы Жэня брала першай, яна хутка чытала. Чытала многа. Цікавілася паэзіяй, навінкамі. У яе фармуляры заўсёды былі ўкладышы. Калі брала кнігі, то заўсёды гаварыла: “Мне гэтыя, — называла якія, — і для душы”. Аднойчы зайшла такая вясёлая, радасная, з лістком у клетачку, а на ім верш — “Радзіме”. Прачытала мне. Потым гэты верш быў надрукаваны ў газеце. Пасля заканчэння школы, калі б ні прыязджала Жэня дадому, заўсёды заходзіла да Фёдара Фёдаравіча і ў бібліятэку. Яна абяцала правесці вечар паэзіі ў школе, ды так і не паспела. Помню, што ў 1979 годзе Жэня заходзіла ў бібліятэку. Фёдар Фёдаравіч у той дзень кансультацыю праводзіў па літаратуры. І ён цэлую гадзіну прысвяціў творчасці Жэні. Мая дачка Таня расказвала аб гэтай сустрэчы: “Як светлы ручаёк яе голас ліўся”.

Смерць Жэні для нас была шокам. Фёдар Фёдаравіч зайшоў у бібліятэку і ад хвалявання не мог слова сказаць… Я штогод рабіла выставы па творчасці Жэні: размяшчала яе кнігі, артыкул “Звенит речка Ясельда”, які напісаў Антон Квір, таксама наш выпускнік; кнігу “Натхненне” (універсітэцкае выданне), там Жэнін верш змешчаны. Пасля яе смерці ў мяне была пастаянная

выстава — “Паэзія любові і святла”. Я любіла Жэню і паважала. Яна добры чытач» (запісана са слоў А. М. Мікалайчык 21.01.2012).

Прыемнай была размова і з **Марыяй Аляксееўнай Астахавай**, настаўніцай геаграфіі і гісторыі: «Я заўсёды гавару, што жыццё падарыла мне вучаніцу, якую немагчыма забыць. Помню, як у школу прыйшла хударлявая дзяўчынка, вельмі сціплая, шчырая, абаяльная, з вялікім жаданнем вучыцца. На ўроках заўсёды ўважліва слухала. Я расказваю, а яна глядзіць на мяне такімі разумнымі вочкамі. Так, вочы, Жэніны вочы запомніліся. Калі ў класе з’явілася Жэня, хацелася даць як мага больш, выйсці за рамкі падручніка. Жэня вельмі добра адказвала, не проста завучвала. Галасок яе ўсё слухаў бы і слухаў. Класы вялікія былі. Адна вучаніца мне і гаворыць: “Марыя Аляксееўна, вы пачынаеце чвэрць з Жэні і заканчваеце Жэняй?” — “А я люблю слухаць, як Жэня адказвае”, — кажу я ёй. У лютым 1964 года так сціпла мяне сустракае і дае лісток з вершам, прысвечаным мне. Верш я перадала ў музей. Аднаго разу я вярталася з Лагішына, — працягвае ўспамінаць М. А. Астахава, — наганяе мяне Жэня: “Марыя Аляксееўна, давайце я вам дапамагу”. Ідзём, размаўляем пра любоў да жыцця, да прыроды. Я і пытаюся: “А куды ты, Жэня, ідзеш?” — “Я вас правяду”, — адказвае. Так і давяла мяне да самай хаты, а гэта далёка. Жэня была добразычлівай дзяўчынкай. Яе любілі аднакласнікі. Я вельмі шкадую, што ў Мінску не зайшла да яе, сын мой паступаў. Яна гасцінна запрашала, а я падумала, як я з ёю гаварыць буду, яна ж такая знакамітая. І не пайшла.

Як даведалася пра трагедыю? Я працавала ў Пінкавічах, расказвала пра Жэню, вершы яе чытала. Там музей Якуба Коласа ёсць. Падыходзіць да мяне той восенню адзін вучань і кажа: “Вы нам пра Яўгенію Янішчыц расказвалі. Дык яе няма”. Так і даведалася» (запісана са слоў М. А. Астахавай 21.01.2012).

**Зінаіда Афанасьеўна Шпакоўская**, настаўніца хіміі, расказала, што хімія Жэні давалася цяжкавата. Запомнілася ёй, як Жэня і Фёдар Фёдаравіч на перапынках каля акна стаялі і аб чымсьці гаварылі.

Аб чым яны маглі гаварыць, я думаю, няцяжка здагадацца. Аб паэзіі, канешне.

**Тамара Цітаўна Гагалінская**, настаўніца матэматыкі: «Аб Жэні ў мяне самыя светлыя ўспаміны. Яна была вельмі эмацыянальнай дзяўчынкай, рамантычнай, шчырай і жыццярадаснай. У класе Жэню любілі. Па матэматыцы ў яе не заўсёды атрымлівалася, але яна старалася. Я часта Жэню параўноўвала з Пушкіным, талент яе быў навідавоку, і гаварыла: Жэня, у цябе, як у Пушкіна, усё раўняецца нулю. Я ведала, што займацца Жэня будзе літаратурай і матэматыка наўрад ці спатрэбіцца ёй. Таму і даравала многае.

Помню адзін выпадак. Неяк прыехалі ў школу рабіць прышчэпкі, а Жэня вельмі баялася ўколаў. А калі ёй зрабілі прышчэпку, дзеці пасмяяліся і прапанавалі Жэні напісаць верш аб тым, як яна баялася ўколаў. Жэня — светлы чалавек, і вобраз яе незабыўны» (запісана са слоў Т. Ц. Гагалінскай 7.10.2012).

**Альфонс Іосіфавіч Гагалінскі**, намеснік дырэктара Парэцкай сярэдняй школы, настаўнік гісторыі: «У той час, калі вучылася Жэня Янішчыц, настаў-

нікі мелі такое грамадскае даручэнне, як агітатар. Агітатары былі і асветнікамі, і інфарматарамі, і выхавацелямі. Усе калгасныя справы адлюстроўваліся ў "Баявых лістках". Жэня нам у гэтым вельмі дапамагала. Мы давалі ёй інфармацыю аб передавіках вытворчасці і аб тых, каго трэба было "прапясочыць". Жэня выдатна спраўлялася. Яе вершы, асабліва сатырычныя, карысталіся вялікім поспехам. Іх баяліся, як агню. Жэня сама і афармляла "Баявы лісток", у яе быў цудоўны почырк. І школьны расклад урокаў яна пісала, і атэстаты выпісвала. На кожную просьбу Жэня адгукалася з радасцю. Яна была добрай вучаніцай і цудоўным чалавекам, шчырым і светлым. Яе працаздольнасць, акуратнасць, творчы падыход да любой справы, лёгкасць, з якой яна ўсё рабіла, здзіўлялі і выклікалі павагу. А якія Жэня пісала вершы! На школьных вечарынах усе чакалі, калі Жэня будзе чытаць свае вершы. Талент адчуваўся. У школе літаратурнае жыццё кіпела дзякуючы Цудзілу Фёдару Фёдаравічу, Жэні Янішчыц і Антону Квіру» (запісана са слоў А. І. Гагалінскага 29.10.2012).

**Антаніна Паўлаўна Сідарук**, дырэктар музея Яўгеніі Янішчыц: «Якой запомнілася мне Жэня? Як чытала свае вершы. У яе была вельмі добрая дыкцыя. Вершы яна чытала, як сапраўдная артыстка. Усе школьныя мерапрыемствы праводзіліся ў спартыўнай зале. Зала была маленькая, таму на вечарыны дапускаліся толькі дзеці 9–10-х класаў і лепшыя вучні 8-х класаў. Я вучылася ў восьмым, добра вучылася, таму і мела магчымасць прысутнічаць. Значнасць асобы Яўгеніі Янішчыц я зразумела пазней, калі працавала настаўніцай, калі пачала збіраць матэрыялы для музея. Маё жыццё і захаванне спадчыны Яўгеніі Янішчыц ужо знітаваныя і непадзельныя. Зараз я раблю Жэнін радавод. Дзякуй Богу, дакументы знайшліся» (запісана са слоў А. П. Сідарук 5.11.2012).

З аднакласніцай Жэні **Раісай Вікенцьеўнай Ганчарык** мы сустракаліся 30 студзеня 2012 г. і некалькі разоў гаварылі па тэлефоне. Яна самая блізкая школьная сяброўка Жэні, вучылася з ёю з першага класа да выпуску. Раіса Вікенцьеўна расказала ўсё, што захавала яе памяць: «Каля Рудкаўскай школы быў лужок, і мы любілі на ім гуляць. Здаралася, вымачымся і бяжым да Жэні сушыцца. Мама яе была хлебасольнай, заўсёды піражкамі частавала. Мы залазілі на печ і гаварылі аб усім на свеце. Аднойчы дагаварыліся да таго, што Жэня і кажа: "Рая, а давай сходзім на могілкі. На вуліцы такое надвор'е, вецер, а на могілках столькі людзей, можа, мы што пачуем, убачым". Мы апранулі нейкія доўгія адзежыны (восень была) і пайшлі цераз поле. Ідзём, з ветрам змагаемся, моцны вецер быў. А вось ці дайшлі мы да могілак, я не помню. Мабыць, не. Вучыліся тады мы ў пачатковай школе.

Была яшчэ адна гісторыя з намі. Нас папярэдзілі, што будуць рабіць прышчэпкі. І мы з Жэняй як шуганулі — знайсці нас так і не змаглі.

Жэня добра спявала. Адна з любімых песень — "Ой, у лесе на дубочку". Гаварылі, што ў яе голас з падводам.

Па дарозе з Парэцкай школы мы разважалі, складалі вершы. Дарога доўгая, да Жэнінага дома кіламетраў пяць, часу многа. Жэня першы радок, я

другі. Яна мяне папраўляла. Часта заходзілі да Жэні. “Ой, ты пачакай, у мяне нарадзіліся радкі, я хуценька запішу”, — кідала мне. Жэня была чалавекам у сабе, незвычайнай явай для нашага асяродку, не такая, як усе, і талент яе быў навідавоку. Гэта — Божы дар, для развіцця якога былі добрыя ўмовы. Яна жыла паэзіяй і станавілася сама сабою толькі тады, калі гаварыла аб земляках. Яна ўмела быць удзячнай. Аднойчы і кажа: “Ты знаеш, Рая, калі мяне будуць друкаваць, я ж змагу тады купіць падарункі і маме, і тату”. Жэня любіла рабіць падарункі. Прывозіла родным і суседзям. З Амерыкі мне прывезла набор касметыкі.

Жэня лічыла, што Бог не даў ёй знешняй прыгажосці. Яна была ўся ў творчасці, думала аб паступленні ва ўніверсітэт. Нават на танцы не любіла хадзіць. Спачатку мы марылі стаць настаўнікамі. Пад уплывам кнігі Чынгіза Айтматава “Первый учитель” збіраліся паехаць працаваць у які-небудзь аул».

Вялікую ролю ў развіцці творчых здольнасцей будучай паэткі адыграў настаўнік рускай мовы і літаратуры Парэцкай сярэдняй школы і класны кіраўнік Фёдар Фёдаравіч Цудзіла. Раіса Вікенцьеўна працягвае ўспамінаць: «Урок рускай літаратуры ў новай школе перавярнуў свет, такія настаўнікі, як Фёдар Фёдаравіч, бываюць рэдка. Літаратурнае жыццё ў школе кіпела».

Ф. Ф. Цудзіла бачыў сэнс свайго жыцця ў вучнях: «Вось, ёсць у мяне Жэнечка, і можна будзе сказаць, што працаваў і жыў недарма». Фёдар Фёдаравіч сам мясцовы, Парэцкую школу скончыў з сярэбраным медалём. Зінаіда Дудзюк у артыкуле «Дзівосныя вёсны» (Настаўніцкая газета» за 18.11.2008) прыводзіць выказванне Ф. Ф. Цудзілы: «Гэта была незвычайна адораная дзяўчынка. Калі чытала вершы, дык хвалявалася і ўся свяцілася. Ужо тады яе творы былі вобразнымі і сталымі… З прыходам Жэні (…) усталявалася асаблівая атмасфера. Шмат хто з дзяцей пачаў пісаць вершы. Мы выпускалі акрамя школьнай насценнай газеты яшчэ газету літаратурную і альманах “Ясельда”». На заўвагу Зінаіды Іосіфаўны, што ў літаратурных поспехах вучняў вялікая і важная роля належыць яму, настаўніку, Фёдар Фёдаравіч адказаў: **«Я шчаслівы, што не перашкодзіў ёй стаць паэтам»**.

Асірацелым настаўнік адчуў сябе, калі Жэні не стала. Ён быў першым, хто загаварыў аб увекавечанні памяці сваёй любімай вучаніцы. Антаніна Паўлаўна Сідарук пачала збіраць матэрыялы для музея Яўгеніі Янішчыц. Яна расказвала, што былі хвіліны, калі рукі апускаліся, такая нялёгкая гэта справа. Вялікую падтрымку мела Антаніна Паўлаўна ад Фёдара Фёдаравіча. Ён беражліва захоўваў сшыткі і вершы сваёй любімай вучаніцы, якія адразу ж аддаў у музей, і першую сваю пенсію ахвяраваў у фонд музея. Трэба сказаць, што пасля адкрыцця музея, менш чым праз месяц, Фёдара Фёдаравіча не стала.

Мікалай Елянеўскі ў артыкуле «Настаўнік і вучаніца» («Звязда» за 18.11.2003) піша: «Цяпер, калі называем імя паэтэсы Яўгеніі Янішчыц, то за ім добрым анёлам лунае і імя Фёдара Фёдаравіча Цудзілы». У артыкуле, прысвечаным свайму настаўніку, Жэня напісала: «Стаіць на кніжнай палі-

цы ў мяне кніга «Пра час і пра сябе» — біяграфіі беларускіх пісьменнікаў. Гэтая кніга мне па-асабліваму дарагая і памятная, бо кожны раз шчымліва чытаю надпісанае Вамі: «Жэні Янішчыц, маёй лепшай вучаніцы, з цвёрдай упэўненасцю ў тым, што ў будучых выданнях гэтай кнігі я прачытаю яе біяграфію». Пад аўтографам пазначана: 29.08.1966. Артыкул убачыў свет, калі Ф. Ф. Цудзілу прысвоілі званне заслужанага настаўніка БССР.

Раіса Ганчарык з цеплынёю гаварыла пра любімага настаўніка і сустрэчы з ім і Жэняю. Кожная такая сустрэча ператваралася ў вечар паэзіі. Фёдар Фёдаравіч чытаў вершы сваіх вучняў. Рая была здзіўлена, калі ён прачытаў і яе вершы. Чаму? Ды таму, што гэта напамінак аб шчаслівым школьным жыцці. Яна даўно не піша, бадай, з таго часу, як атрымала водгук Кастуся Кірэенкі на свае вершы — «сырыя, трэба працаваць». Жэню Кірэенка пахваліў, і гэта яе акрыліла. «Я сёння здзіўляюся, якія мы былі адчайныя, — гаворыць Раіса Вікенцьеўна, — як мы асмеліліся пісаць Нілу Гілевічу. З якой нагоды, не помню, але Жэня вельмі хвалявалася, доўга карпела над тым лістом, усё раілася, пісала і перапісвала».

Аб гэтым пісьме я распытала Ніла Сымонавіча Гілевіча. Вось яго аповед: «У "ЛіМе" я прачытаў Жэніны вершы, там быў і фотаздымак: дзяўчынка на кладачцы. Святы ветрык спаднічку лашчыць. Жэня тады вучылася ў Парэччы. Я папрасіў у рэдакцыі адрас і напісаў Жэні ліст, які пачынаўся словамі: таварыш Жэня. Вершы пахваліў. А ў верасні явілася сама мне на вочы. Я прачытаў лекцыю, і да мяне падышла дзяўчына і сказала: "Я — Жэня Янішчыц"». Выходзіць, што не Жэня першай напісала пісьмо Нілу Гілевічу. І хваляваліся дзяўчынкі, пісаўшы ліст-адказ. Вядома, што для Жэні гэта было вялікай падзеяй. З асаблівай павагай і цеплынёю яна адносілася да Ніла Сымонавіча ўсё сваё жыццё.

**Раіса Іванаўна Базылік**, аднакласніца: «Помніцца, што мы часта прасілі Жэню напісаць сачыненне за нас, яна нікому не адмаўляла. Я доўга захоўвала нататку, якую мне напісала Жэня. Пры пераездах недзе згубілася.

Вялікая падзея была ў школе, калі Ніл Гілевіч прыслаў пісьмо Жэні, у якім раіў ёй паступаць ва ўніверсітэт. Што яшчэ запомнілася: Жэня заплятала косы, і Саша Коваль яе часта скуб за гэтыя косы, а Гагалінскі Альфонс Іосіфавіч, настаўнік гісторыі, казаў: "Вось, Саша, скубеш ты Жэню за косы, а пройдзе час, і табе будуць зайздросціць, што ты вучыўся разам з Жэняю". Жэня — самародак. Нас заўсёды цікавіла, калі яна піша вершы? Мы давалі ёй тэму. На наступны дзень яна прыносіла верш. Урокаў было многа, у школу хадзіла здалёку, мабыць, ноччу пісала.

Нам вельмі пашанцавала з настаўнікамі. Нашы настаўнікі былі эрудытамі. Па матэматыцы мы рашалі не па два варыянты, а па дзевяць. На кантрольнай парты расцягваліся, каб ніхто не мог спісаць, падказаць. Мы вельмі раўніва адносіліся да вучобы. І да працы на зямлі былі прывучаны. У нас была вытворчая брыгада. Вялікую ролю ў нашым жыцці адыграў Фёдар Фёдаравіч Цудзіла. Расказаць аб ім немагчыма, як нельга абняць неабдымнае. Глыба. Ён быў рознабаковым чалавекам. На уроках не абмяжоўваўся

школьнай праграмай, знаёміў нас з навінкамі ў літаратуры, мы завучвалі на памяць любімыя вершы. На адзнакі, праўда, скупіўся. У нас і спектаклі ладзіліся, і канцэрты, і газета выпускалася. Рэдактарам быў Антон Квір, ён старэйшы за нас на два гады. Канешне, кіраваў усім Фёдар Фёдаравіч, але ж і Квір натхняў.

У мяне памяць ад Жэні засталася — атэстат, запоўнены яе рукою, прыгожы почырк быў» (запісана са слоў Р. І. Базылік 8.10.2012).

**Сафія Іванаўна Гуцеева**: «Для мяне Жэня Янішчыц была такой прыгажуняй! Суперпрыгажуняй! Калі яна прыходзіла ў школу, мы глядзелі на яе з захапленнем. Для нас, вясковых дзяўчат, яна была модніцай. У 1968 годзе Жэня зайшла да нас на ўрок рускай літаратуры, які праводзіў Фёдар Фёдаравіч. Лёгкая, тоненькая постаць, прыгожа апранутая і высокія боцікі! Мне так запомніліся боцікі! Такіх мы яшчэ ніколі не бачылі. Яна чытала вершы. Якія? Я не помню. Але захавалася адчуванне святла і радасці ад сустрэчы. Мы часта слухалі выступленні Жэні па радыё і вельмі ганарыліся, што ведаем яе. Больш за ўсіх радаваўся Фёдар Фёдаравіч. Ён быў шчаслівы тым, што распазнаў яе талент і не перашкодзіў яго развіццю. Ф. Ф. Цудзіла — асоба з вялікай літары. Ён і мае здольнасці распазнаў і параіў паступаць у тэатральна-мастацкі інстытут, які я паспяхова потым і скончыла. Фёдару Фёдаравічу — вялікая наша ўдзячнасць. З Жэняю ў мяне была сустрэча ў Мінску ў сталовай Дома друку прыблізна ў 1981 ці ў 1982 годзе. Яна вельмі эмацыянальна расказвала аб паездцы ў Амерыку, аб пасяджэннях ААН. Калі я працавала на радыё, то зрабіла перадачу пра Жэню: "За права жыць на ўзроўні сэрца"» (запісана са слоў С. І. Гуцеевай 3.11.2012).

**Ніна Паўлаўна Макарская**, сакратар камсамольскай арганізацыі Парэцкай школы: «Я вучылася ў паралельным класе. Жэню ведала, але сяброўкай яе не была. Жылі мы ў розных вёсках. Яна была звычайнай, сціплай дзяўчынай, вучылася сярэдне, па літаратуры ў яе быў талент. Жэня пісала сачыненні для сваіх аднакласнікаў, а я для сваіх. У студэнцкія гады здаралася ехаць разам дадому. Аднойчы восенню ішлі пешшу, аўтобусы не хадзілі. Гаварылі аб усім. Але нічога асаблівага ўспомніць не магу» (запісана са слоў Н. П. Макарскай 8.10.2012).

**Яўгенія Паўлаўна Зарэцкая** заканчвала школу разам з Жэняю, але ў розных класах: «Жэня была простым, добрым і вясёлым чалавекам. Мне запомнілася пісьмо, якое прыслаў Ніл Гілевіч. Пісьмо было змешчана ў насценнай газеце, усе чыталі і абмяркоўвалі. Былі размовы аб паступленні Жэні ў Маскоўскі літаратурны інстытут імя М. Горкага, а Ніл Гілевіч раіў паступаць у БДУ, каб не адрывацца ад роднай зямлі і мовы. Хачу сказаць, што ў нас быў вельмі добры настаўніцкі калектыў. Нашы выпускнікі паспяхова паступалі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Калі заканчвалі школу, то абменьваліся фотаздымкамі. У мяне ёсць Жэнін фотаздымак, на якім яна ў хустачцы, завязанай ззаду, як у вясковых жанчын летам. Я вучылася ў політэхнічным інстытуце, і аднойчы ехалі разам з Жэняю на зімовыя канікулы. Дарогу замяло, і ў наш бок з Пінска аўтобусы

не хадзілі. Я сцерагла рэчы, а Жэня бегала, шукала, чым даехаць дадому. Угаварыла шафёра аўтобуса Пінск–Гродна давезці нас да павароткі на Лагішын. А далей ішлі пешшу: Жэні 8 кіламетраў, мне — 12. Нейкі чалавек нас усё ж падвёз да Мерчыц кіламетры са два. Месцамі снег быў па пояс, але мы не праклінялі лёс, а радаваліся, што хутка будзем дома» (запісана са слоў Я. П. Зарэцкай 8.11.2012).

**Антаніна Георгіеўна Сяргеева**, аднакласніца: «Жэня была вельмі датклівай. Крыўду сваю нідзе не паказвала. У школу хадзіла з Рудкі, заўсёды запрашала да сябе ў госці. Было ў ёй нешта таемнае, вытанчанае, для мяне незразумелае на той час. Мы гаворым, напрыклад, на нейкую тэму, Жэня магла імгненна парушыць гаворку — прачытаць верш ці загаварыць зусім аб іншым.

У мяне аднойчы была прэтэнзія да Гагалінскай Тамары Цітаўны. Яна паставіла Жэні пяцёрку па матэматыцы, а мне чацвёрку. Я ведала, што Жэнін адказ быў слабейшы. «Табе трэба будзе здаваць матэматыку пры паступленні, а Жэні не», — патлумачыла Тамара Цітаўна. Нашы настаўнікі адчувалі Жэнін талент. Я думаю, калі б не было Фёдара Фёдаравіча, можа, і Жэні такой, якой яна стала, не было б. Фёдар Фёдаравіч таксама таленавіты чалавек. Ва ўсіх таленавітых людзей шлях ад нараджэння да канчатковага прыпынку свой, але кароткі.

Пасля школы мы з Жэняю сустрэліся толькі адзін раз у Мінску незадоўга да яе саракагоддзя. Нашай сустрэчы яна абрадавалася. Мы прайшлі з ёю ўвесь праспект. Гэта была споведзь чалавека, хранаметраж яе жыцця. Я слухала. Часам голас заглушаўся машынамі. З гэтай споведзі я зразумела, што ў творчым асяродку таксама існуе зайздрасць, што маральна ёй цяжка, хаця яна ні на кога не скардзілася, не назвала ніводнага прозвішча, нічога не сказала пра былога мужа, ні дрэннага, ні добрага. Яна гаварыла пра сябе» (запісана са слоў А. Г. Сяргеевай 7.10.2012).

Успаміны мне ўдалося запісаць дзякуючы Антаніне Паўлаўне Сідарук, дырэктару музея Яўгеніі Янішчыц. Яна дапамагала шукаць адрасы і тэлефоны настаўнікаў і аднакласнікаў Жэні. Усе ўспаміны пададзены ўпершыню. Выключэнне складаюць спасылкі на такіх аўтараў, як Зінаіда Дудзюк, Мікалай Елянеўскі і Яўгенія Янішчыц, дзе гаворка ішла пра Ф. Ф. Цудзілу.

Пазнаёміўшыся са школьнымі гадамі Жэні, мы бачым, што ўжо тады талент яе быў навідавоку. Усё сышлося: час, месца і асяродак. Жэня была звычайнай дзяўчынкай: шчырай, адкрытай, баялася ўколаў, і ў той жа час — незвычайнай: загадкавай і таемнай, узнёслай і паэтычнай, па-асабліваму датклівай і вельмі светлай. Жэня хацела «…светлай быць да скону шэрых дзён…». Яна і засталася светлай у памяці тых, хто яе ведаў, і ў сваіх творах.

**След на зямлі**

У 1998 г. у Парэцкай сярэдняй школе адкрыўся музей Яўгеніі Янішчыц. Антаніна Паўлаўна Сідарук, энтузіяст, альтруіст і руплівец, з вялікай любоўю збірала матэрыялы для музея на працягу 8 гадоў. І ўжо пятнаццаць гадоў праводзіць у ім экскурсіі, якія нязменна пачынае школьным вершам Яўгеніі Янішчыц «Мой падарунак».

Што ж такое аставіць людзям?
Што ж такое ім падарыць?
Людзям-сведкам і людзям-суддзям,
Для якіх я радзілася жыць.
Мажа, кветак букецік весні?
Мо агеньчык ў далёкай глушы?
Падару лепей людзям песню,
Песню — голас маёй душы.

Яўгенія Янішчыц падарыла людзям песню — голас сваёй душы, а Антаніна Сідарук падарыла людзям шчодрасць сваёй душы, няўрымслівасць свайго сэрца, адкрыўшы музей выбітнай зямлячкі і зберагаючы памяць аб ёй. Вось ужо дваццаць тры гады музей з'яўляецца справай жыцця Антаніны Паўлаўны. Яе падарунак мае такую ж каштоўнасць, як і песня Яўгеніі Янішчыц. На такіх людзях, як Антаніна Паўлаўна Сідарук, трымаецца культурная спадчына Бацькаўшчыны. І дзякуй Богу, што такія людзі ёсць.

Антаніна Паўлаўна нарадзілася 26 лістапада 1951 г. у вялікай сям'і служачых. Усе выйшлі ў людзі. Вышэйшую адукацыю атрымалі пяцёра дзяцей з сямі. Антаніна Сідарук скончыла Парэцкую сярэднюю школу і працаваць пачала ў роднай школе: спачатку старшай важатай, потым выхавацелем групы падоўжанага дня, настаўнікам беларускай мовы і літаратуры і дырэктарам школы. Завочна скончыла Брэсцкі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А. С. Пушкіна. Яе дачка Ганна таксама стала настаўніцай.

Антаніна Сідарук — вучаніца выдатнага педагога і высакароднага чалавека Ф. Ф. Цудзілы. Ён любімы настаўнік і Яўгеніі Янішчыц. І калі Жэні не стала, Фёдар Фёдаравіч сказаў Антаніне Паўлаўне: «Антаніна, нам патрэбна ўвекавечыць памяць Жэні. Каму-каму, а нам будзе сорамна, калі мы гэтага не зробім. Людзі павінны ведаць пра яе больш».

Так Антаніна Паўлаўна пачала збіраць матэрыялы для музея Яўгеніі Янішчыц. Яна расказала, што былі хвіліны, калі рукі апускаліся, такая нялёгкая гэта справа. Але ж узяўся за гуж — не кажы, што не дуж. Вялікую падтрымку мела Антаніна Паўлаўна ад Ф. Ф. Цудзілы. Ён беражліва захоўваў сшыткі і вершы сваёй любімай вучаніцы, якія адразу ж аддаў у музей. Трэба сказаць, што пасля адкрыцця музея, менш чым праз месяц, Фёдара Фёдаравіча не стала.

Усе матэрыяльныя выдаткі па зборы экспанатаў ляглі на рахунак Антаніны Паўлаўны. Яна з удзячнасцю ўспамінае ўсіх, хто адгукнуўся на яе просьбу. Гэта, канешне, маці Жэні, Марыя Андрэеўна, якая аддала асабістыя

рэчы, фотаздымкі, кнігі з бібліятэкі дачкі. Вялікую дапамогу аказала прафесар Вера Ляшук, былы рэдактар газеты «Звязда» Уладзімір Андрыевіч, аднакласніца і сяброўка Жэні Раіса Ганчарык, народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, прафесар Алег Лойка, сяброўка і пісьменніца Валянціна Коўтун, аднакурсніца Таццяна Шамякіна і іншыя. Музей Яўгеніі Янішчыц працуе на грамадскай аснове. І вось з'явілася надзея, што ён нарэшце атрымае званне народнага. Для гэтага ёсць усе падставы. Сабрана многа каштоўных экспанатаў. І паказаць ёсць што, і расказаць ёсць аб чым, і не толькі землякам-беларусам, а й сябрам з бліжняга замежжа і з далёкага. А прыязджае нямала.

Разам з матэрыяламі для музея Яўгеніі Янішчыц Антаніна Паўлаўна збірае звесткі аб вядомым палітычным і грамадскім дзеячы Рамане Аляксандравічы Скірмунце (1868–1939), які нарадзіўся і жыў у Парэччы.

За добрасумленную працу А. П. Сідарук мае падзякі, дыпломы, Ганаровыя граматы камсамольскай і прафсаюзнай арганізацый, раённага аддзела адукацыі, Упраўлення адукацыі Брэсцкага аблвыканкама, Міністэрства адукацыі РБ.

Кожны чалавек, асабліва творчы, імкнецца пакінуць пасля сябе след. Але ж пакінуць след — недастаткова. Гэта ведала Яўгенія Янішчыц. Яшчэ ў вучнёўскім вершы «Калі красуюць жыты» яна сказала:

Чалавек, старайся, каб не сцерлі
пасля смерці след твой на зямлі.

Дык вось, дзякуючы Антаніне Паўлаўне след Яўгеніі Янішчыц захаваўся. А захаваўшы след Яўгеніі Янішчыц, Антаніна Паўлаўна захавала і свой след. Такім чынам людзі атрымалі падарунак і ад яе, Антаніны Паўлаўны Сідарук.

*2012–2013*

СЯРГЕЙ ЧЫГРЫН

## Згадкі

### Адчуванне сэрцам

Здавалася, што ён будзе жыць заўсёды. Апантаны, шчыры, цікавы, бадзёры і культурны. Валянцін Іванавіч Ермаловіч — мой дарагі настаўнік, сябра, дарадца. Ён памёр раптоўна, вымавіўшы толькі адно слова: «Сэрца». Гэта адбылося 22 снежня 2004 г. Хаця праз тры месяцы ён рыхтаваўся адзначыць сваё 80-годдзе. Не паспеў…

Пазнаёміўся я з Валянцінам Іванавічам Ермаловічам летам 1974 г., калі паступаў на тэатральнае аддзяленне Магілёўскага культасветвучылішча. Я, вясковы хлопчык са Слонімшчыны, які з дзяцінства марыў стаць акцёрам і рэжысёрам, неяк прачытаў у газеце аб'яўку, што ў далёкім Магілёве ёсць такое вучылішча, куды пасля 8-га і 10-га класаў прымаюць хлопчыкаў і дзяўчынак. Сабраў чамаданчык і паехаў у невядомы вялікі горад на Дняпры. Тады мне яшчэ не было і 16 гадоў. Знайшоў я гэтае вучылішча, здаў дакументы і… дачакаўся ўступных экзаменаў. Але перад імі абітурыентам неабходна было расказаць верш, кавалачак прозы і паказаць сцэнічны эцюд. Верш і прозу я ведаў, а вось што гэта за эцюд — першы раз чуў. За некалькі хвілін да паказу эцюда я атрымаў кансультацыю ў дзяўчат, якія паступалі разам са мною. Яны былі больш вопытныя ў тэатральнай справе, бо ў сваіх гарадах наведвалі драмгурткі і народныя тэатры, таму добра ведалі, што такое эцюд і як яго трэба паказваць. На хаду прыдумаў свой уласны эцюд і пайшоў перад прыёмнай камісіяй на маленькай спецыяльнай сцэне яго паказваць. Сюжэт эцюда быў вельмі просты і нават смешны: я пайшоў у грыбы, там убачыў лісіную нару, пачаў чакаць, калі ліса адтуль вылезе, каб яе злавіць за хвост. Замест нары — паклаў на сцэне крэсла. Гэта дазвалялася. У прыёмнай камісіі сядзелі чалавек восем. Сярод іх быў і Валянцін Іванавіч Ермаловіч. Усе ўважліва глядзелі, што я буду паказваць. І вось у самы адказны момант эцюда, калі нібыта ліса «выскачыла» з нары і я кінуўся яе «лавіць», крэсла ад майго падзення паляцела проста на прыёмную камісію. Але я не разгубіўся, а паказаў эцюд да канца. Пасля падзякаваў усім за ўвагу, выйшаў на калідор. Адразу падумаў, што ўсё — мяне не дапусцяць да асноўных экзаменаў, таму што я не здаў эцюд. Але выйшла ўсё наадварот. Памятаю, выступаў Валянцін Іванавіч, які перад абітурыентамі сказаў, што лепш за ўсіх эцюд паказаў Чыгрын.

Так я стаў навучэнцам Магілёўскага культасветвучылішча. Але рэжысуру ў нас выкладаў не Валянцін Ермаловіч, а Леанід Багам'я, якога ў 60-гадовым узросце некалькі гадоў таму скасіў інфаркт. Гэтыя рэжысёры сябравалі. Больш вопытны Валянцін Іванавіч бываў у нас на занятках і рэпетыцыях, дапамагаў маладому рэжысёру і выкладчыку Леаніду Багам'ю.

Вельмі часта Валянцін Ермаловіч гутарыў са мной, цікавіўся маім жыццём, называў мяне сваім земляком, заходнікам. Мне ад гэтага было цяплей і лягчэй. А яшчэ Валянцін Іванавіч заўсёды размаўляў на беларускай мове. І ўсе навучэнцы, якія з ім гутарылі, стараліся размаўляць таксама па-беларуску.

Даведаўшыся, што я пішу вершы, Валянцін Іванавіч аднойчы мне сказаў: «Я гутарыў са сваім сябрам паэтам Аляксеем Пысіным пра цябе. Заўтра ў памяшканні рэдакцыі «Магілёўская праўда» будзе пасяджэнне абласнога літаратурнага аб'яднання. Выберы найлепшыя вершы і сходзі туды…»

Я вельмі хваляваўся, бо ўпершыню выносіў на суд свае яшчэ кволыя першыя творы. У рэдакцыі сустрэлі мяне шчыра і дабрадушна. За сталом моўчкі сядзеў Аляксей Васільевіч Пысін. Маўчаў ён і тады, калі ўсе па чарзе чыталі свае вершы (пераважна рускамоўныя). Пасля паэты паміж сабою пачалі спрачацца і нават сварыцца. Напрыканцы літаб'яднання загадчык ідэалагічнага аддзела газеты таварыш Ізотаў даў слова Аляксею Пысіну. Аляксей Васільевіч ціха сказаў: «З усіх вершаў, якія тут прагучалі, мне найбольш спадабаліся вершы Сярожы Чыгрына. Іх я і буду прапаноўваць на нашу літаратурную старонку».

Праз некалькі дзён я атрымаў ад Аляксея Пысіна ліст, дзе ён прасіў тэрмінова прыслаць два вершы, выбраныя з усіх мной прачытаных для літстаронкі. Я даслаў адзін верш пра хлеб. Ён і быў надрукаваны ў магілёўскай абласной газеце.

За тры гады вучобы ў Магілёве з Валянцінам Ермаловічам і Аляксеем Пысіным мне давялося не раз прымаць удзел у літаратурна-музычных вечарынах і сустрэчах з чытачамі. У Магілёўскім абласным аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі Валянцін Ермаловіч быў адказны за нумары мастацкай самадзейнасці, а Аляксей Пысін — за літаратурную частку. Дзе мы толькі на Магілёўшчыне не былі! Дзе мы толькі не выступалі! Гэта быў рамантычна-светлы і найцікавейшы час майго юнацтва. З ініцыятывы Аляксея Пысіна мы разам з Валянцінам Ермаловічам выдавалі ў вучылішчы рукапісны літаратурны часопіс «Лучынка». Знайсці б цяпер хоць адзін нумар…

Валянцін Ермаловіч вельмі любіў беларускую паэзію. Ён вучыў мяне дэкламаваць вершы са сцэны. Асабліва ў той час мой настаўнік захапляўся паэзіяй Янкі Непачаловіча. Неяк паехалі выступаць на Краснапольшчыну. У сельскім Доме культуры сабралася поўная зала людзей. На першым радзе сядзелі кіраўніцтва мясцовага калгаса, Аляксей Пысін, Валянцін Ермаловіч. А я на сцэне чытаю Янку Непачаловіча:

Хоць нельга і розум, і сэрца
Пакласці на шалі,
Ды ўсё ж чалавек пазнаецца
Па крупнай дэталі…

Зала прыціхла. Аляксей Пысін, апусціўшы галаву, нешта думаў, а пасля сказаў: «Добра, Сярожа, добра!..» У гэты вечар мы яшчэ паказалі жарт Л.

Родзевіча «Збянтэжаны Саўка», дзе я іграў Саўку, мае аднакурснікі Генадзь Гавароўскі — жабрака, а Валянціна Паўлоўская—Магрэту. Зала ад смеху проста грымела. Нас выклікалі некалькі разоў на біс. А пасля канцэрта Валянцін Іванавіч мяне абняў і сказаў: «Маладзец!»

У 1977 г. я скончыў Магілёўскае культасветвучылішча і пайшоў у войска. Пасля войска пастуліў у Белдзяржуніверсітэт. З Валянцінам Ермаловічам сувязі на пэўны час згубіліся. Аля пасля мы зноў з ім выпадкова сустрэліся ў Мінску ў Доме літаратараў. З яго слоў і са слоў краснапольскага краязнаўца Леаніда Васільевіча Лабаноўскага я даведаўся, што ў канцы 1970-х гг. Краснапольскаму народнаму тэатру пагражала закрыццё. І Валянцін Іванавіч, жывучы ў Магілёве, вырашыў узначаліць гэты калектыў. Працуючы выкладчыкам рэжысуры Магілёўскага культасветвучылішча, ён адначасова ўзваліў на свае плечы і гэтую нялёгкую ношу: рабочыя дні ў вучылішчы, выхадныя — у Краснаполлі. Гутарыў з аматарамі сцэны, пераконваў, вяртаў надзею. Вывучаў здольнасці ўжо вядомых краснапольцам выканаўцаў, адкрываў новыя імёны. А там — адна прэм'ера, другая, трэцяя… І — поспех! Заслужаны поспех! І тады, як гэта ў нас часта бывае, знайшліся зайздроснікі, ледзь не хапугам аб'явілі Ермаловіча: маўляў, дзве зарплаты заграбае. Паляцелі пасквілі ў Міністэрства культуры БССР. І адабралі тады ў Валянціна Іванавіча рэжысёрскі аклад. Ды не адабралі волю, нават не пахіснулі яе. Ён па-ранейшаму прыязджаў у выхадныя дні ў Краснаполле і з яшчэ большым запалам працаваў і працаваў. Рабіў гэта не дзеля славы, не. Яму не давалі спакою трапныя словы Максіма Гарэцкага, што заселі ў памяці: «Пакажыце беларусу са сцэны, хто ён, чым ён мог быць, гукніце яго са сцэны да новага жыцця…» І ён гукаў. Гукаў праз вобразы герояў сваіх спектакляў паводле п'ес беларускіх драматургаў. А восенню 1987 г. мне ў Слонім з Магілёва ад Валянціна Ермаловіча прыйшоў пакет. Адкрываю — а там афіша да спектакля «Снатворны Мак», праграмка спектакля, фотаздымкі сцэн з гэтай пастаноўкі і пісьмо. У ім мой старэйшы сябра пісаў, што «Краснапольскі народны тэатр упершыню ажыццявіў пастаноўку спектакля па п'есе твайго земляка Кандрата Лейкі "Снатворны Мак"». Я быў страшэнна ўзрадаваны і здзіўлены пастаянным імкненнем Валянціна Іванавіча да новага. Ён заўсёды быў у пошуку. На сцэну «выцягваў» не тое, што ўжо было абкатанае іншымі творчымі калектывамі, а нешта новае, забытае, арыгінальнае. Так сталася і з п'есай Кандрата Лейкі «Снатворны Мак». Сапраўды, яе ніхто ніколі не ставіў. Яна была выдадзена асобнаю кніжачкай у Вільні ў 1912 г. і прысвечана вясковым дзецям Слонімскага павета. А сцэнічнае жыццё атрымала ў Краснаполлі праз 75 гадоў пасля яе выдання. І выконвалі ролі ў гэтым спектаклі дзеці з маладзёжнай студыі народнага тэатра. Да сённяшніх дзён больш ніхто так і не ажыццявіў пастаноўкі «Снатворнага Маку».

Краснапольскі народны тэатр Валянцін Ермаловіч узначальваў 14 гадоў. За гэты час калектыў тэатра прымаў удзел у абласных, рэспубліканскіх, усесаюзных і міжнародных аглядах-конкурсах, выступаў па тэлебачанні, на розных фэстах і сустрэчах. І адусюль прывозіў дыпломы і прызавыя месцы. Ён быў узнагароджаны Граматаю Вярхоўнага Савета БССР, станавіўся лаўрэа-

там прэміі камсамола Беларусі і Магілёўшчыны. А рэжысёр тэатра Валянцін Ермаловіч атрымаў званне заслужанага работніка культуры Беларусі.

Пасля Краснаполля Валянцін Іванавіч працаваў рэжысёрам Бялыніцкага народнага тэатра юнага гледача, а потым — рэжысёрам народнага тэатра «Валянцін» Магілёўскага гарадскога цэнтра культуры і адпачынку. Ён планаваў пасля свайго 80-годдзя падрыхтаваць і выдаць кнігу «Нататкі рэжысёра народнага тэатра». Прасіў майго аднакурсніка, журналіста і пісьменніка Міхася Карпечанку з Бялынічаў, быць рэдактарам гэтай кнігі. Дарэчы, у 2002 г. Міхась даслаў мне ў Слонім сваю кніжку п'ес «Дачка волі». Уступнае слова да гэтай кніжкі напісаў Валянцін Ермаловіч. Даведаўшыся, што Міхась дасылае мне сваю кніжку, пасля ўступнага слова Валянцін Іванавіч дапісаў ручкаю пару слоў: «Дарагі Сяргей. Вельмі рады за тваю актыўнасць на ніве беларускага адраджэння. Жадаю поспехаў і надалей! В. Ермаловіч. 8 мая 2002 г.».

Валянцін Іванавіч заўсёды любіў казаць: «Мы дзейсна павінны ўсведамляць словы Якуба Коласа: “Трэба шырыць ідэю тэатра, несці яго ў самыя нізіны. Беларус, як мне здаецца, мае вялікую здольнасць да тэатра”». Валянцін Ермаловіч адчуваў сэрцам гэтую кранальную здольнасць, гэтае духоўнае яднанне сцэны і залы. І ганарыўся, што ён беларус. А я буду заўсёды ганарыцца, што ён быў маім настаўнікам і старэйшым сябрам.

**Аляксей Пысін і Беласточчына**

Жыццё і творчасць беларускага паэта Аляксея Пысіна (1920–1981) былі звязаны з Беласточчынай (Польшча), хаця сам паэт нарадзіўся і жыў далёка ад беластоцкай зямлі — на Магілёўшчыне. Беласточчыну ён палюбіў, відаць, тады, калі 19-гадовага юнака ў 1939 г. накіравалі ў Бельск. А было гэта якраз пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР. Аляксей Пысін у той час вучыўся на другім курсе Мінскага камуністычнага інстытута журналістыкі. Студэнта Пысіна датэрмінова і накіравалі на працу ў бельскую раённую газету на пасаду літсупрацоўніка. Там ён вучыўся пісаць, сустракаўся з беларусамі Бельшчыны, гутарыў пра жыццё, заводзіў першыя знаёмствы. Калі б не вайна, Аляксей Пысін мог застацца на Беласточчыне назаўсёды. Але юнака забралі на фронт. Хутка пачалося адступленне аж да Гомеля, а потым эвакуацыя на Урал, у запасны полк, а далей шляхі вялі на фронт…

Вайну прайшоў сувязістам, двойчы быў паранены. Дамоў Аляксей Пысін вярнуўся ў 1946 г. Але лёс яго больш не закінуў у Бельск, бо Беласточчына ўжо стала польскай тэрыторыяй. Праўда, Аляксей Пысін заўсёды адсочваў падзеі, якія адбываліся на Беласточчыне. У 1965 г., калі ў Гарадку (раённы цэнтр на Беласточчыне. — *С. Ч.*) пачалі будаваць Дом культуры, дзе было месца і для бібліятэкі, ён напісаў ліст у рэдакцыю беларускага тыднёвіка «Ніва» ў Беласток: «Дарагія сябры! Прашу неяк пераслаць маю кніжку Дому культуры ў Гарадку. Аляксей Пысін. Магілёў, 14 жніўня (1965)» (Георгій Валкавыцкі. Віры. Беласток, 1991. С. 83). Гэта быў зборнік вершаў Аляксея Пысіна «Мае мерыдыяны».

Рэдакцыя беларускага тыднёвіка «Ніва» ў Беластоку, вядома ж, перадала кнігу Дому культуры ў Гарадок. А рэдактар тыднёвіка Георгій Валкавыцкі даслаў у Магілёў Аляксею Пысіну «Ніву», «Беларускі каляндар» (штогоднік. Выходзіць і цяпер у Беластоку. — *С. Ч.*) і літаратурны альманах «Белавежа». Аляксей Пысін, калі атрымаў бандэроль, вельмі ўзрадаваўся, расхваляваўся. Ён адразу напісаў пісьмо рэдактару «Нівы» Георгію Валкавыцкаму: «Паважаны таварыш Валкавыцкі! Сардэчна ўдзячны за "Ніву", "Беларускі каляндар", "Белавежу" і тое задавальненне, якое атрымліваю ад чытання твораў беластоцкіх журналістаў і пісьменнікаў. У мяне даўняя мара: наведаць Бельск, у гэтым горадзе застала мяне мінулая вайна. На нашым з'ездзе (у красавіку) буду размаўляць на гэту тэму ў Саюзе пісьменнікаў. Дасылаю новыя вершы. Прывітанне ўсім вашым супрацоўнікам. З глыбокай павагай А. Пысін. Магілёў, 13.02.1966» (Валкавыцкі Георгій. Віры. Беласток, 1991. С. 95).

Калі рэдактар атрымаў ліст з Магілёва ад Аляксея Пысіна і яго вершы, ён адразу аддаў іх у друк. А 20 сакавіка 1966 г. тыднёвік «Ніва» на першай старонцы друкуе сем новых вершаў паэта. Пазней гэтыя вершы Аляксея Пысіна ўвойдуць у яго кнігу паэзіі «Твае далоні» (1967), за якую ён у 1968 г. атрымае Дзяржаўную прэмію Беларусі імя Янкі Купалы.

Аляксей Пысін вельмі любіў чытаць беларускі тыднёвік «Ніва». Калі ён яго атрымліваў, то чытаў усё да драбніц. А потым аб прачытаным расказваў іншым магілёўскім літаратарам. Ці часам і ім даваў пазнаёміцца з «Нівай». 16 лістапада 1966 г. ён піша рэдактару «Нівы» Георгію Валкавыцкаму ліст, у якім просіць аформіць падпіску «Нівы» на 1967 г., а таксама просіць выпісаць тыднёвік і для свайго сябра — магілёўскага пісьменніка-сатырыка Івана Аношкіна. Разам з просьбай Аляксей Васільевіч даслаў свой хатні адрас і адрас Івана Аношкіна. Магчыма, рэдакцыя ім выпісала «Ніву» і яны шмат гадоў яе чыталі. А 23 кастрычніка 1966 г. «Ніва» на першай старонцы апублікавала яшчэ тры вершы Аляксея Пысіна: «Агонь ці кроў сцякае на дубровах…», «Рэдка бачым мы птушак сваіх…», «Не ўсе лясы мае згарэлі…», якія таксама ўвайшлі ў кнігу паэта «Твае далоні».

Вершы Аляксея Пысіна друкаваліся і пазней у тыднёвіку «Ніва». Але самым шчаслівым для паэта быў 1980 г. У студзені ў «Ніве» былі змешчаны тры вершы паэта, а 19 і 20 чэрвеня паэт сам прыехаў на Беласточчыну. Прыехаў з пісьменнікам Аляксеем Гардзіцкім. Паездка на Беласточчыну была для Аляксея Пысіна вяртаннем у маладосць. Госці з Беларусі ў той час цікавіліся жыццём беларусаў на Беласточчыне, найперш іх культурнай і літаратурнай творчасцю. Аляксей Пысін з Аляксеем Гардзіцкім пабывалі ў рэдакцыі «Нівы», пазнаёміліся з яе супрацоўнікамі, вялі гутаркі пра ўзнікненне пры Беларускім грамадска-культурным таварыстве і «Ніве» літаратурнага асяродку, пра яго дзейнасць. Беларускія пісьменнікі расказалі пра літаратурныя справы ў Беларусі, пра культуру і гісторыю. Затым іх знаёмілі з Беластокам.

Візіт Аляксея Пысіна і Аляксея Гардзіцкага ў «Ніве» асвятлялі гісторык і журналіст Мікола Гайдук, паэт і журналіст Міхась Шаховіч. Першы пісаў, другі фатаграфаваў. «Аляксей Пысін, — паведамляў Мікола Гайдук у «Ніве»

13 ліпеня 1980 г., — зачараваў дэкламацыяй сваіх вершаў з розных гадоў — і тых, што паўсталі яшчэ ў школьныя гады, і тых, якія нарадзіліся ў апошнія дні. Уражвала глыбіня думак і пачуццяў гэтай самабытнай лірыкі. Яна перапляталася ў нейкае лагічнае цэлае з успамінамі паэта пра яго змаганне на розных франтах вайны, працу ў мірны час, бо з гэтага і бярэцца яе радавод».

На другі дзень беларускія літаратары наведалі Бельск і Белавежу. У Бельскім беларускім ліцэі госці сустракаліся з ліцэістамі і настаўнікамі, наведалі спецыяльны кабінет-музей, прысвечаны Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадзе і яе заснавальніку і кіраўніку Браніславу Тарашкевічу, імя якога нададзена ліцэю. Потым госці наведалі Бельскі Дом культуры, дзе сустрэліся з групай маладых мясцовых літаратараў.

Падчас візіту ў Бельск Аляксей Пысін наведаў і брацкую магілу ў Піліцкім лесе, дзе пахаваны яго сябры і проста знаёмыя, якіх да вайны ведаў паэт. Усе яны загінулі ў гады Другой сусветнай вайны. І, як пісаў журналіст Мікола Гайдук, «балючае было вяртанне ў маладосць для Аляксея Пысіна. І хіба толькі пошум Белавежы змог суцішыць боль у душы паэта».

Калі Аляксей Пысін наведаў рэдакцыю «Нівы», ён абяцаў рэдактару Георгію Валкавыцкаму, што напіша ўспаміны з бельскай маладосці. Але гэтыя ўспаміны Аляксей Васільевіч так і не напісаў. А ў «Ніву» прыслаў толькі тры сваіх вершы: «Балада сагнутых бабуль», «Даль вечнасці без берагоў…» і «Заспявай, мой дружа, заспявай…». Яны былі апублікаваны на першай старонцы «Нівы» 18 студзеня 1981 г. У адным з гэтых вершаў вялікі беларускі паэт пісаў:

Даль вечнасці без берагоў,
Ды час мы адлічваць павінны…

У «даль вечнасці» Аляксей Пысін адышоў 27 жніўня 1981 г. Ён памёр у Магілёве і пахаваны там на Польскіх (якое супадзенне!) могілках на вуліцы Лазарэнкі.



Чыгрын Сяргей нарадзіўся 24 верасня 1958 г. у в. Хадзявічы Слонімскага раёна. Скончыў тэатральнае аддзяленне Магілёўскага культасветвучылішча і філалагічны факультэт БДУ. Служыў у войску. Цяпер працуе загадчыкам літаратурнай часткі Слонімскага беларускага драматычнага тэатра. Член СБП. Паэт, перакладчык, краязнавец і даследчык беларускай літаратуры.

Сяргей Чыгрын

НАВУМ САНДАМІРСКІ

## Святло яго зоркі, або Некаторыя ўрокі Сяргея Грахоўскага

Банальнасць думак аб хуткаплыннасці часу не адменіць паступальнасці яго крокаў. Ён як постаць пушкінскага камандора. І няўхільна, і балюча, і страшнавата…

Здаецца, не так ужо даўно мы разам гулялі па гэтай вуліцы. Успаміналі, удакладнялі, абмяркоўвалі… Дакладней, успамінаў галоўным чынам ён. Мяне цалкам задавальняла роля ўдзячнага слухача. Яшчэ б! Гэта ж такая асалода — «піць віно» імправізаваных маналогаў!

Хто мог выказаць здагадку, што ідзём па будучым бульвары Грахоўскага?! Але пасля яго сыходу з жыцця 11 снежня 2002 г. менавіта так назавуць удзячныя землякі звыклы адрэзак вул. Сацыялістычнай. Месца шмат у чым знакавае для глусчан пасля з'яўлення памятнай стэлы з выявай Сяргея Іванавіча. Не раз і не два прыходжу сюды для ўдакладнення некаторых маральных пазіцый. Параіцца ў думках, проста памаўчаць. Зноў жа засумаваць пра тое, які няўмольны млын часу. Але, на шчасце, жыццё — не спаборніцтва на хуткасць і працягласць. Ёсць яшчэ і такія параметры, як змест і аддача. Сляды і ўрокі. Вось чаму тыя «штудыі», якія дае мне гэты непаўторны чалавек, па-ранейшаму працягваюцца. Нешта сітуацыйна ўспамінаючы, тут жа адпаведна і звяраю, пры неабходнасці карэктую.

### Урок першы: сказана — зроблена

Паэт і мастак… Яны размаўлялі ўжо больш за гадзіну. Адпраўныя «матэрыялы» аднаго і другога — вобраз, пачуццё, метафара… Жывапісец заўсёды ў душы паэт. І наадварот. Асабліва калі гэта такі віртуоз слова, як Сяргей Іванавіч Грахоўскі, і такі майстар пэндзля, як Іван Пятровіч Булгакаў. Жанры плаўна перацякалі адзін ў адзін, «высякаючы» вялікую колькасць арыгінальных думак, версій, адкрыццяў…

Большасць з іх вызначалася мэтай візіту сталічнага госця. Літаратар даўно чуў аб сваім таленавітым земляку. Захацелася пазнаёміцца бліжэй. Разарваць існуючую да гэтага часу дыстанцыю. Адна справа чуць пра самабытныя творы, зусім іншае — вочнае знаёмства.

Яно пераўзышло ўсе чаканні. Паэт настолькі ўразіўся, што пераканана заявіў:

— Гэта павінны ўбачыць сталічныя журналісты.

І ўжо вельмі хутка сказанае мела пэўныя наступствы. Па аўтарытэтнай рэкамендацыі ў Глуск спецыяльна прыехаў карэспандэнт «Народнай газеты». Ды і як не «клюнуць» на такую «прынаду»?! Грахоўскі такі ўзрушаны, такі

перакапальны ў аповедзе пра мастака, што адрасны візіт ужо як бы запраграмаваны.

Больш за тое, Сяргея Іванавіча не бянтэжылі ні ўзрост, ні адлегласць, ні нядаўнія праблемы са здароўем… Я ахвотна згадзіўся з роляй гіда. Занадта ўжо вялікай была спакуса чарговай сустрэчы са сваім пратэжэ, з роднымі мясцінамі, з магчымасцю акунуцца ў прыемную атмасферу.

Ну чым не ўрок спрыяння, вернасці слову, умення радавацца таленту! Будзь гэта іншы паэт, мастак, музыка… На фоне нярэдкай у творчым асяродку зайздрасці ўрок і сёння актуальны.

**Урок другі… І не толькі архітэктурны**

У адзін з яго чарговых прыездаў ідзём па мястэчку (вызначэння «гарпасёлак» актыўна не ўспрымаў). Ізноў успаміны, сюжэты, асацыяцыі… Раптам эмацыйны выбух з нагоды архітэктурнай шаблоннасці некалькіх дамоў па вуліцы Кірава. Маўляў, адкуль сёння такая несамавітасць? Такая эстэтычная шэрасць? Нельга ж браць у разлік адно толькі функцыянальнае значэнне.

Да гэтага часу на слыху сказаная ім з такой сумнай нагоды рэзкая фраза:

— Так проста ж сорамна перад нашчадкамі. Што пра нашыя мазгі, аб нашых будаўнічых магчымасцях скажуць…

Ну як тут было не пагадзіцца. Так, не Калізей, не Сабор Парыжскай Божай Маці, не Кёльнскі сабор… Усяго толькі жылыя дамы. Але ж і іх у рэшце рэшт можна будаваць жыццярадаснай, прыгажэй.

Але гэта вялікая і асобная тэма. Гаворка ідзе ўсяго толькі аб уроку, як мы ўжо і абазначылі ў кантэксце размовы. Тады, шмат гадоў таму, думалася толькі пра тое, якім жа абвостраным сумленнем трэба валодаць, каб так неабыякава клапаціцца пра сваё рэнамэ перад нашчадкамі.

Таксама, як гаворыцца, штрых. Але вельмі ўжо характэрны.

**Урок трэці, прафесійны**

Размова пра адзін эпісталярны «нюансік». Здарылася гэта гісторыя яшчэ ў гады, якія цяпер прынята лічыць «даперабудоўнымі».

У раёне набліжалася нейкая юбілейная дата. Газеце таксама па-свойму трэба было «адзначыцца». Вырашылі арганізаваць шэраг выступаў вядомых землякоў. Ну як жа без такой каларытнай фігуры, як Грахоўскі?

Вось толькі дзейнічаў я па трафарэтным рэцэпце, на чым і «пагарэў». Бадзёра напісаўшы за Сяргея Іванавіча пафасны тэкст, паслаў яго лістом. Потым тыдзень-другі чаканага трыумфу. Як жа, як жа… Нешта сярэдняе паміж раннім Фадзеевым і познім Сіманавым.

Ён у той час, як аказалася, папраўляў здароўе на рыжскім узмор'і. На той момант амаль родныя прасторы. Адказ з Юрмалы атрымаў з некаторай затрымкай. І калі канверт адкрываў пад гукі моцартаўскай «Чароўнай флейты», то з атрыманым зместам знаёміўся пад шапэнаўскую журботную мелодыю. Так, маўляў, і так, дарагі таварыш, але да гэтага часу худа-бедна пісаў

сам. Ад вашай спрытнасці аж пачырванеў на фоне стрыманых прыбалтыйскіх пейзажаў. І ад узвышанага тону, зусім мне не ўласцівага, і ад самой спробы зрабіць мяне інтэлектуальным утрыманцам.

Урок для газетчыка-пачаткоўца стаўся пераканаўчым. Да гэтага часу ўдзячны, хоць успамінаю з сорамам. І празмерным пафасам ніколі не карыстаюся, з якім бы знакам ён ні быў.

**Урок чацвёрты: патэнцыял і самааддача**

Не памятаю ўжо хто, але нехта вельмі добра сказаў: калі я з табой размаўляю, то гэта зусім не значыць, што і гутару таксама. Вымаўляю, салірую, павучаю, навязваю… Але не гутару, калі права на выказванне мае і суразмоўца. Дык вось Сяргей Іванавіч разумеў зносіны як працэс стварэння адзін аднаго. Пры гэтым абаянне было пранікальным. Як радыяцыя… Побач з ім ніхто не адчуваў комплексу яго перавагі. Ніякай дакладна выверанай дыстанцыі, ніякай дэмаркацыйнай, падзяляльнай лініі. Маўляў, вось ён я, знакаміты паэт, а тут ты, мой візаві — нешта нязначнае і другога гатунку. У такой сістэме каардынатаў яго і ўявіць сабе немагчыма. Абсалютнае пачуццё такту і павагі да суразмоўцы.

Пры гэтым як шмат ён мог даць! І даваў пры такой разнавектарнай таленавітасці. Паэт, празаік, публіцыст! Якая цудоўная памяць, якое дзівоснае ўменне валодаць аўдыторыяй. Бываючы ў яго ў Мінску, стаў сведкам адной з яго сустрэч з моладдзю на Маскоўскіх сталічных могілках, дзе знайшлі апошні прытулак многія дзеячы мастацтва. Нікольк не перабольшу, калі скажу: гэта быў свайго роду культуралагічны шок. Столькіх блізка ведаць, так глыбока і падрабязна памятаць, гэтак бліскуча расказаць! Глыбока перакананы: тэлебачанне ў свой час марнатраўна паставілася да факту такой яго рэнесанснай сутнасці, яго дзіўнай камунікабельнасці. Таму што пры іншым падыходзе краіна магла атрымаць беларускі варыянт Іраклія Андронікава — пісьменніка, літаратуразнаўцы, папулярызатара мастацтва. Тым больш, што гатоўнасць аддаваць усё гэта людзям была на вышэйшым градусе самааддачы.

* * *

Урокі, урокі, урокі… Колькі іх яшчэ было. І ўсё прадметныя, пераканаўчыя, заснаваныя на асабістым прыкладзе. З Грахоўскім дастаткова было хоць на момант выйсці за рамкі «мімалётнасці», каб неяк па-новаму адкрыць для сябе выдатнага паэта, пісьменніка, чалавека…

Чалавека, чыя душа «ляпілася» на пцічскіх рачных прасторах, «дубеньскіх» адхонах, мястэчковых паветраных «кактэйлях», у прадзьмутых асвяжальнымі вятрамі лясах. Сутнасць сказанага змясцілася ў прыгожае жыццё з адчуваннем шляху — ён гэты шлях, па сутнасці, і працягвае. І бульварам яго імя, і стэлай, і экспанатамі краязнаўчага музея. Ва ўсякім выпадку, спецыяльна пабываўшы ў райцэнтры, дачка Таццяна Сяргееўна прывезла музейшчыкам нямала цікавага, эксклюзіўнага.

…Яго жыццё — амаль 90-гадовая дыстанцыя, творча насычаная амаль да апошніх дзён. Выкажу здагадку: час і сілы адпускаліся Сяргею Іванавічу ў выглядзе кампенсацыі, нейкага заахвочвальнага ганарару. Занадта шмат забрала ўлада на зоны, лагеры, паселішчы, каб яму потым дапускаць «фальшстарты». Вось і пісалася з несканчонай пульсацыяй душэўнай крыніцы. Яго фізічная форма нават падбадзёрвала, хаця б часткова мірыла з думкамі аб старасці. Гэта як прыгажосць позняй восені, пушкінскае захапленне ёю. Хоць «час гоніць коней», сам фурман упэўнены ў сабе і спакойны ў сваёй мудрасці. Цяжка было ўявіць чалавека ўнутрана маладзейшага, чым 80-гадовы Сяргей Іванавіч. Асабліва ў тыя частыя хвіліны, калі ён казаў пра дарагія для яго рэчы.

Словам, у паэта заўсёды быў у наяўнасці ўвесь «джэнтльменскі набор», які дае права лічыць яго сапраўдным, сутнасным інтэлігентам. Калі пад такім адказным словам разумеюць не нейкую інтэлектуальную «начынку», а стан душы. Высокае, высакароднае, часцей арыентаванае на боль за іншых, а не за сябе. Узяць хоць бы і вось гэтыя шчымлівыя радкі:

Я ўсім дарую, хто мяне пакрыўдзіў,
Даруйце мне, каго пакрыўдзіў я.

Цалкам арганічны для яго зварот. У такіх людзей, як ён, кожны дзень — «даравальная нядзеля».

…Яго дзесяць гадоў як няма, а ўспрыманне яго, усё звязанае з ім такія ж жывыя і непасрэдныя. Бываюць памерлыя людзі, але не бывае памерлых паэтаў. Тыя, хто любіў і любіць Сяргея Іванавіча, працягваюць атрымліваць неабходныя адказы, толькі ўжо размаўляючы не з ім, а з яго кнігамі. А значыць, сапраўдны аўтар заўсёды ўкладваецца ў свой тэрмін. Паспявае выканаць творчы, чалавечы абавязак. Перад сабой, музай, чытачамі… Ва ўсякім выпадку, ува мне па-ранейшаму жыве падзяка настаўніку, любоў і павага да старэйшага сябра. Калі жыве фантомны боль, ён ніколі не скончыцца.

Асабіста для мяне няма ніякіх сумневаў: Сяргей Іванавіч Грахоўскі — імя ў беларускай літаратуры. Вялікае, добрае, светлае… Якое заслугоўвае не толькі невялікай стэлы насупраць кінатэатра «Арыён», але і асобнага помніка. Такога ж маштабу, як і ўзведзены ў гонар героя вайны Сцяпана Шутава. Людзі і чалавецтва ў немалой ступені выйграюць, калі навучацца прыраўноўваць творчы подзвіг да ратнага. Лічу, што думка ў аднолькавай ступені і актуальная, і магчымая напярэдадні 100-годдзя з дня нараджэння выдатнага земляка. Чалавека, чыя душа праз паэтычныя радкі нейкай нябачнай разеткай падключана да чытацкіх сэрцаў. А да землякоў — тым больш. Усім нам яшчэ доўга вучыцца яго душэўнаму арыстакратызму, немітуслівасці жэсту, уменню жыць і дзейнічаць у адпаведнасці з логікай абставін, алгарытмам пачуццяў і спагадлівасці душы.

Таму і пісаў ён не па прынцыпе «давай цадзіць словы». У кожнага свой сэнс, свой пасыл, адрасат, сваё значэнне. Разам з імі, словамі, пражыта не проста біяграфія, а ***лёс***. У ім ён «прапісаўся» ў маштабе свайго характару і

таленту. Несумненнага і вялізнага. Адсюль і безумоўнае прызнанне заслужанага дзеяча культуры, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі.

На прыкладзе прыгожага быцця С. І. Грахоўскага яшчэ больш пераконваюся: у жыцці як бы дзве праекцыі. Адна ў мінулае, другая ў будучыню. У мінулым памяць, а ў будучыні для такіх, як ён, творчая неўміручасць. А гэта і ёсць прамы працяг жыцця.



# Навум Сандамірскі

Сандамірскі Навум Барысавіч нарадзіўся ў 1942 г. у в. Сакалова Алтайскага краю. Жыве ў Глуску. Член СБП і Саюза журналістаў. Дзяржаўны стыпендыят 1997 г. у сферы культуры і мастацтва. Аўтар кніг «Людзі, час, жыццё», «Мястэчка 2, ці Настальгічнае слова на пішучай машынцы», «Танальнасць соль-мінор», «А што сказаў бы Фрэйд», «Адкладзены партрэт».

ТАМАРА АЎСЯННІКАВА

## Мы жывём — пакуль нас помняць

*(Да 90-годдзя БДУ)*

На жыццёвай дарозе памяці ў кожнага чалавека ёсць адмеціны. Іх пакідаюць людзі, падзеі, кнігі. Гэтыя адмеціны могуць быць светлымі і радаснымі, горкімі і трагічнымі, мудрымі і жыццевызначальнымі.

У 1966–1971 гг. са мной у БДУ імя Леніна на філалагічным факультэце вучылася каля 130 чалавек у чатырох групах. Цікава, што з некаторымі аднакурснікамі за гады вучобы мне не давялося ніводнага разу гаварыць. Напрыклад, з Алесем Разанавым і Яўгенам Хвалеем. З удзячнасцю ўспамінаю старасту курса Юрку Нагорнага, Тамару Малашэвіч, Людмілу Буш, Алу Каляга, Шурачку Боханчык, Таню Панчанка, Людмілу Карпаву, Станіслава Крэпскага, Надзею Лабуда, Люсю Маргайлік, свайго земляка Віктара Яраца і інш. Сяброўскія адносіны на ўсё жыццё склаліся з Тамарай Каленікавай, Жэняй Янішчыц, Лідзіяй Корбут, Янінай Макарэвіч — мы жылі ў адным інтэрнацкім пакоі.

Я ўдзячна лёсу, што мела магчымасць бачыць і слухаць **Алеся Адамовіча**, які чытаў спецкурс «Дастаеўскі — Чорны». **Барыс Паўлавіч Міцкевіч** быў узорам высакароднасці і дабрыні, чытаў курс замежнай літаратуры. Метадычным прыёмам **Навума Ісакавіча Лапідуса** (курс антычнай літаратуры) я карысталася ў сваёй педагагічнай практыцы: спыняць аповед на самым цікавым месцы і даваць заданне.

Светла ўспамінаецца **Анцінея Рыгораўна Мурашка** — куратар нашай групы. Яна апекавалася намі як маці. Я і сёння чую непаўторныя ноткі яе голасу і смеху. З удзячнасцю ўспамінаю выкладчыка лацінскай мовы **Самуіла Ісаакавіча Пільмана**, які прывіў любоў да лацінскіх крылатых выслоўяў. Самуіл Ісаакавіч быў неардынарнай асобай, цікавым чалавекам з пачуццём гумару. Ніхто дакладна не ведаў, колькі яму было тады гадоў. Гаварылі, што за 80. Памятаю яго карычневае паліто з дарагога драпу і капялюш такога ж колеру. Мне падабалася, што незалежна ад пары года і надвор'я Самуіл Ісаакавіч адчыняў вокны, каб праветрыць душную аўдыторыю. Гаварылі, што ён маржаваў. Яго баяліся і па некалькі разоў здавалі залік. Адна мая аднакурсніца не пайшла здаваць разам са сваёй групай, каб лепш падрыхтавацца. У час іспыту яна паказала добрыя веды. Самуіл Ісаакавіч быў задаволены адказам і добразычліва пацікавіўся, чаму яна не здавала разам са сваёй групай.

— Я Вас баялася, — адказала студэнтка.

Гэта абразіла Самуіла Ісаакавіча, ён нават павысіў голас:

— Я што, lupus (воўк), nostrum (звер)? Прыйдзеце тады, калі перастанеце мяне баяцца.

І залік не паставіў. Аб здачы заліку па лацінскай мове хадзіла многа баек, якія наводзілі страх на першакурснікаў. Некаторыя бедалагі рабілі да сямі

заходаў. Ім прыходзілася турбаваць выкладчыка нават дома. Аднойчы некалькі студэнтаў пастукаліся ў кватэру С. І. Пільмана. Дзверы адчыніў хлопчык гадоў сямі.

— Хто там? — пачуўся голас Самуіла Ісаакавіча.

— Двоечнікі, — адказаў хлопчык.

— Спытай, унучак, што яны ведаюць?

Хлопчык задае некалькі пытанняў на лацінскай мове, на якія не атрымлівае адказаў, і гучна кажа:

— Дзядуля, яны нічога не ведаюць!

— Чулі? — паварочвае галаву Самуіл Ісаакавіч. — Да пабачэння.

А вось яшчэ. У аднаго студэнта, які з ім павітаўся, Самуіл Ісаакавіч запытаў:

— Вы мне залік здалі? — і, пачуўшы станоўчы адказ, здзівіўся: — Тады навошта вы вітаецеся?

Самуіл Ісаакавіч прымае залік. Праз некаторы час ён падняўся і накіраваўся да выхаду:

— У мяне рэжым.

Панкратава Ала адпарыравала:

— У вас рэжым, а мы дрыжым.

Самуіл Ісаакавіч спыніўся:

— Панкратава, вы які раз сёння здаяце?

— Трэці.

— А па маіх падліках — пяты. Рыхтуйцеся, — і выйшаў.

Мой сшытак са ста лацінскімі выказваннямі бясследна знік — дала камусьці перапісаць. Я не шкадую. У мяне зараз ёсць слоўнік лацінскіх крылатых выслоўяў. Імі я заахвочваю сваіх выхаванцаў. Адно з самых маіх любімых — «docendo discimus» — навучаючы, мы вучымся самі.

**Маргарыта Барысаўна Яфімава** лекцыі ў нас не чытала. Але ж мне пашанцавала. Яна вяла гурток мастацкага чытання, які я наведвала. Пазней гурток стаў тэатрам-студыяй «Летуценнік» і атрымаў званне народнага. Запомнілася наша сумесная праца над вершам **Васіля Віткі** «Штык і ружа», які мы рыхтавалі да аднаго з універсітэцкіх канцэртаў. Мы задумваліся над кожным радком, кожным словам, шукалі патрэбную інтанацыю, каб як мага лепш перадаць настрой верша і задумку аўтара. Памятаю: пасля першых радкоў *«Перасохла рэчышча, дзе крыніца бегла, / Дзе стаяла печышча — учарнела цэгла»*, у зале усталявалася абсалютная цішыня. Пасля апошняга радка *«Будзе вечна светлай аб салдаце памяць»* у зале яшчэ некаторы час цішыня звінела. І толькі калі я пайшла са сцэны, пачуліся апладысменты. Пасля канцэрта да мяне падышоў Васіль Вітка і сказаў: «Як жа добра вы прачыталі мой верш! Вялікі вам дзякуй». Я ведаю, што так зразумець і прачытаць верш мне дапамагла Маргарыта Барысаўна. Я радая, што і сёння магу пагаварыць з Маргарытай Барысаўнай, папрасіць парады, абмеркаваць літаратурныя навіны. М. Б. Яфімава — таленавіты педагог, добры літаратуразнаўца, шчыры

і высакародны чалавек. Яна і сёння працуе. На старонках рэспубліканскіх выданняў мы сустракаем яе грунтоўныя артыкулы аб пісьменніках старэйшага пакалення.

**Аліса Міхайлаўна Шыловіч** працавала лабарантам у кабінеце беларускай літаратуры. Нашыя дарогі цесна перасекліся восенню 1968 г. Некалькі студэнтаў з курса замест «бульбы» былі пакінуты Н. С. Гілевічам на кафедры. Мы выбіралі варыянты песень, сабраных на фальклорнай практыцы, якія не ўвайшлі ў папярэднія выданні. А працавалі ў кабінеце беларускай літаратуры. І вось аднойчы па дарозе ў інтэрнат я страціла прытомнасць, мяне забрала хуткая дапамога. Аліса Міхайлаўна, калі даведалася пра мой вельмі нізкі артэрыяльны ціск, на другі ж дзень прынесла мне настойку жэньшэню. Пазней падарыла берэцік і рукавічкі белага колеру, іх звязала яе мама. З таго часу паміж намі ўстанавіліся шчырыя адносіны, нават з крэўнымі людзьмі не заўсёды бываюць такія. Мы і зараз адчуваем духоўную еднасць. Нашаму знаёмству больш за сорак гадоў. Для мяне Аліса Міхайлаўна і яе муж Георгій Уладзіміравіч Шыловіч па-ранейшаму самыя блізкія і родныя.

Помню першую дыктоўку па беларускай мове. Наш выкладчык **Бурак Леанід Іванавіч**, пэўна, маючы добры намер дапамагчы нам станоўча напісаць дыктоўку, сказаў: «Звяртайце ўвагу, як я буду чытаць. Калі я буду рабіць паўзу — стаўце коску. Калі я буду рабіць больш доўгую паўзу — стаўце працяжнік. А калі я буду рабіць вельмі доўгую паўзу — стаўце кропку з коскаю». Канешне, дыктоўку мы напісалі вельмі дрэнна: усяго некалькі станоўчых адзнак. Пасля гэтага эксперыменту мы больш не карысталіся паўзамі выкладчыка, а спадзяваліся на свае веды.

**Міхась Рыгоравіч Ларчанка** запомніўся сваёй шчырай непасрэднасцю, дабрынёю і вялікай любоўю да беларускай паэзіі.

Ад **Еўдакіі Сцяпанаўны Камароўскай**, выкладчыка па дыялекталогіі, засталося выслоўе: «*Як у дзеўках была, дык яшчэ нічога, а як замуж выйшла, дык апусцілася, як панчоха без падвязкі*».

Фальклор мне быў блізкім, таму я выбрала спецкурс, які вёў **Ніл Сымонавіч Гілевіч**. Пад яго кіраўніцтвам я і дыпломную работу пісала. Ніл Сымонавіч выдзяляўся сярод усіх перш за ўсё павагай да студэнтаў, называючы кожнага на «Вы». Гэта павышала значнасць установы і факультэта, на якім мы вучыліся. Прыходзілася адпавядаць гэтаму «Вы». Хоць і нязвыкла было, але прыемна. Усё, што гаварыў Ніл Сымонавіч, мела сілу ўздзеяння не толькі зместам, але і манерай выкладання. Пачуццё меры было ва ўсім. Адчувалася грунтоўнасць ведаў і вялікая любоў да беларускага слова. «Без мовы — не можа быць нацыянальнай культуры», — гаварыў ён. Таямнічасці да яго асобы дадавала легенда аб тым, што ў студэнцкія гады ён быў закаханы ў сваю аднакурсніцу, якая працуе недзе на Віцебшчыне настаўніцай. Значна пазней я даведалася, што **Ніна Іванаўна**, жонка Ніла Сымонавіча, і настаўніца з Віцебшчыны — адна і тая ж асоба. Не заўважыць Ніну Іванаўну было нельга. Яна з вялікім густам апраналася, прыгожа зачэсвала свае светлыя валасы, і ў

манеры трымацца адчувалася пачуццё асабістай годнасці. Ніна Іванаўна — выдатны педагог, мовазнаўца, асветнік, па словах В. Быкава, «добры анёл беларускасці».

Аўтограф Ніла Сымонавіча 1967 г.: «*Дружыце з паэзіяй — з ёю лягчэй жывецца*» і сёння мне служыць дэвізам. Так сталася, што іменна паэзія ратуе мяне ад прозы жыцця, а яшчэ тыя высакародныя людзі і Настаўнікі, якія сустрэліся на маёй дарозе. Я ўдзячна ўсім. Сапраўды, мы жывём — пакуль нас помняць!

*Чэрвень 2011 г.*

МІКАЛАЙ БУЛАВАЦКІ

## Вадохрышча ў Восах-Калёсах

І раптам ён закрычаў:
— Гэта павінна было памерці! Чаму яно не памерла! Яно законна ішло да смерці, і я раней за другіх зразумеў гэта! Чаму яно не памерла… Чаму?!
*У. Караткевіч. «Ладдзя роспачы»*

20 студзеня 1943 г. фашыстамі была цалкам спалена невялічкая вёсачка з дзіўнай назвай Восы-Калёсы, што размяшчалася сярод лясоў і балот паміж Глускам і Асіповічамі. Спалена з людзьмі, якія не змаглі ці не паспелі ўцячы ў лес…

…Калі пачалася вайна, мне было амаль дзевяць год, я ў другі клас перайшоў.

У той самы дзень маці з Марусяй (маёй малодшай сястрой) у Мінску была. Дзяўчынка захварэла, ды так, што глускія дактары не маглі дапамагчы, далі накіраванне да сталічных свяцілаў…

Прыехала ў Мінск, а там бамбёжка. Поўны вакзал народу, мітусня, ніхто з ёю гаварыць не хоча, нічога не тлумачаць. Крычаць, лезуць па квіткі некуды ехаць. Нехта ўсё ж паспагадаў хвораму дзіцяці, дапамаглі ўзяць квіток назад да Асіповіч.

Стаіць, чакае цягніка. Разгаварылася з нейкай яўрэйкай, тая й кажа: «У вас дзіця такое хворае, вам не трэба ехаць дадому, а трэба абавязкова да дактароў…» І ўгаварыла дурную маці. Тая прадала ёй свой квіток і зноў пайшла дактароў шукаць. Ёй кажуць: «Што ты, баба! Уцякай адсюль, бо хутка тут усё рушыцца будзе! І сама загінеш, і дзіця загубіш!..»

Яна ў слёзы ды зноў на вакзал. А там шчэ большая мітусня, крыкі, лаянка…

Неяк жа яна ўлезла ў вагон, даехала да Асіповіч. Прыйшла дадому пешшу з дзіцём на руках, гэта кіламетраў з дваццаць. Дзякаваць Богу, сястра ўсё ж неяк выправілася пазней, шчэ трэба было ёй паўтара года пажыць.

Напрыканцы чэрвеня ці мо ўжо напачатку ліпеня прыехалі ў вёску немцы на фурманках. Дывізія наша разбіта была, і яе парэшткі па лесе рассыпаліся. Дык тыя немцы злавілі двух салдатаў. Вялі іх перад сабой і білі. Хто штыком штурхаў, хто шомпалам па галаве. Потым расстралялі.

Абглядзелі вёску і паехалі. Тыдні праз два прыехаў камендант з Завалочыц на двухколцы. Смела тады ездзілі, не баяліся. Партызанаў яшчэ не было, а салдаты з разбітай дывізіі па лясах хаваліся, не вытыркаліся. Прыехалі ўсяго ўдвох, камендант і вазніца, з такімі пакункамі для яек, якія цяпер у кожнай

краме, а тады мы іх упершыню пабачылі. Прыехалі: «Давай яйкі, куркі!» Хто куру прынёс, хто яек назбіраў. Яны гэта ўсё забралі і паехалі. Ціха-мірна.

Яшчэ колькі разоў прыязджалі, але й нячаста.

А салдаты ў лесе кучкавацца пачалі, афіцэры пачалі атрады збіраць.

Неяк, ужо позняй восенню, ехала група немцаў на роварах. Праехалі Масты (вёска такая была паміж Яўсеевічамі і Восамі, яе таксама пазней спалілі), а за Мастамі іх і пастралялі ўсіх. Пасля таго ўжо па адным не ездзілі, як той камендант. Калі ехалі, то чалавек па сорак.

Ужо зімой пачалі прызначаць паліцаяў і старастаў. У Восах-Калёсах не знайшлося ніводнага паліцая. У суседніх вёсках, у Мяжным, у Бортным, — там праз хату. А ў нас ніводнага. Прыехалі аднойчы старасту прызначаць — ніхто не пагадзіўся. Сказалі: «Падумайце!» І паехалі.

Завітаў у вёску Паланейчык, ён тады партызанскі атрад збіраў, і кажа дзядзьку Цярэнту (гэта мацерын брат): «Станавіся! А то прывядуць якога гада, будзеце тут на дыбачках хадзіць. Трэба, каб свой чалавек быў». Так і стаў Цярэнта старастам. Пасля вайны яго збіраліся судзіць за гэта, але Паланейчык тады яшчэ жывы быў, уратаваў.

А зіма 42-га года халодная пачалася. Пад Новы год маразы градусаў пад трыццаць. Партызанскіх атрадаў у нашых лясах тады было ўжо чатыры. У зямлянках сцюдзёна, замярзаюць. Вось і пайшлі адагравацца па вёсках. У Восах-Калёсах атрад Шашуры атабарыўся. Якраз перад Новым годам прыйшлі і размясціліся па хатах. А штаб быў у Рыгора Караля.

Адтуль і вылазкі рабілі. Злавілі неяк паліцая, прывялі ў вёску, хацелі стрэльнуць. Той узмаліўся, што будзе з партызанамі супраць немцаў ваяваць. А ягоны брат у гэтым атрадзе быў. Паверылі, не расстралялі. А ён уцёк да немцаў і ўсё ім расказаў.

Выправілі немцы пад Каляды ў вёску карную экспедыцыю. Партызаны паўцякалі ў лес. І вяскоўцы, хто спрытнейшы, паўцякалі. Засталіся старыя і нямоглыя. Зайшлі ў хату Караля. Рыгор уцёк у лес, а ягоны брат Іван, інвалід фінскай вайны, не змог уцячы. Яго й расстралялі. І яшчэ двох мужыкоў, каго злавілі. Жанчын і малых не чапалі.

Пазабіралі свіней, кароў, курэй. На ўсю вёску пакінулі тры ці чатыры каровы — для дзяцей, маўляў. Усё астатняе павезлі ці пагналі — «каб бандытаў не кармілі».

Праз суткі вярнуліся партызаны, зноў размясціліся па хатах, хадзілі на заданні. Мабыць, дапяклі немцам, бо задумалі яны больш жорсткую карную аперацыю.

Гэта на Вадохрышча было… Баба Каця напярэдадні вечарам зварыла куццю. Раніцай мы селі снедаць. І тут нехта з суседзяў зайшоў, сказаў, што партызаны перадалі, каб ратаваліся, каб ішлі ў лес, бо набліжаюцца карнікі. Партызаны таксама кінулі вёску і падаліся ў лес.

Мы хутка паснедалі і пайшлі ў лес, як і ўся вёска. Хто ў клунак сёе-тое звязаў, у лясёнцы за плечы ці ў мяшку — усе нешта нясуць. А ў нас партызаны пакінулі нейкага хворага каня, высокага і вельмі худога. А побач жыў Іван Юзікаў, нейкі наш сваяк: яго жонка Маня і Цярэнтава жонка Анюта былі сёстрамі. Юзікаў — гэта па бацьку, а прозвішча — Клыга. У Івана калісьці было два кані і была збруя ўся. Коней у яго забралі партызаны. А сані і збруя засталіся.

Ну дык вось, запрэглі мы нашага каня ў Іванавы сані і паехалі. Іван з Маняй і сынам Валодзем. І мы — Маруся, Рая, я і маці. Дзяўчынкам — 4 і 6 гадоў. Дарослыя ішлі пешшу, а дзяцей на воз пасадзілі. І наклалі на воз сякія-такія пажыткі — па мяшку жыта, падушку, коўдру, шчэ сёе-тое.

Прыехалі ў лес, там быў невялічкі партызанскі будан з яловых галінак, яшчэ летам зроблены. Вакол гэтага будана ўсе й размясціліся.

Расклалі вогнішча, каб пагрэцца, а тут «рама» ляціць, самалёцік такі, — мы хто куды, давай заліваць тое вогнішча. Начавалі без агню, баяліся.

Ноч цяжкая была. Маразы сапраўдныя хрышчэнскія. А снегу нападала шмат, ды на нямёрзлую зямлю, балота правальвалася. Правалішся, намокнеш, а тут мароз градусаў пад 20–25. Мерзлі, дрыжэлі.

Мне ўжо адзінаццаты год ішоў, мажа й лягчэй, чым малым. Але ўсё адно — сядзіш, задрэмлеш. Глядзь: прымёрз. Высякаць трэба.

А з немаўлятамі зусім бяда. Яны то ўмочацца, то абмараюцца. Іх трэба перапавіць. А як раскруціць на марозе? Маленькі агеньчык у будане раскладуць, каб пры хоць якім цяпле пераспавіваць дзяцей. А тут дым у вочы лезе, дзеці крычаць, плачуць. Іх суцішаюць, хуценька мяняюць пялюшкі, пакуль зноў не абмочацца. Адным словам, напакутаваліся, як толькі можна.

Дзень надышоў пахмурны. Мужыкі пайшлі, паглядзелі з лесу: наша бабка Каця дома засталася, у печы паліць, дым з коміна відаць. Сказалі нам. Вось тады захацелася дадому, на печы пагрэцца!

Мужыкі хадзілі-хадзілі, глядзелі-глядзелі з лесу. Усё ціха. Некалькі старых дома засталіся, там дымок з коміна. І нічога больш не відаць.

З паўдня так нудзіліся. А потым пачалі збірацца дадому, хаця б адагрэцца. Маўляў, на ноч не прыйдуць, а з раніцы зноў збяжым.

Каму хутчэй трэба? Натуральна ж, дзецям. Хто-ніхто ўжо дзіця ў лясёнку ды за плечы і кіруецца дадому. І маці запрагае каня, садзіць Марусю з Раяй, яшчэ Шымчыкавых Росліка і Сцёпку, сама села і пагнала каня, як мог гэты небарака, каб дзяцей завезці грэцца, а сама затым вярнулася б за пажыткамі. Гэта ж недалёка й было, якіх два кіламетры.

Выехала яна з лесу. А баба Каця ўбачыла, што яна едзе, выбегла, махае хусткай. Хацела папярэдзіць, каб не ехала, бо немцы ў вёсцы. А маці думала, што тая радуецца яе вяртанню, і яшчэ каню наддае. А калі ўжо пад'ехала блізка і пачула, што Каця крычыць, тады ўжо позна было. Немцы ў маскхалатах са снегу паўсталі, і яна апынулася ў ачапленні.

Паехала дадому. Там на печы яшчэ двое дзяцей сядзелі — Коля Шымчык, на год за мяне старэйшы, і Тонька, дзяўчынка з Мастоў прыйшла да сваякоў, але тых не знайшла, бо яны ж у лесе былі, дык сядзела ў нас. Маці пасадзіла дзяцей, каго прывезла, за стол, каб гарачым супам накарміць. Але тут зайшлі немцы і забралі маці і бабу Кацю. Загадалі ім ісці туды, дзе ўсіх людзей збіралі. Маці яшчэ далі нечую карову гнаць туды ж, а бабе далі ў рукі кош з трыма курамі несці. Бабка пачала прасіцца ў немца, каб адпусціў дадому, бо там дзеці, іх пакарміць трэба. Ён урэшце забраў той кош, даў ёй выспятка пад зад так, што ледзьве не расцягнулася на дарозе. Але ўсё ж яна, задаволеная, пабегла дахаты.

Прыбегла, пасадзіла дзяцей за стол, пачала ім супу наліваць. Зайшоў немец, адразу стрэліў з пісталета ёй у галаву. Яна ўпала. Потым пачаў дзяцей страляць за сталом — пок-пок-пок-пок. Усіх чатырох. Потым убачыў дзяцей на печы. Тоньку адразу застрэліў, тая пачалаваліцца на Колю. І той пачаў валіцца пад яе цяжарам. Немец стрэліў у Колю, але не трапіў, толькі вопратку куля прарэзала. Коля ўпаў і ляжыць, маўчыць. Немец тады разрэзаў сяннік, расцерушыў салому па падлозе, з куфра ўсё павытрасаў, шукаў мо нешта каштоўнае, потым чыркануў запалкай, кінуў яе ў салому і пайшоў. Яшчэ з двара прыкладам павыбіваў шыбы. Паваліў дым. Коля выкараскаўся з-пад Тоньчынага цела, выбраўся на двор, паглядзеў, што нікога няма, забег за хлеў і закапаўся ў стог сена. Там ляжаў, пакуль агонь да стога не дабраўся. Як стог пачаў гарэць, а гэта было пад вечар ужо, ён вылез са стога і пабег у лес. Нехта страляў, ці па ім, ці не па ім, але ён прыбег у лес і расказаў усім, што бачыў.

Ненадоўга ўратаваўся. За тры дні да вызвалення яго забралі немцы, завезлі ў Бабруйск, і дзе ён дзеўся, нікому не вядома.

Маці тады павялі разам з іншымі бабамі. Яны яшчэ некалькі кароў гналі пад прыглядам. Яна па дарозе ўцякла. Але гэта асобная гісторыя.

Тых, хто засталіся ў вёсцы, старых і малых, сагналі ў калгаснае гумно, закрылі, забілі жэрдкамі і запалілі. І пра гэта можна асобна распавядаць.

А мы засталіся ў лесе. Сядзім, думаем, што рабіць. Вёскі няма. Куды падацца? А ў мяне й маці няма, нікога няма. Хто быў з сваякоў, тыя ў іншым месцы хаваліся. Тут ніхто не свой. Усе збіраюцца разыходзіцца. Хто дарослы, ды яшчэ мужык, дык таму прасцей. Ён і лес ведае і ўвогуле больш ведае. А жанкі з дзецьмі? Што ім рабіць?

Вырашылі, што ўсім разам нельга, бо немцы лёгка знойдуць па слядах. Трэба разыходзіцца паасобку. Калі зловяць, дык аднаго-двух, але ж не ўсіх.

І пачынаюць разыходзіцца — хто куды. А мне што рабіць? Маці са мной пакінула няпоўны мяшок жыта, суконную саматканую коўдру ў клеткі і падушку.

Іван бярэ тую коўдру і рэжа яе на шэсць частак, на шэсць парцянак. Абуваецца сам, абувае Валодзю, сына, і дзве парцянкі аддае жонцы, Мані. Тая паглядзела і кажа:

— Што ж ты робіш? Нельга!..

А я побач сяджу і ўсё чую.

— Нельга, — кажа яна, — пры жывым дзіцяці.

— Нічога, — адказвае Іван, — яго ўсё адно да раніцы ўжо не будзе. Не дажыве.

Яны абуліся, сабраліся і пайшлі. Чаму мяне з сабой не ўзялі? А навошта я ім трэба? У саміх харчоў на які тыдзень. А мяне ж карміць трэба. І цягаць з сабою. Тут самі не ведаюць, куды ісці, што рабіць… Падушку і мяшок з жытам пакінулі, не забралі. Сваё жыта было, а колькі ж панесці можна.

Я застаўся. Але трэба ж і мне куды падавацца. Я пайшоў за нейкай жанчынай. Яна азірнулася і кажа:

— Вунь туды з мужыком пайшлі. Можа, там цябе прымуць.

Пакуль я перабіраўся з аднаго следу на другі, усе зніклі, нікога не відаць. Я й пайшоў нейкім следам. Ісці цяжка было. Снег глыбокі і рыхлы, правальваешся. Прайшоў мо якіх метраў дзвесце ці трыста. Цямнець пачало. Страшна стала. Шапку-вушанку нацягнуў, рукі ў рукавы схаваў, скукожыўся і сеў пад хвойкай. Так і прасядзеў усю ноч.

Павінен быў замерзнуць. Але ж Бог не даў.

Стала развіднець. Бачу, бяжыць па лесе суседка наша Хрысціна з дзвюма дзяўчынкамі сваімі. Убачыла мяне, аж спужалася. Падышла бліжэй, завойкала:

— Уставай!

А я ўжо ўстаць не магу. Яна за каўнер падняла. Шчокі пацерла, рукі пацерла, павадзіла за руку вакол сасны. Я неяк расхадзіўся. А яна ўсё наказвае:

— Не стой! Прысядай, хадзі…

Я так хаджу і хаджу. А яна распаліла агонь, дастала кацялок, набрала ў яго снегу, паставіла на агонь, закіпяціла, дастала з торбы жыта, кінула жменю ці дзве ў кацялок. Зварыла, дала мне паесці, дачок пакарміла, сама трохі з’ела. Лыжка адна была, дык мы сёрбалі па чарзе.

Я каля агню адагрэўся, паеў гарачага, — ужо й павесялеў. Хрысціна паглядзела, адвярнулася ды й кажа сама сабе:

— Вось, Божа мой, Божа! Гэта ж трэба, каб памерла, а яно жыве.

Павярнулася да мяне ды кажа:

— Ну што ж, дзіця, ты нам не трэба. Пойдзем мы. А ты ідзі вось па гэтым следзе. Там будуць мужчыны. Можа, яны табе як дапамогуць.

Забрала дачок ды пайшла па лесе. А я пайшоў туды, куды яна паказала. Прайшоў якіх метраў мо трыста, далей розныя сляды сталі перасякацца. Людзей шмат хадзіла па лесе. І ўправа, і ўлева, дзе ўзад, дзе ўперад, і вялікія сляды, і малыя. Гэта ж я цяпер магу ў слядах разабрацца. А тады што я там бачыў — ну ў лапцях ступілі, а ў які там бок хто йшоў — Бог яго ведае. Я пахадзіў па адным следзе, потым перайшоў на другі, нібыта той самы… Пахадзіў-пахадзіў, нідзе нікога не знайшоў, нідзе нікога няма. Я зноў сеў пад сасну. Дый хутка вечар надышоў. Не помню, не ведаю, колькі я сядзеў. Можа, пераначаваў так, можа не. А потым… Гэта пазней высветлілася: Хрыс-

ціна перадала дзядзьку Рыгору, што я там недзе яшчэ не замёрз. А ў дзядзькі нейкі канёк быў, ён і прыехаў на гэтае месца шукаць.

Я сяджу пад сасной на кукішках, скалеў так, што й падняцца не магу. Чую, нехта крычыць:

— Коля! Коля!..

Нехта кліча Колю, а я й не думаю, што гэта мяне, сяджу. Паварочваю галаву (а рукі-ногі ўжо й не слухаюцца, не рухаюцца), бачу: з-за дрэў нехта едзе на чорным каньку. Едзе і крычыць:

— Коля!..

Я прыгледзеўся, пазнаў дзядзьку, але крыкнуць не мог. Ён мяне сам прыкмеціў, пад'ехаў, лаяцца пачаў:

— Чаго ж ты не адклікаешся?! Я цябе доўга шукаю!

А я сяджу і маўчу.

Ён мяне падняў, расцёр, прымусіў патупаць туды-сюды. Дастаў з-за пазухі кавалак нейкага бліна, даў пагрызці дый шпарка паехалі.

Пад'язджаем да грэблі, каб пераехаць балота, і раптам чуем гул машыны. А мы сярод сенакосу на адкрытым месцы.

Ён хуценька разварочвае каня, дае мне ў рукі дубец і кажа:

— Гані, як можаш, па нашым следзе назад!

А сам у другі бок, у кусты пабег. Я па тым кані дубца-дубца, ды што ж — я не кіраваў ніколі канём. Гэты конь у нейкага лазовага куста ўлез, ублытаўся там і стаіць, няма куды больш бегчы. І я сяджу на санях, і конь чорны на кусце. А па дарозе машына едзе. Я яе бачыў, а ці бачылі адтуль мяне — не ведаю. Ніхто не спыніўся, не стрэльнуў. Можа й не заўважылі, бо ўжо вечарэла.

Потым дзядзька падбягае:

— Ай-яй-яй! Ну я ж табе казаў: па следзе едзь! А ты што зрабіў?.. Яны стрэльнулі б — ты ж бы тут і застаўся! І мяне б знайшлі, забілі!

Я сяджу, маўчу, бо што тут казаць.

Дзядзька дапамог каню выблытацца з куста, праехаў крыху, потым каня пад куст паставіў, сам выйшаў на дарогу, пахадзіў-паслухаў. Машыны ўжо не чуваць, пайшла туды ў бок Восаў. Ён ускочыў у сані і дубцом па кані.

Толькі мы параязджаем грэблю, ужо з'язджаем з сенакосу ў кусты — і тут гэтая машына едзе назад. Ён наддаў каню і напрасткі па балоце, не гледзячы ніякіх дарог.

— Мы ж, — кажа, — дарогу пераехалі, там нашы сляды засталіся. Убачаць — бяда будзе!

Праўда, машына як ішла, так і пайшла, не спынілася.

Прывёз у свой стан. Там цётка Стэпа нешта варыла, суп нейкі. Ды мо якую шкварку туды кінула. Смачны здаўся мне!..

Мяне з Тамарай, іхняй дачкой, пакармілі, потым самі сталі есці. А ўжо сцямнела. Раптам чуем: шух-шух-шух… Чалавек нейкі ідзе. Не адтуль, адкуль мы прыехалі, а з другога боку. Што за чалавек? Можа, немцы якую аблаву наладзілі? І конь распрэжаны, прывязаны да бярозы. Запрагацца ўжо

няма калі. Яны што ў рукі схапілі, дзяцей за рукі — і ўцякаць! І суп недаедзены застаўся.

Ды колькі там прабяжыш! Снег па калена і балота незамерзлае. Дваццаць метраў прабяжыш і задыхаешся. Раптам чуем нейкі сіплы голас:

— Людзі добрыя! Пастойце!

Прыслухаліся, нібыта жаночы голас. Ідзе, выйшла на агонь. Глядзім — адна жанчына. Ну як адна, то не страшна. Варочаемся. Жанчына падышла да агню, за бярозу абхапілася, стаіць. Дзядзька кажа:

— Божа мой! Гэта ж Анця!

Гляджу — сапраўды маці. А яна, як сноп, бух у снег. Ляжыць і ўстаць не можа, выматалася.

Рыгор са Стэпай яе паднялі, прынеслі ў будан. Там наслана было сена, паклалі на сена, накрылі. Прынеслі супу, але яна й не ела.

І толькі назаўтра, устаўшы, абазвалася:

— Сынок! Ідзі сюды!

І пайшлі мы тады з ёю шукаць сваё.

Прыйшлі на ранейшае месца. Там той мяшок з жытам стаяў і падушка ляжала. Падушка тая дагэтуль са мной. Насыпку, здаецца, памянялі ўжо, і пер'я дабаўлялі, але падушка тая.

Пайшлі ў вёску, раскапалі папялішча, дзе склеп стаяў, знайшлі печаную бульбу. Зверху яна зусім згарэла, а знізу толькі спяклася. Шчэ й не прамерзла.

Накапалі той бульбы і пайшлі на Рудню жыць. Там і дажылі да выратавання ў Ганны Цімашыхі.

…З Іванам Юзікавым мы сустракаліся затым часта. Я пра ўсё гэта нікому не казаў. Было нейкае адчуванне няёмкасці…

Разумееш, калі бацьку забралі, гэта ж было за якія два месяцы да вайны, дык я быў сынам ворага народа. Мяне гэта неяк заціскала. Я ўвесь час чакаў нейкіх папрокаў, колкасцяў, кпінаў. Таму быў негаваркі.

А з Іванам сустракаліся часта. Былі нейкія застоллі, куды з'язджаліся свае. Я ж быў малы яшчэ, за сталом не сядзеў. На печы сядзеў ці ў якім кутку з іншымі дзецьмі.

На мой той розум, дык я й не вельмі зразумеў, што адбылося. Вайна была — там усё было не так, як трэба. Уражанняў штодзень хапала. Я пра тое і не ўспамінаў. Мацеры, праўда, сказаў, што дзядзька Іван коўдру падраў на парцянкі…

Яго паводзіны, як я іх цяпер разумею, выдавалі, што ён помніць тое і яго гэта гняце. Ён быў пры сустрэчах са мною нейкі насцярожаны. Я адчуваў нешта непрыязнае з ягонага боку. А ён, мабыць, мяне проста саромеўся. Яму было няўтульна з таго, што я магу пра гэта некаму сказаць. Дый нават не сказаць. Заўсёды няёмка адчуваеш сябе побач з чалавекам, якому нечым завінаваціўся. Ён амаль ніколі не дабываў да канца гасцей, пры мне прынамсі. Прыедзе, колькі чарак перакуліць і — дадому.

Мабыць, усё ж я не даваў яму спакойна жыць. Вось каб я памёр, замёрз, дык гэта было б па правілах. І ён бы спакойна жыў далей. А я парушыў правілы — не замёрз, выжыў. Павінен быў памерці, а жыву. І тым, што жыву, не даю яму забыць. Неяк нядобра я рабіў у дачыненні да яго, што жыў, я быў вінаваты гэтым перад ім. Але ж чым я мог яму дапамагчы?..



*Расповед Мікалая (на даваенным фота ён з сястрой Марыяй) запісаў ягоны брат Міхась, якому наканавана было з'явіцца на свет пасля вайны, бо бацька нейкім цудам вярнуўся дадому і з год пажыў. Далей — тэкст ад Міхася Булавацкага.*

Доўга думаў, памінаць тут сапраўднае прозвішча Івана ці не. Усё ж чалавека ўжо няма на гэтым свеце, адказ перад Богам трымае, што яму людскі суд?

Але ж калі праўда, дык няхай будзе ўся. Гэта не літаратурны твор паводле Быкава, гэта дакумент. Хаця і ў Быкава амаль нічога не выдумана, акрамя прозвішчаў.

Расказанае братам — толькі частка паўтарагадовай ваеннай гісторыі вёскі. Шмат іншага я чуў ад нябожчыцы-маці.

Аднойчы яна распавяла мне пра тое, як у яе хаце двух партызанаў прымалі ў камсамол. Аднаго нядоўга ўгаворвалі, другі ж катэгарычна адмаўляўся напісаць заяву. Пераконвалі доўга і ўпарта, але хлопец не здаваўся (маці і прозвішча ягонае запомніла: Паланейчык; мо шчэ якім сваяком быў камандзіру суседняга атрада). У хату зайшоў камандзір з пытаннем, чаго яны тут сядзяць.

— Вось гэты не хоча пісаць заявы!

— Што, гад?! — ашчэрыўся камандзір. — Хочаш здацца немцам, як прыйдуць?

— Не, — адказаў юнак. — Немцам я не збіраюся здавацца. Але заявы не напішу.

— Не напіша — расстраляць! — гыркнуў камандзір і пайшоў.

— Пішы! — кінуў нехта хлопцу. Што там было, маці не бачыла, бо яна штосьці шыла ў другой палове хаты. Нейкі даволі працяглы час было маўчанне. Затым той жа голас сказаў:

— Ну тады хадзем!..

Далейшага маці не ведае. Распытваць баялася: занадта цікаўныя ў тыя часы нядоўга жылі. А хлопца таго болей ніколі не бачыла…

Калі маці расказала мне гэтую гісторыю, то, паглядзеўшы на мой збянтэжаны твар, раптам спахапілася:

— Сынок! Ты хаця нікому пра гэта не расказвай!

Натуральна, збянтэжыцца было ад чаго: савецкі выхаванец, я лічыў, што прыняцце ў партыю і адпаведна ў камсамол было тады гонарам для кожнага вайскоўца ці партызана. «Камсамольскі білет» Куляшова вучыў. А тут высвятляецца, што заганялі пад кулямі.

Ці вось такая гісторыя. Неяк на Радаўніцу мы з братам наведалі лясныя могілкі, дзе ляжаць нашы бацькі. Упарадкавалі іх магілы, і я адышоў пацікавіцца, хто яшчэ тут ляжыць. Убачыў надпіс: «Жлобіч Ліда. 1927–1943». Побач парадкаваў магілы блізкіх былы сусед Аляксей Клыга.

— А што здарылася з дзяўчынай? — запытаўся я.

— Ну што здарылася: п’яны партызан застрэліў.

— За што?!

— Вось спытай у яе цяпер, за што. Мабыць, не аддалася яму, герою.

— І што з ім было далей?

— А што было? Нічога не было. Ваяваў далей.

Алёша зірнуў на мой выцягнуты твар і дадаў:

— Можа, якую натацыю камандзір і прачытаў. А расстрэльваць такіх — дык хто ж з ім ваяваць будзе.

…Шмат чаго яшчэ тоіць нявыказаная гісторыя маленькай вёскі, якая адрадзілася пасля вайны і якую затым дазнішчыла савецкая ўлада. Прыйдзе час распавесці пра ўсё. Калі будзе каму…



МІКАЛАЙ БУЛАВАЦКІ

Булавацкі Мікалай нарадзіўся 11 верасня 1932 г. у фальварку Восы на Глушчыне. Пасля заканчэння Полацкага ляснога тэхнікума працаваў лесніком, аб’ездчыкам Гарадоцкага лясніцтва. З 1961 па 1995 г. — ляснічы Завалочыцкага лясніцтва. Выдаў кнігу «Гісторыя Завалочыцкага лясніцтва» (Магілёў, 2004), адзначаную прэміяй Міністэрства лясной гаспадаркі. Жыве ў в. Серафімава Мінскага раёна.

## Гісторыя адной вёскі

*(Дыплом II ступені на конкурсе «Мой радавод. Лёс сям'і ў XX стагоддзі»)*

Гісторыя вялікая складваецца з гісторый маленькіх. У кожнай рэчы, у кожнай падзеі, у кожнай сям'і, у кожнага дрэва, тым болей у лесу ёсць свая гісторыя. Я раскажу вам гісторыю адной вёскі. Кароткую гісторыю, працягласцю меншай за чалавечы век, але колькі знакавага сплялося ў гэтай кароткай гісторыі. Праз такія гісторыі лепей усведамляецца вялікая гісторыя, гісторыя краіны, народа і ўвогуле чалавецтва…

### 1. Жылінскі і Восы

Сто гадоў таму на гэтым месцы быў дзікі лес, дзе вяліся мядзведзі і дзікі, ваўкі і ласі, рысі ды іншыя вялікія і малыя звяры. Уся гэтая жыўнасць адчувала сябе вольна, бо паляўнічыя амаль не траплялі сюды. Ды й патрапіць у гэты багністы куток усходняга Палесся паміж Глускам і Асіповічамі можна было толькі ў марозную зіму ці ў даволі сухое лета.

Землі гэтыя належалі пану Жылінскаму, даволі багатаму і знакамітаму магнату. Пра яго ўзгадвае «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі» як пра вядомага меліяратара. Сам Юзаф Жылінскі жыў у Пінску ці ў Санкт-Пецярбургу, наязджаў сюды нячаста. Недалёка ад мястэчка Завалочыцы быў яго дварэц (цяпер там вёска Дварэц, у якой нарадзіўся двойчы герой вайны танкіст Шутаў і ў якой, па апошніх даследаваннях, нарадзіўся і сам Ю. Жылінскі), адкуль навакольнымі землямі распараджаўся панскі ўпраўнік Мілон (людзі яго звалі Мільёнам).

Калі пачаліся сталыпінскія рэформы і багатых землеўладальнікаў абавязалі прадаваць землі, каб людзі пачалі на іх гаспадарыць, Жылінскі пачаў з продажу найменш прыгодных для жытла земляў — дзікіх лясоў і балотаў. А каб тыя балоты хто-ніхто купляў, пачаў рабіць там меліярацыю, асушваць балоты. Досвед такога землеўпарадкавання ён набыў, удзельнічаючы ў асушэнні земляў Англіі, Бельгіі, Галандыі і Германіі, а затым кіруючы ім жа распрацаваным грунтоўным праектам Заходняй экспедыцыі па асушэнні балот Палесся ў 1873–1898 гг. Дагэтуль у тых мясцінах дзейнічае частка пракладзенай ім дрэнажнай сістэмы з керамічных труб, прывезеных на валах з Галандыі.

Выйшаўшы ў адстаўку на 68-м годзе жыцця, Жылінскі стаў скарыстоўваць багаты досвед землеўпарадкавання на сваіх балоцістых землях з мэтай іх продажу. Гэта было на пачатку XX ст., распрадажа земляў пачалася недзе ў 1913 г.

Распавядаюць, што, калі пан Жылінскі на кані аглядаў гэтыя мясціны, вырашаючы, што і як прадаваць, ён выехаў з балотаў на ўзвышанае месца, прыгоднае для жытла. Месца гэтае было ўжо заселена восамі, асіныя гнёзды сустракаліся амаль на кожным кроку. Конь наступіў на некалькі гнёздаў, восы ўсхадзіліся, пачалі джаліць і пана, і панскага каня. Тыя — наўцёкі. З таго часу гэтую мясціну празвалі Восы.

Дадаюць пры гэтым, што кіламетра праз паўтара такіх уцёкаў калёсы, на якіх ехаў Жылінскі, ускочылі ў яму і зламаліся. Жылінскі кінуў іх і паехаў назад верхам на кані. Таму гэтую мясціну назвалі Калёсы. Але гэта не так, аб чым будзе патлумачана пазней.

**2. Іван і Макрэна**

Пасля адмены прыгоннага права прайшло ўжо больш за 50 год. Некаторыя сяляне з былых прыгонных назапасілі крыху грошай, і купляць зямлю было ўжо каму. Пан Жылінскі з дапамогай нанятага каморніка падзяляў сваю зямлю на надзелы прыблізна па дзесяць–дванаццаць дзесяцін (як тады казалі, наразаў «рэзы») і прадаваў іх па 115 рублёў за «рэз». Куплены «рэз» называўся «купчай».

Сярод купцоў быў і мой прапрадзед Іван Булавацкі. Сям’я Івана Хведаравіча (родам з Яўсеевіч) і Макрэны Сакаўны (родам з вёскі Глуша, у дзявоцтве Круглік) набыла зямлю блізу таго месца, якое празвалі Восамі, недзе ў 1915 г. Іван доўга збіраў грошы, каб купіць зямлю. А Макрэна любіла добра паесці, а калі й выпіць, яшчэ больш любіла прыбірацца, і грошы ў яе не трымаліся. Таму Іван хаваў грошы ў гарлачы, закапаным у зямлю. Так і назбіраў, прыдбаў свой кавалак зямлі.

Прыйшоўшы вясновым ці ўжо летнім ранкам на свой (ужо свой!) надзел, Іван з Макрэнай пачалі расчышчаць палянку сярод лесу, каб паставіць для пачатку якісьці будан. Расчысцілі і пайшлі на ноч у вёску Яўсеевічы, дзе жылі. Гэта — каля дзесяці кіламетраў.

На другі дзень шукалі-шукалі тое расчышчанае месца, так і не знайшлі. Знайшлі толькі на наступны дзень і пазначылі дарожку засечкамі на дрэвах.

Іван быў надарваны ранейшай цяжкай працай і цяпер у працы быў слабейшы за Макрэну, большую працу выконвала яна. Дапамагалі і дзеці. Старэйшаму, Васілю, было ўжо пятнаццаць гадоў. Праз які час на расчышчаным і раскарчаваным полі стаяла хата і расло проса (на расчышчанай ад лесу зямлі вельмі добра родзіць проса). Побач з хатай Івана паставілі свае хаты Есіп Шымчык, Шпарэнка (імя ўжо й не запомнілася) і яшчэ некалькі чалавек. Так утварыўся фальварачак Восы.

Астатнія людзі сяліліся па хутарах. Да гэтых часоў тыя цяпер ужо бязлюдныя, парослыя лесам мясціны навакольныя людзі называюць: Елінаў хутар, Ляшчуноў хутар, Дубовікаў хутар, Юзікава селішча, Тодараўшчына, Мільёнаўшчына (купчая таго самага Мільёна), Мачкоўшчына, Мундзялаўшчына і г. д.

**3. Навум і Каця**

Сям'я другога майго прапрадзеда Навума (Хведаравіча) і прапрабабкі Каці (Аляксееўны) не назапасіла дастаткова грошай, каб купіць зямлю, і таму ўзяла зямлю ў арэнду ў пана Земскага, суседа Жылінскага. У гэтага пана зямлі было не так багата, як у Жылінскага, таму ён не прадаваў, а здаваў у арэнду. На арандаваных землях людзі таксама пачыналі ставіць хутары і весці сваю гаспадарку. Месца, дзе жыў Навум, дагэтуль называюць Навумаўшчынай. Гэта кіламетра за паўтара на паўночны захад ад Восаў. Прозвішча Навума таксама Булавацкі, але ніякага сваяцтва з Іванам не выяўлена. Навум прыехаў на гэтае месца з другога боку, з-за Асіповіч, з вёскі Амінавічы (дагэтуль у Амінавічах і суседніх Граве, Малаграўцы і Пагарэлым жыве шмат Булавацкіх). Недалёка ад Навумавага селішча арандаваў зямлю яго брат Рыгор Булавацкі.

На арандаваных землях праца пачыналася гэтаксама, як і на купчых: з расчысткі і раскарчоўкі лесу. Прабабка Анця распавядала: «Мне тады гады тры-чатыры было, але таксама дапамагала карчаваць. Бацька корч абкапае, падважыць якой жэрдкай, мы, дзеці, аблепім тую жэрдку і гушкаемся на ёй, пакуль той корч не вывернецца». Раскарчоўвалі, не вельмі азіраючыся на пана, які так ні разу і не з'явіўся перад сваімі арандатарамі. Займалі, хто колькі зможа. У каго было шмат сілы ды шмат сыноў (як, напрыклад, у Астроўскіх, суседзяў Навума), тыя шмат занялі-раскарчавалі. Іншыя — менш. Увесь гэты працэс прысваення зямлі доўжыўся гадоў пятнаццаць.

**4. Пятро і Анця**

Пра кастрычніцкі пераварот 1917 г. у Восах і навакольных хутарах нічога не чулі. Ведалі толькі, што ідзе вайна ці то з палякамі, ці то з немцамі. На гэтую вайну забралі некаторых мужыкоў з навакольных хутароў, хто вярнуўся пазней, хто не вярнуўся. Бабы, перасцерагаючыся, хавалі крупы на выпадак голаду, закопвалі бутлі з крупамі ў зямлю. Скаціну дзецям загадвалі пасвіць у лесе дацямна, бо баяліся, што забрыдуць якія салдаты ды забяруць.

Кожны хутар жыў сваім жыццём, і сувязяў з «вялікім светам» амаль не было. Толькі недзе на пачатку 1920-х гг. салдаты з чырвонымі зорачкамі, што спыніліся на ноч у Восах, расказалі, што яны — Красная Армія, што цара няма, што паны паўцякалі і цяпер свабода. Людзі зразумелі так, што няма ніякай улады. І пачалі карыстацца гэтым безуладдзем: валілі лес на нераскупленых «рэзах» і ставілі сабе вялікія пуні, свірны, хаты, хлявы. За лес біліся, бо тое, што нагледзеў адзін, выразаў нехта іншы. Так было да 1924 г. У 1924 г. лясы былі аб'яўлены ўласнасцю дзяржавы і самавольная валка лесу была забаронена.

На сядзібе Івана Булавацкага стаялі ўжо дзве хаты: у новай жыў Васіль, старэйшы сын, а ў старой — Іван з Макрэнай і меншымі дзецьмі Пятром, Стэпай і Зосяй.

У хаце Навума і Каці жылі іх дзеці Марыля, Дар'я, Цярэнта і Анця. Яшчэ двое сыноў, Міша і Федзя, памерлі маленькімі. Хутка памерла й Марыля. Было ёй 17 гадоў.

З ранняй вясны да позняй восені людзі працавалі на зямлі. Невялікая перадышка была толькі зімой. Тады хадзілі з хутара на хутар, кіламетры за два–чатыры, па сцежках і пракладзеных праз балоты кладках на вячоркі. Жанчыны і дзяўчаты пралі кудзелю, вышывалі падфарбаванымі ніткамі ручнікі, а мужыкі і хлопцы плялі лапці, вілі вяроўкі. Разам усё гэта рабілася весялей, з жартамі і песнямі. А калі знаходзіўся хто з гармонікам, з бубнам ці з іншай музыкай, то і танчылі.

На тых вячорках хлопцы і дзяўчаты знаёміліся, а пазней і жаніліся, стваралі новыя сем'і. Бацькі імкнуліся ўплываць на гэта. Так, напрыклад, Навуму і Каці не падабаўся хлопец Цімох, якога пакахала Дар'я. Яны не пускалі яе на спатканні, усяляк адгаворвалі, казалі, што той хлопец худы, мусіць хворы на сухоты, і таму будзе няўдалым гаспадаром. Але Дар'я не слухалася і ўцякала на спатканні.

Аднойчы на вячорках, разагрэтая пасля танцаў, яна выйшла на двор, на мароз, каб крыху астыць, а там чакаў яе каханы. Прастаяла з ім з паўгадзіны, замерзла, назаўтра — гарачка, запаленне лёгкіх, трызніла ў бяспамяцтве: «Цімох… Цімох…». Так і згасла ў свае дзевятнаццаць год, не акрыяўшы. На Дабравесце тое здарылася, у годзе 1926-м ці 1927-м.

Бацькі вельмі бедавалі з гэтай страты. І Каця сказала Анці: «Дачушка, калі ты каго пакахаеш, я табе ні слова не скажу. Выходзь замуж, за каго хочаш!» І калі праз некалькі год пасватаўся Пятро, хаця ён таксама не падабаўся ні Каці, ні Навуму, яны не выказалі гэтага і далі згоду.

Анці было тады толькі 17 гадоў. Да васямнаццаці гадоў выходзіць замуж ці жаніцца па тагачасных законах не дазвалялася. Яе стрыечны брат Ляксандра падправіў у метрыках 1913 год нараджэння на 1912, і таму Пятра з Анцяй «распісалі» ў сельсавеце, у Гарадку. У Гарадкоўскай царкве і абвянчаліся.



*Вяселле Пятра і Анці (злева – шафер Цярэнта, брат Анці). 1930 г.*

Гэта было ў 1930 г., восенню. Пятро і Анця былі ўжо крыху адукаваныя, умелі чытаць і пісаць. Прысланы аднекуль настаўнік праводзіў па чарзе на «лікпунктах» (то на адным хутары, то на другім) заняткі «лікбезу». Пятро скончыў два класы, а Анця — адзін.

Прабабка Анця расказвала: «Мне было ўжо каля 15 гадоў, на хлопцаў заглядвалася, а малады настаўнік як возьме за руку, каб паказаць, як пісаць, ды прытуліцца, дык там не пра пісьмо думаеш, а ўсё цела трымціць…» Тым не менш, чытаць і пісаць нейк навучылася. Па-свойму: сваё імя да самай смерці (памерла ў 1996 г.) пісала з мяккім знакам пасярэдзіне — *Аньця*, а літару ***і*** пісала па-расейску, але з кропачкай над адной з палачак. Вучыцца далей не было магчымасці: трэ было працаваць па гаспадарцы.

У сям'ю Пятра Анця прынесла пасаг — вялізны куфар з розным дабром, а яшчэ Навум з Кацяй падаравалі ёй карову. Праўда, на гэтую карову ў Івана сена не хапіла б, таму падараваную карову Навум з Кацяй усю зіму трымалі ў сябе і кармілі сваім сенам, а вясной наступнага года перадалі ўжо дачцэ.

**5. «Чырвоны Колас» і Восы-Калёсы**

У 1932 г. у Восы прыехаў агітатар, ад якога людзі даведаліся пра калектывізацыю і калгасы. У большасці людзі насцярожана паставіліся да калгасаў і не спяшаліся аб'ядноўвацца. Пакуль не пачалі найбольш упартых раскулачваць і высылаць.

Пятро ж адразу паверыў у ідэю калгасаў і пачаў пераконваць сваю маці і жонку туды ўступіць. Жонка, не хочучы і плачучы, усё ж пагадзілася, бо была маладзейшая за мужа, ды ўвогуле, як жонка, павінна была мужу падпарадкоўвацца. Маці ж, Макрэна (Івана тады ўжо не было, памёр), ніяк не пагаджалася аддаць сваю карову ў калгасны статак, таму Пятро завёў у калгасны хлеў толькі адну карову (Анцін «пасаг») і каня.

Гаспадарка пасля смерці Івана была запісана на Макрэну, хаця гаспадарылі там Пятро і Анця. Стэпа выйшла замуж і жыла з мужам Рыгорам Каралём, а Зося памерла.

Макрэна даіла сваю карову, але Пятру з Анцяй малака не давала. У іх ужо нарадзіўся маленькі сын Колька, яму трэба было малако, але Макрэна не давала — маўляў, бярыце там малако, дзе ваша карова. Хаця крадком, калі Пятро з Анцяй не бачылі, яна паіла Кольку малаком.

Пазней тых, хто не ўступаў у калгас, пачалі абкладваць «цвёрдым заданнем», выканаць якое было вельмі цяжка. І Макрэна вымушана была стаць калгасніцай.

У 1934 г. у Пятра і Анці нарадзілася дачка Тонька. З-за цяжкай працы ў калгасе на догляд дзяцей не хапала часу. Тонька захварэла і хутка памерла. Пражыла толькі год і два месяцы.

Праз год Макрэна выйшла замуж за мужыка па прозвішчы Зайка з вёскі Каменка. Пятро і Анця сталі гаспадарыць самі. У 1936 г. нарадзілася Маруся, а яшчэ праз два гады — Рая.




*Карта-схема вёсак Восы і Калявосы і навакольных земляў, выкананая Мікалаем Булавацкім, ляснічым Завалочыцкага лясніцтва ў 1961–1995 гг.*

У той жа год (1938?) быў прыняты дзяржаўны ўказ аб зносе хутароў і перасяленні ўсіх хутаранцаў у вёскі. Пад вёску было выдзелена месца непадалёку ад Восаў, вызначана месца пад вуліцу. Першым перасяленцам абяцалі выдзеліць па 60 сотак зямлі. Пятро і Анця пачалі ставіць хату ў новай вёсцы першымі, а старую прадалі.

Пад будаўніцтва хат у вёсках давалі лес і выдзялялі крэдыты. Дзякуючы гэтаму змаглі пабудаваць даволі вялікую па тых часах хату (7×8 м) на сем вокнаў, купіць карову, добрую мэблю і ўвогуле разжыцца.

Тых хутаранцаў, якія не хацелі перасяляцца ў вёску, прымушалі ўсім калгасам — прыязджалі гуртам, разбіралі хату, перавозілі і ставілі на новым месцы ў вёсцы. Самым упартым быў Тодар Елін. Ён не пайшоў жыць у сваю перавезеную хату, а пабудаваў зямлянку на сваім хутары і жыў у ёй некалькі гадоў. Пайшоў жыць у хату толькі падчас вайны, у 1942 г., бо баяўся, што немцы палічаць яго за партызана і заб'юць. Але пажыў у хаце нядоўга, бо хутка вёска была спалена.

Вёску, якая такім чынам утварылася, назвалі зноў жа Восы. Гэтак жа ўзніклі і іншыя навакольныя вёскі — Паршчаха, Масты, Белыя, Мяжное, Бортнае, Тоўсты Лес. Кіламетра за паўтара на паўночны захад ад Восаў (побач з землёй Навума) гэткім жа чынам будаваўся яшчэ адзін пасёлак. Назвы ў яго спачатку не было, і калі ў жыхара пасёлка пыталіся: «Дзе жывеш?», ён адказваў: «Каля Восы». Так і сталі называць гэты пасёлак: Калявосы. Жыхары Восаў і Калявосаў утварылі адзін калгас «Чырвоны Колас». І нехта, запісваючы пасёлкі, што ўваходзілі ў калгас, мабыць не расчуў і запісаў: Восы і Калёсы. Паколькі пасёлкі ўваходзілі ў адзін калгас, іх сталі называць адной назвай праз злучок: Восы-Калёсы. Так узнікла гэтая дзіўная назва. Пазней набыла распаўсюджанне скарочаная назва для абедзвюх вёсак: Калёсы. А людзей, якія там жылі, называлі калясянцамі.

Яшчэ ў 1936 г. упаўнаважаны з раёна прывёз у калгас дакумент, дзе залатымі літарамі было напісана, што зямля перадаецца калгасу навечна.

Першым старшынёй калгаса «Чырвоны Колас» быў абраны Арцём Жлобіч, мужык непісьменны, але добры гаспадар. Пятро Булавацкі працаваў загадчыкам фермы, яго брат Васіль быў кавалём (працягваў кавальскую традыцыю свайго роду, адлюстраваную ў прозвішчы). Анця была простай калгасніцай, працавала «куды пашлюць». Заробкі выдавалі «натурай» адпаведна выпрацаваным «працадням». Грошы ж з'яўляліся тады, калі калгаснік ці калгасніца прадавалі на базары ў Асіповічах нешта з свайго гароду. Хадзілі на базар па нядзелях пешшу (гэта больш за 20 км) з клункамі ды каша́мі ў лясёнках. Каб патрапіць на самы гандаль, выходзілі з дому каля трох гадзін ночы. Зрэдку, калі працы ў калгасе было меней, старшыня даваў каня з калёсамі і ездзілі гуртам.

Вазілі на базар і калгаснае дабро: зерне пры ўдалым ураджаі, смятану, масла, бульбу, сякія-такія кавальскія ці драўляныя вырабы. Бо калгасу ж патрэбны былі грошы на розныя справы.

**6. Сталін і Патаповіч**

Лёс гэтай вёсцы (ці дзвюм вёскам) быў наканаваны нешчаслівы. Спачатку яе дасталі сталінскія рэпрэсіі. Недзе ў 1939 ці 1940 г. у вёсцы з'явіўся першы камуніст — Барыс Патаповіч. Ён ажаніўся з жанчынаю з Восаў і спачатку жыў з ёю ў сваёй вёсцы, потым пераехаў у Асіповічы, затым у Дрочаў. А адтуль пераехаў у Восы, у хату, якая пуставала пасля смерці цешчы. Хадзілі чуткі, нібыта ён быў сексотам, пісаў даносы на людзей і іх потым забіралі, таму і мяняў так часта месцы жыхарства, бо баяўся помсты. Ён меў сем класаў адукацыі і таму хацеў займаць кіраўнічую пасаду ў калгасе. Але ўсе кіраўнічыя пасады былі ўжо размеркаваныя.

Арцём Жлобіч, адчуваючы, што яго непісьменнасць перашкаджае развіццю калгаса, гатовы быў саступіць пасаду старшыні камусьці іншаму. Людзі схіляліся абраць старшынёй калгаса Пятра Рыбака, які меў адукацыю некалькі меншую, чым у Патаповіча, — чатыры класы, але быў добрым гаспадаром і карыстаўся павагай людзей. У сельсавеце пагаджаліся з такім выбарам і нават прынялі Пятра Рыбака кандыдатам у партыю. Такі варыянт не падабаўся толькі Патаповічу, які сам хацеў кіраваць калгасам, нягледзячы на непаважлівае стаўленне людзей да яго. Апошняе, мабыць, толькі падагравала яго імкненне кіраваць, камандаваць.

Аднойчы пасля ўдалага для калгаса гандлю на базары (гэта было 7 снежня 1940 г.) мужыкі вырашылі адзначыць удачу. Тым болей, што і якое-ніякое свята было: Дзень Канстытуцыі. Купілі гарэлкі і пасядзелі-пагаманілі ў хаце Ляксандра Германа. Усіх было пяцёра: акрамя гаспадара, Андрэй Рыбак (бацька Пятра Рыбака), Барыс Патаповіч, Пятро і Васіль Булавацкія. Андрэй, які ў Першую сусветную вайну патрапіў у палон да немцаў і парабкаваў некалькі гадоў у нямецкага пана, расказваў пра тое, якія немцы добрыя гаспадары, як у іх усё акуратна і прыбрана, нават двары для скаціны заасфальтаваныя і асвятляюцца электрычным святлом ад ветрака. Параўноўвалі з сваім жыццём. Васіль заўважыў: «Раней, калі жылі аднаасобна, папрацуеш год — дык хлеба хопіць на два гады, а цяпер у калгасах, колькі ні працуй, усё адно няма нічога».

Праз які час прыехалі на чатырох фурманках кагэбісты і забралі чатырох суразмоўцаў — Германа, старога Рыбака і абодвух Булавацкіх. Гэта здарылася на золку 26 красавіка 1941 г.

Вось выпіска з пастановы на арышт Пятра Булавацкага, зацверджанай начальнікам УНКГБ па Палескай вобласці, старшым лейтэнантам дзяржбяспекі Івашчанкам і санкцыянаванай пракурорам Палескай вобласці Сідаровічам (правапіс захоўваецца):

*«Я, начальник Следственной части Управления НКГБ БССР по Полесской области*

*Мл. Лейтенант Госбезопасности — Лощинин*

*Рассмотрев поступившие в НКВД БССР материалы о преступной деятельности*



*Пятро Булавацкі*



*Васіль Булавацкі*



*Андрэй Рыбак*



*Алесь Герман*

*Булавицкого Петра Ивановича, 1906 года рождения, уроженца и жителя д. Осы-Колеса, Симоновичского с/с, Глусского р-на, БССР, белорусс, гр-н СССР, беспартийный, из бывших зажиточных крестьян. В 1931 году облагался твердым заданием. Состоит в колхозе*

*НАШЕЛ:*

*что он является активным участником антисоветской группы, сгруппированной контрреволюционером Булавицким П.И. и Германом А.С., участвует на сборищах и проводит к/р работу среди населения, возводя всякую клевету по адресу вождя трудящихся и на Сов. власть.*

*В 1940 г. 7-го декабря после праздника "Дня Конституции" с соучастниками Булавоцким В.И. и Германом вел к/р разговоры повстанческого характера и заявил:*

*"Вождя народа уже нет, его сняли с работы".*

*После чего Булавоцкий В.И. и Герман оживили всякого рода клеветнические высказывания о вожде и о Сов. власти. Булавоцкий П.И., поддерживая их, дополнил: "Завтра обо всем этом будете читать в печати".*

[Далей ідуць паказанні сведкаў, якія скапіраваць не далі. — *С. Б.*]

*8-го марта 1941 год. Булавоцкий П.И. дискредитировал колхозников пытаясь избить их, а в последствии озлившись, начал ломать колхозную постройку, высказывая клевету о Сов. власти заявляя:*

*"Сов. власть все от меня забрала, но я сегодня за это все уничтожу. Это мною построено и я все уничтожу".*

*ПОСТАНОВИЛ:*

*Булавоцкого Петра Ивановича проживающего в д. Осы-Колеса, Симо-*

*новичского сельсовета, Глусского р-на Полесской области БССР подвергнуть аресту и обыску.*

*Начальник следчасти Управления НКГБ Мл. лейтенант госбезопасности Лощинин*

*Мозырь 23.04.41»*

Да вайны закончыць справу не паспелі. Ужо падчас вайны следчых і падсудных павезлі ў Новасібірск, і там «особое совещание при НКВД Новосибирской области» 31 студзеня 1942 г. прысудзіла:

*«Буловацкого Петра Ивановича за антисоветскую агитацию заключить в исправительно-трудовой лагерь сроком на 10 лет, считая срок с 26.04.1941 года. Направлен в Новосибирский Томасинлаг».*

Туды ж накіравалі Васіля і Германа, а шасцідзесяцігадовага Рыбака — у Сіблаг.

Нядаўна архівы КГБ былі часткова раскрытыя. І нам «падарылі» фотаздымкі гэтых «врагов народа».

Рыбак і Герман не вярнуліся, загінулі па дарозе. Рыбак быў ужо досыць стары і на працу не дужы, таму яго амаль не кармілі, і ён памёр з голаду. Герман жа, наадварот, быў мужык здаровы, як і ўсе мужыкі яго роду. Яго волатаўская сіла патрабавала і адпаведнага падмацавання. Распавядалі, што, з'еўшы кілаграм сала з боханам хлеба, ён казаў, што толькі перакусіў. Але ж ні ў вязніцы, ні ў лагеры такога харчу яму забяспечыць не маглі. Кармілі, як усіх. Валодаючы неймавернай сілай, ён мог адбіраць пайкі ў іншых вязняў, але рабіць такое не дазваляла выхаванне. Урэшце саслабеў ад недаядання і памёр.

А Булавацкім пашчасціла яшчэ пабачыць радзіму. Як яны вярнуліся — пра тое ў кожнага свая гісторыя. Пра вяртанне Пятра я расказваў у сачыненні «Як вярталі прадзеда» на папярэднім такім конкурсе (атрымаў другі прыз). Сачыненне надрукавана ў зборніку матэрыялаў і конкурсных прац, акрамя таго — у газеце «Тыднёвік Магілёўскі» 18 сакавіка 1999 г. Вось урывак з яго.

**7. Як вярталі прадзеда**

…Год прадзед правёў на лесанарыхтоўках на поўначы Томскай вобласці. Здароўе ў яго было слабое. Акрамя таго, ён шмат курыў і нярэдка мяняў пайку хлеба на тытунь. Таму знясілеў зусім. І яго спачатку перавялі ў іншы лагер (Омсклаг), а там «акціравалі» як «дахадзягу» — гэта значыць выдалі дакументы і выкінулі за межы лагера: ідзі куды хочаш! Так рабілі з тымі, хто ўжо зусім не мог працаваць, каб потым не важдацца з памерлымі.

Прадзед доўга блукаў па зімнім лесе, знямогся, згаладаўся. Нарэшце выйшаў на нейкую дарогу. Стаў чакаць машыны, бо на дарозе былі адбіткі машынных калёс. За дзень прайшлі дзве машыны, але ні адна з іх не спынілася, як ён ні махаў.

Прайшла ноч. Прадзед ужо замярзаў і амаль не мог рухацца. Ён выпаўз на дарогу — хай задушыць машына, бо ўсё адно паміраць. Машына аб'ехала яго і не спынілася. Тады ён перапоўз на іншае месца, дзе дарога была вузейшай, каб машына не магла аб'ехаць. Колькі часу ляжаў, замярзаючы, амаль ужо беспрытомны. Нарэшце падышла машына, спынілася, шафёр саскочыў з кабіны і пачаў адцягваць Пятра з дарогі. Прадзед апрытомнеў і ўзмаліўся: ці задушы, ці вазьмі з сабой! Шафёр яму сказаў, што ім строга забаронена падбіраць беглых арыштантаў. Прадзед сказаў, што ён не беглы, што ў яго ёсць дакументы. Паглядзеўшы дакументы, шафёр дапамог яму забрацца ў кабіну і прывёз у нейкі пасёлак. Назвы таго пасёлка ніхто ў нашай сям'і не ведае.

Там прадзеда змясцілі ў лячэбніцу, дзе яго падлячылі і крыху падкармілі. Акрыяўшы, ён пачаў дапамагаць у лячэбніцы — вады, дроў нанасіць, печкі прапаліць, посуд памыць… Ісці яму не было куды, бо ў Беларусі яшчэ ішла вайна (гэта было вясной 1943 г.), і яго пакінулі рабочым пры лячэбніцы.

У ваенкамаце зацікавіліся новым рабочым, і паколькі ўзростам ён быў не стары, 37 гадоў, прызвалі да вайсковай службы. На фронт не паслалі з-за слабога здароўя, накіравалі ў «трудармію». Стаў ён працаваць шахцёрам у Кузбасе. Працавалі так: трое сутак у шахце пад зямлёй бязвылазна, потым трое сутак адпачынку наверсе.

Раз на год (звычайна восенню) шахцёры праходзілі медкамісію. Першая ж медкамісія знайшла ў Пятра сухоты лёгкіх, ган сэрца і шмат іншых хвароб. Яго прызналі непрыгодным для працы ў шахце і накіравалі ў Алма-Ацінскі тытунёвы саўгас. Праца ў полі, на паветры была Пятру яшчэ па сілах. Але зімой тытунь перапрацоўвалі ў пыльных памяшканнях. Гэта абвастрыла яго хваробы, і яго мусілі звольніць. Пасля гэтага ён апынуўся ў калгасе «Борьба с засухой». Там для «дахадзягі» знайшлася праца: ён на быках падвозіў бочкі з палівам для трактароў у полі.

На радзіме заканчвалася вайна. Вёскі Восы, адкуль забралі прадзеда, ужо не было. Яе спалілі фашысты разам з людзьмі, старымі і малымі.

Глускі раён быў вызвалены ад фашыстаў 27 чэрвеня 1944 г. Праз два-тры тыдні пасля вызвалення прабабка Анця атрымала два лісты ад мужа Пятра. Першы ліст Пятро напісаў яшчэ да вызвалення. А не атрымаўшы адказу, напісаў другі. Анця іх разам і атрымала. У тых лістах прадзед распавядаў пра свае блуканні па свеце, пра тое, як апынуўся ў Казахстане, пісаў, што людзі там добрыя і зямля добра родзіць, пытаўся пра тое, як цяпер дома.

Прабабка напісала ў адказ, што ні дому, ні вёскі ўжо няма, што няма і дзяцей, толькі сын Мікола ўратаваўся, і пыталася, як хутка ён вернецца на радзіму. Дзесьці праз паўгода прадзед напісаў, што з калгаса яго не адпускаюць, бо няма каму працаваць, і пашпарт не аддаюць. Патрэбен афіцыйна завераны выклік. Анця напісала выклік, заверыла яго ў сельсавеце і паслала. У адказ прадзед напісаў, што пячаткі сельсавета недастаткова, па ёй не адпускаюць, што выклік трэба заверыць у райвыканкаме. Прабабка напісала яшчэ адзін выклік, пайшла пешшу ў Глуск (гэта каля трыццаці кіламетраў), заверыла выклік раённай пячаткай і паслала.

Але і гэтага аказалася недастаткова. Пятро напісаў, што выклік ад імя жонкі там у разлік не бяруць і з калгаса не адпускаюць. Могуць адпусціць, толькі калі ёсць няпоўнагадовыя дзеці.

Майму дзеду Мікалаю тады было дванаццаць ці трынаццаць гадоў, ён быў няпоўнагадовы. І прабабка Анця напісала яшчэ адзін выклік, ужо ад імя жонкі і няпоўнагадовага сына, якому патрабуецца бацькава дапамога. Зноў схадзіла заверыць выклік у Глуск і адаслала.

Уся гэтая перапіска доўжылася больш за два гады. Нарэшце Пятру выдалі пашпарт і адпусцілі з калгаса. Ён папрадаваў нажытую там маёмасць, прадаў пшаніцу, якую атрымаў за працадні ў калгасе, і ў пачатку верасня 1946 г. прыехаў у родныя мясціны.

Вёскі не было. Ацалелыя людзі жылі ў зямлянках. У прабабкі з маёмасці, акрамя адзежы на сабе і на сыне, засталіся толькі падушка, посцілка-надзіранка, кацялок ды лыжачка, якую падарыў галодны салдацік за бліны.

… Дзед Мікола (тады яшчэ не дзед, а хлопчык дванаццаці год) восенню 1944 г. пайшоў у школу, якая адкрылася ў суседняй вёсцы Рудня, у другі клас, бо да вайны ён скончыў толькі першы клас. А як вярнуўся бацька, ён хадзіў ужо ў чацвёрты клас Яўсеевіцкай пачатковай школы.

Неяк вярнуўся ён на выходны дзень дадому, зайшоў у сваю зямлянку і ўбачыў там худога згорбленага мужчыну. Ён пазнаў бацьку, але ад нечаканасці разгубіўся і доўга стаяў ля парога, не могучы крануцца з месца. Пакуль бацька не паклікаў: «Ідзі, сынок, да мяне».

Пачалі разжывацца. Грошай, якія прывёз Пятро, хапіла, каб набыць карову. На наступны год дабудавалі хату. Там нарадзіўся сын Міша, брат майго дзеда Міколы.

Прабабка распавядала: «Адпрацавала дзень у калгасе, прыйшла дадому, парвала і пацягала буракі з гароду, управілася па гаспадарцы, пакарміла свінню, напаіла і падаіла карову, што прыйшла з пашы, прапаліла ў печы, а потым легла і нарадзіла сына. Добра, што была субота і назаўтра не трэ было ісці працаваць у калгас. А ў панядзелак сына ў клунак за плечы і пайшлі з ім на калгаснае поле…»

…Людзі пачыналі пасляваеннае жыццё. Але ў прадзеда жыць не хапала сіл. Аднойчы ён адчуў сябе вельмі кепска і сказаў жонцы: «Я табе ўжо не памочнік. Мне мала засталося. Сыну ўжо пятнаццаць год. Няхай бярэ валы ў калгасе і працуе. Не трэба яму ісці ў пяты клас».

Мікола тое чуў і засмуціўся, але разумеў, што трэба дапамагаць маці, і ў школу не пайшоў. Але праз які час да іх прыйшоў Ермалінскі, завуч Сімонавіцкай сямігадовай школы, і ўгаварыў Анцю адправіць сына ў школу, бо ён добра вучыцца, а пісьменнаму чалавеку лягчэй будзе далей.

Мікола працягваў вучыцца далей. А прадзед Пятро памёр восенню 1948 г. ад сухотаў. Далей двух сыноў гадавала адна прабабка Анця…

**8. Вайна**

Ваенная гісторыя вёсак Восы і Калявосы паказана ва ўспамінах майго дзеда Міколы.

20 студзеня 1943 г. вёскі былі спалены фашыстамі, спалены разам з людзьмі. Там загінулі мая прапрабабка Каця і маленькія яе ўнучкі Маруся і Рая. Прабабка Анця з сваім сынам Міколам схавалася ў лесе. Калі яна хацела праведаць вёску, немцы яе злавілі і разам з іншымі жанчынамі гналі ў Германію, але па дарозе яна ўцякла. Лясамі дабіралася дадому, натрапіла на партызанаў, якія палічылі яе за нямецкую лазутчыцу і хацелі расстраляць. Але, на шчасце, знайшоўся сярод іх крыху знаёмы чалавек. Неяк дабралася да папялішча, знайшла сына.

Зіму і наступнае лета пражылі ў лесе. А далей «пагарэльцам» дала прытулак у сваёй хаце Ганна Цімашыха, набожная жанчына з Рудні. Там і жылі да канца вайны. Бабуля Анця ўсё жыццё вельмі цёпла ўспамінала пра Ганну і, пакуль тая жыла, перасылала ёй сціплыя падарункі з свайго агароду ці з лесу.

Вайна перашкодзіла Патаповічу стаць старшынём калгаса. На пачатку вайны ў навакольных лясах немцы разбілі савецкую дывізію, парэшткі якой рассеяліся па лесе. У лесе валялася шмат зброі. Патаповіч падабраў сабе некалькі пісталетаў і аўтамат, хадзіў па вёсках, выхваляўся, што ён партызанскі камандзір, збірае атрад, загадваў сябе карміць і паіць і, п’яны, лаяўся на вуліцы і страляў з аўтамата, пужаючы людзей. На ўгаворы супакоіцца ён разыходзіўся яшчэ больш. Тады нехта папярэдзіў: маўляў, можаш нарвацца. Патаповіч акрысіўся: «Калі нават мяне заб’юць, мая правая рука будзе дзейнічаць!» Урэшце людзям надакучыла цярпець яго выбрыкі, і нехта паведаміў немцам. Тыя прыехалі, забралі «партызана» і расстралялі яго ў лесе. Людзі закапалі цела, пакінуўшы правую руку наверсе. За тую руку цела выцяглі ноччу ваўкі ды лісы. Раніцай знайшлі толькі косткі і пахавалі іх ужо як трэба. Пасля вайны на тым месцы сваякі Патаповіча паставілі помнік з надпісам «Першаму партызану Беларусі».

**9. Пасляваеннае аднаўленне**

Пасля вызвалення ад фашыстаў Масты, Паршчаху, Белыя і некаторыя іншыя спаленыя вёскі ўлады вырашылі не аднаўляць, а вёскі Восы і Калявосы пачалі адбудоўвацца. Насельніцтва гэтых вёсак значна скарацілася за вайну. Хто загінуў на фронце, хто ў партызанскіх атрадах, хто замучаны ў гестапа, а больш за сорак чалавек, малых і старых, былі расстраляныя і спаленыя ў той жудасны дзень 20 студзеня. Таму ў Восы-Калёсы часткова перасяляліся ацалелыя жыхары навакольных вёсак. Людзі вярталіся і найперш капалі зямлянкі. Усіх, хто вяртаўся, зноў аб’ядналі ў калгас, які цяпер назвалі ўжо «Ленінскі шлях» (так называўся да вайны калгас у Мастах). Згоды не пыталіся, запісвалі ў калгас усіх, балазе людзі ўжо й не супраціўляліся. Старшынёй калгаса «Ленінскі шлях» абралі Антося Дубовіка.

Восенню 1946 г. вярнуўся дэмабілізаваны з войска Міхаіл Кароль. З двух дзясяткаў калясянцаў, якія пайшлі на фронт, дадому вярнуліся чацвёра. Астатнія недзе загінулі. Кароль быў сярод чатырох шчасліўцаў.

У войску ён даслужыўся да афіцэрскага чыну і меў сямігадовую адукацыю. Таму адразу па вяртанні яго абралі старшынёй калгаса «Ленінскі шлях». Калі праз некалькі гадоў пачаўся працэс узбуйнення калгасаў і «Ленінскі шлях» аб'ядналі з калгасам імя Леніна (вёска Яўсеевічы), які пазней — з калгасам імя Будзённага (вёска Сімонавічы), а той затым увайшоў у склад саўгаса «Завалочыцы», М. Кароль працаваў брыгадзірам (вёскі Восы і Калявосы стваралі адну брыгаду), пакуль не загінуў 18 лютага 1957 г., вяртаючыся дадому з нейкага пасяджэння. Знайшлі ў Пцічы каня, дугу і цела Караля, але ўсё ў розных месцах. Вазок так і не быў знойдзены. І прычына смерці дагэтуль застаецца адной з таямніцаў гісторыі Восаў-Калёсаў.

Каб будаваць хаты, трэ было рэзаць і вазіць з лесу бярвенне. Але коней па вёсках амаль не было. На ўвесь «Ленінскі шлях» пасля вайны засталася адна кабыла Кукуля. На ёй і рабілі ўсю работу. Толькі ў 1946 г. разжыліся некалькімі валамі.

У Бабруйскім занальным архіве захоўваюцца пратаколы пасяджэнняў Сімонавіцкага сельсавета пасляваенных гадоў. З іх можна даведацца, якімі клопатамі жылі тады калгасы, у тым ліку «Ленінскі шлях».

*«Предупредить председателей колхозов, объявить с 1-ое марта всеобщий штурмовой декадник, мобилизовать все силы для выполнения плана лесозаготовок и лесовывозок. Поручить руководящим работникам колхозов совместно с людьми находиться в лесу. 28.02.1946».*

*«Обовезать председателей и бригадиров произвести отборку лошадей, слабых от работы освободить и улучшить питание. 16.03.1946».*

*«Улучшить уход и сбережение тяговой силы, закрепить её за ездовыми. 1.04.1946».*

*«…предупредить всех председателей колхозов мобилизовать на посевную всю тяговую силу. Предупредить всем председателям колхозов производить кормление лошадей в борозде. Выходить на работу в 6-7 часов утра. 13.04.1946».*

*«Мобилизовать всю тяговую силу, в том числе всех малопродуктивных коров для выполнения плана поднятия паров. 31.07.1946».*

*«Предложить председателям колхозов закрепить за ездовыми тяговую силу. Приступить к вспашке почвы и перепашке коров [мабыць, каровамі. — С. Б.]. Обязать председателей колхозов восстановить круглосуточное дежурство около амбаров и скирдов. 17.08.1946».*

*«Предложить всем председателям колхозов мобилизовать всю рабочую силу, как тяговую так и пеших с таким расчётом, чтобы план лесозаготовок и лесовывозок выполнить на 100% к дню выборов в Верховный Совет БССР, 9 февраля 1947 г. Предложить председателям колхозов поручить ответственность за выполнение плана лесозаготовок и лесовывозок бригадирам колхозов своим заместителям путём ежедневного нахождения их в лесу неся контроль над выполнением плана ле-*

*созаготовок и лесовывозок. Предложить всем председателям колхозов освободить от выполнения плана лесовывозок жеребных кобыл… Предложить председателям колхозов развернуть массовое обучение коров как колхозных так и колхозников. 27.01.1947».*

Пасля праблемы цяглавай сілы другой па важнасці праблемай, калі верыць пратаколам сельсавета, быў збор сродкаў дзяржпазыкі або продаж насельніцтву аблігацый.

*«Реализовать среди населения Симоновичского с/с доведенный план заёма на сумму 45 000 рублей на 100%. Провести общие собрания в колхозах, на которых разъяснить населению значение Второго Государственного Заёма Восстановления и Развития народного хозяйства СССР. Вызвать на соц. соревнование колхоз колхоза на полное и быстрейшее проведение подписки на Заём… Предложить всем уполномоченным по Заёму в период проведения подписки взыскивать 100%-ю сумму наличными деньгами. 4.05.1947».*

*«Заслушав отчёты уполномоченных по займу о ходе сбора средств по подписке исполком Симоновичского с/с депутатов трудящихся отмечает, что ход выполнения средств займа проходит совершенно плохо по колхозам Будённого, Ленина, Чирвоный Лес и Ленинский шлях, где подписка выполнена только на 9-12%… Обязать всех председателей колхозов и уполномоченных по займу во всех населённых пунктах до 20.06.48 провести общие собрания колхозников по вопросу взыскания средств займа. Обязать уполномоченных по займу… при любых условиях и во что бы то ни стало до 1.07.48 г. полностью взыскать средства подписки. 15.06.1948».*

Але праз два месяцы:

*«…исполком Симоновичского с/с депутатов трудящихся отмечает, что ход выполнения средств 3 гос. займа ВРНХ СССР по сельсовету проходил неудовлетворительно. Асобенно низкий процент выполнения займа в колхозах… и Ленинский шлях… Указать уполномоченным … на их несерьёзное и безответственное отношение в деле проведения организационных мероприятий по сбору средств на 3 гос. займ… Потребовать от уполномоченных… усилить… и добиться… 21.08.1948».*

Але ж як ні патрабуй, а купляць тыя аблігацыі не было за што: калгасы плацілі па працаднях толькі натурай, ды і тую не выпадала везці на базар. Сабе б хапіла! Некалькі аблігацый, якія ўсё ж вымушана была набыць прабабка Анця, яна колькі гадоў захоўвала, але, бачачы, што дзяржава пра іх не памінае, выкінула.

У 1946 г. Анця ўзяла крэдыт на будоўлю хаты. Калі яна пайшла прасіць крэдыт у Глуску, то ёй нагадалі, што Пятро Булавацкі браў крэдыт яшчэ да вайны і дагэтуль не сплаціў яго. Яна заплакала: «Вось як бывае — хата згарэла, дзеці згарэлі, а крэдыт не згарэў». Усё ж неяк ёй спісалі той крэдыт і выдалі новы. Крэдыт той яна выплочвала да 1955 г. А праз паўгода пасля таго, як усё выплаціла, тыя крэдыты спісалі, іх ужо не трэ было выплочваць.

Калі Пятро вярнуўся на радзіму, сцены ўжо стаялі. Частку бярвення Анця пацягала на сабе. З Пятром і зладзілі хату, першую ў вёсцы. У гэтай хаце ўся вёска ў 1947 г. адзначала трыццацігоддзе савецкай улады. М. Кароль

выдзеліў крыху жыта і бульбы на самагонку, яе нагналі ўдосталь. А на закусь была толькі бульба — хто камы натоўк, хто ляпёшкі напёк, хто яшчэ што. Не столькі юбілей савецкай улады людзі адзначалі, колькі пачатак адраджэння вёскі. За Анцінай хатай пачалі расці і іншыя хаты. Вёскі аднавіліся, хаця са значна меншым насельніцтвам.



*Першая адноўленая пасля вайны хата ў Восах і першы жыхар вёскі, які нарадзіўся там пасля вайны. 1960 г.*

У Пятра здароўя ўжо не было, і ён хутка памёр. Пакінуў маленькага сына Міхася, якога Анці давялося гадаваць адной, бо старэйшы сын Мікола спачатку вучыўся ў Сімонавіцкай школе, жывучы на кватэры ў чужых добрых людзей, потым паступіў у Буда-Кашалёўскі лясны тэхнікум, з другога курса яго забралі ў армію, служыў тры гады ў Ленінградзе, тэхнікум закончыў пазней завочна, працуючы лесніком, праз год аб'ездчыкам. 1 студзеня 1961 г. стварылася Завалочыцкае лясніцтва і Мікалая Булавацкага прызначылі ляснічым. На гэтай пасадзе ён і працаваў да сыходу на пенсію ў 1995 г.

**10. Канец гісторыі**

У 1964 г. Вярхоўны Савет БССР прыняў пастанову аб перайменаванні асобных населеных пунктаў. Гэтых перайменаваных «пунктаў» было за паўтысячы. Сярод іх і Восы-Калёсы, якія сталі афіцыйна звацца вёскай Славіна. Хаця наўкол усе звалі вёску Калёсамі, а жыхароў — калясянцамі.

Да 50-годдзя савецкай улады ў Восы-Калёсы (цяпер — у Славіна) правялі радыё, а праз год працягнулі электралінію. Планавалася насыпаць дарогу і пусціць аўтобус. Людзі радаваліся такім зменам і спадзяваліся на лепшае жыццё. Але планы тыя каштавалі грошай, якіх у дзяржавы не было. І тады было прынята рашэнне аб неперспектыўных вёсках, на развіццё якіх сродкі перасталі выдзяляцца. Неперспектыўнай была аб'яўлена і вёска Славіна. Была закрыта крама, што дзейнічала ў хаце аднаго з жыхароў, закрыта Калясянская пачатковая школа. У вёсцы забаранялася ставіць новыя хаты.

Усё гэта прывяло да таго, што людзі (асабліва моладзь) пачалі з'язджаць з вёскі, перасяляцца ў буйныя вёскі ці гарады. Урэшце ў брыгадзе не стала каму працаваць. І людзей на палявыя работы ці на сенакос пачалі вазіць з Завалочыц на грузавіках. Гэта было нявыгадна, і палі ўрэшце перасталі засяваць, пераатварылі іх у сенажаці ці землі для выпасу жывёлы. У кашарах (абгароджаных месцах) трымалі толькі цялят, бо для кароў трэ было б вазіць да-

ярак. Пастухоў і начных вартаўнікоў для цялят вазілі з Завалочыц (два разы на дзень у Калёсы хадзіла машына). А на зіму цялят забіралі ў саўгасныя стойлы. Але потым і на гэта грошай стала не хапаць. Кінутыя землі цяпер зарастаюць бадыллем і падлескам.

Так напрыканцы 1970-х гг. знікла вёска Восы-Калёсы. Савецкая ўлада яе стварыла, савецкая ўлада і знішчыла.

*Запісана са слоў прабабкі Анці і дзеда Міколы пры дапамозе яго брата Міхася Булавацкага (Бабруйск, сакавік–красавік 2001 года)*



## Сяргей Булавацкі

Булавацкі Сяргей нарадзіўся 28 траўня 1986 г. у Бабруйску. Скончыў Беларускі агратэхнічны ўніверсітэт. Працаваў на МАЗе. Школьнікам паспяхова (два дыпломы II ступені) удзельнічаў у гістарычных конкурсах, якія ладзілі грамадскія аб'яднанні «Дыярыюш», «Архіў найноўшай гісторыі» і Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Жыве ў Мінску.

ВАСІЛЬ АЎРАМЕНКА

# Пра жыдоў, беларусаў ды іншыя тутэйшасці, або Чаму я не антысеміт

Я люблю цябе, жыд, што само па сабе, можа, й дзіўна…
*З беларускага фальклору*

Пра тое, што ёсць такі народ — беларусы, ведаюць у свеце няшмат. Але пра яго рэальнае існаванне сведчыць не толькі гісторыя, але і шэраг міфаў, створаных ці не самімі тутэйшымі абарыгенамі. Сярод аповедаў пра беларускую цярплівасць, рахманасць, працавітасць, талерантнасць ці показак пра любоў да зямлі, бульбы і «старэйшага брата» ёсць і легенда пра адвечную беларускую юдафілію.

Пра юдэяў у свеце ведаюць значна больш, чым пра беларусаў, праўда, цяжка сказаць — на дабро гэта ці на шкоду. Калі ж быць уважлівей, то можна зазначыць, што пра нашчадкаў Аўраама насамрэч больш чутно, чым вядома. Аднак беларусы не з ліку толькі «начутых». Пражыўшы побач з захавальнікамі Торы больш за 5 стагоддзяў, яны іх добра абгледзелі і выведалі. І нават назвалі без лішніх фантазій і вынаходніцтваў, папросту — жыды. Юда, джуда, жыда — усе гэтыя назвы паходзяць ад аднаго кораня і натуральна гучаць на самых розных мовах, у тым ліку і на тутэйшай. На жаль, рэвалюцыі, рэпрэсіі і генацыды мінулага стагоддзя закранулі не толькі людзей — беларусаў і беларускіх жыдоў, але і іхнія мовы. Аб гэтым крыху пазней, а пакуль некалькі гісторый, у першую чаргу сямейных.

Па маім назіранні, стаўленне да жыдоў на нашай зямлі ішло пераважна ад прыватнага жыццёвага досведу, ад прафесійных ці асабістых кантактаў кожнага чалавека. Мая маці, родам з далёкага ўкраінска-расійскага памежжа, упершыню пабачыла жыдоў у 20 год, прыехаўшы ў Беларусь. У тых мясцінах, і не толькі ў вёсках, адкуль яна родам, такіх людзей не было, бо рыса аселасці праходзіла заходней. Таму яна і дасюль не заўсёды адрозніць жыда ад беларуса, а пра антысемітызм чула хіба з савецкай прапаганды 1970-х гг.

Галоўны антысеміт у нашай сям'і быў бацькаў брат — дзядзька Міша. І на тое, як ні дзіўна, быў шэраг даволі зразумелых прычын. Не вельмі схільны да вучобы, з маленства ён меў цягу да камерцыі. Яшчэ да вайны, падлеткам меў свой «гешэфт» — ездзіў цягнікамі ў Ленінград гандляваць ці то кратовымі, ці то пацучынымі шкуркамі. І зарабляў на тым нейкія грошы, бо набыў файны ровар, хромавыя боты, галіфэ, афіцэрскі рэмень і лічыўся на мястэчку крутым хлопцам. Мо ўпершыню на піцерскіх базарах ён і сустрэў канкурэнтаў — гандляроў юдэйскага паходжання, і там пачалася непрыязь да больш прасунутых «калег»?

Аднак на прагрэс антысемітызму, па-мойму, больш паўплываў іншы эпізод. Летам 1941 г., калі прыйшлі немцы, неяк у нядзелю гурма местачковых хлопцаў вырашыла бліжэй пазнаёміцца з новымі гаспадарамі. Хлопцы туса-

валіся ля камендатуры, прыглядаючыся да зброі, формы і паводзінаў немцаў, спрабавалі завесці гаворку, выцыганіць цыгарку. Увагу аднаго пільнага салдата звярнуў на сябе добра апрануты юнак на ровары, з чарнявымі, крыху кучаравымі валасамі і носам з гарбінкай. «Юдэ?!» — рэакцыя немца была хуткай і нечаканай. Паваліўшы на зямлю хлопца, сарваўшы з яго афіцэрскі рэмень, салдат скруціў нававыкрытага «жыда» і пад канвоем завёў у мястэчковае гета. Гэта быў мой дзядзька Міша.

Вестка пра «арышт» хутка дайшла да сваякоў, і дзед з бабай пайшлі да ўлады. З дапамогай дакументаў і свойскіх «прэзентаў» яны пераканалі начальства, што адбылася памылка і арыштаваны «найн юдэ», а іхні сын, праваслаўны паляшук. «Фальшывага жыда» хутка выпусцілі, але ровар, рэмень і боты ніхто не вярнуў. Ясна, што з таго часу мой дзядзька не меў ніякіх ілюзій адносна немцаў (і ў 1945 г. пад Берлінам «кампенсаваў» свае матэрыяльныя страты), але ж і на жыдоў «займеў зуб», бо пацярпеў з-за свайго ўяўнага «жыдоўства». Пасля вайны ён працягваў займацца ўжо не падлеткавымі «гешэфтамі», нават пабываўшы за тое ў лагерах. Ці меў ён камерцыйныя справы з жыдамі, сказаць цяжка, але выказваўся пра іх адмоўна-паважліва. У застойныя часы шчыра падтрымліваў савецкі афіцыйны антысемітызм.

Мой бацька не быў юдафобам, але і для асаблівых сімпатый прычын было мала. У школе сярод мястэчковых хлопцаў у яго былі і жыды-таварышы. Неяк ён казаў, што ў дзяцінстве ўсе хлопцы аднолькавыя, нацыянальныя «асаблівасці» становяцца заўважнымі напрыканцы школы, калі пачынаецца выбар прафесіі і жыццёвага шляху. Сярод сваіх раўналеткаў-жыдоў ён прыкмячаў больш ранні прагматызм і меркантыльныя разлікі, якія з узростам выяўляліся ўсё мацней.

Сур'ёзны вопыт стасункаў з пэўнымі традыцыямі жыдоўства ён займеў падчас работы начальнікам цэха на дрэваапрацоўчым камбінаце. Ці павераць сённяшнія «юдазнаўцы», што напачатку 1960-х гг. у цэху па выпуску цацак і дробнага шырспажыву ледзь не траціна рабочых былі жыды. Прычым далёка не ўсе мужчыны. Работнікі сярод іх сустракаліся розныя, але многія былі надта хваравітыя і зацятыя ў адстойванні сваіх правоў і «прывілеяў». Якіх толькі даведак яны не прыносілі, якіх толькі льгот сабе не патрабавалі, якіх толькі юрыдычных вынаходніцтваў не ўжывалі. Кіраваць такім калектывам і даваць план па вытворчасці, канечне, складана. Куды прасцей з цяглавітымі і не абазнанымі ў праўных пытаннях беларусамі. Частыя канфлікты з пераборлівымі і «дужа граматнымі» падначаленымі прыводзілі да непрыязі, якая міжволі набывала нацыянальныя адценні. Што і казаць, жыды былі на галаву вышэй за беларусаў у многіх сферах, і вытокі той «вышэйшасці» варта шукаць у папярэдняй гісторыі.

Першая прычына — даўняя адарванасць іх ад зямлі. Гэта пры саветах, з 1930-х гг., зямля стала «архаічным цяжарам», а праца на ёй — прыкметай сацыяльнай адсталасці. У папярэднія стагоддзі ўсё было наадварот: валоданне зямлёй — прывілей абраных, спадчыннае багацце і сведчанне высокага арыстакратычнага статусу, праца на ёй — надзейны грунт для існавання і крыніца дабрабыту. Жыды ж, пазбаўленыя гэтых магчымасцяў, здаўна зай-

маліся толькі рамёствамі, паслугамі, гандлем, абменам, інтэлектуальнымі практыкамі. Карацей кажучы, іхні патэнцыял яшчэ ў XVIII–XIX стст. быў скіраваны ў тыя сферы, якія потым сталі цывілізацыйным мейнстрымам.

Другой прычынай жыдоўскай «сацыяльнай паспяховасці» ў XX ст. была палітыка царызму, які рознымі спосабамі тармазіў «еврейскую экспансию» ў бок цэнтраў імперыі. Трыманне такой інтэлектуальна падкаванай дэмаграфічнай «спружыны», якой на мяжы стагоддзяў стала беларуска-ўкраінская юдэйская грамада, не магло быць бясконцым. Забурэнне царызму вызваліла шмат сацыяльных і нацыянальных сіл, што не маглі рэалізавацца пры самаўладдзі. Самымі падрыхтаванымі да прыходу ва ўладу і эліты новага строю былі якраз жыды.

Дарэчы, масавы «прызыў» іх у шэрагі стваральнікаў і адэптаў савецкай улады, на маю думку, прычыніўся да змены ў моўнай ідэнтыфікацыі і афіцыйнай забароны назова «жыд». Старадаўняе, гістарычна выпрабаванае беларускае слова раптам стала «зневажальным» і «лаянкавым». Стагоддзямі існуючы ў прыніжаным і ўражальным стане, многія са словам «жыд», верагодна, пачалі асацыяваць толькі стары сацыяльны негатыў. А тут — новы свет, новы грамадзянскі статус, такія цудоўныя перспектывы! Чаму б на хвалі рэвалюцыйнай эйфарыі не ўзяць сабе новы назоў, не абцяжараны старымі этнічнымі прымхамі і адмоўнымі канатацыямі. Няма «жыдоў» — прыніжаных насельнікаў старых мястэчак, ёсць «евреи» — гаспадары новага жыцця і жыхары мегаполісаў! Так беларускія «жыды» ператварыліся ў савецкіх «евреев».

Між іншым, расійскае «еврей», мне здаецца, лепш перакладаецца на беларускую як «габрэй», то бок калька «яўрэй» выглядае неяк ненатуральна, не па-нашаму. Чуў, праўда, і заўвагу пра «габрэяў», што быццам бы гэта вельмі нагадвае слова «граблі». Аднак габрэі па сутнасці і ёсць своеасаблівыя «гістарычныя граблі», на якія многія часта ступалі, аб чым потым шкадавалі. І атрымліваецца, што з імі лепш сябраваць ці супрацоўнічаць, чым тупа таптаць і атрымліваць дзержаком па ілбе. Праўда, ёсць яшчэ адзін «грабельны аспект» габрэйства: яны самі маюць старадаўнія ўласнаручныя «граблі» і ў мінулым стагоддзі, здаецца, зноў жа на іх добра наступілі. Аднак тое зусім іншая, ужо не тутэйшая гісторыя, а мы ж вернемся да сваёй.

Каб зачыніць «жыда-габрэйскую» тэму, мяркую, варта адкінуць вялікамаскоўскія забабоны і смялей вяртацца да ўласных моўных традыцый. І традыцыйная, і асучасненая назва маюць на Беларусі аднолькавыя правы на існаванне. Што тычыцца перыяду да XIX ст., то больш лагічна ўжываць формулу «жыдоўства», бо так казалася і пісалася ў тыя часы. Што да савецкага часу, то можна ўжываць і новую беларускую версію — «габрэйства», у якой для расійскамоўнага вуха быццам бы менш адмоўных рэмінісцэнцый.

Аднак зусім не моўныя спрэчкі былі галоўнымі ў доўгіх беларуска-жыдоўскіх дачыненнях, вынікі якіх, дарэчы, сёння ўжо можна падвесці. Што займелі жыды, а што беларусы ад доўгага суіснавання? Адразу трэба заўважыць, што становішча і тых, і другіх шмат у чым было падобным. Як беларусы ў часы позняй Рэчы Паспалітай і Расейскай імперыі былі моўкнай і малапры-

кметнай большасцю краю, так і жыды былі бяспраўнай і залежнай большасцю насельніцтва мястэчак і многіх гарадоў. Такі стан вымушаў прыстасоўвацца да ўладаў і знешніх абставін, часцей прыгінаць галаву і мець «хату з краю», чым лезці на ражон і рызыкаваць. Аднак і такое прыстасавальніцтва не заўсёды гарантавала выжыванне ў ліхія часы.

Распаўсюджана меркаванне, што жыды першымі віталі любую новую ўладу, спрабуючы пазбегнуць рабаванняў і рэпрэсій. Цалкам зразумелы і лагічны крок жыхароў гарадоў, але ці часта ён дапамагаў?

Беларусы не адкупляліся ад новых акупантаў, а проста хаваліся ад іх ці пазбягалі лішніх стасункаў. І таксама не дапамагала. Усе войны і з захаду, і з усходу не абыходзіліся без гвалту, рэквізіцый, разбурэння гарадоў і сёл. «Пацыфізм» традыцыйнага жыдоўства і знакамітая «талерантнасць» беларусаў — вынік занадта доўгага знаходжання ва ўмовах рэцэсіўнага сацыяльнага існавання. «Дамінантныя» — палякі, шведы, французы ці расейцы — гадавалі зусім іншыя стратэгіі паводзін і нацыянальныя рысы.

Разглядаючы стасункі жыдоў і беларусаў, нельга не згадаць міф пра «юдафілію» апошніх. Ідыліі, канечне, ніколі не было, як не было і «салідарнасці прыніжаных і пакрыўджаных». Адносна мірнае суіснаванне тлумачыцца іншым. Па-першае, займаннем розных сацыяльных і эканамічных нішаў. Адны працавалі на зямлі, у лесе ці на промыслах, другія — у гандлі, абмене, рознага роду паслугах. Хіба толькі ў некаторых рамёствах магла быць канкурэнцыя. Але не было антаганістычнага сутыкнення інтарэсаў, хутчэй — падзел сфераў дзейнасці.

Па-другое, слабая і адносна позняя самаідэнтыфікацыя беларусаў. Беларускі нацыянальны рух, стартаваўшы на мяжы XIX–XX стст., проста не паспеў увабрацца ў сілу і дажыць да сур'ёзных канфліктаў з нацыяналізмам габрэйскім, які ўзнік крыху раней, у XIX ст., у выглядзе так званага сіянізму. Між іншым, па часе ён зусім не выпадкова супаў з нараджэннем большасці нацыянальных рухаў Еўропы і можа законна лічыцца адным з іх. З той розніцай, што паўставаў пад старажытнымі юдаісцкімі «лозунгамі» пра «зямлю абяцаную» і для сваёй рэалізацыі імкнуўся за межы Еўропы. Апошняя асаблівасць сіянізму, здавалася б, павінна была спрыяць яму, бо ў адрозненне ад міжусобнай барацьбы іншых еўрапейскіх нацый, сапраўдныя ворагі сіяністаў чакалі на Блізкім Усходзе.

Аднак гісторыя любіць сюрпрызы, і канкурэнт новага габрэйскага вяртання з'явіўся неўзабаве ў былой Расійскай імперыі. Немалая колькасць выхадцаў з жыдоўскага асяродку ў савецкай эліце першага дзесяцігоддзя спрыяла рэалізацыі габрэйскіх нацыянальна-камуністычных праектаў. Самы анекдатычны з іх — стварэнне «добраахвотнага габрэйскага лагера» са сталіцай у Бірабіджане, а самы рэалістычны — існаванне жыдоўскай грамады ў БССР. Каб крыху іншы збег абставін, мы б сёння маглі жыць у беларуска-габрэйскай (ці габрэйска-беларускай?) дзяржаве. Усе падставы для таго былі закладзены ў 1920-я гг. Шматлікае сацыяльна актыўнае гарадское насельніцтва, ідыш — дзяржаўная мова, разгалінаваная культура і габрэйская адукацыя, дамінаванне ў адміністратыўнай, фінансавай, навуковай ды культурніцкай

сферы. Канечне, не здарылася гэта ў першую чаргу з-за натуральнай трансфармацыі самога СССР, які з рэвалюцыйна-інтэрнацыянальнай краіныператварыўся ў маналітную таталітарную імперыю. Па-другое, з-за трагедыі Другой сусветнай вайны, якая рэзка змяніла нацыянальна-дэмаграфічны расклад у Беларусі. І па-трэцяе — з-за канчатковай перамогі сіянісцкага руху і ўтварэння Ізраіля, галоўнай дамінанты для габрэйства ў апошнія 60 год.

Калі ж глядзець не толькі на знешнія, а і на ўнутраныя прычыны знікнення з беларускага ландшафту такой адметнай з’явы, то можна заўважыць, што адыграў тут ролю і выбар саміх тутэйшых жыдоў на карысць «габрэйства». Феномен доўгага і стабільнага існавання жыдоўства ў межах былога ВКЛ крыецца ў ізаляванасці, адсутнасці асіміляцыі, самастойнасці юдэйскіх супольнасцяў, адносна міралюбных стасунках з аўтахтонным насельніцтвам. Перахаваная, пераасэнсаваная і, бадай, памножаная духоўна-рэлігійная спадчына, традыцыйная адукацыя і дэмаграфічны патэнцыял сталі падмуркам іх нацыянальнага адраджэння. Без перабольшвання можна сказаць, што жыдоўства ВКЛ — той корань, з якога вырас сіянізм і сённяшні Ізраіль. А цана, якую давялося заплаціць за гэта, — смерць ідыша, цывілізацыі штэтлаў і самога тутэйшага жыдоўства. Жыды зніклі, а габрэі разляцеліся па свеце, стаўшы «гонарам і цветам» Расеі, Еўропы, Амерыкі. Ці ёсць у гэтым наша віна? Ці, можа, заслуга? Няма ні таго, ні другога. На жаль, у гэтым акце сусветнай гісторыі мы былі сціплымі статыстамі-назіральнікамі і пакінулі на памяць аб сваіх каларытных суседзях жменьку слоў — у мове, показак ды анекдотаў — у фальклоры, самаіронію і парадаксальны жыдоўскі гумар — ва ўласнай душы.

Насамрэч мы яшчэ не ведаем усяго, што згубілі разам са сваімі жыдамі, гэтак жа як не ўсведамляем, што набываем наўзамен. Відавочна, што разам з эміграцыяй апошніх трыццаці год знізіўся і ровень беларускай навукі, медыцыны, культуры, адукацыі, некаторых галін мастацтва. Як казаў адзін стары хірург, раней хворыя ведалі доктарава імя і імя па бацьку, бо ў палаце заўсёды ляжаў хаця б адзін жыдок. А цяпер у лепшым выпадку — эй, вы, урач, ці як вас? Няма таго, што раньш было…

Так, яны былі не зусім такія, як мы, крыху лепш выхаваныя, арганізаваныя, упартыя, мэтаскіраваныя. Былі сур’ёзнымі канкурэнтамі, а часта і першымі ў розных інтэлектуальных сферах і занятках. Нашы «квасныя» нацыяналісты скажуць: во і добра, вызвалілі нарэшце месца для беларусаў. Але ж месцы тыя ўсё часцей не занятыя, і беларуская навука, напрыклад, хутка ператворыцца ў пустку. Якая там канкурэнцыя, знайсці хаця б пару жаданцаў займацца гэтай «жыдоўскай справай». Ну а пра тых, хто прыходзіць на «нашы свабодныя месцы», гаворка асобая. Калі лік таджыкаў, іранцаў і кітайцаў перасягне мільён, як тое было сто гадоў таму з беларускім жыдоўствам, будзе тады што ўзгадаць і з чым параўноўваць. Тады і пабачым, хто нам быў свой, а хто чужы.

І нарэшце, апошняе, «інтымнае» пытанне — чаму я не стаў антысемітам? Мабыць, таму што мала зайздросціў? Ці позна нарадзіўся? У юнацтве я з нейкім піетэтам глядзеў на жыдоў, усе яны мне здаваліся разумнымі, начы-

танымі, абазнанымі ва ўсякіх навуках і цікавостках. Не тое каб я дужа зайздросціў, але часам шкадаваў, што не магу быць такім, як яны, — упэўненым, камунікабельным, аптымістычным.

З гадамі гэта прайшло, бо сярод іх я сустрэў самых розных людзей, ад дзіўнаватых алігафрэнаў да фенаменальных запамінальнікаў, ад брутальных мацяршчыннікаў да выкшталцоных эстэтаў. Аднак лёс склаўся так (мо камусь пашанцавала больш?), што ў маім асяроддзі не патрапляліся ні гнюсныя ліхвяры, ні алігархі-масоны, ні паядальнікі хрысціянскіх немаўлят. А толькі звычайныя цырульнікі, настаўнікі, лекары, навукоўцы. Не было асабістых канфліктаў і крыўд, а былі прафесійныя, побытавыя ды сяброўскія стасункі. Як з усімі.

І адкуль антысемітызму ўзяцца сёння, калі на ўсю краіну засталося крыху больш за дваццаць тысяч габрэяў (гэта напэўна менш, чым в'етнамцаў і азербайджанцаў), а сярод маіх трох-чатырох знаёмых і сяброў, што пакуль не выправіліся ў «зямлю абяцаную» ці ў зямлю сырую, беларускую, практычна не засталося маладых. Так, я ўжо не стану юдафобам, хіба мо калісьці — антыкітайцам, антырасейцам, антымарсіянінам, але ніяк не антысемітам.

Больш за тое, калі на нашай зямлі знікне апошні габрэй, я займу ягонае месца. Бо камусьці ж трэба тут быць не такім, як усе, крыху збоку і наперакасяк ад агульнай правільнасці, зацятасці, шэрасці. Камусьці ж трэба сумнявацца і вагацца паміж аб'ектыўнай неабходнасцю нацыяналізму і практычнай выгодай індывідуалізму. Паміж змрочнай святасцю традыцый і дзіцячай радасцю ад іх парушэння. Камусьці ж трэба заставацца жыдам, каб не забыліся і гоі — хто яны і адкуль. Бо, як казалі калісь нашы былыя суайчыннікі, у кожным добрым чалавеку ёсць крышку жыда… А тым больш, што ўсе мы — чытачы, талмачы ці мадэрнізатары Бібліі-Торы — таксама пайшлі ад Адама. А ён, як вядома, быў… яшчэ не жыд, пакуль не беларус, не атэіст, не хрысціянін і нават не сацыяліст. А проста першы чалавек. Але ж ці можна быць «проста чалавекам» сёння? Вельмі хацелася б у гэта верыць…



ВАСІЛЬ АЎРАМЕНКА

Аўраменка Васіль Аляксеевіч нарадзіўся 10 чэрвеня 1958 г. у Мазыры. Скончыў Віцебскі медычны інстытут (1981), па прафесіі – лекар-неўролаг. Працуе па спецыяльнасці ў шпіталі хуткай медычнай дапамогі. З пачатку 1990-х гг. публікаваўся ў газетах «Свабода», «Літаратура і мастацтва», «Наша Ніва», пазней у часопісе «ARCHE». Лаўрэат штотыднёвіка «ЛіМ» у намінацыі «публіцыстыка» за 1995 г. Аўтар кнігі «Нябачнае і ява» (Мінск, 2013). Жыве ў Магілёве.

УЛАДЗІМІР ЛІЎШЫЦ

## Янка Купала і яўрэі

Імя класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы (Івана Дамінікавіча Луцэвіча, 1882–1942) — беларускага паэта, драматурга, публіцыста, акадэміка Акадэміі навук Беларусі і Украіны, народнага паэта Беларускай ССР шырока вядома ва ўсім свеце. Яго творы апублікаваны мільённымі накладамі на амаль усіх мовах свету.

Імя паэта прысвоена літаратурнай Дзяржаўнай прэміі Беларусі, яго імем названы універсітэт у Гродна, навукова-даследчы інстытут, тэатр, паркі і бібліятэкі. Амаль ва ўсіх гарадах і пасёлках Беларусі, а таксама ў многіх гарадах Расіі і Украіны ёсць вуліцы, названыя імем паэта.

Помнікі, мемарыяльныя дошкі ўстаноўлены ў Нью-Ёрку, Маскве, Вільні і Мінску.

У 1982 г. па рашэнні ЮНЕСКА пры ААН ва ўсім свеце святкавалі 100-годдзе з дня яго нараджэння.

Таму няма нічога дзіўнага, што гарадскі Савет горада Ашдод (Ізраіль) прыняў рашэнне аб прысваенні імя Я. Купалы адной з плошчаў горада, дзе пражывае значная колькасць выхадцаў з Беларусі.

Аднак на пасяджэнні гарадскога Савета некаторыя дэпутаты былі супраць, бо, як яны палічылі, Янка Купала быў антысемітам. І ў якасці доказу быў прыведзены верш Купалы «Жыды».

Пры гэтым дэпутаты спасылаліся на артыкулы В. Рубінчыка «Янка Купала: друг еврейского народа или…?» (Еврейский камертон. 1999. 21 октября), «Янка Купала и евреи» (Еврейский камертон. 2001. 19 июля).

Вывучаючы творчасць Я. Купалы, трэба адзначыць, што да кастрычніка 1917 г. ён не пісаў на яўрэйскую тэму. Хоць вядома, што ў лістападзе 1911 г. ён разам з 82 вядомымі літаратарамі і грамадскімі дзеячамі (Максім Горкі, Зінаіда Гіпіус, Фёдар Салагуб, Леанід Андрэеў, Вячаслаў Іваноў і іншыя) падпісаў заклік «Да рускага грамадства (з нагоды крывавага нагавору на яўрэяў)», складзены Уладзімірам Караленкам, пратэстуючы супраць справы М. Бейліса (яўрэя, абвінавачанага ў рытуальным забойстве хлопчыка Андрэя Юшчынскага. У ходзе судовага працэсу, які атрымаў назву «Справа Бейліса», ён быў цалкам апраўданы).

Да Вялікай Айчыннай вайны Янка Купала часта сустракаўся з яўрэйскай інтэлігенцыяй СССР і БССР. Па сведчанні яўрэйскага пісьменніка Гіршы Рэлеса, паэт перапісваўся з яўрэйскімі паэтамі Перацам Маркішам і Давідам Бергельсонам.

У 1925 г., калі адзначаўся 20-гадовы юбілей творчасці Я. Купалы, ён казаў: «Разам з беларусамі мяне… віталі грамадзяне іншай нацыі — яўрэйскія гра-

мадзяне… Мы, беларусы, жылі з гэтым народам у згодзе і жыць далей будзем у згодзе, таму што сёння маем аднолькавую долю і волю».

Вядома, што ў гасцях у Купалы часта бывалі яўрэі Змітрок Бядуля (пісаў па-беларуску), Гірша Камянецкі, Эля Каган, Генах Шведзік.

Яго вершы перакладалі на ідыш вядомыя яўрэйскія паэты Мойша Кульбак, Зелік Аксельрод. Літаратуразнаўчыя артыкулы пра яго пісаў Уры Фінкель.

Асабліва сябраваў Я. Купала з паэтам Ізі Харыкам. У 2004 г. у Мінску выйшла на мове ідыш, а ў 2006 г. на рускай мове кніга ўспамінаў «Еврейские советские писатели Белоруссии» Гіршы Рэлеса, які быў знаёмы з Я. Купалам. У ёй ён піша: «Нямала засталося і перакладаў на ідыш беларускіх вершаў, зробленых Харыкам… Купала быў адным з найлюбых Харыкам паэтаў. Яны былі вельмі дружныя.

Удава Ізі Харыка Дзіна распавядала, што «…из телефонной трубки нередко раздавался голос Купалы:

— Ізік, як ты там жывеш? Мо зайшоў бы на чарку?

Понятно, что, как бы Харик ни был занят, он приходил к своему брату по перу и возвращался оттуда всегда весёлый, в хорошем настроении» (Гирш Релес. Еврейские советские писатели Белоруссии. Воспоминания. Минск, 2006. С. 29).

У 1930 г. Ізі Харык на вечарыне, прысвечанай 25-годдзю літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы, вітаў яго ад імя яўрэйскай секцыі БелАПП, чытаў пераклады вершаў Купалы на ідыш.

У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы захоўваецца фатаграфія, на якой Я. Купала, І. Харык, М. Клімковіч, А. Александровіч, М. Лынькоў, Я. Колас і М. Горкі зафіксаваны ў час гасцявання на дачы рускага класіка ў 1934 г.

У 1935 г. Ізі Харык павіншаваў Янку Купалу з 30-годдзем творчай дзейнасці.

А калі адзначалі 15-годдзе літаратурнай дзейнасці І. Харыка — Я. Купала даслаў яму сваё прывітанне.

У 1939 г., калі ў Маскве адзначалася 80-я гадавіна з дня нараджэння Шалом-Алейхема, Я. Купала, як і А. Фадзееў, С. Міхоэлс і іншыя, выступаў з прамовай на ўрачыстым пасяджэнні, назваўшы Шалом-Алейхема адным з лепшых пісьменнікаў свету.

* * *

На працягу многіх гадоў Янка Купала сябраваў з пісьменнікам Змітраком Бядулем (Самуілам Плаўнікам).

У 1912 г. З. Бядуля пераехаў у Вільню, працаваў у канторы лесапрамыслоўца, потым у рэдакцыі газеты «Наша Ніва» разам з Янкам Купалам.

Жонка Я. Купалы Уладзіслава ў артыкуле «Маё знаёмства» ўспамінала: «У канцы 1913 года ў Вільню з Пецярбурга вярнуўся Янка Купала. Тады яны

ўпершыню і сустрэліся. Купала неўзабаве перайшоў на працу ў рэдакцыю "Нашай нівы", і яны амаль заўсёды былі разам <…>

Мне даводзілася быць частай наведвальніцай і госцем рэдакцыі <…> Купала і Бядуля жылі больш чым сціпла. Яны звычайна куплялі на шэсць капеек "абрэзкаў" у каўбаснай краме і хлеба — гэта была іх вячэра.

<…> Яны рэдка калі елі гарачую страву — на гэта не хапала грошай <…>

Сумесная праца ў "Нашай Ніве", асабліва ў суровыя ваенныя гады (Першай сусветнай вайны. — *У. Л.*), вельмі зблізіла Купалу і Бядулю.

Купала быў рэдактарам, Бядуля — сакратаром. На іх двух ляжала і напісанне матэрыялаў, і карэктура, і выпуск газеты, і ўся адказнасць за яе <…>

Купала вельмі паважаў Бядулю за яго таленавітасць і працаздольнасць, хоць індывідуальнасці аднаго і другога пісьменніка былі надзвычай розныя і на гэтым грунце часамі ўзнікалі невялікія разыходжанні <…>

5 верасня 1915 года Купала выехаў з Вільні ў Мінск, а з Мінска ў Маскву. Так мы разлучыліся са Змітраком Бядулем.

За час нашага расставання мы ўсяго некалькі разоў абмяняліся лістамі. Купала вельмі сумаваў па Беларусі, і кожны ліст Бядулі прыносіў яму шмат радасці.

Наступная наша сустрэча з Бядулем адбылася ў 1919 годзе, калі мы пасля абвяшчэння Савецкай Беларусі пераехалі са Смаленска ў Мінск.

Мы сустрэліся з Бядулем, як блізкія і родныя. Першае, аб чым загаварыў Бядуля, — гэта аб страце свайго вялікага друга Максіма Багдановіча, з якім ён частку 1916 і 1917 года пражыў на адной кватэры <…>

Калі ў 1920 годзе Купала моцна захварэў і больш двух месяцаў ляжаў у бальніцы, Бядуля і яго сёстры часта прыходзілі праведваць Купалу, дапамагалі чым маглі.

У 1921–1926 гадах мы жылі з Бядулем на адной кватэры, перш — па Савецкай вуліцы, у гістарычным доміку I з'езда РСДРП, а затым — па Правіянцкай, 35. Перада мной яшчэ больш раскрылася глыбокая душа Бядулі, як чалавека і пісьменніка. Ён быў вельмі просты, чулы і мяккі. Здзіўляла яго надзвычайная працавітасць…

<…> У адзін марозны дзень я зайшла ў Саюз пісьменнікаў (у Маскве. — *У. Л.*), і першыя словы, пачутыя ад тав. Бахмецьева, які заступіў на пасаду старшыні, былі аб тым, што атрымана тэлеграма пра смерць Змітрака Бядулі.

<…> Вярнуўшыся ў Печышча, я не адважвалася расказаць Янку аб смерці Бядулі. Але хутка аб гэтым паведаміла радыё.

Янка доўга хадзіў з канца ў канец пакоя, курыў і маўчаў, як заўсёды, калі глыбока хваляваўся і перажываў. Толькі калі прыйшоў наш знаёмы дырэктар завода Наякшын, Купала сказаў:

— Не дачакаўся Бядуля звароту на сваю зямлю. Не ведаю, ці вярнуся і я…

Ні Бядуля, ні Купала не вярнуліся на родную беларускую зямлю, якую абодва так моцна любілі, хараство якой так натхнёна апявалі, народу, якому так верна служылі».

* * *

Як ужо адзначалася, Я. Купала сябраваў з многімі яўрэйскімі паэтамі, разам яны і адпачывалі.

Захавалася такая гісторыя. «У 1936 годзе ў падмаскоўны дом адпачынку прыехалі Янка Купала, Ізі Харык і Зелік Аксельрод. Хутка ў адпачывальнікаў скончыліся грошы, і тады яны ў паэтычнай форме накіравалі ў Мінск тэлеграму чыноўніку па прозвішчы Лесін, адказнаму за матэрыяльны дабрабыт беларускай літаратуры, з просьбай даслаць грошай. Тэлеграма заканчвалася вершамі:

Мир без денег тесен
Гоб рахмонес, Лесин.

У перакладзе з ідыш «Гоб рахмонес» азначала — «май спачуванне». Аднак тэлеграфістка, прачытаўшы бланк тэлеграмы, сказала: "Пачакайце хвілінку", знікла ў глыбіні аддзялення сувязі і неўзабаве вярнулася ў суправаджэнні міліцыянта. Ён падышоў да пісьменнікаў і грозна спытаў:

— Што за незразумелыя тэлеграмы пасылаеце, грамадзяне? Можа быць, гэта шыфр які? Можа быць, вы шпіёны?

Нягледзячы на анекдатычнасць сітуацыі, непрыемнасці маглі рушыць услед больш чым сур'ёзныя. Краіну захліствала хваля шпіёнаманіі, і людзей, бывала, расстрэльвалі і на больш абсурдных падставах. Тлумачыць пра мову ідыш таксама не трэба было: да барацьбы з касмапалітамі было яшчэ далёка, але першыя званочкі ў выглядзе закрыцця габрэйскіх школ ужо чуліся. Неабходна было тэрмінова прыдумаць адмазку.

І геніяльны паэт Купала яе прыдумаў.

— Таварыш, — сказаў ён міліцыянту, — які шыфр, пра што вы? Гэта ж проста подпісы. Гэта нашы прозвішчы ў тэлеграме. Вось ён, — Купала паказаў на Харыка — Гоб, ён — на Аксельрода — Рахмонес, ну а я — Лесін. Вось і ўсё.

Міліцыянт паглядзеў на Харыка і падазрона перапытаў:

— Гоб?

— Гоб, Гоб, — з гатоўнасцю пацвердзіў той. — Беларускі пісьменнік Ізя Гоб.

Аксельрода міліцыянт не стаў нават пытацца. І так было відаць, што прозвішча Рахмонес падыходзіць да яго, як добра пашыты касцюм.

Тэлеграма была шчасна адпраўлена, наваяўленыя Гоб, Рахмонес і Лесін атрымалі аванс за ніколі не выдадзеную кнігу, і адпачынак працягнуўся. На жаль, гэта быў апошні выпадак, калі паэтам удалося падмануць пільнасць органаў» (http://www.jew.spb.ru/ami/A417/A417072. html).

Вядома, што неўзабаве І. Харык і З. Аксельрод загінулі ў засценках НКУС, а Я. Купала трагічна загінуў у 1942 г. пры нявысветленых абставінах у сталічнай гасцініцы «Масква».

* * *

Цёплыя адносіны звязвалі Янку Купалу з яўрэйскімі мастакамі і скульптарамі.

Вядома, што мастак Янкель Кругер у 1923 г. напісаў адзін з першых прыжыццёвых партрэтаў Янкі Купалы.

Яго ўнучка Марына Чарняк успамінала, што партрэт Янкі Купалы быў напісаны з натуры: «…Янка Купала намаляваны каля акна, і сустракае світанак. Калі карціна ўжо была напісана, Якаву Маркавічу распавялі, што хтосьці з прыхільнікаў паэта, часта бываючы ў яго, звычайна пакідаў на акне свежую ружу. Гэта зрабіла на Якава Маркавіча вялікае ўражанне. Ён вырашыў дапісаць ружу…» (Мишпоха. 2003. № 10).



*Партрэт Я. Купалы.*
*А. М. Бразер. Каля 1926 г.*



*А. Бразер у час працы над бюстам Я. Купалы*

Скульптар Абрам Бразер у 1926 г. напісаў цікавы партрэт Янкі Купалы, а таксама стаў аўтарам першага ягонага скульптурнага партрэта.

У Віцебскім абласным краязнаўчым музеі захаваўся фотаздымак: «А. Бразер у час працы над бюстам Я. Купалы».

У 1924 г. Янка Купала пазнаёміўся са скульптарам Заірам Азгурам, які доўгі час жыў на кватэры Янкі Купалы ў Мінску, калі працаваў над бюстам паэта.

Падчас вучобы З. Азгура ў Ленінградзе Янка Купала дапамагаў маладому скульптару матэрыяльна. Пра сустрэчы з Янкам Купалам З. Азгур пакінуў успаміны ў кнізе «Незабыўнае».



Заір Азгур стварыў некалькі скульптурных партрэтаў Я. Купалы. У фондах Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы захавалася фатаграфія: Купала ў майстэрні скульптара (1939).

На ёй — Купала, стомлены чалавек, які абапіраецца на падстаўку, на якой стаіць яго будучы партрэт. Азгур пісаў: «Мне хацелася перадаць тыя рухі душы паэта, якія я назіраў, якія мяне захаплялі. А гэта іменна тое, што ў скульптуры вельмі цяжка зрабіць: за спакойным купалаўскім характарам — гэта могуць пацвердзіць тыя, хто ведаў паэта, — таілася вельмі чулая душа, якая рэагавала на ўсё» (Вольга Рудніцкая, Марыя Тараканава. Мне хацелася перадаць рух у душы паэта // Роднае слова. 2003. № 1).

У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы захаваліся таксама аўтографы Янкі Купалы на кнігах, якія ён падараваў З. Азгуру: «На добрую памяць шчыра паважанаму, здольнаму мастаку т. З. Азгуру. Я. Купала. Менск, 12/111-26 г.» (Збор твораў. 1925. Т. 1), «Азгуру на памятку. Я. Купала. Менск, 10.X-30 г.» (Творы. 1918–1928, 1930).

* * *

Пачалася Вялікая Айчынная вайна. Я. Купала апынуўся ў эвакуацыі, але ён добра быў дасведчаны, што тварылі нямецкія акупанты з яўрэямі на беларускай зямлі. Гэтыя падзеі не маглі пакінуць яго абыякавым. Пра гэта кажа яго нарыс «Народ-мститель», апублікаваны ў 1941 г.

«Рука об руку воюют против общего страшного врага белорусы, евреи, поляки, украинцы. В одном из сел фашисты созвали белорусов к околице и приказали им рыть глубокую яму.

— Зачем яма? — спросил один из крестьян.

Немецкий офицер ответил ему с издевкой, что яма эта предназначена для евреев, которых сейчас собирают в местечке. И действительно, вскоре немцы пригнали штыками двадцать евреев. И тогда произошло то, чем будет вечно гордиться белорусский народ. Белорусы воткнули в землю лопаты и отказались рыть могилу. Вместе, в одном селе, они прожили с евреями целую жизнь. Вместе росли, вместе работали и вместе погибли, расстрелянные фашистами у недорытой могилы.

Об этом когда-нибудь будут сложены легенды, поэты воспоют героев» (Я. Купала // Поўны збор твораў. Мінск, 2002. Т. 8. С. 244–252).

Выпадак, апісаны ў нарысе, лёг у аснову няскончанай балады «Дзевяць асінавых калоў» (1941–1942):

Іх вывелі, дзевяць маіх беларусаў,
Іх вывелі, дзевяць яўрэяў маіх.
Зямлі беларускай людзей сівавусых,
Людзей непавінных, мне родных, блізкіх…

* * *

Што ж тады насцярожыла некаторых дэпутатаў Ашдодскага гарсавета?

Можа быць, верш «Жыды»? Цікава, што ён быў апублікаваны ў газеце «Беларусь» яшчэ 7 лістапада 1919 г. і толькі праз 70 гадоў яго перадрукавалі ў беларускім (рускамоўным) часопісе «Нёман». А ў 1997 г. гэты верш увайшоў у збор твораў паэта.

Пачнём з назвы — «Жыды». У беларускай мове пачатку мінулага стагоддзя слова «жыд» не было крыўдным. І з 1919 па 1926 г. гэта назва яўрэяў шырока ўжывалася ў БССР.

Аўтару гэтага артыкула даводзілася чытаць у падшыўках беларускіх цэнтральных газет артыкулы, якія называліся, напрыклад, «За развіццё жыдоўскае культуры» і г. д.

Вядома, што ў 1918 г. і яўрэйскі пісьменнік З. Бядуля выдаў брашуру, якая называлася «Жыды на Беларусі». Праўда, чамусьці ў яўрэйскай электроннай энцыклапедыі гэта брашура называецца «Евреи в Белоруссии» (http://www.eleven.co.il./article/10455).

Аднак 24 ліпеня 1925 г. Бюро ЦК КПБ апублікавала пастанову: «Лічыць неабходным выкараняць з ужывання ў беларускай мове слова “жыд” і замяніць яго словам “яўрэй”». Менавіта ад гэтай пастановы і пачалося выкарыстанне ў беларускай мове запазычанага з расейскай слова «яўрэй». Дагэтуль па-беларуску можна было сказаць толькі «жыд», і гэтае слова, у адрозненне ад расейскай мовы, не было ў Беларусі абразлівым.

Калі звярнуцца да вершаў, то бачна, што паэт у цэлым добразычліва ставіцца да яўрэяў. І словы «хрыстапрадаўцы і прыблуды» бярэ ў двукоссе.

Жыды! «Хрыстапрадаўцы і прыблуды»!
О, слава вам, ўсебеларускія Жыды!
Я веру вам, хоць чорнай гразьзю ўсюды
Плюе вам цар і раб, стары і малады.

Нявольнікі вы сёньня з намі разам
На беларускай змучанай зямлі,
Дзе чорны зьдзек, пасьвенчаны абразам,
Гняце нас разам, як звяр'ё, ў крутой пятлі.

Пры гэтым Я. Купала верыць і спачувае яўрэйскаму народу, які быў выгнаны з Палесціны.

І адабралі край у вас народы,
На вечнае вандроўкі здабылі.
І разбрыліс па сьвеце вашы роды,
Карміцца вам прыйшлося ад няроднае зямлі.

Паэт лічыць, што толькі на беларускай зямлі яўрэі знайшлі спачуванне, разуменне і дапамогу.

Калі ў Гішпаніі узбунтаваны людзі
З сваёй краіны выгналі вас напасьмех,
На беларускім полі вашы грудзі
Навек знайшлі дняваньне, страву і начлег.

Шлі дні. І вас у ланцугі скавалі
Бязбожны каралі і дэспаты-цары.
Адны вас Беларусы шанавалі,
Як блізкіх родных — да сьвятлейшае пары.

Ён таксама з разуменнем ставіцца да ідэі сіянізму, калі піша:

Ваш ясны светач там, дзе Палестына.

Я. Купала лічыў, што свабоду і паўнапраўнае развіццё яўрэі атрымаюць тады, калі будзе створана незалежная Беларусь. Таму ён піша:

Вы ўскрэсьнеце, Жыды, усьлед за Беларусяй…

Але ёсць у вершы і словы, якія цяжка паддаюцца тлумачэнню. Так, паэт піша:

Пасля, Жыды, вы зрэкліся народу,
Які вам шчыра даў багацьце і прыпын;
Пайшлі прыдбаць сабе вы чэсьць, выгоду
Да сільных тых, хто даў вам вісельню і чын!

Чаму ён піша, што яўрэі адмовіліся ад беларускага народа? У каго яны пайшлі шукаць «багацце, вісельню і чын»?

В. Рубінчык лічыць, што гэтыя радкі могуць адносіцца да тых яўрэяў, якія спачатку падтрымалі ідэю Беларускай Народнай Рэспублікі (абвешчана 25 сакавіка 1918 г.), а затым выйшлі з яе кіруючых органаў.

Як вядома, гэта датычыцца міністраў (сакратароў) Белкінда — міністра фінансаў гэтай рэспублікі і Машэ Гутмана — міністра «па жыдоўскіх» справах.

Вядома, што М. Гутман, калі абмяркоўвалася пытанне аб абвяшчэнні БНР, казаў, што ён згаджаецца «выказацца за незалежнасць, калі ўслед за гэтым будзе прынята пастанова аб федэрацыі з Расеяй».

Варта таксама адзначыць, што калі абмяркоўвалася пытанне аб абвяшчэнні БНР, то партыя Бунда галасавала супраць.

З моманту тых падзей прайшло больш чым паўтара года (верш «Жыды» быў надрукаваны ў кастрычніку 1919 г.), і Я. Купала ўбачыў, што яўрэі прымаюць актыўны ўдзел у станаўленні Савецкай улады ў Расеі і Беларусі наогул і ў стварэнні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (БССР), якая была створана ў студзені 1919 г., у прыватнасці.

І, мабыць, ён лічыў, што гэтым яўрэі здрадзілі беларускай нацыянальнай ідэі — стварэнню незалежнай дзяржавы.

Цікава, што ўжо праз дваццаць дзён пасля таго, як быў надрукаваны верш «Жыды», Янка Купала друкуе артыкул «Незалежная дзяржава і яе народы» (газета «Беларусь». 1919. 29 лістапада), у якім ён піша: «Мы ўжо гаварылі аб тым, для чаго патрэбна нам дзяржаўная незалежнасць. Цяпер скажам колькі слоў і аб тым, як павінны мы, здабыўшы незалежнае дзяржаўнае становішча, адносіцца да народаў небеларускіх, але жывучых заўсёды з тых ці іншых прычын на беларускай зямлі».

Пры гэтым адзначым, што ўжо амаль 10 месяцаў існавала БССР, але, відаць, Я. Купала быў незадаволены такой «незалежнасцю», і таму далей у артыкуле ён некалькі разоў піша аб незалежнасці беларусаў у будучым часе.

Ён адзначае, што мы, беларусы, «…атрымаўшы сваю дзяржаўнасць, будзем меркавацца з чужымі нам па нацыянальнасці людзьмі, якія жывуць на беларускай зямлі».

Далей ён піша: «У нашым краю шмат жыве палякаў, расійцаў, жыдоў, татар. Лепшыя з гэтых людзей даўно ўжо прыйшлі да пераканання, што свабодны беларус у сваёй незалежнай дзяржаве будзе куды прыхільней адносіцца да іх, чымся беларус, паняволены чужынцамі… Ва усіх дзяржаўных і грамадскіх установах <…> павінны мець сваё месца і нацыянальныя меншасці <…> У вольнай, незалежнай Беларускай дзяржаве не павінна быць «ні эліна, ні іудзея».

Усе роўныя перад дзяржаўнай уладай, усе роўныя перад правам і законам, усе вольна развіваюць сваю нацыянальную культуру і самабытнасць» (Янка Купала. Поўны збор твораў. Т. 8. Мінск, 2002. С. 78, 80–81).

На думку доктара гістарычных навук, прафесара Захара Шыбекі, Янка Купала «…бачыў у яўрэях вялікую сілу і рэзерв у справе нацыянальнага будаўніцтва <…> і быў вельмі засмучаны не здзейсненым саюзам яўрэяў і беларусаў. Нацыянальны праект беларусаў не стаў прывабным не толькі для яўрэяў, але і для беларусаў. І ў гэтым віна і бяда саміх беларускіх лідараў і ўсяго беларускага народа.

У яўрэйскіх лідараў, сапраўды, была асцярога, што стварэнне на руінах Расійскай імперыі незалежных дзяржаў прывядзе да расчлянення яўрэйскага народа. Таму яны аддавалі перавагу адзінай Расіі, але дэмакратычнай, з шырокай культурнай аўтаноміяй для народаў гэтай краіны».

Думаю, што з прыведзеным меркаваннем можна згадзіцца. Але гэта акалічнасць зусім не перашкаджае таму, каб імя сусветна вядомага паэта Янкі Купалы было прысвоена плошчы горада Ашдода.

І, наколькі вядома, гэта рашэнне ў рэшце рэшт было прынята.



## Уладзімір Ліўшыц

Ліўшыц Уладзімір Маісеевіч нарадзіўся 1 лютага 1946 г. у пас. Чырвоны Кут Энгельскага раёна Саратаўскай вобласці. Пісьменнік, літаратуразнаўца, публіцыст. Кандыдат філасофскіх навук, прафесар. Сябра СБП, Саюза журналістаў Беларусі, Міжнароднага Саюза пісьменнікаў «Новы сучаснік». Аўтар больш чым 50 кніг і брашур па філасофіі, паліталогіі, педагогіцы, гісторыі г. Горкі Магілёўскай вобласці. Заснавальнік і першы дырэктар Горацкага раённага гісторыка-этнаграфічнага музея. З 2007 г. жыве ў г. Нацэрэт-Іліт (Ізраіль).





ЯРАСЛАЎ КЛІМУЦЬ

## Асоба ў віхурах зменлівага часу Міхась Ларчанка (1907–1981)

Міхась Ларчанка належаў да пакалення, фарміраванне якога прыпала на драматычныя гады пачатку ХХ ст.: Першая сусветная вайна, затым не менш пагрозлівыя часы рэвалюцыйных пераўтварэнняў, грамадзянская вайна ў Расіі, акупацыі Беларусі інтэрвентамі — падзеі, якія ў падлеткавым узросце ўспрымаліся толькі ў героіка-рамантычным арэоле. Так тагачасная моладзь прызвычайвалася ўспрымаць навакольны свет.

Міхась Рыгоравіч Ларчанка нарадзіўся 14 лістапада 1907 г. у вёсцы Хварасцяны, якая «стаяла далёка ад чыгункі, у глухім лясістым кутку» паміж Чавусамі і Прапойскам (Слаўгарадам), дзе «працякала ціхая невялічкая рачулка Субота»*. Сям'я была дужа беднай, таму пра вучобу можна было толькі марыць. Пасля заканчэння пачатковай школы прыйшлося зноў застацца дома, бо бліжэйшая сямігодка была толькі ў Чавусах, але бацькі не мелі магчымасці плаціць за кватэру і падвозіць часта прадукты. Аднак падлетак не супакоіўся, многа чытаў, стаў актывістам, у 1922 г. уступіў у камсамол, быў завадатарам моладзі, драматычна перажыў смерць правадыра міжнароднага пралетарыяту Леніна, што цалкам зразумела.

Прадаўжаць вучобу, па сённяшніх уяўленнях, яму прыйшлося даволі позна. «Толькі ў 17 год, — адзначае М. Ларчанка, — я цвёрда стаў на жаданую сцежку — паступіў у Княжыцкую школу сялянскай моладзі, дзе сялянскія дзеці мелі магчымасць вучыцца за дзяржаўны кошт. Хоць праграма гэтай школы мяне асабіста не задавальняла (яна насіла сельскагаспадарчы аграгамічны ўхіл), але давала шырокую магчымасць авалодаць асновамі многіх гуманітарных і прыродазнаўчых навук, патрэбных для агульнага развіцця кожнага чалавека»**.

Там М. Ларчанка шмат чытаў рускай і беларускай класікі, у тым ліку і паэзіі. Маючы добрыя здольнасці, многае завучваў на памяць, а пад уздзе-

* Пра час і пра сябе: Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. Мінск: Беларусь, 1966. С. 211.
** Тамсама. С. 213.

яннем прачытанага тварыліся вершы рамантычнага кшталту. Пасля школы ён быў залічаны ў Магілёўскі педагагічны тэхнікум. Правучыўшыся там два гады, паступіў на лінгвістычна-літаратурнае аддзяленне педфака Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (закончыў творчае аддзяленне Вышэйшага педагагічнага інстытута, утворанага на базе педагагічнага факультэта). Там ён сур'ёзна заняўся літаратурай, паўторна прачытаў многія творы, быў сярод лепшых студэнтаў, удзельнічаў у многіх семінарах і дыспутах, у спрэчках па пытаннях літаратурнай творчасці. У 1932 г. «паступіў у аспірантуру Акадэміі навук БССР па аддзяленню беларускай літаратуры»*. З гэтага часу і пачынаюцца яго актыўныя выступленні ў друку па пытаннях літаратуры. Вядома, першыя публікацыі мелі прыкметныя адзнакі часу, што нават адбівалася ў назвах артыкулаў, напрыклад, «Перабудова Пятра Глебкі» і інш. Але галоўнае, што і тады, у маладым узросце, ён не падпаў пад уплыў ваяўнічых вульгарызатараў тыпу Бэндэ, Канакоціна і іншых.

М. Р. Ларчанка абараніў кандыдацкую дысертацыю «Лірыка Якуба Коласа» ў 1936 г., а ў 1939 г. быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў БССР. Працаваў у Інстытуце мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР і па сумяшчальніцтве чытаў лекцыі па гісторыі літаратуры для студэнтаў педінстытута, у час вайны быў на фронце, у 1942 г. цяжка паранены. З 1943 г., калі на станцыі Сходня пад Масквой аднавіў працу Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, М. Р. Ларчанка быў прызначаны загадчыкам кафедры беларускай літаратуры і адначасова дэканам адноўленага філалагічнага факультэта.

Як ужо адзначалася, першае выступленне М. Ларчанкі ў друку па пытаннях літаратуры адбылося ў 1932 г., калі ў віцебскай абласной газеце быў надрукаваны артыкул пра мясцовую маладнякоўскую філію. На працягу 1934–1938 гг. змясціў шэраг рэцэнзій на кнігі беларускіх пісьменнікаў, у некаторых публікацыях дапускаў памылковыя ацэнкі твораў у духу часу, але ў асноўным яго выступленні былі аб'ектыўнымі. Напрыклад, шмат слушнага было сказана пра раманы Б. Мікуліча «Дужасць», Э. Самуйлёнка «Будучыня», многія высновы былі перакананальнымі і не страцілі цікавасці і зараз. У той час шмат пісаў пра творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа. Артыкул пра паэмы Янкі Купалы, апублікаваны ў 1940 г. у часопісе «Полымя», па сутнасці, быў першай сур'ёзнай спробай абараніць творчасць народнага паэта ад нападак вульгарызатараў.

У пасляваенны час М. Ларчанка рэцэнзаваў зборнікі паэзіі Пімена Панчанкі, Максіма Танка, навуковыя даследаванні. Шмат змяшчаў у друку артыкулаў пра даўнюю беларускую літаратуру, пісьменнікаў XIX ст., пра Цётку, Багдановіча, Купалу. У полі зроку М. Ларчанкі былі і літаратурныя сувязі, узаемадзеянне беларускай літаратуры з рускай, пісаў пра шаўчэнкаўскія традыцыі ў беларускай паэзіі і інш.

У першае пасляваеннае дзесяцігоддзе існавала традыцыя: чытанне публічных лекцый вядучымі літаратуразнаўцамі. Стэнаграмы іх пасля выда-

---

* Пра час і пра сябе. С. 214.

валі асобнымі брашурамі. Выйшлі такія выданні М. Ларчанкі: «Творчасць Максіма Багдановіча» (1949), «А. М. Горкі і беларуская літаратура» (1951), «Гогалеўскія традыцыі ў беларускай літаратуры» (1952). У апошнім спыніў увагу на ацэнках творчасці М. Гогаля рускімі дэмакратычнымі крытыкамі В. Бялінскім і М. Чарнышэўскім, затым на ролі іх у станаўленні светапогляду беларускіх творцаў XIX ст. К. Каліноўскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, аўтараў паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», далей адзначыў, што «ўплыў гогалеўскай школы прыкметна праяўляецца ў названых беларускіх паэмах перш за ўсё ў крытыцызме», адмаўленні асноў кансерватыўнай паэтыкі, падкрэсліў, што такім чынам «беларускія паэмы рашуча сцвярджаюць прынцыпы арганічнай сувязі літаратуры з жыццём народа, з жыццём краіны, з звычаямі і бытам простых людзей»*. Уплыў Гогаля аўтар брашуры бачыць і ў спосабе падачы матэрыялу ў «Вечарніцах» Дуніна-Марцінкевіча, у творах Ф. Багушэвіча, а таксама пісьменнікаў пачатку XX ст., і перш за ўсё ў прозе Якуба Коласа, у драматургіі Янкі Купалы і Кандрата Крапівы, у прозе Міхася Лынькова і Кузьмы Чорнага. Многія сцверджанні актуальныя і на сённяшні дзень.

На пачатку 1950-х гг. М. Ларчанка даследаваў праблему станаўлення рэалізму ў беларускай літаратуры. Напрацоўкі гэтыя сталі падмуркам доктарскай дысертацыі, абароненай ім у 1956 г. Пазней на яе аснове былі створаны і апублікаваны манаграфіі «На шляхах да рэалізму» (1958) і «Па шляху рэалізму» (1959). У першай з іх літаратуразнаўца даследуе вытокі рэалізму, зародкі якога бачыць у вуснай народнай творчасці і беларускай старажытнай літаратуры. Для таго часу многія вывады гучалі па-новаму, паколькі ў навуковы разгляд уводзіліся летапісы, творы Скарыны, Буднага і іншых старажытных аўтараў, але ацэнкі некаторым грамадскім падзеям і літаратурным фактам даваліся ў адпаведнасці з панаваўшай тады ідэалагічнай сістэмай, адсюль і з тэндэнцыйнай гістарычнай канцэпцыяй, паводле якой беларускія землі былі захоплены літоўскімі феадаламі, што не адпавядае сапраўднасці. Пры фактычным разглядзе мастацкіх твораў М. Р. Ларчанка ўносіў вялікі ўклад у літаратуразнаўства. Рысы рэалізму ён бачыць у ананімных творах «Прамова Мялешкі» і «Ліст да Абуховіча», хоць і тут даследчык вымушаны быў агаворваць, што невядомыя аўтары не зразумелі выключна станоўчую ролю Масквы ў лёсе беларускіх зямель. Насамрэч яны якраз і бачылі агрэсіўнасць Масковіі і папярэджвалі грамадства пра мажлівыя страхотлівыя дзеянні з іх боку. Па той жа прычыне некалькі негатыўна ацэньваюцца і выдатныя творы Андрэя Рымшы, Каятана Марашэўскага і некаторых іншых пісьменнікаў. Гэта сведчыць пра ўвогуле цяжкія ўмовы, у якіх знаходзіліся тагачасныя даследчыкі: недаступнасць многіх архіваў, у якіх захоўваліся шмат якія мастацкія творы, засілле афіцыёзных тэорый і многае іншае.

Важныя рысы рэалізму выяўляе М. Ларчанка ў вуснай народнай творчасці. Ён разглядае каляндарную і сямейную абрадавую паэзію, казкі, у якіх акцэнтуе ўвагу на праўдзівым выяўленні жыцця. У песнях поруч з паэтыза-

---

* Ларчанка М. Г. Гогалеўскія традыцыі ў беларускай літаратуры. Мінск, 1952. С. 7.

цыяй працы, сямейнага ўкладу, на думку даследчыка, паказваецца цяжкая доля працоўнага чалавека, яго залежнасць ад панскай улады. Нялюдскасць паноў выкрываецца ў шматлікіх казках, у якіх «падкрэсліваецца сродкамі вострай і выкрываючай сатыры такая рыса ў характары памешчыкаў, як іх выключная жорсткасць, зверства, антычалавечнасць»*, а сяляне заўсёды паказваюцца разумнымі, дасціпнымі, высакароднымі («Пану навука», «Разумная дачка» і інш.). Надзённа гучыць і вывад даследчыка: «Беларуская рэалістычная вусная паэзія ўзбагачала ідэямі і вобразамі, сродкамі мастацкага адлюстравання, народнай мовай беларускую перадавую літаратуру, садзейнічаючы гэтым яе шпаркаму развіццю па шляху рэалізму і народнасці, па шляху нацыянальнай самабытнасці»**.

У адпаведнасці з тагачаснай перыядызацыяй літаратурнага працэсу М. Ларчанка ўсю іншамоўную літаратуру старажытнага часу і XIX ст. не лічыць беларускай, але падкрэслівае, што паэты і празаікі шчодра карысталіся фальклорам, добра ведалі жыццё народа і сваімі асобнымі вершамі на беларускай мове ўплывалі на развіццё беларускай літаратуры.

Цікава, што сярод паэтаў-дэмакратаў пачатку XIX ст. М. Ларчанка побач з П. Багрымам называе Яна Аношку і Дзяніса Князьніна, спаслаўшыся на публікацыі ў расійскім друку. Аднак даследчыкі пазнейшага часу не пацвердзілі гэтых звестак, хоць можна думаць, што такія творы ўсё ж дзесьці ў архівах захоўваюцца, калі не былі знішчаны ў працэсе розных грамадскіх катаклізмаў.

Даволі грунтоўна М. Ларчанка разгледзеў верш П. Багрыма «Зайграй, зайграй, хлопча малы…», паказваючы, што герой верша пратэстуе супраць прыгнёту чалавека, усхваляе свабоду. А па сваёй ідэйнай накіраванасці, лічыць даследчык, верш набліжаецца да твораў Тараса Шаўчэнкі пра сірату без роду. Разглядаючы шматлікія ананімныя творы, літаратуразнаўца прыходзіць да вываду, што за імі адчуваюцца прафесійныя паэты і пісьменнікі, але імёны іх для нашчадкаў страчаны назаўсёды. Завяршае даследаванне аўтар манаграфіі аналізам паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», якія тады даследчык лічыў ананімнымі, разглядае іх у кантэксце ўсёй травесційнай літаратуры, спасылаючыся ў многім на тады ўжо вядомых рускіх даследчыкаў гэтага жанру, падкрэслівае самабытнасць беларускіх твораў, калі ў вобразах багоў перадаецца дух жыцця народа, яго светапогляд, бытавыя паводзіны. У адпаведнасці з пастаўленай мэтай даследчык робіць выснову: «Рэалізм паэм прыкметна адчуваецца таксама і ў дакладным мастацкім вызначэнні кожнай рэчы або з'явы, аб якіх гаворыцца ў творах; у праўдзівым апісанні абстаноўкі сельскай хаты, сялянскага быту з усімі яго дэталямі, звычаяў беларускага народа, рухаў людзей, прадметаў, знешняга выгляду людзей, абеда, танцаў, сну і г. д.»***.

---

* Ларчанка М. Г. На шляхах да рэалізму. Мінск: БДУ, 1958. С. 59–60.
** Ларчанка М. Г. На шляхах да рэалізму. С. 89.
*** Тамсама. С. 191.

Таксама дэталёва разгледжана творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча, якога даследчык адносіць да прадстаўнікоў дваранска-ліберальнай літаратуры ў адпаведнасці з тагачаснымі высновамі пра класавы характар мастацтва, хоць ужо адкрытай артадаксальнасці ў яго поглядах не было. М. Ларчанка разгледзеў усе беларускамоўныя творы Дуніна-Марцінкевіча, заўважаючы, што той імкнуўся стаць на пазіцыі народнасці і рэалізму. Рысы рэалізму ён бачыць у прыстойным паказе сялян, у сатырычнай абмалёўцы панскіх служак тыпу аканома Выкрутача з «Ідыліі» («Сялянкі»), у агульных сцэнах жыцця народа, хоць не забывае сказаць і пра настойлівую прапаганду салідарызму, прымірэння класаў, што характэрна было для тагачаснага літаратуразнаўства і ў цэлым для ўсіх грамадазнаўчых навук.

У манаграфіі «Па шляху рэалізму» (1959) М. Ларчанка шмат увагі ўдзяліў грамадска-палітычнаму стану ў Расіі і Беларусі, у асноўным засяроджваючыся на ўзрастанні класавай барацьбы ў краі пад уздзеяннем расійскіх рэвалюцыянераў-дэмакратаў, але не імкнецца закранаць нацыянальнае пытанне або трактуе яго аднабока — толькі як спробы польскіх рэвалюцыйных патрыётаў перацягнуць на свой бок беларусаў, што зноў жа адпавядала тагачаснай камуністычнай канцэпцыі вызваленчага руху. Таму тэндэнцыйна ацэньваліся творы Франца Блуса «Прамова Старавойта да сялян аб свабодзе» і «Прамова Старавойта». Вядома, творы былі свайго роду сацыяльным заказам, але ў гутарках аб'ектыўна паказвалася сялянскае жыццё і праводзілася ідэя эвалюцыйнага развіцця, асуджалася гультайства, сцвярджалася неабходнасць кожнаму клапаціцца пра сваю гаспадарку, што мела для таго часу станоўчы характар. Ананімныя ж творы «Гутарка двух суседаў», «Гутарка старога дзеда на Беларусі», «Прадсмертны разгавор пустэльніка Пётры…», «Крыўда і праўда» адносіць увогуле да рэакцыйных, паколькі ў іх праводзіцца думка вызвалення ад маскалёў. Праўда, у раздзеле пра творчасць К. Каліноўскага М. Ларчанка тлумачыць, што пад словам «маскалі», «маскаль» паўстанец разумее царскі ўрад, чыноўнікаў і салдатаў. Але гэта мала што мяняе ў тлумачэннях, бо М. Ларчанка тады не мог гаварыць, што імперскі дух уласцівы быў не толькі цару і яго міністрам, але і большасці адукаванага грамадства, нават дэмакратычна настроенага.

Раздзел пра Кастуся Каліноўскага вызначаецца глыбокім літаратуразнаўчым разглядам публіцыстыкі кіраўніка паўстання, падкрэсліваюцца адметнасць мастацкіх прыёмаў у кожным нумары «Мужыцкай праўды», выразная народная мова. Змястоўна разгледжаны таксама і зварот да беларускага народа, «Ліст з-пад шыбеніцы», хоць і тут даследчык робіць купюры ў месцах, дзе асабліва актуальна ўзнімалася нацыянальнае пытанне, адчуванне годнасці беларуса. Слушны зроблены і вывад: «У асобе Кастуся Каліноўскага беларуская перадавая грамадская думка і літаратура мелі выдатнага рэвалюцыянера-дэмакрата, таленавітага літаратара-публіцыста», ён «кожным сваім словам стаяў за жыццёвую праўду, за рэалізм і народнасць»*.

---

* Ларчанка М. Па шляху рэалізму. Мінск: БДУ, 1959. С. 48.

Не ўсе ацэнкі мастацкіх твораў пачатку 60-х гг. XIX ст. сёння ўспрымаюцца адназначна. Напрыклад, калі раней згаданыя гутаркі, якія заклікалі да еднасці палякаў і беларусаў у барацьбе з маскавітамі, Ларчанка прызнаваў рэакцыйнымі, то «Рассказы на белорусском наречии» (Вильно, 1863), у якіх праводзіцца ідэя заканамернасці адмены ўніяцкай веры і пераводу ўсіх вернікаў у праваслаўе, ім ацэньваюцца як акт прагрэсіўны, як імкненне да еднасці з рускім народам, хоць на самай справе гэта было зроблена з мэтай наступнай русіфікацыі і поўнай асіміляцыі. Падобнага даследчык тады проста сказаць не мог з прычын, ад яго незалежных.

Гады рэакцыі пасля паразы паўстання вызначаліся татальнай русіфікацыяй, гэтай мэце павінна была служыць школа, дзе паўсюдна замяняліся мясцовыя настаўнікі прысланымі з цэнтральных рэгіёнаў Расіі. Аднак спыніць рост нацыянальнай свядомасці было ўжо немагчыма, што пацвярджала праца фалькларыстаў, сярод якіх апынуліся нават і прысланыя здалёку.

М. Ларчанка адзначае станоўчую ролю рускамоўнай газеты «Минский листок» у актывізацыі беларускага грамадскага жыцця, паколькі ў газеце друкавалася шмат артыкулаў пра рускую класічную літаратуру, значная колькасць была і публікацый, прысвечаных беларускай даўніне, у прыватнасці, Доўнар-Запольскага, які пісаў пра этнаграфічную адметнасць беларусаў, пра іх даўнюю гісторыю і культуру, якую яны самааддана абаранялі на працягу многіх стагоддзяў. Урэшце, у гэтым нумары была надрукавана паэма «Тарас на Парнасе». Усё гэта, на думку М. Ларчанкі, спрыяла замацаванню рэалізму ў беларускай літаратуры, што выразна акрэслілася ў канцы XIX ст., калі метад крытычнага рэалізму поўнасцю праявіўся ў творчасці Ф. Багушэвіча, Янкі Лучыны, А. Гурыновіча, Фелікса Тапчэўскага. Пісьменнікаў Каруся Каганца, Ядвігіна Ш., тым больш А. Ельскага, А. Пшчолку адносіць да ліберальна-буржуазнай плыні, якія быццам бы абаранялі царскі ўрад, услаўлялі і паэтызавалі мінуўшчыну, патрыярхальны бытавы ўклад жыцця, што можна растлумачыць як уступку аўтара даследавання тагачаснай ідэалогіі. Не апраўдалася гістарычна і сцверджанне, што канфесійная барацьба ў канцы XIX ст., інспіраваныя выступленні супраць каталіцкіх касцёлаў паказвалі на нацыянальную свядомасць беларусаў. Наадварот, гэта была замаскіраваная настырная русіфікацыя, паколькі ўсе праваслаўныя аўтаматычна станавіліся рускімі, што клалася на імперскую ідэю адзінства ўсходніх славян.

Грунтоўна ў манаграфіі разгледжана творчасць Ф. Багушэвіча як паўнапраўнага прадстаўніка крытычнага рэалізму ў беларускай літаратуры, усебакова прааналізаваны вершы са зборнікаў «Дудка беларуская» і «Смык беларускі», апавяданні. Даследчык усё ж адзначае, што па светапоглядзе Ф. Багушэвіч быў утапістам, не разумеў ролю пралетарыяту ў рэвалюцыйнай барацьбе, што таксама адпавядала ідэалагічным устаноўкам 50-х гг. XX ст. Літаратуразнаўца выпускаў з-пад увагі, што Ф. Багушэвіч перш за ўсё абвастраў нацыянальнае пытанне ў працэсе сацыяльнай барацьбы. Аднак безумоўным прызнаецца сцверджанне М. Ларчанкі, што Ф. Багушэвіч узба-

гацiў беларускую лiтаратуру жанравай разнастайнасцю i абнаўленнем формы верша, яго рытмiкi, замацаваўшы сiлабатонiку як найбольш спрыяльную рытмiчную арганiзацыю паэзii.

Працягам разваг пра рэалiзм стаў разгляд творчасцi Янкi Лучыны i Адама Гурыновiча. Трэба адзначыць, што М. Ларчанка амаль не ўпамiнае польскамоўную паэзiю Яна Неслухоўскага, засяроджваючы ўвагу толькi на яго беларускамоўных вершах. У цэлым паэзiя Янкi Лучыны даследавана з пункту погляду праўдзiвасцi выяўлення жыцця i вобразаў працоўнага чалавека. У Гурыновiча i Тапчэўскага лiтаратуразнаўца бачыць iстотнае прадаўжэнне i замацаванне ў беларускай лiтаратуры багушэвiчаўскiх традыцый у выяўленнi жыцця, што не выклiкае пярэчанняў. Аднак, здаецца, дзейнасць Ф. Тапчэўскага як яркага прадстаўнiка крытычнага рэалiзму яўна перабольшыў.

Натуральна завяршаецца даследаванне пастаноўкай пытання пра функцыянаванне рэалiзму ў беларускай лiтаратуры пачатку ХХ ст.

У даследаваннi «Сувязi беларускай лiтаратуры з лiтаратурамi суседнiх славянскiх народаў у другой палове ХIХ ст.» (1958) па меры магчымасцi М. Ларчанка ўводзiў у лiтаратуразнаўчае абарачэнне многiя творы, але згодна з тагачаснай традыцыяй усё напiсанае па-польску аддаваў суседняй лiтаратуры, хаця падкрэслiваў, што асновай гэтых твораў было жыццё беларускага народа, у тым лiку i ў Адама Мiцкевiча. Сувязi з рускай лiтаратурай у першай палове ХIХ ст. М. Ларчанка бачыць у тым, што на старонках расiйскага друку змяшчаюцца творы беларускiх фалькларыстаў, сярод якiх была апублiкавана i «Энеiда навыварат». Шмат увагi ўдзяляў лiтаратуразнаўца вядомаму нарысу П. Шпiлеўскага «Падарожжа па Палессi i беларускiм краi», хоць i агаворваўся, што нарыс не з'яўляецца мастацкiм i рэвалюцыйна-дэмакратычным творам. Разам з тым ён аб'ектыўна ацэньвае гэты твор, называе Шпiлеўскага беларускiм патрыётам, якi ўзнёсла i шчыра пiсаў пра прыгажосць беларускай мовы, шчодрасць душы беларуса. Для развiцця беларускай лiтаратуры, на думку вучонага, мелi вялiкае значэнне i публiкацыi ў часопiсе «Современник» рэцэнзiй на беларускiя фальклорныя зборнiкi, што выдавалiся ў С.-Пецярбургу, у прыватнасцi, збiральнiцы з Быхава, мясцовай памешчыцы Е. Паўлоўскай, якая выдала зборнiк «Народныя беларускiя песнi» пад крыптанiмам Е. П. У час напiсання даследавання аўтар гэтай публiкацыi лiчыўся невядомым, што i знайшло адбiтак у тэксце. Тут жа даследчык адзначае традыцыi М. Гогаля ў камедыях В. Дунiна-Марцiнкевiча «Пiнская шляхта» i «Залёты»: у першай падабенства матываў i сюжэту з творам М. Гогаля «Аповесць аб тым, як пасварыўся Iван Iванавiч з Iванам Нiкiфаравiчам», у другой — пераклiчка з гогалеўскай «Жанiцьбай». Лiтаратуразнаўца не толькi засяроджвае ўвагу на знешнiм падабенстве твораў, але i падкрэслiвае самабытнасць таленту беларускага Дудара: «Нягледзячы, аднак, на гэта сюжэтнае перайманне, а магчыма, i выпадковае супадзенне, Дунiн-Марцiнкевiч у "Пiнскай шляхце" арыгiнальна, сродкамi нацыянальнага гумару i сатыры высмеяў адсталае правiнцыяльнае дваранства, вы-

крыў бюракратычны царскі суд»*. Падкрэслена, што ў творы гэтым можна заўважыць і прыкметы ўплыву Салтыкова-Шчадрына (камедыя «Стоўп»). Ларчанка піша: «Антон Сабковіч з камедыі Дуніна-Марцінкевіча "Залёты" — своеасаблівы Дзеруноў (галоўны герой шчадрынскага твора. — *Я. К.*), ён нагадвае Восіпа Іванавіча Дзерунова перш за ўсё галоўнай рысай свайго характару. Ён, як і Дзеруноў, натура драпежная, пустая, нікчэмная, своекарыслівая, антымаральная, прагная да грошай»**.

Разгледжана творчасць Кастуся Каліноўскага зноў жа ў святле рэвалюцыйна-дэмакратычнай рускай філасофскай думкі, у такім жа кірунку даследуецца і творчасць паэтаў канца XIX ст. Ф. Багушэвіча, Янкі Лучыны, А. Гурыновіча, прычым сцвярджаецца, што менавіта ідэі Чарнышэўскага, Дабралюбава, паэзія Някрасава знайшлі праявы ў творчасці беларускіх паэтаў. Цікавыя назіранні, грунтоўныя высновы застаюцца надзённымі і зараз, аднак тое, што літаратуразнаўца нібы не заўважае літаратуры паўднёвых, за выключэннем Т. Шаўчэнкі, і заходніх славян (а з творчасцю і асабістым лёсам многіх з іх беларускія паэты былі добра знаёмыя) надае даследаванню некаторую аднабаковасць.

Трэба адзначыць, што М. Р. Ларчанка, па сутнасці, быў адным з пачынальнікаў навукі кампаратывістыкі, хоць літаратуразнаўцы ў той час такім тэрмінам не карысталіся, ужываючы паняцці «супольнасць», «літаратурныя сувязі». Такім чынам, дзве наступныя кнігі даследчыка «Славянская супольнасць» (1963) і «Яднанне братніх літаратур» (1974) з'явіліся ў значнай ступені працягам ранейшага даследавання. Варта адзначыць і яшчэ адну акалічнасць: у гэтых кнігах М. Р. Ларчанка шмат чаго паўтарае з папярэдніх, аднак робіць шматлікія ўдакладненні. Так, у раздзеле «Так пачыналася наша славянская супольнасць» у сціслай форме разглядаюцца творы, што былі ў полі зроку даследчыка пры напісанні манаграфіі «Па шляху да рэалізму». Ізноў акцэнт робіцца на тым, што беларуская літаратура, выходзячы з адзінага славянскага кораня, у далейшым развівалася пад непасрэдным уплывам рускай літаратуры, але ўжо сцвярджаецца, што ў перыяд Адраджэння былі творчыя кантакты з літаратурамі заходніх і паўднёвых славян. Гэта выявілася ў творчасці Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага, М. Сматрыцкага і іншых пісьменнікаў адраджэнскага перыяду і пазнейшага часу. Яркім прыкладам супольнасці ўсходнеславянскіх літаратур М. Ларчанка лічыць творчасць С. Полацкага, які стаў выдатным прадстаўніком барока ў беларускай літаратуры і заснавальнікам гэтай жа плыні ў рускай. Як і раней, творчасць У. Сыракомлі, В. Каратынскага, ужо не кажучы пра А. Міцкевіча, ён поўнасцю аддае польскай літаратуры і на гэтым грунтуе сваю канцэпцыю ўзаемасувязей польскай і беларускай літаратур.

---

* Ларчанка М. Сувязі беларускай літаратуры з літаратурамі суседніх славянскіх народаў у другой палове XIX ст. Мінск: БДУ, 1958. С. 29.

** Тамсама. С.31.

Несумненным здабыткам літаратуразнаўства застаюцца высновы М. Р. Ларчанкі пра беларускую літаратуру другой паловы XIX ст., пра істотны ўплыў ідэй рускіх творцаў-дэмакратаў Някрасава, Чарнышэўскага, Бялінскага і Дабралюбава на станаўленне рэалізму ў нашым прыгожым пісьменстве таго часу, сатырычных твораў М. Салтыкова-Шчадрына, творчасці М. Гогаля як заснавальніка натуральнай школы ў рускай белетрыстыцы. Застаецца актуальным і сцвярджэнне станоўчага ўплыву на развіццё нацыянальнай беларускай паэзіі Тараса Шаўчэнкі.

У 1960-я гг. пашыраецца дыяпазон погляду М. Ларчанкі на ўзаемадзеянне літаратур, самабытнасць беларускай культуры, што выразна праявілася ў нарысе «Максім Багдановіч і славянства». Зараз М. Ларчанка ўжо гаворыць пра ўваход беларусаў у ВКЛ як раўнапраўных і іх вяршэнства ў дзяржаве, спасылаючыся на выказванні М. Багдановіча. Адраджэнне славянскіх культур і літаратур у Еўропе, слушна заўважае даследчык, было яскравым прыкладам для беларусаў, аб чым сведчаць прадмовы Ф. Багушэвіча да сваіх паэтычных зборнікаў. Шмат што ўдакладніў з ранейшых сцверджанняў М. Ларчанка і ў вызначэнні ролі газеты «Минский листок» у развіцці беларускай літаратуры. Ён адзначае дэмакратызм светапогляду яе рэдактара, падкрэслівае, што ў час адсутнасці беларускамоўнай прэсы газета была трыбунай для пачынаючых паэтаў, што тут пастаянна друкаваўся Янка Лучына, змяшчаліся крытычныя матэрыялы пра беларускі фальклор, этнаграфічныя даследаванні, урэшце, тут у канцы 80-х гг. XIX ст. была надрукавана паэма «Тарас на Парнасе».

У другім зборніку М. Ларчанка ўзняў тэарэтычныя пытанні ўзаемасувязей літаратур і шляхоў іх вывучэння. Ён засяродзіў увагу на тым, што на працягу 60-х гг. XX ст. праводзіўся шэраг міжнародных навуковых канферэнцый, на якіх якраз і разглядаліся гэтыя праблемы. Ён падтрымаў выказванне рускага вучонага М. Галянішчава-Кутузава, што Беларусь і Украіна на працягу XVIII ст. былі пасрэднікамі па перадачы ў Цэнтральную Расію здабыткаў літаратуры Заходняй Еўропы. Закрануў таксама і кірункі ўзаемасувязей літаратур, вызначыўшы дзве іх асноўныя формы — параўнальнае гістарычнае вывучэнне літаратур і тыпалагічнае супастаўленне нават даволі роднасных славянскіх літаратур, калі ў розныя часы, на розных узроўнях у іх адбываліся адны і тыя ж працэсы. Праўда, не прамінуў папракнуць заходнюю кампаратывістыку за тое, што быццам бы яна грунтуецца на ідэалістычнай філасофіі, не ўлічвае фактараў класавай барацьбы ў грамадстве. Падобныя закіды, вядома, сёння варта ўспрымаць як даніну ўвагі тагачаснай ідэалогіі.

На новым узроўні разгледжаны традыцыі рускіх класікаў у творчасці беларускіх паэтаў. У прыватнасці, адзначана, што ў паэме «Тарас на Парнасе» «пушкінская традыцыя ўмела і творча развіваецца пры раскрыцці характару Тараса», у яго вобліку «паэтычна падкрэсліваюцца такія рысы нацыянальнага характару працоўнага беларуса, як любоў да працы, да выканання сваіх

службовых абавязкаў, імкненне героя да незалежнасці, духоўнай свабоды, самастойнасці»*.

Пушкінская эстэтыка, імклівасць разгортвання паэтычнага радка, форма верша, лічыць даследчык, праявіліся ў творчасці Ф. Багушэвіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, цэлай плеяды паэтаў 20-х гг. XX ст. Арыгінальнасць страфы «Яўгенія Анегіна» А. Пушкіна, зазначае літаратуразнаўца, натхніла на творчыя пошукі Якуба Коласа ў час напісання паэмы «Рыбакова хата». У спаборніцтве з рускім паэтам Колас стварыў сваю форму, замацаваўшы такім чынам у літаратуразнаўстве гэтую страфу як коласаўскую. Пераклады твораў А. Пушкіна на беларускую мову, піша навуковец, дапамагалі росту культуры творчасці як саміх перакладчыкаў, так і наступных пакаленняў паэтаў.

М. Р. Ларчанка пераканаўча паказвае, што і традыцыі Лермантава сталі адчувальныя ў беларускай паэзіі. Асабліва гэта выявілася ў творчасці маладнякоўцаў, а пазней узвышаўцаў, а перакладчыцкая праца А. Куляшова па ўзнаўленні па-беларуску многіх твораў М. Лермантава дала і канкрэтнае пераўвасабленне вобразнасці ў яго ўласных творах. (Тут хіба толькі можна дабавіць, што творчасць Лермантава ўвайшла ў жыццё Куляшова з самага дзяцінства.) Руская класічная літаратура была адным з фактараў росту паэтычнага майстэрства Якуба Коласа, справядліва сцвярджае літаратуразнаўца, спасылаючыся на выказванні беларускага народнага песняра, у прыватнасці творчасць І. Крылова, А. Пушкіна, М. Някрасава. У прозе Якуба Коласа, на думку М. Ларчанкі, яскрава праявіліся традыцыі Салтыкова-Шчадрына, Дастаеўскага, Талстога самім духам выяўлення часу і чалавека ў ім.

Адным з першых М. Ларчанка пачаў вывучаць беларуска-ўкраінскія літаратурныя ўзаемаадносіны. Ён адзначае, што з XIV ст. украінцы і беларусы жылі ў адной дзяржаве ВКЛ і агульнай мовай была «заходнеруская», г. зн. старабеларуская мова. І творы, напісаныя на ёй, былі зразумелыя для ўсіх яе насельнікаў. Асаблівай папулярнасцю, адзначае даследчык, карысталіся сатырычныя творы «Прамова Мялешкі» і «Ліст да Абуховіча», спісы якіх захаваліся ў некаторых бібліятэках Украіны, а ў XIX ст. былі перакладзеныя на ўкраінскую мову. Многія ўраджэнцы цяперашніх украінскіх зямель у XVIII ст. пісалі на старабеларускай мове, таму і зараз успрымаюцца як творцы двух народаў. Шырока падае М. Ларчанка яднанне беларускай і ўкраінскай літаратур у XX ст., шмат у чым першасна піша пра ўзаемапераклад, пра шаўчэнкаўскія традыцыі ў творчасці класікаў беларускай літаратуры, пра ацэнку ўкраінскай літаратуры беларускімі адраджэнцамі пачатку XX ст.

У трэцім раздзеле даследавання вядзецца гаворка пра ўзаемадзеянне беларускай літаратуры з заходне- і паўднёваславянскім прыгожым пісьменствам. Ужо стала традыцыйным пісаць пра польска-беларускія ўзаемасувязі, але М. Ларчанка пашырае межы, паказвае даўнасць дачыненняў з Балгарыяй, калі яе ўраджэнцы станавіліся беларускімі пісьменнікамі, плённасць супрацоўніцтва ў другой палове XX ст. Новыя звесткі прыводзіць аўтар да-

---

* Ларчанка М. Яднанне братніх літаратур. Мінск: Выш. школа, 1974. С. 23.

следавання і пра чэхаславацка-беларускія літаратурныя сувязі, пра творчыя кантакты з літаратарамі Югаславіі. Праўда, сёння не ўспрымаюцца частыя сцверджанні пра важнасць прынцыпаў партыйнасці ў літаратуры, пра пралетарскую еднасць, пра вызначальную ролю метаду сацыялістычнага рэалізму.

Зборнік артыкулаў М. Ларчанкі «Жывая спадчына» (1977) аб'ядноўваецца адзінай думкай — станаўленне рэалізму ў беларускай літаратуры. Гэтаму садзейнічае ўступны артыкул «Роздум пра традыцыі і наватарства», у якім літаратуразнаўца падкрэслівае, што новае заўсёды паяўляецца ў працэсе барацьбы са старым, але ў сваю чаргу ўсё новае грунтуецца на здабытках мінулага. Гэтае дыялектычнае адзінства і спараджае паняцці традыцый і наватарства, праз істотнае адмаўленне сцвярджаецца рух наперад. Ад эпохі Адраджэння, якая адштурхоўвалася ад класікі старажытнай Грэцыі і Рыма, адмаўляючы некаторыя пастулаты Сярэднявечча, пачынаецца імклівы рост мастацкай літаратуры. Ён сцвярджае, што рамантызм і рэалізм узніклі адначасова, а паводле Гюго «рамантызм з'явіўся эпахальным адкрыццём у паступальным развіцці мастацтва і літаратуры. Сутнасць гэтага адкрыцця ў тым, што мастацкая творчасць паўставала як магутная духоўная сіла, якая здольна пераўтварыць свет сацыяльнай несправядлівасці, прыгнёту»*. Праблемам рамантызму ў беларускай літаратуры прысвечаны артыкул «Пра беларускі рамантызм», у якім раскрыты генезіс рамантызму. Але зноў жа літаратуразнаўца бачыць абмежаванасць гэтага метаду, хоць прызнае, што ў пачатку XX ст. у творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа прысутнічалі рысы рамантызму побач з рэалізмам, пры гэтым у падсветцы горкаўскага ранняга рэалізму.

Цікава разгледжана паэма М. Гусоўскага «Песня пра зубра» ў артыкуле «Песня на прадвесні». У творы даследчык убачыў пэўныя канцэнтрычныя кругі, у кожным з якіх паэт Адраджэння паказвае драматычную рэчаіснасць. Апошні круг — зварот да вялікага князя Вітаўта, пры якім ВКЛ дасягнула найвышэйшага росквіту, але ў тым, што гэта быў час «залатога веку» па сцверджанні паэта, літаратуразнаўца бачыў няспеласць светапогляду М. Гусоўскага і ў цэлым адраджэнскага рэалізму. З пазіцый атэізму разглядаюцца і некаторыя хрысціянскія матывы ў творы, у чым істотна адчуваецца ўплыў панаваўшых у 70-х гг. XX ст. ідэалагічных патрабаванняў.

Даследуючы эпоху Асветніцтва, асаблівасці літаратурнага працэсу XIX ст., М. Ларчанка многае ўдакладніў са сваіх ранейшых сцверджанняў, але няўхільным застаецца ў асноўнай канцэпцыі — развіццё беларускай літаратуры адбываецца паспяхова толькі пад уплывам рускай класічнай літаратуры рэвалюцыйна-дэмакратычнага напрамку, што звужае погляд на ўсе спектры літаратурнага працэсу ў Беларусі таго часу. Не спраўдзілася сцверджанне М. Ларчанкі, што талент Янкі Купалы дасягнуў росквіту толькі тады, калі ён авалодаў усімі патрабаваннямі сацыялістычнага рэалізму, пацвярджэннем чаго з'яўляюцца яго вершы і паэмы 1930-х гг. На жаль, Янка Купала спя-

* Ларчанка М. Жывая спадчына. Мінск: Маст. літ., 1977. С. 7.

ваў тады ўжо з чужога голасу, хоць вершы яго зроблены сапраўды па-майстэрску.

У кнігу выбранага М. Ларчанкі «Літаратурнае пабрацімства славян» (1984) увайшлі артыкулы, ідэі якіх застаюцца актуальнымі і зараз: «Пушкін і беларуская паэзія», «Лермантаў і беларуская літаратура», «Паэзія Лермантава ў перакладах А. Куляшова», «Яднанне і ўзаемаўзбагачэнне», «Т. Шаўчэнка і Янка Купала», «М. Багдановіч і ўкраінская літаратура», «Якуб Колас пра Тараса Шаўчэнку», «Галасы жывой спадчыны», «Слова аб палку Ігаравым і беларуская літаратура», «Горкаўскія традыцыі ў рэалізме Купалы і Коласа», «Паэтычны лад славянскіх балад». Апошні артыкул — разгорнуты погляд на кнігу Я. Сіпакова «Веча славянскіх балад».

Крытычныя і літаратуразнаўчыя працы М. Р. Ларчанкі, нягледзячы на некаторыя выдаткі, прадыктаваныя часам, — вызначальныя ў станаўленні беларускай літаратурнай навукі і крытыкі. Менавіта з-пад яго рукі выходзілі даследчыкі-шасцідзясятнікі, якія пайшлі значна далей за свайго настаўніка і якіх у сваю чаргу змяніла новае пакаленне з новым поглядам і асэнсаваннем літаратурнага працэсу на многіх супярэчлівых перыядах нашага існавання, што ў цэлым пацвярджае і галоўныя вывады старэйшага літаратуразнаўцы пра заканамернасці літаратурнага працэсу ўвогуле. Творчасць М. Ларчанкі — наглядны прыклад самаахвярнага патрыятычнага служэння Радзіме ў змаганні за долю Бацькаўшчыны, у выяўленні ўсіх супярэчнасцей і непаразуменняў нашага такога складанага жыцця ў XX ст.

## Выбітны беларускі крытык Рыгор Бярозкін (1918–1981)

Рыгор Бярозкін належыць да пакалення пісьменнікаў, якое ўваходзіла ў літаратуру ці не ў самыя драматычныя часы для творцаў — у час масавых рэпрэсій і ў далейшым неверагоднага прэсінгу на творчую інтэлігенцыю, каб не дапусціць хоць самага малога самастойнага мыслення. Таму і здзіўляе, што большасць ацалелых у тых невыносных умовах пасля вяртання з лагераў праяўлялі надзвычайную творчую пракамуністычную прынцыповасць. З гэтай кагорты і Рыгор Бярозкін.

Нарадзіўся Рыгор Саламонавіч Бярозкін 2 ліпеня 1918 г. у г. Магілёве ў яўрэйскай сям'і, у нейкай ступені, па тагачасных вызначэннях, паўпралетарскай: бацька працаваў бухгалтарам, маці — швачкай у майстэрні. Бацька памёр у 1922 г., з маці засталося чацвёра дзяцей, жылі ў пастаяннай нястачы, шчаслівыя моманты былі адно ў час паездак да родзічаў у вёску ля Чавусаў. Там хлапчук не толькі адпачываў, але і прызвычайваўся да сялянскай працы, таму заўсёды з пашанай адносіўся да працаўнікоў палёў.

З дзяцінства Р. Бярозкін палюбіў кнігу, добра ведаў класічную літаратуру, яшчэ школьнікам яго запрашалі чытаць лекцыі ў вайсковых часцях, у якасці ганарару атрымліваў сухі паёк. Пасля заканчэння сямігодкі паступіў

адразу на трэці курс педрабфака ў Магілёве, а ў 1933 г. стаў студэнтам творчага аддзялення Мінскага вышэйшага педінстытута, у якім з паўтарагадовым перапынкам вучыўся да 1938 г., але так і не закончыў. Прынамсі, ніякіх дакументаў пра заканчэнне вышэйшай навучальнай установы ў яго не захавалася, даведнікі пра гэта таксама не паведамляюць, нічога не згадвае і Ю. Канэ. Ю. С. Пшыркоў неяк казаў, што ў канцы 1960-х гг. ужо вядомага крытыка і літаратуразнаўцу Р. Бярозкіна не прынялі на працу ў Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР толькі таму, што не было дакумента аб вышэйшай адукацыі. Яшчэ будучы студэнтам, у 1933 г. надрукаваў першую рэцэнзію, але пачаткам літаратурнай творчасці, як сведчыць Ю. Канэ, лічыў артыкул «Аб канкрэтнасці сапраўднай і ўяўнай: Нататкі пра дзве паэмы А. Куляшова», змешчаны ў газеце «Літаратура і мастацтва» 30 кастрычніка 1936 г. Першымі публікацыямі адразу звярнуў на сябе ўвагу. Якуб Усікаў, таксама даваенны студэнт таго ж педінстытута, згадваў, што ўжо тады маладога крытыка называлі «беларускім Бялінскім» за дасканалае веданне рускай літаратуры, асабліва паэзіі. Ён заўсёды меў пры сабе запісныя кніжкі, прыводзіў пры выпадку цытаты з класікаў, выказванні рускіх крытыкаў XIX ст.

Адначасова з вучобай у інстытуце Р. Бярозкін працаваў у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». З 1938 г. загадваў аддзелам літаратурнай крытыкі часопіса «Полымя рэвалюцыі», а ў 1939–1941 гг. зноў у газеце «Літаратура і мастацтва» на такой жа пасадзе, у красавіку апошняга года быў арыштаваны па абвінавачванні ва ўдзеле ў антыўрадавых арганізацыях. З таго часу пачынаюцца кругі пакут, на нейкі час перарваныя вайной, не менш драматычнай з'явай. У 1941 г., калі пачалася вайна, усіх арыштаваных, а таксама прывезеных на перасуд зняволеных з розных сіблагаў пешай калонай адправілі на ўсход, але пры першым жа налёце фашысцкай авіяцыі канвой разбегся, а арыштаваныя адправіліся кожны сваёй дарогай. Тут узнікаюць многія легенды. У адной сцвярджаецца, нібыта са слоў самога Бярозкіна, што іхнюю калону расстралялі ў кар'еры пад Ігуменам (Чэрвенем), але Бярозкін цудам застаўся жывы, паколькі проста быў аглушаны рыкашэтам. У другой — пад налётам ахоўнікі проста разбегліся, пра што сведчыў і М. Сяднёў. Праўда, невядома, ці былі яны ў адной калоне, бо з Мінска такіх калон адпраўлялі некалькі. Як бы там ні было, але ў канцы чэрвеня Р. Бярозкін з'явіўся ў Магілёве, запісаўся добраахвотнікам у армію, ваяваў да Перамогі, прайшоў шлях ад радавога-пехацінца да супрацоўніка газеты. І толькі ў 1949 г., пасля актыўнага выступлення ў друку, быў паўторна арыштаваны, калі знаходзіўся ў групе войскаў у Германіі, асуджаны па тым жа абвінавачванні, усё роўна як не было гадоў гераічнага змагання з фашызмам.

Пасля рэабілітацыі прадаўжаў працаваць у рэдакцыях: загадчык аддзела крытыкі і паэзіі часопіса «Нёман», у 1967–1969 — загадчык аддзела літаратуры штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», а ў 1970–1975 гг. — супрацоўнік бюлетэня «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі». Пасля знаходзіўся на пенсіі.

Як ужо адзначалася, першая публікацыя Р. Бярозкіна з'явілася ў 1933 г. За пяць гадоў актыўнай літаратурна-крытычнай працы ён стаў прыкметнай асобай у грамадскім жыцці, да яго слова адносіліся з увагай. Р. Бярозкін шмат пісаў пра паэзію, у полі яго зроку была творчасць Ю. Таўбіна, З. Астапенкі, А. Куляшова, П. Броўкі і інш. Разгорнутую рэцэнзію напісаў крытык на першы зборнік тады зусім маладога П. Панчанкі. У невялікім па памеры зборніку крытык убачыў тыя рысы, якія сталі вызначальнымі ў наступныя гады. З далучэннем Заходняй Беларусі да Савецкай у Бярозкіна з'явілася магчымасць глыбей пазнаёміцца з творчасцю заходнебеларускіх паэтаў Максіма Танка і Валянціна Таўлая. Захапленне гэтае засталося на ўсё жыццё.

У самыя перадваенныя гады Р. Бярозкін прымаў актыўны ўдзел у нешматлікіх на той час дыскусіях. Так, у 1940 г. артыкулам «Аб паэзіі» Р. Бярозкін адкрыў дыскусію пра гэты літаратурны жанр і задачы паэтаў, якія ставіў новы час. Яна доўжылася да кастрычніка, але аказалася малавыніковай, бо не было спрыяльных абставін. У 1941 г. у красавіку распачалася дыскусія па праблемах дзіцячай літаратуры, ініцыятарам і актыўным удзельнікам якой быў і Р. Бярозкін, але і гэтая патрэбная для літаратуры з'ява не мела завяршэння: быў арыштаваны яе арганізатар, а пасля ж пачалася вайна.

Знаходзячыся яшчэ ў арміі ў групе войскаў у Германіі, па сведчанні Ю. Канэ, пачаў патроху вяртацца да літаратурнай творчасці. У 1946 г. прыслаў рэцэнзіі ў «Полымя» і «ЛіМ» адпаведна на зборнік вершаў П. Панчанкі «Далёкія станцыі» і А. Зарыцкага «Дняпроўскае рэха». Першая пад назвай «Лінія росту» была надрукавана ў 8–9 нумарах часопіса. Сама назва ўжо гаворыць пра тое, што крытык глядзеў на паэзію П. Панчанкі ў параўнанні з яго папярэднімі вершамі. А ў 1947 г. у газеце групы савецкіх войскаў у Германіі «Советское слово» надрукаваў артыкул пра творчасць Максіма Танка, у наступным прыслаў у Мінск артыкул «Паэзія мужнасці» да гадавіны смерці В. Таўлая… і на доўгія гады яго прозвішча знікае са старонак беларускага друку.

У паняверках ГУЛАГаў, як зноў сведчыць Ю. Канэ, у памяці склаў кнігу пра паэзію А. Куляшова, П. Панчанкі і Максіма Танка. Ці не гэтыя артыкулы пазней сталі асновай зборніка «Паэзія праўды»? Зусім верагодна. Кніга адкрываецца нарысам пра творчасць П. Броўкі. Р. Бярозкін паказвае вытокі яго паэзіі, зазначае, што ў яго вершах 1930-х гг. з'яўляюцца спавядальныя ноты, а ў апошнім перадваенным зборніку фігуруе лірычны герой з адметнымі рысамі, сапраўды жывы чалавек. Істотным ростам майстэрства паэта, лічыць крытык, вызначаецца паэзія Броўкі часу вайны і пасляваеннага перыяду. Але сёння відавочна і тое, што Р. Бярозкін істотна завышае ацэнкі твораў Броўкі таго перыяду, асабліва паэм, хоць і звяртае ўвагу на некаторыя пралікі паэта. Цікавыя і арыгінальныя думкі выказаны крытыкам і ў адносінах да паэзіі А. Куляшова, у прыватнасці, ён адзначае наіўнасць ўспрымання і абагуленасць адлюстравання рэчаіснасці ў ранніх зборніках паэта, але ўжо ў нізцы вершаў «Сонечнае заўтра» заўважае творчую індывідуальнасць, што так поўна раскрыецца ў наступнай пад назвай «Юнацкі

свет», хоць у праграмных вершах «Магілёўская хмарка», «Плыла, цалавалася хмара з зямлёй» убачыў не сфармуляваную эстэтычную праграму паэта, а прадчуванні грымот блізкай вялікай вайны — у зборніку «Мы жывём на граніцы». Прадаўжэнне ж гэтай актуальнай для таго часу тэмы найбольш ярка, на думку крытыка, выявілася ў паэме «Хлопцы апошняй вайны», але ён зноў жа падкрэслівае не трагізм выяўленых сітуацый і мажлівасці вялікіх страт, на чым паэт акцэнтаваў увагу, можа нават інтуітыўна, а патрыятызм маладога пакалення, яго самаахвярнасць, чаго ўласна патрабавала ідэалогія яшчэ даваеннага часу. Але гэта, відаць, было звычайным крытычным прыёмам пераходу да паказу новага героя. І ў паэзіі перыяду вайны не ўсё сёння ўспрымаецца так, як ухвалялася на працягу амаль паўстагоддзя беларускай крытыкай, у тым ліку і Р. Бярозкіным, нават у выяўленні сапраўды трагічных падзей. Вядома, у духу часу крытык разглядае многія балады А. Куляшова, а таксама і паэмы «Сцяг брыгады» і «Прыгоды цымбал». Многія яго ацэнкі сёння непрымальныя (дарэчы, у наступных кнігах пра творчасць А. Куляшова ён многае зняў), аднак заставалася ўхваленым асноўнае: жорсткае абыходжанне з кожным, хто не адпавядаў тагачасным ідэалагічным устаноўкам, што не можа не здзіўляць, згадваючы пакручастасць лёсу самога крытыка. Тым не менш, многія яго вывады і сёння ўспрымаюцца без аніякіх агаворак. Напрыклад: «“Сцяг брыгады” Аркадзя Куляшова — надзвычай удалы вопыт стварэння сучаснай эпапеі, якая цалкам і поўнасцю (здаецца, таўталогія. — *Я. К.*) належыць сваёй эпосе, свайму часу і пры гэтым шырока выкарыстоўвае вельмі багатыя і плённыя традыцыі гэтага жанру»*.

З такой жа грунтоўнасцю, але і адпаведнымі часавымі рэаліямі напісаны нарысы пра творчасць і Пімена Панчанкі, і Максіма Танка. Галоўнае дасягненне гэтых артыкулаў — імкненне акрэсліць у вершах характар лірычнага героя, значнасць чалавека ў яго паўсядзённым жыцці. У прыватнасці, пра Пімена Панчанку ён напісаў: «Ва ўсіх лепшых творах Пімена Панчнкі — жывы, непаўторны голас нерастрачана, ва ўсёй яго першапачатковай усхваляванасці, даносіць да чытача напружанае біццё сэрца, ахопленага велізарнымі страсцямі»**. І ў далейшым Р. Бярозкін у паэзіі П. Панчанкі выдзяляе толькі выразна грамадзянскія матывы, прытым тыя, дзе адкрыта выражана партыйнасць, г. зн. падтрымка ўсіх партыйных дэкрэтаў, у прыватнасці, у тых вершах, ад якіх паэт пазней сам адмовіўся, прызнаўшы, што пісаў трохі ў зашоранасці ідэалогіяй. Тады гэтую піянерскую гатоўнасць выконваць усе рашэнні партыі крытык узводзіў у абсалют.

З падобных пазіцый разглядаецца і паэзія Максіма Танка. Р. Бярозкін рэвалюцыянізуе паэзію Максіма Танка нават у тых выпадках, калі паэт, адчуваючы ілюзорнасць тварэння толькі па ідэалагічных схемах, спрабаваў раскрыць глыбіннасць інтымных перажыванняў ці засяродзіцца чыста на нацыянальнай тэматыцы. Гэта таксама была свайго роду рэабілітацыя, до-

---

* Бярозкін Р. Паэзія праўды. Мінск: ДВБ, 1958. С. 160.
** Тамсама. С. 224.

каз, што крытык заўсёды быў на партыйных пазіцыях, а творчасць Максіма Танка давала яму найбольшыя перспектывы; таму Р. Бярозкін і вылучаў на першы план менавіта грамадзянскія матывы, чым значна збядняў мастацкую палітру лірыкі самабытнага паэта. Ён спрабуе разглядаць творчасць Максіма Танка на фоне заходнебеларускай паэзіі, у якой лозунгавасць часта перавышала праявы эстэтычнага, таму што быў такі час і запатрабаваныя ім адпаведныя здольнасці паэтаў сацыяльнага прызыву. Р. Бярозкін зазначае: «Калі мы гаворым аб вялікай сінтэзіруючай ролі, якую адыграла паэзія Максіма Танка, дык маем на ўвазе, што гэта паэзія абагуліла ўсё лепшае ў творчасці яго сучаснікаў і сяброў, надала выгляд чагосьці закончанага тым перадавым грамадскім тэндэнцыям, якія жывілі творчасць Пестрака і Машары, Таўлая і Васілька, Засіма і многіх ананімных аўтараў рэвалюцыйнага фальклору»*. Гэта праява духу часу. Але ўжо ў гэтым артыкуле Р. Бярозкін адзначыў у паэзіі Максіма Танка тэндэнцыі, якія паступова выявяцца ў яго філасофскай лірыцы пазнейшага часу: памкненні да змены формы верша, што выразна акрэсліліся пазней у схільнасці паэта да верлібру. Праўда, і тут не абышлося без сцверджання магутнага фактару адзінага метаду літаратуры — сацыялістычнага рэалізму.

На мяжы 50–60-х гг. ХХ ст. заўважалася адна даволі паказальная і ў цэлым станоўчая тэндэнцыя: магчымасць выдання актуальных артыкулаў асобных аўтараў у зборніках. Выступленні Р. Бярозкіна з рэцэнзіямі, артыкуламі пра мінулае паэзіі, яе сучасны стан заўсёды выклікалі вялікі рэзананс. Сабраныя ў адной кнізе, гэтыя лепшыя выступленні давалі магчымасць успрыняць увесь літаратурны працэс і адначасова ацаніць асобу самога крытыка. Таму чарговы зборнік артыкулаў «Спадарожніца часу» (1961) быў успрыняты як новае слова ў крытыцы. Галоўнае яе дасягненне — раскрыццё мінулага літаратурнага працэсу ў суаднесенасці з сучаснымі тэндэнцыямі. Крытык меў намер і далей раскрываць негатыўныя з'явы ў літаратурным жыцці папярэдняга часу, што выявілася ў яго паслядоўнай наступальнасці на ранейшыя пазіцыі вульгарнага сацыялагізму. Зрабіў ён шмат, але разам з тым і аддаў даволі ўвагі новай (а можа, і не зусім новай) ідэалагічнай устаноўцы, што відавочна праяўляецца ва ўсіх рэцэнзіях і артыкулах Р. Бярозкіна.

Крытыка канца 1950-х — пачатку 1960-х гг. цяжка выходзіла з засілля вульгарызатараў, гэта заўважаецца і ў творчасці самабытнага пісьменніка, які таксама залішне ўдзяляў увагі ідэалогіі, часамі не ў лепшых стасунках. Дарэчы, артыкулы і рэцэнзіі, апублікаваныя Р. Бярозкіным у 1961 г., што склалі названую кнігу, таксама ўсім пафасам накіраваныя на вырашэнне актуальнай праблемы. Але складанасць працэсу заключалася і ў тым, што нават самыя таленавітыя крытыкі, даючы бой прыгладжанасці і ідэалізацыі жыцця, рабілі ўступкі той жа сістэме, супраць якой выступалі. Разам з тым Р. Бярозкін убачыў шмат чаго арыгінальнага ў творчасці і А. Бялевіча, і А. Вялюгіна, і іншых, якія, можна мовіць, не ўваходзілі тады ў вызначаную

---

* Бярозкін Р. Паэзія праўды. С. 257.

абойму літаратурных мэтраў. Папулярнасць Р. Бярозкіна тлумачылася, відаць, і тым, што ён не схіляўся разглядаць паэзію толькі прызнаных парнаснікаў, а звяртаў увагу на творчасць кожнага паэта, які даваў выразны паэтычна-вобразны зрэз часу. Да таго ж, адна з асаблівасцей таленту Р. Бярозкіна — яго ўменне абнаўляць і аднаўляць крытычныя жанры: адкрыты ліст, ліст у рэдакцыю, дыялог. Але разам з тым крытычныя працы Р. Бярозкіна з'яўляюцца і выразным сведчаннем часу, бо ў яго амаль ва ўсіх артыкулах і рэцэнзіях адкрыта выражаны ідэалагічны аспект, зроблены акцэнт на тым, што асноўнае дасягненне беларускай паэзіі — гэта яе грамадзянскі пафас, калі ўласныя жаданні і памкненні аўтара падпарадкоўваюцца непасрэдным задачам дзяржаўнага будаўніцтва і неўміручай міфалогіі абавязковага панавання камунізму ва ўсім свеце. Але такі быў час, такі быў вопыт таго пакалення, што на сабе спазнала несакрушальнасць дзяржаўнай машыны, дзе чалавек уяўляўся толькі вінцікам у аграмадным механізме. Гэта быў і вынік таго страху, што спрасаваўся ў душы, кіраваў гэтымі людзьмі, калі яны бачылі і разумелі адно, але вымушаны былі пісаць толькі так, як трэба. А можа, Р. Бярозкін усё астатняе жыццё даказваў, што ён не такі, як яго паказалі берыеўскія ахоўнікі ідэалагічнай чысціні? Ці не таму Р. Бярозкін заўсёды так ідэалагічна вытрыманы? Вядома, гэта пэўныя выдаткі, але галоўнае ў крытычных выступленнях застаецца: вызначэнне творчай індывідуальнасці кожнага аўтара. М. Мушынскі зазначае: «Р. Бярозкін намаляваў яскравыя партрэты П. Панчанкі, П. Броўкі, А. Куляшова, Максіма Танка. Стрыжнявы матыў у кожным партрэце — складаны працэс самавыяўлення паэта, пошукі сваёй тэмы, выпрацоўка ўласнага стылю. Не ўнікаў Р. Бярозкін і размовы пра творчыя няўдачы, мастацкія страты песняроў. Спашлемся на ацэнку паэмы П. Броўкі "Кацярына" (1937–1938), для вырашэння задумы якой аўтарам, паводле меркавання крытыка, абраны не зусім плённы шлях — ён пазбавіў гераіню індывідуальных рыс, якасцей жывога чалавека»*.

Асоба Р. Бярозкіна як крытыка, які заўсёды трымаў руку на пульсе літаратурнага працэсу, выразна выявілася ў зборніку «Паэзія — маё жыццё» (1989), укладзеным Ю. Канэ. У кнізе чатыры раздзелы, але яны ўвогуле ўяўляюць адзінае цэлае, бо ў артыкулах, рэцэнзіях, нататках праявілася сувязь пакаленняў. Р. Бярозкін першым, па сутнасці, адгукнуўся на выданне зборнікаў паэтаў, вернутых з небыцця пасля жорсткіх рэпрэсій трыццатых гадоў. Многія з іх не паспелі заявіць пра сябе на ўвесь голас, нехта заставаўся сціплым працаўніком на ніве літаратуры, але сабраныя разам іх творы сведчылі пра паўнату мастацкага працэсу ў цэлым.

Варта адзначыць, што і ў юбілейных артыкулах Р. Бярозкін не апускаўся да агульных разваг пра творчасць класікаў, а знаходзіў нейкую вызначальную рысу, што сапраўды выводзіла беларускіх паэтаў на ўзровень планетнага ўспрымання. Так, Купалу ён бачыць сугучным з Беларуссю, паколькі разам з народам той выпакутаваў гэтае права, як і яго вялікія папярэднікі

* Гісторыя беларускай літаратуры ХХ ст.: у 4 т. Т. 3. Мінск: Беларус. навука, 2001. С. 179.

Пушкін, Шаўчэнка, Гётэ, імёны якіх сінанімічныя іх успрыманню краіны. Багдановіч першы вывеў беларускую паэзію на ўзровень касмічна-сусветнага маштабу, а Куляшоў стаў паэтам еўрапейскай велічыні, замацаваўшы гэтае філасофска-касмічнае гучанне беларускай паэзіі ўжо ў другой палове XX ст. Крытык адзначае замацаванне еднасці чалавека з Космасам у паэзіі Максіма Танка, выключна балючую рэакцыю Панчанкі на ўсе праявы такога бурлівага і супярэчлівага жыцця, і зусім натуральна гэты раздзел завяршаецца разглядам паэзіі Твардоўскага, таксама вялікага паэта XX ст., неразрыўна звязанага сваёй творчасцю з беларускім літаратурным працэсам. Арыгінальна разгледжана Р. Бярозкіным і ўспрыманне рэчаіснасці і ўзнаўленне ўражанняў Броўкам, Танкам, Панчанкам, Куляшовым ад іх удзелу ў пасяджэннях асамблеяў ААН у Нью-Ёрку. У Броўкі даследчык убачыў найбольш шчымлівы зварот да малой радзімы, паэтызацыю роднага краю, менавіта там і праявіўся ў большай ступені лірычны талент паэта; у Танка — засяроджанасць на чалавеку і яго працы, паўсядзённым быце, што ў выніку становіцца сапраўднай паэзіяй; у Панчанкі — уключанасць чалавека ў грамадскія працэсы; у Куляшова — узбуйненне роднай Бесядзі да акіянскай маштабнасці. Вядома, Р. Бярозкін пакідае без увагі вершы з яўным налётам ідэалагічнага бляску, без якога паэзія тады не магла абысціся.

Сапраўды, у кнізе паказаны зрэз беларускай паэзіі амаль за ўсё стагоддзе, пачынаючы з адраджэнцаў нашаніўскага перыяду, а таксама арыгінальных паэтаў дваццатых-трыццатых гадоў, і да творцаў другой паловы XX ст. Крытык здолеў вызначыць адметнасць лірычнага голасу Ю. Таўбіна, З. Астапенкі, А. Дудара, У. Хадыкі, З. Аксельрода, М. Кульбака, паэтаў вайны М. Сурначова, А. Коршака, самабытнасць таленту К. Кірэенкі, А. Пысіна, Н. Кісліка, паэтаў «філалагічнага пакалення» П. Макаля, Р. Барадуліна, А. Вярцінскага і іншых. У адзіным лірычным хоры крытыку ўдалося вылучыць адметныя рысы кожнага ўдзельніка. Натуральна, і ў гэтую кнігу, ствараемую амаль на працягу сарака гадоў, урываюцца дысанансам ідэі камуністычнай еднасці, неабходнасць падганяць творы кожнага непаўторнага творцы пад законы адзінага літаратурнага метаду.

А доказам таго, што ў Р. Бярозкіна быў шырокі літаратуразнаўчы далягляд, з'яўляюцца яго артыкулы, сабраныя ў апошнім раздзеле, у якім выяўляецца адметнасць творчай індывідуальнасці І. Мележа, асаблівасць стылю І. Пташнікава, у прыватнасці, адзначаецца яго майстэрства ў выкарыстанні мастацкай дэталі ў творы, звычайна побытавай, але якая мае выключную стылявую нагрузку. Адметнасць выяўлення вайны ў мастацкіх творах В. Быкава і А. Адамовіча таксама падаецца сцісла, выразна і запамінальна.

У другой палове XX ст. заўважалася істотнае збліжэнне літаратурнай крытыкі і навукі, калі не тэарэтычна, а на практыцы літаратуразнаўцы выкарыстоўвалі набыты вопыт крытыкаў, асабліва ў форме раскаванасці падачы матэрыялу, а крытыка ў сваю чаргу ўзбагачалася літаратуразнаўчай тэрміналогіяй, прынцыпамі эстэтыкі, уменнем у кожным вартасным творы бачыць індывідуальнасць яго аўтара, вызначыць месца твора ў літаратурным працэсе або ў творчасці асобнага пісьменніка. Працэс гэты быў сустрэчны:

навукоўцы-прафесіяналы актыўна займаліся бягучым рэцэнзаваннем, гадавымі аглядамі жанравай разнастайнасці літаратурнага працэсу, а крытыкі, у сваю чаргу, звярнуліся да напісання манаграфій пра творчасць асобных пісьменнікаў і праблемы літаратуразнаўчага характару. У гэтым плане глядзіцца і ўся крытычна-літаратуразнаўчая дзейнасць Р. Бярозкіна.

Так, у кнізе «Свет Купалы» (1965) крытык сістэматызаваў, удакладніў і істотна пашырыў ранейшыя выказванні пра пачынальніка навейшай беларускай літаратуры. Вядома, што менавіта ў другой палове 1950-х гг. праводзілася інтэнсіўнае разблакаванне літаратуразнаўчай думкі ад вульгарна-сацыялагічных схемаў. І гэта ў першую чаргу датычылася творчасці Якуба Коласа і Янкі Купалы. Трэба сказаць, што адбывалася тое і ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе, але часам у вялікім жаданні абараніць творчасць беларускіх класікаў заўважаўся ўхіл у іншы бок, калі атрымлівалася, што ўжо ў самым пачатку яны поўнасцю тварылі ў рэчышчы быццам нараджаўшагася тады метаду сацыялістычнага рэалізму, натуральна, горкаўскага. Не абвяргае катэгарычна такой з’явы і Р. Бярозкін, але больш увагі ўдзяляе вызначэнню творчай індывідуальнасці Янкі Купалы. Ён акрэслівае своеасаблівыя змены погляду паэта на рэчаіснасць і селяніна ў ёй у паэтаў XIX ст. В. Дуніна-Марцінкевіча, Янкі Лучыны, Ф. Багушэвіча, зазначаючы, што яны больш паказвалі мужыка зняволеным і запалоханым, а Янка Купала поруч з гэтым ужо і дэманструе свайго героя як здольнага змагацца за сваё шчасце, долю. Адзначае, што Купала істотна абнавіў не толькі матывы, але і форму вершаў, аспрэчвае таксама палажэнні папярэдніх даследчыкаў, якія разглядалі творчасць паэта па ўзыходзячай, не дапускаючы магчымых зрываў і заняпаду. Але тут сам крытык патрапляў у супярэчнасць, прадыктаваную ідэалагічнымі фактарамі, убачыўшы ідэйныя зрывы ў лірыцы паэта 1918–1920 гг. Не доказны крытык і тады, калі разважае пра росквіт паэзіі Янкі Купалы 1930-х гг., калі той быццам бы грунтоўна авалодаў метадам сацыялістычнага рэалізму. Не верыцца, што пра тое, што здарылася з Купалам на пачатку трыццатых гадоў, Бярозкін не ведаў. Асобныя промахі крытыка адзначае і М. Мушынскі: «Прымаючы многія цікавыя назіранні і глыбокія тэарэтычна абгрунтаваныя высновы Р. Бярозкіна, купалазнаўцы разам з тым аспрэчылі некаторыя моманты яго канцэпцыі, у прыватнасці, думку аб тым, што Купала-рамантык нібыта вырастаў з рэалізму. Было падкрэслена, што гэтыя два пачаткі існавалі ў творчасці паэта паралельна»*. Аднак М. Мушынскі слушна сцвярджае, што Р. Бярозкін у гэтым даследаванні ўздымаў і агульнатэарэтычныя пытанні, выступаў супраць аднабаковасці ацэнак, часам празмернай кампліментарнасці, «эстэтычнай глухаты ў крытыцы» (тэрмін А. Адамовіча) і г. д., і робіць выснову, што «дзякуючы сумесным намаганням крытыкаў і гісторыкаў літаратуры беларускае літаратуразнаўства ўпэўнена ішло да сваёй сталасці»**.

---

* Гісторыя беларускай літаратуры XX ст. Т. 3. С. 193.
** Тамсама.

Усё ж у полі зроку Р. Бярозкіна акрамя агульнага погляду на стан беларускай паэзіі і некаторых рэцэнзій, а таксама артыкулаў пра ўжо згаданых асоб знаходзіцца даволі абмежаваная колькасць беларускіх паэтаў. У асноўным гэта класікі беларускай літаратуры, пра якіх Р. Бярозкін пісаў усё сваё творчае жыццё, асабліва пра Янку Купалу і Максіма Багдановіча, пра іх прадаўжальнікаў Пімена Панчанку і Максіма Танка. У кнізе «Пімен Панчанка: Крытыка-біяграфічны нарыс» (1968) крытык развіў свае развагі пра асаблівасці паэзіі гэтага арыгінальнага мастака слова. Як і заўсёды, сёе-тое са сваіх ранейшых назіранняў ён змяніў, у прыватнасці — катэгарычнасць ацэнак ранняй творчасці паэта, зазначыўшы, што ўжо тады ў маладога творцы выпрацоўваўся свой погляд на рэчаіснасць, адзначыў новыя матывы ў яго паэзіі, перагляд творчай пазіцыі на мяжы 1950–1960-х гг., расшырэнне погляду на свет, узбагачэнне паэтыкі. Р. Бярозкін заўважае, што паэзія П. Панчанкі свайго роду трыбунная, у ёй моцна выражана грамадзянская пазіцыя аўтара. Як і ў папярэдніх артыкулах, крытык выдзяляе вершы, у якіх выразна праяўлялася супадзенне грамадзянскай пазіцыі паэта з дзяржаўнай ідэалогіяй таго часу. Ды, на жаль, гэта ўвогуле ў крытыцы нагадвала своеасаблівы рытуал, без якога нельга было абысціся.

Творчасць М. Багдановіча Р. Бярозкін прадставіў саюзнаму чытачу кнігай «Человек на заре: Рассказ о Максиме Богдановиче — белорусском поэте» (1970). Ужо ў гэтым даследаванні ён, паказваючы самабытнасць творчай асобы беларускага паэта, робіць першыя падыходы да праблемы, якая яго цікавіла: паказаць асаблівасці паэзіі Багдановіча ў святле традыцый еўрапейскай і рускай паэзіі XIX ст. Гэта была значная падзея, таму што творчая праца разам з даследаваннямі А. Адамовіча, выдадзенымі таксама ў Маскве, выводзіла беларускае літаратуразнаўства за межы тады адзінай дзяржавы, бо руская мова была ў той час пасрэдніцай паміж нацыянальнымі літаратурамі і еўрапейскім літаратурным працэсам. Варта дадаць, што гэтае даследаванне па-беларуску выдадзена ў Мінску ў 1981 г.

Зборнік артыкулаў «Постаці» (1971), у якім, па словах аўтара, сабраны тэксты пра асобы паэтаў розных часоў на шырокай ніве нацыянальнай культуры, быў таксама этапным у літаратуразнаўстве, паколькі ў ім былі ўлічаны дасягненні гісторыкаў літаратуры 1960-х гг., і меў накіраванасць на распрацоўку новых крытэрыяў для напісання манументальнай гісторыі беларускай літаратуры. Артыкулы тады ўспрымаліся як асобныя персаналіі ў будучым капітальным даследаванні, хоць і ў гэтых бліскуча напісаных творчых партрэтах больш адчуваецца Бярозкін-крытык. Натуральна, гаворка пачынаецца з разгляду паэмы «Песня пра зубра» М. Гусоўскага, выдатнага паэта-лацініста часу позняга Рэнесансу. Паколькі гэта было адно з першых даследаванняў пра знакамітую ў Заходняй Еўропе паэму, то Р. Бярозкін падае як бы першагісторыю яе стварэння: як супрацоўнік дыпламатычнай місіі Эразма Цёлака апынуўся на відовішчы грознага бою быкоў на арэне ў «вечным горадзе», дзе, уражаны ўбачаным, успомніў не менш драматычныя паляванні на зубра на сваёй далёкай радзіме. Вусныя ўспаміны дужа спадабаліся Папе Рымскаму Льву XII, які і папрасіў запісаць расказанае менавіта

для яго. Так з чыста прыкладнога ардынарнага задання пад пяром таленавітага аўтара нараджаўся мастацкі шэдэўр. Крытык выбраў удалы ракурс для погляду на беларускую паэзію. Сапраўды, на фоне творчасці М. Гусоўскага велічна ўздымаюцца і абраныя для вывучэння творчыя асобы ўжо блізкага да нас часу.

Пранікліва прайшоўшы праз тэкст твора, Р. Бярозкін вызначыў шматлікія вартасці паэмы: лірыка, пластыка, філасофія, пафас, сарказм, што асабліва ўдалося перадаць перакладчыку Язэпу Семяжону. На думку крытыка, паэта тады трывожыла тое, што суродзічы — пакуль што толькі натоўп, грамада, а трэба станавіцца нацыяй, адзінай супольнасцю.

Крытык знайшоў асноўны акцэнт паэмы ў асуджэнні войнаў, у тым, што паэт паказвае родную старонку як абаронны шчыт заходняга свету, таму і церпіць краіна вынішчэнне, сплывае кроўю. Вядома, у духу часу Р. Бярозкін па-свойму трактуе вобраз Вітаўта ў паэме, убачыўшы ў паказе героя Гусоўскім двулікасць там, дзе паэт гаворыць пра хітрасць дыпламатыі вялікага князя.

Адраджэнне XVI ст. у асобе Гусоўскага нібы дае штуршок крытыку для разгляду творчых асоб Адраджэння пачатку XX ст., і ў гэтым няма нічога дзіўнага, бо і там, і тут быў узлёт духу людзей пакліканых. У полі зроку Р. Бярозкіна — ужо вядомыя асобы класікаў беларускай літаратуры Цёткі, Багдановіча. Кожны раз аўтару літаратурных партрэтаў удаецца знайсці новыя рысы ў творчасці гэтых паэтаў, нешта сцвердзіць паўторна, на многае паглядзець па-новаму. Так, у паэзіі Цёткі Р. Бярозкін зноў падкрэслівае яе здольнасць надаваць вершу імклівасць, нястрымнасць у парывах пачуццяў героя, гатоўнасць яго ісці на эшафот за народную волю. І гэтага, на думку крытыка, яна дабіваецца віртуозным выкарыстаннем дзеяслоўнай сінаніміі. Багдановіч жа выяўляў душу народа праз вобраз красы, даваў перспектыву наступнікам адкрыць новыя ўзроўні ў форме верша і яго выяўленчых сродкаў.

Раскрыў Р. Бярозкін і своеасаблівасць таленту М. Грамыкі, У. Хадыкі, Ю. Таўбіна, якіх ад літаратуры адарвалі сталінскія рэпрэсіі. А апошніх двух і пазбавілі жыцця ў тыя жахлівыя трыццатыя.

Постаці ў Р. Бярозкіна нібы звязваюць паміж сабою дзесяцігоддзі. Час вайны вылучыў сярод іншых і трагічны лёс Міколы Сурначова, з асобай якога асацыіруецца выява героя яго верша «У стоптаным жыце», бо ён таксама лёг як «віцязь» на апошніх грымотных кіламетрах вайны, не здзейсніўшы сваіх творчых задум. Гэта ў нейкай ступені дазваляе крытыку паглядзець на тых, хто па волі лёсу павінен несці штандар паэзіі далей. Так вызначаюцца рысы творчай індывідуальнасці на новым этапе А. Куляшова, С. Дзяргая, А. Пысіна.

Ва ўсіх ранейшых кнігах пра класікаў беларускай літаратуры Р. Бярозкін імкнуўся разглядаць іх паэзію ў святле гэтага жанру рускай літаратуры XIX ст., праводзячы пэўныя аналогіі з дасягненнямі грамадзянскай лірыкі рускіх паэтаў, рэвалюцыйных дэмакратаў, па тагачасным вызначэнні. Поўнасцю гэтай праблеме прысвечана кніга «Звенні: Творчая індывідуальнасць

і ўзаемадзеянне літаратур. Нарысы» (1976). Пры гэтым кніга мае яшчэ адзін падзагаловак: «Купала, Багдановіч, руская паэзія», у якім адкрыта сфармулявана мэта даследавання.

Р. Бярозкін на пачатку як бы ўраўнаважвае пазіцыі ранейшых даследчыкаў, у нечым удакладняе іхні погляд на творчасць Янкі Купалы і Максіма Багдановіча, у якіх звычайна паэты аддаляліся як творчыя асобы, бо вельмі розна глядзелі на свет і выяўлялі яго ў паэзіі. Бярозкін жа бачыць у гэтым адзінства, бо такія непадобныя між сабой паэты выконвалі ў літаратуры адны і тыя ж задачы. Ацэньваючы паэзію Купалы і Багдановіча пачатку ХХ ст., Р. Бярозкін знаходзіць у іх тыпалагічныя зыходжанні з творчасцю «другарадных рускіх паэтаў» (вызначэнне савецкага літаратуразнаўства. — *Я. К.*) Фета, Баратынскага і інш., а не толькі рэвалюцыйна-дэмакратычных, бо літаратурны працэс складаюць індывідуальнасці розных светапоглядаў. Беларускі крытык бачыць падабенства ў спосабе адлюстравання рэчаіснасці, прынцыпах увасаблення духоўных з’яў. У прыватнасці, разглядаючы зварот да мінулага ў творчасці паэтаў як неразрыўнасць працэсаў гістарычнага развіцця, Р. Бярозкін зноў падкрэслівае, што і Купала, і Багдановіч да гэтага ішлі рознымі шляхамі, па-свойму пераасэнсоўваючы паэтычныя здабыткі сваіх рускіх папярэднікаў. Маючы на ўвазе вершы Багдановіча «Летапісец», «Перапісчык», паэму Купалы «Курган», крытык адзначае, што «Купалаў гісторыка-архітэктурны пейзаж — зруйнаванае замчышча і палац, небыццё, “спавітая мглою” далечыня. Багдановічаў — жывы, рэальны помнік народнай культуры, працы мастацтва.

Розныя почыркі? Не, розныя падыходы да мінулага: рамантычна-неіндывідуалізаваны ў Купалы і рэалістычна-канкрэтны ў Багдановіча. І шырэй — розныя вырашэнні надзвычай важнай для беларускай літаратуры пачатку стагоддзя мастацкай праблемы нацыянальнага стылю і каларыту»*. Вывад грунтоўны. І ў далейшым крытык глядзіць на творчасць гэтых розных паэтаў праз прызму дасягненняў рускай паэзіі XIX ст.

Вядома, і ў гэтым даследаванні Р. Бярозкіна не абышлося без некаторых ператрымак, а недзе і нацяжак, зноў жа звязаных з ідэалогіяй часу напісання кнігі, празмернага акцэнтавання ўвагі на рэвалюцыйнасці паэзіі Янкі Купалы, нейтральнасці пазіцыі Максіма Багдановіча.

«Звенні» заканчваюцца даволі прадстаўнічым нарысам пра творчыя ўзаемадачыненні А. Твардоўскага і А. Куляшова як своеасаблівы працяг тэмы. Яна таксама была прыцягальнай для Бярозкіна. Многія высновы з гэтага нарыса паўтараюцца ў кнізе Р. Бярозкіна «Аркадзь Куляшоў: Нарыс жыцця і творчасці» (1978). У апошняй кнізе Р. Бярозкін у многім карэкціруе свае ранейшыя высновы адносна станаўлення творчай індывідуальнасці паэта, але крызіс у яго творчасці першай паловы 1930-х гг. і выхад з яго, як іншыя даследчыкі, убачыў ва ўплыве творчасці А. Твардоўскага. Многа тут справядлівага, ды Р. Бярозкін перабольшвае вагу ўплыву ў вызначэнні эстэтычнага

* Бярозкін Р. Звенні. Мінск: Маст. літ., 1976. С. 76.

крэда паэта. У цэлым жа пераканаўча піша, што немалую ролю адыграў і зварот паэта да народнай творчасці, што істотна адбілася на гучанні паэмы «У зялёнай дуброве». «З нізкі “Юнацкі свет” і паэмы “У зялёнай дуброве” пачыналася спелая творчасць Аркадзя Куляшова — паэта са сваім самабытным абліччам і голасам, паэта сучаснасці»*, — слушна адзначае крытык.

Змястоўна разгледжана творчасць А. Куляшова часу вайны, асабліва эмацыянальна напісана пра балады і паэму «Сцяг брыгады», але многія высновы адносна твораў «Балада аб чатырох заложніках», «Камсамольскі білет», некаторых мясцін з паэмы «Сцяг брыгады» (напрыклад, у дачыненнях Рыбка — Ворчык — Зарудны-Смірноў) аспрэчваюцца сёння многімі літаратуразнаўцамі. Аднак гэтая акалічнасць абсалютна не разбурае пазіцыю Бярозкіна-крытыка, паколькі ён у далейшым вызначае ролю Куляшова ў распрацоўцы новых тэм, адкрыцці новых даляглядаў паэзіі.

Р. Бярозкін адзначае надзвычайнае майстэрства А. Куляшова 1960-х гг. у раскрыцці космасу Чалавека, самабытнасць формы яго вершаў, у прыватнасці, верша-шаснаццацірадковіка, вельмі ёмкага для выражэння філасофскіх ідэй. Далучанасць чалавека да драматычных падзей часу ўбачыў Р. Бярозкін у паэмах А. Куляшова гэтага часу, а «Хамуціус», лічыць крытык, па сваіх мастацкіх вартасцях роўны драмам Шэкспіра.

Літаратурна-крытычная дзейнасць Р. Бярозкіна на працягу звыш сарака гадоў (за выняткам часу вайны і сталінскіх лагераў) трывала ўвайшла ў гісторыю беларускай крытыкі і літаратуразнаўства.

---

Клімуць Яраслаў Іванавіч нарадзіўся 1 кастрычніка 1940 г. у в. Вострава Мастоўскага раёна Гродзенскай вобласці. Літаратуразнаўца, пісьменнік, выкладчык вышэйшай школы. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры англійскай мовы, агульнага і славянскага мовазнаўства Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта ім. А. А. Куляшова. З 1989 па 2001 г. быў дэканам філалагічнага факультэта. Ініцыятар і актыўны ўдзельнік стварэння ўніверсітэцкага літаратурнага музея. Сфера навуковых інтарэсаў — тэорыя літаратуры, гісторыя беларускай літаратуры і літаратурнай крытыкі, узаемасувязі славянскіх літаратур, творчасць Я. Купалы і Я. Коласа, сучасная беларуская проза, супастаўляльнае літаратуразнаўства, краязнаўства. Апублікаваў манаграфію «Жыццёвасць традыцый: Якуб Колас і руская савецкая паэзія» (Мінск, 1985) і больш за 140 літаратурна-крытычных артыкулаў. Член СБП (з 1996). Узнагароджаны Ганаровымі граматамі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь (1982, 1998), Саюза беларускіх пісьменнікаў (1999), Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа (2004).



ЯРАСЛАЎ КЛІМУЦЬ

---

* Бярозкін Р. Аркадзь Куляшоў. Мінск: Нар. асвета, 1978. С. 29.

СЯРГЕЙ УКРАІНКА

## «Простыя людзі» Бацькаўшчыны Фёдара Янкоўскага

У творах любога пісьменніка заўсёды прысутнічае пэўная канцэпцыя чалавека і свету. Як правіла, асноўнае месца ў ёй займае жыццёвы вопыт творцы, эстэтычнае і філасофскае пераасэнсаванне ім навакольнага ўплыву і ўласных паводзін. Для Фёдара Янкоўскага, які ўваходзіў у «сталае» жыццё ў ліхалетныя ваенныя гады, адаптаванне да мірных умоў аказалася — на дзіва — не такім складаным, як для многіх яго таварышаў. Да вайны ён марыў стаць будаўніком-архітэктарам, аднак яго прага **ствараць** патрэбнае людзям спатолілася ў іншым — Янкоўскі пасля вайны даволі хутка знайшоў сябе ў навуцы і педагагічнай працы. Ён лічыў, што «*…няма больш пачэснай працы і занятку, чым праца і занятак, звязаныя з духоўнаю культурай свайго народа, духоўным жыццём, з яго духоўнымі здабыткамі, а сярод іх — моваю, родным словам*»*. Тыя, хто працаваў побач з Фёдарам Міхайлавічам, кажуць, што ён быў чалавекам ва ўсіх дачыненнях акуратным і надзвычай патрабавальным. Не дараваў ні сабе, ні людзям гультайства, безадказнасці. Прычым, як адзначалі яго сябры, у прыватнасці Уладзімір Калеснік, «*…Федзева акуратнасць не ад педантычнай натуры, а ад педагагічнай прафесійнай этыкі і культуры*»**. Такія людзі калі і браліся за напісанне мастацкіх твораў, то звычайна адлюстроўвалі ў іх толькі бачанае на свае вочы, уласна перажытае. Выдумляць нешта пазарэальнае, хай сабе і вабна-прыгожае, — не ў іх натуры.

Дзве вайны (савецка-фінская і Айчынная), якія перажыў Фёдар Янкоўскі, выкрышталізавалі тыя крытэрыі патрабавальнасці да сябе самога і да іншага, што былі закладзены ў яго характары ад нараджэння. Былы партызан-разведчык ацэньваў чалавека не «па адзежцы», а паводле яго ўчынкаў. Падобную бескампраміснасць Янкоўскі дэманстраваў і ў творчасці. У яго кнігах не сустрэнеш абразкоў, у якіх аўтар спрабуе хоць нейкім чынам апраўдаць не сумяшчальныя з нормамі маралі ўчынкі персанажаў. Дзве фарбы дамінуюць у іх апісанні, дзве формы адносінаў да людзей з'яўляюцца для творцы галоўнымі: даверыш ты сваё жыццё чалавеку ці не. Паказальны ў гэтым плане абразок «Мой дарагі Пашка». «Ачарсцвелы» на вайне былы партызанскі разведчык «*гатовы аддаць частку ці ўсяго самога сябе*» дзеля выратавання жыцця іншага чалавека. І — побач — «добрапрыстойны» выкладчык ВНУ з падкрэсленнем уласнай значнасці здзекуецца (іначай не назавеш) з сіраты-студэнткі: «*Новы калега, з прыгожым гальштукам, добра дагледжаны малады чалавек, незадоўга да выпускных экзаменаў і раз і другі пагрозліва напамінае дзяўчыне: "На апеку не спадзявайся! Веды паказаць трэба"*.

*Чэрствасць?*

---

* Гардзіцкі А. К. Па няпісаныя скарбы // Сустрэчы. Мінск, 1972. С. 51.
** Калеснік У. Сяброўскія згадкі // Крыніца. 1999. № 1. С. 38.

*Не, гэта — горшае за чэрствасць»**. Няхай студэнтка ў вучобе «не хапае з неба зорак», але звычайная чалавечнасць, усведамленне таго, што яна, у часы нядаўняй вайны страціўшы ўсю радню — *«27 самых родных і блізкіх сваякоў»,* — усё яшчэ **перажывае найвялікшае гора** і таму вартая спагады, спачування, прыводзіць аўтара і яго сяброў-партызан да заканамернай высновы:

*«– Такога ў сапёрную групу я не ўзяў бы, — сказаў адзін.*

*– І ў разведку такіх не бяруць. Такія, кажуць, з разведкі не вяртаюцца, — дапоўніў і думку і ацэнку другі»**.*

У сваёй ацэнцы людскіх паводзін Янкоўскі не прызнае амбівалентнасці. Ён не дапускае нават думкі, што прыстойны чалавек можа быць яшчэ і хамам, крывадушнікам. Непрыстойны можа паспрабаваць прытварыцца дабрадзеем, аднак людзі пра такога звычайна ведаюць усё: «*У лесе крадзеш — поле ўбачыць, на полі крадзеш — лес убачыць. А то як?»****. І вучаць такіх вяскоўцы па-свойму, жорстка, як таго Паўлючыка з абразка «Людзям трэба людзьмі жыць»: «*Чалавек ён быў крывотны, а язык — не раўнуючы, як сабачы хвост. Але як правучылі, як пастрашылі, то і дажыў каля людзей»*****.

Янкоўскі не выкарыстоўвае экстрэмальныя сітуацыі, у якіх персанаж можа паказаць сябе «сапраўдным», раскрыць у сабе нешта нечаканае. У абразкі людзі «прыходзяць» ужо сфарміраванымі, маюць акрэсленыя характары, таму аўтару з яго высокім эмацыянальным інтэлектам даволі лёгка прадбачыць іх паводзіны. А ў большасці выпадкаў яму і не трэба тыя паводзіны ўгадваць. Варта адкрыць толькі дзённік, дзе занатаваны назіранні са штодзённага жыцця, — і вось вымалёўваецца ўжо непрыдуманая гісторыя, павучальная і па-філасофску заглыбленая, што немінуча вярэдзіць душу чуйнага чытача. Фёдар Янкоўскі заўсёды даражыў сустрэчамі з цікавымі людзьмі. Праўда, былі нярэдкімі і сустрэчы з «пустадомкамі», пра што сам творца зазначаў: «*Ад іх, гэтых сустрэч, я не пабагацеў, не падужэў. Але ў дзённік мой яны трапілі: жывеш жа сярод людзей, з людзьмі; бываюць цуды на свеце — запішы; бываюць і здарэнні, справы, як кажуць, дзівосы на смецці… — часам і гэтакае запішы»******.

Літаратуразнаўцы звычайна кажуць: лірык піша пра тое, што любіць, а эпік любіць тое, пра што піша. У гэтым сэнсе Янкоўскі эпікам не быў, бо не адчуваецца ў яго творах пра несумленцаў любові да гэтых «бліжніх». Не ўмеў (ці не хацеў) ён ставіць сябе на іх месца, пераўвасабляючыся ў розных чырняевых, паўлючыкаў, не ўяўляў, як гэта можна, каб тваё прозвішча праз гады не маглі ўспомніць (!) былыя студэнты (абразок «На ціхія рыбныя»). Відаць, таму творца і пісаў найчасцей пра добрых людзей — зразумелых і

---

* Янкоўскі Ф. Радасць і боль: Апавяданні, навелы, мініяцюры. Мінск: Маст. літаратура, 1995. С. 203.

** Тамсама. С. 203.

*** Тамсама. С. 82.

**** Тамсама. С. 82.

***** Тамсама. С. 190.

да глыбіні душы блізкіх яму вяскоўцаў і гараджан, калгаснікаў і інтэлігентаў, дзяцей і дарослых. Чытачу яго абразкоў не трэба, напрыклад, траціць шмат намаганняў, каб заўважыць прытоенае аўтарава захапленне цэльнасцю душы малой палескай дзяўчынкі Алесі з аднайменнага твора. Янкоўскі падае́ ў ім тры маленькія эпізоды, якія з розных бакоў характарызуюць гэта працавітае дзіця. Руплівіца Алеся не можа зразумець дарослых, што, атабарыўшыся ў парку над Прыпяццю, не ловяць рыбы, не ходзяць у грыбы, не робяць, карацей, нечага карыснага і разумнага, а толькі бегаюць-гуляюць з сабакамі. Алеся саграваe змерзлае качаня, *«спазьнячку»*, нязмушана дэманструючы тым самым адну з найвышэйшых чалавечых якасцей — спагаду. Яна гатова кожны дзень збіраць па паўвядра нязводных каларадскіх жукоў, абы толькі бабуля дазволіла пераплысці *«разам з дойкамі»* цераз Прыпяць ды падаіць Красулю, Рагулю, Лысуху… Аўтару не трэба прыдумляць сітуацыі, каб як найярчэй абмаляваць сваю маленькую гераіню. Падзеі ўжо загадзя прыдуманы жыццём, а паводзіны натуральна і пераканаўча паказваюць, кім стане маленькая руплівіца, ці, дакладней, кім яна стала — працавітым зычлівым чалавекам.

Янкоўскі далікатна распавядае пра цяжкахворую школьную настаўніцу Алену Адамаўну (абразок «Развітанне»), чые вучні-выпускнікі, нягледзячы на забарону ўрачоў, прыйшлі ў свой выпускны вечар адведаць дарагога чалавека. *«І першы раз за апошнія чатыры тыдні яна сама ўстала з пасцелі. Першы раз за апошнія чатыры тыдні прайшла пакой, выйшла на балкон…*

*Вучні не адыходзілі»**. Наўрад ці варта што яшчэ дадаваць да такога апісання вобразу гэтай жанчыны.

У цэнтры ўвагі Фёдара Янкоўскага нярэдка аказваюцца жыхары пэўных мясцовасцей Беларусі. Нават самі абразкі тады набываюць характэрныя назвы: «Жодзінцы», «Яны з Заслаўя», «З-пад Вязынкі» і да т. п. Пасля сустрэч з багатымі на дабрыню людзьмі і ў аўтара, і ў чытача на душы становіцца *«не толькі спакойна, а неяк святочна»*. Высокая маральнасць і заўсёдная гатоўнасць дапамагчы — якасці, што вызначаюць паводзіны дарагіх пісьменніку вяскоўцаў, местачкоўцаў і гараджан, — як правіла, не прышчэплены штучна, яны — адтуль, з дзяцінства, ад сям'і. Таму і не можа налюбавацца аўтар на свайго Яцука, пaставога міліцыянера, справядліўца, шчодрага на дабрыню хлопца *«…родам з-пад Наваградка, з-за Міра»*, што ён не растраціў найлепшае ў будзённым тлуме (абразок «На скрыжаванні»). Таму і згадвае з бясконцай цеплынёй таварыша-партызана, які пранёс праз жыццё ўдзячнасць простай сям'і з Міншчыны, што яму, параненаму і кантужанаму, *«дала… паратунак і прытулак»* (абразок «Заляцеў бы, здаецца»). Крытык Ганна Кісліцына ў дачыненні да асаблівасцей светаўспрымання празаіка ў свой час справядліва заўважыла: *«Гэтая замілаванасць да людзей знаходзіць свой адбітак нават у стылёвых абрысах мініяцюр, якія быццам імкнуцца захаваць жывую інтанацыю размовы. Кароткія сказы, клічнікі, пытальнікі, шматкроп'е — Янкоўскі дзеліцца ведамі*

---

* Янкоўскі Ф. Радасць і боль: Апавяданні, навелы, мініяцюры. С. 76.

*так шчодра, так эмацыянальна, што застаецца ўражанне прысутнасці не толькі аўтара, але і слухача»*.*

Фёдар Міхайлавіч сапраўды надзвычайна любіў жывое слова. Чалавек і родная мова стаялі ў адным шэрагу яго найвялікшых каштоўнасцей. Беражлівае стаўленне да самага роднага ўвогуле адчувальнае ва ўсіх яго творах. А дзе-нідзе, як, да прыкладу, у абразку «Перад бацькавым полымем», ён піша адкрыта, нібы абвяшчае галоўнае нефармальнае правіла творцы: *«А з ім* (родным словам. — *С. У.*) *працуй вымытымі рукамі, адгортвай ад сябе ўсялякае мурзатае, здрадлівае, адгортвай пацяруху, смецце»**.*

Свет мастака — гэта не што іншае, як рэчаіснасць, прапушчаная праз фільтры перажывання і ад таго па-свойму прасторава і каштоўнасна структураваная. За гады, пражытыя Фёдарам Янкоўскім у горадзе, гэты свет, зразумела, змяняўся, пэўная адарванасць яго ад вясковых рэалій накладала адбітак на прозу, і многія абразкі немінуча набывалі рамантычныя рысы: творца іншы раз апісваў тое, што **хацеў** бачыць у вясковых людзях. А значыць, апісваў найлепшае з усяго і, як заўважна, міжволі надаваў некаторым персанажам рысы свайго характару. Аднак — і з гэтым наўрад ці хто будзе спрачацца — усім зместам сваёй творчасці пісьменнік спрабаваў даць адказ на пытанні: што ёсць свет? што ёсць чалавек? для чаго ён жыве? чым з'яўляецца і чым павінна быць для яго мова? Адказы творцы — не шаблонныя, звыклыя, «агульнапрынятыя», як і не шаблоннае яго светаўспрыманне, фантазія і ўвогуле ўнутраны свет. Янкоўскі быў пісьменнікам ад жыцця, а не ад кнігі, таму заканамернымі здаюцца словы, праказаныя ім некалі ў інтэрв'ю А. Гардзіцкаму: *«...духоўнае жыццё простых людзей — толькі пачатая нашым чытачом кніжка... Яе тысячы і мільёны старонак наперадзе»***.*

## Свет мініяцюр Янкі Сіпакова

Колькасць чытачоў — прыхільнікаў мастацкай літаратуры, і так параўнальна невялікая, зменшылася ў нашай краіне за апошнія два дзесяцігоддзі ў некалькі разоў. Не ў апошнюю чаргу гэта звязана з пагаршэннем маральнага стану індывідуальнай і грамадскай свядомасці людзей, з крахам былой сістэмы каштоўнасцей. Варта зазначыць, што сіндром анаміі (не блытаць з анеміяй), які ўсё яшчэ перажывае наша грамадства пасля разбурэння СССР, не толькі здольны кіраваць светапоглядам патэнцыяльнага чытача, але моцна ўплывае і на творчы выбар пісьменніка. Літаратура, створаная ў рэчышчы метаду сацыялістычнага рэалізму, аказалася ў аснове сваёй нецікавай як людзям сталага веку, якія настальгізуюць па маладосці, так і моладзі, прасякнутай настроямі глабалізацыі. У гэтых умовах пісьменнік вымушаны рабіць пераацэнку ўласных каштоўнасцей і арыентавацца ўжо не столькі на новых

---

* Кісліцына Г. М. Лірычная мініяцюра як жанр беларускай літаратуры. Мінск: Беларус. навука, 2000. С. 91.

** Янкоўскі Ф. Радасць і боль: Апавяданні, навелы, мініяцюры. С. 55.

*** Гардзіцкі А. К. Па няпісаныя скарбы // Сустрэчы. Мінск, 1972. С. 53–54.

**чытачоў-эстэтаў**, колькі на **спажыўцоў** выпушчанай ім літаратурнай прадукцыі. Такі падыход, як правіла, не ідзе на карысць прыгожаму пісьменству, таму што сапраўдная творчасць, з'яўляючыся імправізацыяй, не трывае прымусу і шаблону.

Лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы, паэта, празаіка, перакладчыка Янку Сіпакова пісаць прымушаў толькі яго талент. Магчыма, гэта і ёсць адзін з самых цяжкіх прымусаў, бо, як нам думаецца, Сіпакоў задоўга да сваёй смерці (10.03.2011) страціў ілюзіі наконт жыццёвай неабходнасці пісьменніцкай працы для сучаснікаў і нашчадкаў. Многія калегі-літаратары, што таксама аказаліся пад уплывам феномену гэтак званай сацыяльнай настальгіі, змоўклі ў разгубе і хіба ўспамінаюць, як добра было жыць пры Брэжневе-Машэраве і як нясоладка жывецца ў постсавецкія часы. Так, сапраўды, некалі яны адчувалі сваю запатрабаванасць і, магчыма, на самай справе з'яўляліся «інжынерамі чалавечых душ», але душы гэтыя ў адначассе змяніліся. «Інжынеры» ж адаптавацца ў новых рэаліях, на жаль, не здолелі. Страшэнны цяжар — аказацца лішнім сярод патрэбных. Нават звычайны, «маленькі» чалавек, што раней ніколі не задумваўся пра сваё жыццёвае прызначэнне, пачынае звяртаць увагу на ўласную інфантыльнасць і па магчымасці імкнецца яе пераадолець. Што тады казаць пра ўладальніка развітой фантазіі — пісьменніка. Ён да канца наўрад ці зможа прымірыцца са зніжэннем статусу сваёй, раней такой неабходнай грамадству, прафесіі. Пра Янку Сіпакова не скажаш, што ён на схіле жыцця страціў упэўненасць у творчых сілах — колькасць і якасць напісанага ім у апошняе дзесяцігоддзе на гэта не паказваюць. Аднак нельга назваць яго і стыхійным экзістэнцыялістам, рызыкантам, які знаходзіў сэнс існавання толькі ў тым, каб на яве ствараць неардынарныя сітуацыі, перажываць вострыя пачуцці і толькі тады апісваць іх. Літаратура — гэта сапраўды вопыт немагчымага, таму, відаць, свет таленавітага пісьменніка такі таямнічы і малапазнавальны.

Творчая спадчына Янкі Сіпакова жанрава надзвычай разнастайная. Уважлівага прачытання заслугоўваюць яго лірычныя, ліра-эпічныя творы, прытчы. Аднак у дадзены момант прадметам нашай увагі аказаліся цыклы яго лірычных мініяцюр і філасофскіх мініяцюр-нататак: «Водар дзядоўніку», «Як птушкі ў лёце», «Наталенне смагі», «Узятак з маўчання», «У свята расы». Як яно стала традыцыйным для літаратурнай творчасці Сіпакова, назва кожнага з цыклаў нясе ў сабе вельмі значную сэнсавую нагрузку, метафарычна перадаючы галоўную думку ўсяго твора.

Сярод згаданага асаблівым тэматычным багаццем вызначаецца надрукаваны ў «Маладосці» цыкл мініяцюр «Водар дзядоўніку». Таленавітае вымалёўванне карцін прыроды («*Перад лятком раіліся пчолы — быццам абтрасалі пыл са сваіх крылцаў, каб не занесці яго ў вулей — найчысцейшую ў свеце хату*»*), тонкі, пранізлівы лірызм («*Ты ласкава вымаўляла сляды свае ў снег — я ж іх чы-*

* Сіпакоў Янка. Водар дзядоўніку // Маладосць. 2002. № 11–12. С. 81.

*таў»**), «народна-філасофская» афарыстычнасць (*«Бацькоў нельга перарасці, хоць ты і пражывеш больш за іх гадоў. Яны заўсёды перад табою, як ідэал, заўсёды, як лінія небасхілу, недасяжныя, а ты перад імі — маленькі-маленькі... Заўсёды!»***) — характэрныя прыкметы змешчаных у цыкле мініяцюр.

Увогуле жанр, найлепшыя творы якога з'яўляюцца ўзорам лаканізму, не можа не быць філасафічным. Адпаведна і той, хто звяртаецца да мініяцюры, не можа не быць філосафам. Гэта зусім не азначае, што пісьменнік абавязаны мэтанакіравана вывучаць працы Арыстоцеля, дабірацца да глыбіннага сэнсу Платонавых «Дыялогаў» і г. д. Сапраўдным філосафам, як на нашу думку, чалавек становіцца толькі тады, калі пачынае адчуваць патаемную рэальнасць усіх рэчаў і навучаецца жыць ёю, калі найвышэй за ўсё ставіць пошук Мудрасці. Паводле пераканання М. Мамардашвілі, кожны чалавек рухаецца з уласнай цемры. І Янка Сіпакоў тут ніякім чынам не выключэнне, хіба толькі што рух яго адрозніваецца ад звыкла-стандартнага. Пры гэтым ён упарта шукае — і знаходзіць — праявы Мудрасці ў будзённым жыцці, шчыра захапляецца ўдалымі знаходкамі і бескарысліва дзеліцца імі з чытачом (*«Калі я пішу — гэта ўжо не я. Той, хто піша, больш ведае, чым я. І жыве ён на свеце даўно, і пражыў ён болей, чым я. І галоўнае — помніць ён усё, што было да мяне»****).

Спагадліва, з удзячнасцю за той жыватворны ўплыў, які яны аказалі на развіццё яго асобы, згадвае Янка Сіпакоў многіх пісьменнікаў (Льва Талстога, Івана Буніна, Алеся Адамовіча і інш.), літаратуразнаўца Аляксандра Бабарэку, акцёра-земляка Пятра Алейнікава. Змешчаны ў «Водары дзядоўніку» таксама бытавыя дыялогі, маналогі і замалёўкі, праўда, на нашу думку, некаторыя з іх як след не дапрацаваны аўтарам — ім відавочна бракуе мастацкасці (*«– А дзе Вольга Сямёнаўна? — У армію забралі!»*****).

Наступныя тры цыклы мініяцюр былі ўключаны Сіпаковым у двухтомнік «Выбраныя творы» (1997). Тэматычныя межы іх акрэслены разважаннямі аб літаратурным майстэрстве і прызначэнні пісьменніка (*«Нельга параўноўваць двух пісьменнікаў. Яны заўсёды непараўнальныя, як і два светы»******), аб нацыянальным характары беларуса (*«Дык што ж гэта, мы і праўда нацыя рабоў?! Дзіўна, што нам гэта, здаецца, пачынае нават падабацца...»*******) і проста аб жыцці і ўнутранай культуры чалавека (*«Радуюся, што ў маёй творчасці нідзе не абражаны ніводзін чалавек»********). Сіпакоў заклапочаны катастрафічным падзеннем узроўню выхаванасці сучаснага маладога — ды і не толькі

---

* Сіпакоў Янка. Водар дзядоўніку // Маладосць. 2002. № 11–12. С. 74.

** Тамсама.

*** Тамсама.

**** Тамсама.

***** Сіпакоў Янка. Наталенне смагі // Сіпакоў Я. Выбраныя творы. У 2 т. Т. 2: Проза. Мінск: Маст. літ., 1997. С. 365.

****** Сіпакоў Янка. Узятак з маўчання // Сіпакоў Я. Выбраныя творы. У 2 т. Т. 2: Проза. Мінск: Маст. літ., 1997. С. 396.

******* Сіпакоў Янка. Як птушкі ў лёце // Сіпакоў Я. Выбраныя творы. У 2 т. Т. 2: Проза. Мінск: Маст. літ., 1997. С. 358.

маладога — пакалення. Свет з кожным годам становіцца ўсё болей жорсткім, а людзі, хаваючы за праявай жорсткасці і нахабства сваю разгубленасць, — усё болей безабароннымі. Пісьменнік прагне разабрацца ў прычынах такой анамаліі, спрабуе знайсці адзіна правільны адказ на няпростае і зусім не абстрактнае для сябе пытанне: *«Што знаходзіцца паміж смеласцю і нахабствам, што раздзяляе гэтыя, такія блізкія, а па сутнасці — такія далёкія паняцці, што не дае ім зліцца, злучыцца, з'яднацца ў адно?*

*Выхаванасць, прыстойнасць, самапавага»**. Так, суб'ектыўны вобраз свету Сіпакова ў параўнанні з яшчэ не такімі далёкімі васьмідзясятымі гадамі XX стагоддзя даволі моцна трансфармаваўся, таму наўрад ці варта здзіўляцца, што яго мініяцюры часта напоўнены мінорным настроем. Чалавек увесь час жыве ў асяроддзі сабе падобных. На яго ўплываюць самыя розныя нюансы ўзаемаадносін у соцыуме. Калі тут пераважае негатыў, то адпаведна і чалавек будзе адчуваць сябе некамфортна. Наколькі можна меркаваць па творах апошніх паўтара дзясяткаў гадоў, Янка Сіпакоў нярэдка знаходзіўся менавіта ў гэткім стане сацыяльнай некамфортнасці. Зрэшты, змест апошняга цыклу мініяцюр «У свята расы» сведчыць якраз пра некаторае паляпшэнне сітуацыі — у ім амаль усе творы прасякнуты непадробным аптымізмам. Вось толькі мастацкіх адкрыццяў тут таксама значна паменела.

Нельга абмінуць увагай той факт, што сярод іншага творца не перастае шчыра здзіўляцца феномену вёскі, якая столькі часу жывіла яго творчасць усё новымі і новымі сюжэтамі, вобразамі, матывамі (*«Вось пражыў у ёй усяго толькі нейкіх семнаццаць гадоў, а ўсё пішу пра яе, чэрпаю, як кажуць, адтуль і свае творчыя сілы, і натхненне: пішу і, здаецца, хопіць мне маіх вясковых запасаў на ўсё жыццё»***). Ствараецца ўражанне — нават калі браць пад увагу выключна мініяцюры, — што ад клопатаў «малой радзімы» пісьменнік сапраўды ніколі не адрываўся. Яго «вясковыя» запісы ў большасці выпадкаў падкупляюць відавочнай непрыдуманасцю, нязмушанасцю і лірызмам.

Асабліва шмат увагі ўдзяляе Сіпакоў у сваіх творах разважанням аб значэнні для кожнага чалавека яго роднай мовы. Лейтматыў іх — расчараванне, горыч, адчуванне поўнай безвыходнасці (*«Хто яшчэ, акрамя нас, беларусаў, можа пахваліцца такою дурнотаю: «Роднай мовы не ведаю»?!»****). А мова ж заўсёды была чуйным індыкатарам культурных, грамадска-палітычных працэсаў. Калі грамадства хварэе, не можа быць здаровай і яго мова. На думку Сіпакова, у свеце ёсць мовы-агрэсары, якія пэўны час валадараць над іншымі і выжываюць няўдаліц з родных сцен. Пісьменніку таго не хочацца прызнаваць адкрыта, але, мяркуючы па выказанаму ў мініяцюрах, ён амаль перакананы, што чужамоўная экспансія Беларусі акажацца незваротнай.

---

* Сіпакоў Янка. Наталенне смагі // Сіпакоў Я. Выбраныя творы. У 2 т. Т. 2: Проза. Мінск: Маст. літ., 1997. С. 372.

** Сіпакоў Янка. Як птушкі ў лёце // Сіпакоў Я. Выбраныя творы. У 2 т. Т. 2: Проза. Мінск: Маст. літ., 1997. С. 345.

*** Сіпакоў Янка. Узятак з маўчання // Сіпакоў Я. Выбраныя творы. У 2 т. Т. 2: Проза. Мінск: Маст. літ., 1997. С. 409.

Яшчэ адзін несупынны боль Сіпакова — татальная забруджанасць мясцін, у якіх чалавеку наканавана жыць. Для яго не існуе розніцы ў маштабах экалагічнай драмы — датычыцца яна невялікай частачкі Беларусі ці ўвогуле ўсёй планеты, — бо ўпэўнены: бяздумна знішчаючы жывёл і расліны, чалавек немінуча ставіць крыж на сваёй будучыні. Творца настолькі горача занепакоены бядотным становішчам навакольнай прыроды, што часам нават пачынае «панікаваць» (*«Да двухтысячнага года на нашай планеце не астанецца гарыл, насарогаў, знікнуць бенгальскія тыгры. <…> На Беларусі не стане мядзведзя, барсука, вялікага краншнэпа і многіх іншых жывёл і птушак»**). Наіўнае, канечне, і задужа песімістычнае бачанне перспектывы, але такі ўжо чалавек Янка Сіпакоў — ён проста не можа абыякава ставіцца да самага дарагога.

Свет творцы ўвогуле надзвычай дабратворны. У ім няма месца агрэсіўнасці, непавазе да бліжняга, бо пісьменнік, як і большасць людзей, — стваральнік, а не разбуральнік. Разбурае — жорсткасць, стваральная ж толькі дабрыня. На жаль, яна не можа з нічога ўзнікаць у чалавеку, таму для вернікаў заўсёднай крыніцай дабрыні з'яўляецца Бог, а вось атэіст Сіпакоў знаходзіць яе ва ўсім, што яго акаляе, і найчасцей у кветках: *«Кветкі абдорваюць чалавека дабрынёю. Кажуць, той, хто сябруе з імі, не можа быць злым»***.

Варта зазначыць напрыканцы, што ў адрозненне, скажам, ад мініяцюр старэйшага за яго Янкі Брыля ці маладзейшага Леаніда Галубовіча творы Сіпакова не так часта наглядна перадаюць унутраны стан душы аўтара, паказваюць яго як чалавека на побытавым узроўні. Ён больш імкнуўся пісаць пра іншых ці пра іншае. Тым не меней, калі чытач сустракае прызнанне: *«У звычайным жыцці я крыху коснаязыкі, таму што ў творчасці люблю няньчыцца са словам»****, у яго ствараецца ўражанне бязмежнай аўтаравай адказнасці перад людзьмі і — у яшчэ большай ступені — перад літаратурай. Ды так яно, у рэшце рэшт, і ёсць на самай справе.

---

* Сіпакоў Янка. Узятак з маўчання // Сіпакоў Я. Выбраныя творы. У 2 т. Т. 2: Проза. Мінск: Маст. літ., 1997. С. 391.

** Сіпакоў Янка. У свята расы // Маладосць. 2005. № 12. С. 70.

*** Сіпакоў Янка. Водар дзядоўніку // Маладосць. 2002. № 11–12. С. 87.

ТАМАРА АЎСЯННІКАВА

## Загадкавы палёт

Жыццё маё, і там, на схіле,
Ты ўсё — загадкавы палёт.
*Я. Янішчыц*

У лістападзе 2013-га спаўняецца 65 гадоў з дня нараджэння і 25 гадоў з дня трагічнай смерці знакамітай беларускай паэтэсы Яўгеніі Янішчыц, загадка якой і да нашых дзён цалкам не раскрыта.

Абранасць лёсу творцы пры яго жыцці мы не заўсёды заўважаем. Аднак пра Яўгенію Янішчыц гэтага сказаць нельга. Яна была і заўважанай і ацэненай. Але ж, дачасна пакінуўшы жыццё, прыцягнула да сябе яшчэ больш пільную ўвагу. Паўстаюць пытанні: чаму? Што стала прычынай? Ёсць некалькі версій…

Я не згодна з тымі, хто лічыць прычынай самагубства нешчаслівае каханне. Не трэба глядзець так аднабока. Сама паэтка пісала:

Гатовая да ўсмешкі-запытання,
Да стоенай насмешкі з-за вугла,
Спазнала толькі я азы кахання?
Ды і ў такім — няшчаснай не была.
*«Спроба сентыментальнага раманса»*

Каханне можа быць узаемным або не. Ды калі яно было, то гэта ўжо шчасце. І няцяжка здагадацца, якое каханне прыносіць мастаку большы плён. Да таго ж слова «каханне» ў паэзіі Я. Янішчыц сустракаецца не так і часта. Яна карыстаецца словам «люблю», якое мае больш шырокае значэнне, чым «кахаю»:

І тут, дзе радасць дыхае вяснова,
Дзе Млечны Шлях спадае на зямлю,
Я светла прыпаду да дзеяслова
Твайго,
з маёй слязінаю «люблю».

Гэта радкі з верша «Паўночная зара». Майстэрства паэткі тут раскрываецца праз мнагазначнасць выказанай думкі. Слова «люблю» з верша можна аднесці і да каханага, і да паэзіі. Любоў і паэзія для Янішчыц непадзельныя.

Першую кнігу яна хацела назваць «Непрыручаная птушка», але была напісана пародыя на аднайменны верш — і назву кнігі яна змяніла на «Снежныя грамніцы».

Я. Янішчыц хацела мець для першай кнігі чырвоную вокладку, але ў чырвонай выйшла першая кніга Ніны Мацяш. Жэня лічыла, што «чырвоны колер Ніначцы дасць сілу». Для сваёй кнігі яна выбрала колер неба — бла-

кітны. На вокладцы — фотаздымак. Ён характарызуе яго аўтара як таленавітага майстра, які зазірнуў не толькі ў душу паэта, але і ў яго будучыню. Гэта маё асабістае бачанне. Я адчувала трагізм пры першым жа поглядзе на фотаздымак. Тады, у 1970 г., я адагнала ад сябе страшную думку. Але яна ўзнікала кожны раз, калі мне трапляўся на вочы той здымак. Маё ўспрыманне не змянілася і сёння. Мушу заўважыць, што менавіта тым фотаздымкам Я. Янішчыц закальцавала свой творчы шлях, змясціўшы яго ў апошняй кнізе выбранага — «У шуме жытняга святла». Ужо з самага пачатку ўсё складвалася не так, як планавала паэтка.

Верш «Непрыручаная птушка» заканчваецца радкамі:

Мяне ў палёце не скарылі.
А будзе што не так — малю:
Скруціце стомленае крылле
І кіньце ў родную раллю.

Што ж стала не так? Чаму Янішчыц пайшла з жыцця? Талент — гэта не толькі дар, але і крыж, які павінен несці абраны Богам. Палеская дзяўчынка, птушкай узляцеўшы на літаратурны Парнас, сама абарвала палёт. Мабыць, прыцягненне Зямлі аказалася настолькі моцным…

Не так даўно мне трапіў у рукі матэрыял ненадрукаванай кнігі Мікалая Елянеўскага, вельмі цікавы і патрэбны для разумення асобы Я. Янішчыц. Елянеўскі паспеў запісаць успаміны Марыі Андрэеўны, маці паэткі. Там я прачытала, як Жэня, яшчэ малой дзяўчынкай, ледзьве не ўтапілася ў Ясельдзе. Марыя Андрэеўна расказвала: «*Ёсць там вір. Месца глыбокае. Вось хлопцы, хто старэйшы, у гэты вір нырца давалі, а потым выплывалі. Малых туды не пускалі. Магло закруціць. Што Жэню да гэтага віра штурханула, ніхто не ведае. Яна сказала хлопцам: "Думаеце, што толькі вы адны такія смелыя. Я тожа магу". Хлопцы пачалі смяяцца, а яна разагналася па беразе — і боўць у вір. Ну, і выплыць сама не змагла*». Падлеткі яе выцягнулі, адкачалі. І калі Марыя Андрэеўна прыбегла, нехта з іх заўважыў: «***Цётка Марыя, яна маўчыць, як на тым свеце пабывала***». Хто ведае, можа, і пабывала. Містыкі сцвярджаюць, што тым, хто аказаўся перад тварам смерці ці перажыў клінічную смерць, часта адкрываецца нейкі дар. Яны па-іншаму пачынаюць успрымаць свет. І мы не можам ігнараваць факт з біяграфіі Янішчыц, які мог паспрыяць раскрыццю паэтычнага таленту. Маці ўспамінала, што Жэня часта сядзела каля таго віру, глядзела на ваду і аб нечым сваім думала. А на страхі маці гаварыла: «***Ведаеш, матуля, так цягне, там такая бездань, аблокі ў ім*** (у віры. — *Т. А.*) ***плывуць, як недзе ў другім жыцці. Там нават і не вада зусім, а нешта такое, магнітнае***». Я прапаную чытачу паглядзець на фотаздымак са зборніка «Снежныя грамніцы», аб якім вялася гаворка раней. У мяне такое ўражанне, што Жэня глядзіць у той ясяльдзянскі вір…

І колькі разоў Я. Янішчыц за свае 40 гадоў сутыкнулася са смерцю! Другі выпадак таксама быў звязаны з вадою. У 1964 г. Жэня стала пераможцам літаратурнага радыёконкурсу часопіса «Бярозка» і была ўзнагароджана пуцёў-

каю на возера Нарач. У час купання ў возеры яна раптоўна пачала тануць. На дапамогу падаспеў Анатоль Грачанікаў. У Магілёве Жэня трапіла пад колы хуткай дапамогі. Так, нечая рука адводзіла смерць ад паэткі тройчы. Сакральнасць лічбы відавочная…

У аснове творчасці паэта ляжыць слова. І значэнне слова ў паэзіі не такое, як у зносінах. Яно мае магічную сілу ўздзеяння, можа матэрыялізавацца. Сапраўдны творца піша не як пісьменнік, а як маг. Таму да слова трэба адносіцца з вялікай павагай і асцярожнасцю, каб нашыя думкі, выказаныя ўслых ці на паперы, не аказаліся намерам Бога. За прыкладамі хадзіць далёка не трэба — гэта творчыя лёсы М. Рубцова, У. Маякоўскага, М. Цвятаевай, С. Ясеніна і іншых. У Я. Янішчыц таксама ёсць вершы, якія маглі паўплываць на яе лёс. Напрыклад: «Не дакарала, не журыла», «Вунь першая хмара павісла бянтэжна над краем» («Ясельда»); «Жывіце і любіце» («На беразе пляча»); «Яшчэ не збыты ўспамін», «На ўсякі выпадак…», «На голас ліры» («Каліна зімы») і іншыя. Тамара Каленікава, нашая сакурсніца, была сведкаю ў студэнцкія гады аднаго Жэнінага выказвання, якое ўспрыняла як браваду маладой паэткі: «Я пражыву 40 гадоў». Гэтыя словы Тамара ўспомніла, калі Жэні не стала. А Алег Лойка ў артыкуле «Кладачка тоненька» ўзгадваў, як на адным семінары па паэзіі Жэня Янішчыц сказала, што сорак гадоў жанчыне — гэта ўсё, гэта крэс.

Можна акрэсліць яшчэ адну версію: Яўгенія Янішчыц стамілася жыць, стамілася нечага баяцца. Прынамсі, на дачасную смерць паэткі, безумоўна, паўплывалі трагічныя жыццёвыя сітуацыі, абставіны адносінаў з творчымі асобамі, што прывяло да парушэння стану здароўя — да дэпрэсіі. І звычайны чалавек, перажыўшы трагічную смерць бацькі, развод з мужам, дарожную аварыю менш чым за год (канец мая 1975 — пачатак лютага 1976 г.), можа аказацца ў складанай псіхічнай сітуацыі. Але быў і 1973 г., аб якім мы мала што ведаем. Толькі досведы і ўспаміны сведкаў. У інтэрв’ю, якое надрукавана ў газеце «Чырвоная змена» за 19 лістапада 1998 г., Сяргей Панізнік сказаў: «*Недзе ў канцы 1973 года, у час Жэнінага лячэння ў Прыкарпацці, з ёю была ўчынена правакацыя. Душэўны надлом не загоіш. А бязгрэшным можа быць хіба што арэшак: сам па сабе не трэскаецца*». Вось з чым яшчэ прыходзілася спраўляцца Я. Янішчыц.

Падарвала яе здароўе і паездка ў Амерыку (1981). А паездка ў Фінляндыю ў 1983 г. яе падкасіла канчаткова. Па дарозе назад паэтэса была шпіталізавана ў ленінградскую клініку. Па словах сына Андрэя, вярнуўшыся дадому, сказала: «*Я ездзіла з мяснікамі*». Барыс Сачанка пра Яўгенію Янішчыц пісаў: «*Неяк яна паехала ў Фінляндыю. Вярнулася адтуль сумная. <…> — У Амерыцы мяне сёй-той выпрабоўваў… А цяпер у Фінляндыі… Няўжо мяне не ведаюць? — пытала яна*».

У свае апошнія гады Я. Янішчыц двойчы лячылася ад дэпрэсіі ў Навінках. Каму з творчых людзей не знаёмы стан прыгнечанасці? Хто не сумняваўся ў неабходнасці сваіх высілкаў? Сёння звярнуцца да псіхатэрапеўта — звы-

чайная справа. У савецкі ж час гэта было практычна прыгаворам. Я думаю, Жэню турбаваў не столькі сам факт лячэння, хаця і такую акалічнасць нельга ігнараваць, колькі тое, што будуць пра яе гаварыць у сувязі з лячэннем. У свядомасці Я. Янішчыц магла замацавацца думка аб змене свайго сацыяльнага статусу. У вершы «Дап'ём зялёнае віно» («Пара любові і жалю», 1983) яна пісала:

«Не дай мне бог сойти с ума», —
На Пушкіна малюся.

Творчасць Я. Янішчыц высока цанілася кіраўнікамі Саюза пісьменнікаў і Беларусі, і СССР, многімі мастакамі слова. Дарэчы, Максім Танк, сакратар Саюза пісьменнікаў СССР (1966–1986) і старшыня праўлення СП БССР (1967–1990), у дакладах часта называў імя Я. Янішчыц у пераліку з пісьменнікамі-мужчынамі, майстрамі слова. У сувязі з гэтым узнікала крыўда і зайздрасць з боку некаторых калег-жанчын, што азмрочвала жыццё і стан паэткі. З-за Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы, лаўрэатам якой Янішчыц стала ў 1986 г., разладзілася сяброўства з Таісай Бондар. «Жэня ўсё балюча перажывала», — сведчыла маці паэткі.

Знешне творчая кар'ера Я. Янішчыц складвалася сапраўды зайздросна. Але не ўсім вядома ўнутраная супярэчлівасць асобы паэткі. Так, пасля прапановы ўступіць у партыю яна доўга вагалася, раілася са школьнай сяброўкай Раісай Ганчарык: што рабіць?

Трагедыю Я. Янішчыц я бачу яшчэ і ў тым, што першай кнігай яна паставіла сабе вельмі высокую планку. І ёй больш не ўдалося ніводнай кнігай выклікаць такіх эмоцый у крытыкаў і пісьменнікаў, атрымаць столькі водгукаў, як пры выхадзе «Снежных грамніц». Рыхтуючы кожную новую кнігу, яна імкнулася зрабіць яе лепшай, чым папярэднія. Радасць ёй прынесла, бадай што, толькі «Каліна зімы».

Ці была магчымасць у родных і блізкіх прадухіліць трагічны палёт? Адназначна — не. Я. Янішчыц сама адлічыла сабе колькасць зямных гадоў — 40, якраз палову. У «Боскай камедыі» Дантэ ў перакладзе М. Лазінскага ёсць радкі:

Земную жизнь пройдя до половины,
Я очутился в сумрачном лесу,
Утратив правый путь во тьме долины.

«Утратив правый путь» — ёсць эмпірычная страта сэнсу жыцця. Хутчэй за ўсё Я. Янішчыц не бачыла ўжо сэнсу свайго жыцця: у яе не засталося ні фізічных, ні духоўных сіл, «клубочак ніткай суравой» падступаў да горла ўсё бліжэй, а сама яна паступова знікала «з люстэркаў усіх і з усіх фотаздымкаў».

Звернемся і да імя ды прозвішча паэткі, унікнем у яго сэнс: «Яўгенія Янішчыц — я геній, я нішчыць». Аб гэтым пісала Т. Шамякіна ў артыкуле «Мы былі аднакурсніцамі»: «Часам мне здаецца, што само яе прозвішча — праграма на самазнішчэнне: «Янішчыц — я нішчыць».

Я. Янішчыц свядома ішла «да палёту». У. Някляеў у сваіх «крынічанскіх» згадках засведчыў: «*…яна знікла аднойчы з кампаніі ў нумары маскоўскага гатэля, дзе не стала некалі Купалы. Адзін з блізкіх ёй людзей занепакоіўся – і адшукаў яе на высозным балконе, амаль сілком пацягнуў назад, на што яна сказала: "Пакінь. Тут я гэтага не зраблю. Я зраблю гэта ў іншы час і ў іншым месцы"*». Іван Рыбіцкі, супрацоўнік радыё, распавёў аб апошняй сустрэчы з Жэняю Раісе Ганчарык, школьнай сяброўцы: яны сустрэліся на адной вечарыне, і Жэня запрасіла ўсіх да сябе на новую кватэру; на адгаворку прысутных: «Яшчэ паспеем» Жэня сказала: «Можа, і не паспеем»…

Перад сваім «апошнім палётам» Яўгенія Янішчыц наведала ўсе выдавецтвы, была ў добрым настроі. Толькі ў роднай хаце яна дала волю сваім спрасаваным эмоцыям і галасіла, як на пахаванні, — менавіта такой застала Жэню суседка Марыя Пятроўна. Ад'язджаючы з Велясніцы, Яўгенія Янішчыц не запрасіла маці пераязджаць да яе ў горад, як рабіла звычайна. Развіталася. І папярэдзіла: «У пятніцу чакай званка». Той пятніцай быў яе апошні дзень: 25 лістапада 1988 г. …

## МІХАСЬ БУЛАВАЦКІ

# Мова мая няродная!

> Истинная любовь к своей стране немыслима без любви к своему языку. Человек, равнодушный к родному языку, — дикарь. Он вредоносен по самой своей сути потому, что его безразличие к языку объясняется полнейшим безразличием к прошлому, настоящему и будущему своего народа.
>
> *Константин Паустовский*

*Знаёмы дацэнт-філосаф неяк накінуўся на мяне: «Мне сказали, что “ум“ и “разум” на белорусский переводятся одинаково — “розум”. Но ведь это же так обедняет язык философии! В одном этом переводе теряется столько нюансов и оттенков! Неужели белорусский язык настолько беден?». «А мне сказалі, — усміхнуўся я, — што “любоў” і “каханне” перакладаюцца на рускую мову аднолькава — “любовь”. Але ж гэта так збядняе мову! “Любить женщину” і “любить макароны” — няўжо гэта адно і тое ж? Колькі губляецца нюансаў і адценняў! Няўжо руская мова настолькі бедная? А “грамадства” і “таварыства” — зноў аднолькава перакладаюцца: “общество”! А “густ” і “смак” — “вкус”. Якое падабенства бачыць руская мова паміж “музыкальным густам” і “смакам сялёдкі”?» Збянтэжаны маім націскам апанент адышоў…*

*А мне падумалася: у кожнай мове можна пры вялікім жаданні знайсці тыя ці іншыя недахопы ў параўнанні з іншымі мовамі; але ёсць шмат людзей у Беларусі, якія ахвотна і актыўна шукаюць іх менавіта ў беларускай мове. Такое вялікае жаданне ўзвысіць сваю мову, прынізіўшы чужую (чужую?), уласцівае людзям неглыбокага розуму. Але некаторым з іх проста не хапае адукацыі, не хапае ведаў, інфармаванасці. З іншага боку, на расейцаў і ўвогуле на расейскамоўны люд накладвае адбітак сфармаваная вякамі імперская самасвядомасць насельнікаў Расеі («вялікае прызначэнне Расеі», «Масква — трэці Рым…» і да т. п.).*

*Прызнаючы вялікую ролю расейскай мовы ў гісторыі сусветнай культуры, я б хацеў паразважаць аб яе сённяшнім стане.*

*Мне скажуць: а якая табе справа да не сваёй мовы? Вось у тым жа й справа, што мову, не родную мне, я вымушаны лічыць сваёй, бо вялікая частка жыцця з гэтай мовай пражыта. І зараз гэтая мова — адна з дзяржаўных моваў маёй краіны.*

**Э, Ё**

Кірылічны алфавіт, які скарыстоўваецца часткай славянскіх народаў, на працягу стагоддзяў натуральна шліфаваўся і ўдасканальваўся. Некаторыя літары адпадалі, знікалі, некаторыя новыя ўводзіліся, замацоўваліся, некаторыя пераносіліся з роднасных моваў.

Літара *ё* ўпершыню была скарыстана М. Карамзіным у 1796 г. Замацаваўшыся ў рускай мове, яна натуральна перайшла ў роднасную беларускую, бо

Беларусь дзякуючы вайсковаму таленту Суворава стала ўжо часткай Расеі. «Наўзамен» у расейскую мову перайшла літара *э*, якая скарыстоўвалася ў беларускай графіцы з XV ст.

У беларускай мове адносіны да гэтых літар паважлівыя: ***е*** і ***э*** не блытаюцца, у кожнай сваё прызначэнне, і кропачкі над ***ё*** заўсёды пішуцца, каб правільна чытаць, адрозніваючы *лес* ад *лёсу* і *прыёмны дзень* ад *прыемнага дня*. Зусім па-іншаму ставяцца да гэтых літар расейскамоўныя людзі.

Услухайцеся ў расейскія словы *десять* і *декан*. У першым — *д* мяккае, у другім — *д* цвёрдае. Каб адлюстраваць гэтую розніцу ў цвёрдасці пры пісанні, варта было б выкарыстаць розныя літары — ***е*** (*десять*) і ***э*** (*дэкан*). Але да літары, запазычанай у «малодшага брата», адносіны грэблівыя. Яе імкнуцца скарыстоўваць як мага радзей. *Рэгби* досыць хутка ператварылася ў *регби*. *Эвклид* ужо *Евклид*. Зараз ідзе атака на слова *каратэ*, усё часцей у прэсе сустракаецца: *карате*. І *брэйн-ринг* паступова і настойліва ператвараецца ў *брейн-ринг*. А чытач сам павінен здагадвацца, дзе за літарай ***е*** хаваецца цвёрдае ***э***. Прамашка выйшла на слове *сэр*, але ж «няма правілаў без выключэнняў».

Ну ды хай сабе так з «чужой» літарай! Але ж вось свая, карамзінаўская ***ё***. Да яе стаўленне не лепшае: кропачкі дазволена не ставіць, пакідаючы рэбус угадвання ненапісаных кропачак чытачу. У большасці выпадкаў угадаць няцяжка. Але ў словах запазычаных, асабліва ў імёнах і прозвішчах людзей, гэта стварае істотныя праблемы і прыводзіць да шматлікіх скажэнняў.

Так, ангельскага матэматыка *Church* (па-расейску *Чёрч*) ненапісаннем кропачак ператварылі ў *Черч*а (і на беларускую перакладаюць часта з расейскай: *Чэрч* замест правільнага: *Чорч*). Вядомых расейскіх мастакоў латышскага паходжання Рорыхаў (*Рёрих*) ператварылі ў Рэрыхаў (*Рерих*). Магчыма, чулі пра вугорскага паэта Шандара Петэфі (*Петефи*)? Але не было такога паэта! Быў Пецёфі (*Петёфи*). Аднойчы слухаў выступленне нейкага расейскага прафесара, які падмацаваў сваю думку цытатай з «любімага паэта Шандара Пётэфі». Ведае прафесар, што павінна быць тут недзе літара ***ё***, але ж навошта ўгадваць — загляні ў энцыклапедыю.

Такія праблемы не толькі з чужымі прозвішчамі. Са сваімі не лепш: матэматык Чабышоў (*Чебышёв*) ужо стаў Чэбышавым (*Чебышев* — тут непастаўленыя кропачкі ўжо і націск перанеслі на першы склад). Аналагічных прыкладаў чытач сам знойдзе вялікае мноства, бо існуе, як налічылі даследчыкі, больш за 1100 прозвішчаў расейскіх грамадзян і больш за дзесяць тысяч геаграфічных назваў з выкарыстаннем літары *ё*.

Раз-пораз успамінаецца радок з М. Лермантава: «А годы уходят, все лучшие годы». Што напісаў сам Лермантаў: ***все*** ці ***всё***? Для мяне гэта не адно і тое ж. І для яго, мяркую, таксама. А для вас?

Што за праблема — паставіць кропачкі? Націснуць іншую клавішу кампутара ці, раней, друкавальнай машынкі! І тады б зніклі бессэнсоўныя спрэчкі — як правільна казаць: ***свекла*** ці ***свёкла***? ***Варёный*** ці ***вареный***? ***Маневры*** ці ***манёвры***? Пакуль не будзем ставіць кропачкі ў патрэбным месцы, гэтыя спрэчкі будуць бясконцымі.

Нядаўна палез у слоўнік, каб перакласці слова «*скабрезный*» на беларускую мову, і выявіў, што правільна: *скабрёзный*! Ніколі б не падумаў. Адусюль чую і сам паўтараю: *скабрезный*. І колькі яшчэ такіх знявечаных слоў знойдзецца?

Выразны прыклад характэрнай адметнасці расейскага чалавека: стварыць сабе праблему, каб потым гераічна змагацца з ёю. Ну калі расейцы без гэтага жыць не могуць, то й Бог з імі, але ж навошта гэтыя праблемы нам?

Таму хацелася б параіць беларускім рэдакцыям, выдавецтвам, якія друкуюць расейскамоўныя тэксты, кропачкі над *ё* ўсё ж ставіць. Дапаможам братняму народу паважаць сваю мову!

Трэба адзначыць, што ў Расеі маюцца навукоўцы і грамадскія дзеячы, якія актыўна змагаюцца за кропачкі над *ё*. Мабыць, самы ўпарты з іх — галоўны ёфікатар (старшыня Саюза ёфікатараў) Расеі Віктар Чумакоў, рэдактар часопіса «Народное образование». Ён нават кнігу выдаў «Два века русской буквы *Ё*. История и словарь». Намаганнямі расейскіх ёфікатараў пастаўлены помнікі літары *ё* ў Маскве і на радзіме М. Карамзіна ў Сімбірску (зараз Ульянаўск). Лячэнне расейскай мовы ад гэтай хваробы дае эфект, праўда, пакуль маленькі. Будзем чакаць…




**Ура!**

Карысная навука — этымалогія (навука аб паходжанні слоў). Яна дапамагае выкарыстоўваць словы па іх дакладным прызначэнні. Калі забыць гісторыю слова, то атрымаем тое, пра што будзе гаворка ніжэй (мяркую, нешта падобнае можа адбывацца і з народамі).

А ў Расеі да нядаўніх часоў этымалогія была не ў пашане: першы этымалагічны слоўнік расейскай мовы створаны толькі ў XX ст., і створаны ён немцам Фасмерам, які мэтаскіравана шукаў сувязі расейскай мовы з еўрапейскімі мовамі і прыкметна менш даследаваў азіяцкі кірунак гэтай праблемы.

Вядома ж, што сучасная расейская мова сфармавалася пад моцным уплывам татара-маголаў, што «глядалі» Расею ў XIII–XIV стст. (Я адмыслова пішу «маголаў», а не «манголаў», бо згодны з Г. Насоўскім і А. Фаменкам, што Расею паланілі не манголы, якім скакаць на конях да Еўропы трэ было не менш за паўгода, а паволжскія народы, аб'яднаныя тэрмінам «татара-маголы». Расейская гісторыя перанасычаная міфамі, а казкі ў расейцаў — вельмі папулярная літаратура.)

Татара-магольская конніца ішла ў атаку з дзікімі застрашальнымі крыкамі «Урра-агуу!», што азначала «смерць!». Па адной з версій, якая мне падаецца найбольш слушнай, ад гэтага «урагу» ў расейскую мову ўвайшлі словы *враг* і *ура* (магчыма, і *ураган*). Што тычыцца слоў *ураган* (нясе смерць) і *враг* (той, хто зычыць табе смерці), то з іх сэнсамі ўсё ў парадку, яны цалкам адпавядаюць слову «смерць». Але ж вось «ура»?!

Калі салдат бяжыць у атаку і крычыць «Урра!», то гэты крык таксама адпавядае сэнсу: салдат бяжыць забіваць. Але ж успомнім нядаўнюю савецкую (дый сучасную беларускую) рэчаіснасць: ваенныя парады, дэманстрацыі працоўных…

Генерал аб'язджае войскі на парадзе: «Здравствуйте, товарищи гвардейцы! Поздравляю вас с годовщиной октябрьской революции!» У адказ раскацістае «Урррра!» («смерць!»). І генерал задаволены. Праз сотню метраў яму крычаць новае «Урррра!»… Кайф!

А на трыбунах пад нагамі ў Леніна ў кожным абласным цэнтры мясцовы сакратар ці старшыня вітае натоўп: «Да здравствует советская молодёжь!». — «Урра!» — зычыць яму савецкая моладзь і ідзе далей. «Да здравствует наш героический народ, воодушевляемый и направляемый коммунистической партией!» — «Урра!..». Каму зычаць дэманстранты смерці? Ды нікому, яны проста не ведаюць, што крычаць аб смерці. І крычаць ад душы. Даруй ім, Божа, бо не ведаюць, што крычаць! Але ж ёсць меркаванне, што слова валодае і матэрыяльнай сілай…

**Маць!..**

У майго брата, калі ён служыў у войску, быў блізкі сябрук, грузін Вано. Неяк яны сядзелі разам, чысцілі вінтоўкі, размаўлялі. І брат у адказ на нейкую рэпліку Вано бяззлобна і звыкла выгукнуў: «… тваю маць!..». Далей адбылося нечаканае: разгневаны Вано схапіў штык і кінуўся на сябра. Нейкім цудам тому ўдалося пазбегнуць ранення.

Астыўшы, Вано патлумачыў, што ў Грузіі няма больш цяжкай абразы, чым кепскае слова пра маці. Такая абраза змываецца толькі крывёю.

Так у Грузіі. Зусім інакш у Расеі. Там ад слова «маць» утварылася назва адмысловай расейскай лаянкі (мат, мацюкі, мацюкацца), якая ўжо прызнана элементам расейскай культуры, яна вывучаецца, друкуюцца навуковыя артыкулы, прысвечаныя мату, выдаюцца тоўстыя слоўнікі. Галоўная мэта гэтай «навукі» — даказаць, што расейская лаянка не запазычана ў татара-маголаў, а існавала яшчэ раней. Маўляў, знойдзены нейкія старажытныя берасцяныя граматы з такімі словамі і г. д.

Не буду казаць пра ўсё слоўнікавае багацце расейскага мату, спынюся толькі на адным, але галоўным словаўтварэнні: «… тваю маць!» Магу пагадзіцца з тым, што першае з гэтых трох слоў, якое тут пазначана шматкроп'ем, ужывалася ў Маскоўскім княстве яшчэ да з'яўлення татара-маголаў. Магчыма, што заваёўнікі і пачалі яго выкарыстоўваць таму, што яно было зразумелым на заваяваных землях. Але тады яно не ўжывалася ў спалучэнні з словам «маць». Цалкам гэтае словаўтварэнне менавіта ад татара-маголаў. І ў іх гэта не было лаянкай. Гэта была нейкая слоўная формула, з якой заваёўнікі звярталіся да заваяваных: маўляў, ты мяне павінен слухацца як свайго бацьку.

У ваяўнічых усходніх народаў быў натуральны культ мужчыны, культ бацькі. Там паважаўся і ўзвышаўся той, хто мог ваяваць. Жанчыны не ваява-

лі, таму яны былі толькі прыслугай мужчыны — гаспадара і ваяра. Жанчыны павінны былі ва ўсім падпарадкоўвацца мужчыне, што б ён ні загадаў. Дзеці маглі не паслухацца маці, але не падпарадкавацца бацьку — гэта было нечувана. Свае звычкі, традыцыі татара-маголы пераносілі на заваяваныя землі.

«Я … тваю маць!» — казаў татарын маскалю. І гэта азначала: я табе як бацька, ты павінен мне падпарадкоўвацца і выконваць мае загады. Магчыма, у гэтую фразу заваёўнікі ўкладвалі і нейкую грэблівасць.

Дарэчы, такая грэблівасць маскалямі была заслужаная. Калі верыць вядомаму расейскаму гісторыку Льву Гумілёву (сыну Ганны Ахматавай), татара-маголы пайшлі ваяваць Маскву пасля таго, як былі забітыя і абезгалоўленыя іх паслы, што прыбылі ў Маскву з дарамі і просьбай прапускаць праз маскоўскія землі татарскія караваны для гандлю з Еўропай.

Урэшце Маскоўскае ды суседнія княствы змаглі вызваліцца ад доўгай і ненавіснай татара-магольскай кабалы. Ды амаль два стагоддзі такога жыцця не маглі прайсці бясследна. Некаторыя звычкі, традыцыі, словы і словаўтварэнні заваёўнікаў засталіся жыць на маскоўскай зямлі. Не могучы ад гэтага пазбавіцца, маскоўскія людзі пачалі выкарыстоўваць гэта ў прыніжальнай форме. Так, фраза «… тваю маць!» з пэўнай і сэнсаваскіраванай слоўнай формулы ператварылася ў брудную лаянку. У лаянку, якую расейскія людзі з цягам часу зрабілі сваім гонарам.

Неяк чытаў успаміны былога лётчыка эскадрылы «Нармандыя-Нёман». Французскія лётчыкі, — пісаў мемуарыст, — зусім не ведалі рускай мовы, але ж як яны па-руску мацюкаліся! Адчуваецца, з якім гонарам чалавек пра гэта піша. Яго проста распірае ад гонару з таго, што яго лаянка так хутка і добра прыжылася ў вуснах француза. І няўцям чалавеку, што для француза гэта бяссэнсавы набор гукаў і нічога болей. Уяўляю сабе твар гэтага француза, калі б яму патлумачылі, што гэтай нібыта лаянкай ён кажа фрыцам, на якіх скідвае бомбы: я ваш бацька, і вы павінны мяне слухацца.

Як бы там ні было, няма больш ніводнага народа, у мове якога слова «маці» ўваходзіла б у самую брудную лаянку, у пракляцці. Толькі расейскі мужык нароўні са здольнасцю добра выпіць ганарыцца здольнасцю шматпавярхова абмацюкаць бліжняга і дальняга.

Сёння мовай Пушкіна, Тургенева ў Расеі валодае невялікае кола інтэлектуалаў, эліта інтэлігенцыі. У астатніх — ад міністра да пастуха — казённы «бэйсік», дзе мат адыгрывае вядучую «связующую» ролю. Гэтую мову пад назвай «руская» засвойваюць і беларусы. Паслухайце «русский язык» на нашых вуліцах, будаўнічых пляцоўках, на стадыёнах ці каля школы (сярод дзятвы — асабліва!). Вось што застаецца ад мовы сапраўды вялікай і магутнай, калі яна трапляе на язык плебсу, на язык раба і халопа. Сёння сярод гэтага плебсу шмат якія расейскія пісьменнікі і артысты. Ну што тут скажаш: мат — элемент расейскай культуры…



# Сатыра і гумар

СЯРГЕЙ УКРАІНКА

## Няпруха

Калі папхнецца па жыцці няпруха,
то можа ўмомант вам спаскудзіць кроў.
Аднойчы мне прусак улез у вуха
і нашаптаў тако-ога пра сяброў.

Маўляў, яны п’янюгі і няўломкі
і ходзяць ад жанок сваіх набок.
Аж стала мне — паверыце? — няёмка
за хлопцаў — так звягаў той абібок.

А потым ён пачаў мае сакрэты
мне выдаваць. І тут змікіціў я,
што памыліўся вухам недарэка,
што слухачом павінна быць ***мая***.

З тае пары я сцерагчыся мушу
ўсяго таго, што нам паганіць кроў.
Сябрам жа раю: беражыце вушы
і біце, біце гадаў-прусакоў.

## Цыгарэта

Клопатам «ацечаскім» сагрэты,
на будынку школы
нейкі гад
накрамзоліў:
«Кіньма цыгарэту,
а курыцьмем, хлопцы, самасад!»

Сцерліся заіры з карты свету,
і даўно тых персіяў няма,

а хлапцы ўсё кураць цыгарэты
дый кайфуюць з гэнага дзярма.

Я вам не скажу за ўсю планету,
што ямчэй згінае вас у крук –
самасад ці, можа, цыгарэта.
Мне пляваць,
бо я куру бамбук.

## Халасцяк

Пяць вякоў гізаваў-халасцячыў.
Пяць вякоў!..
Хай сабе і сабачых…

А цяпер на прасцінах сацінавых
ён далежвае век свой
каціны.

## Смелякі

Арлы цяснін, дэльфіны лужын,
яны ад смеласці трымцелі
і па адным збягалі мужна
у холад жончыных пасцеляў.

## Эксклюзіўны талент

Пракляты сум. Схадзіць хіба туды,
куды і каралі хадзілі пешшу,
ды музу пагукаць? Тае бяды,
што ўвагаю мяне яна не цешыць.

Паперы ўдосталь — на сцяне рулон.
У самапісцы — да краёў атрамант.
Цяпер — стварыць. Заўзята, як Нерон…
Пакуль «палова» не ўсчыніла лямант.

## Шчырая парада К.

Ты **ласку** любіш, небарака?
То накруці на вус, будзь ласкаў:
Калі табе лізнулі ср..у,
Не расслабляйся. Гэта змазка.

## Эпітафіі

*

Пад гэтай крушняю ляжыць дацэнт.
Ён быў не роўня нам, браточкі, з вамі,
бо меў высозны «мазгавы працэнт».
Ён здаў жыццё экстэрнам. Як экзамен.

*

Тут спачывае не швец і не жнец —
ён называў сябе «нашым сумленнем»…
Піў, як пісьменнік.
Пісаў, як шавец.
Смерць напаткаў
ад цырозу натхнення.

МІКОЛА ЯЦКОЎ

# Пародыі

## Што патрэбна паэту

Хадзі пасядзі з паэтам
Хвіліну, а можа, дваццаць.
Калі на зыходзе лета,
Манашкай нашто здавацца?
*Мікола Шабовіч*

А лета — ой-ёй! — праляцела, —
Зусім не было нічога:
Хаваеш сваё ты цела,
Глядзіш на мяне ты строга.

А я жа паэт, мне — трэба,
Мне хопіць і паўхвіліны…
Змагу я пражыць без хлеба,
Але ж не змагу без дзяўчыны!

## Начны розгалас

І тваё ўначы «арывідэрчы».
*Мікола Шабовіч*

Як заўсёды, спала ты на печы;
Усё б нічога, але раптам я
Уначы пачуў: «Арывідэрчы!..» —
І ўзвілася душачка мая!

Ну, адкуль такія адгалоскі,
Італьянскі — без акцэнту! — слог?..
Ладна — немцы: тут з вайны паўвёскі
Па начах галосіць: «Хэндэ хох!»

**Тамтам**

Не! Яна не прыляціць —
я той Музе не патрэбны.
У сталіцы сакаціць —
*там* чуваць той голас срэбны.

Ну, а як жа! Там усе —
і Гілевіч не старэе,
і Шабовіч там трасе,
ой, цяжкім сваім харэем…

Муза — там!
Тамтам, тамтам…

**Хвароба імператара**
*Паэма*

Хірахіце —
Херавата.

**Карніз**

Паўзу нячутна па карнізе,
Каб паглядзець, як за акном
Сядзіць каханая Марыся
З цікавай кніжкаю цішком.

Дапоўз. Гляджу.
У пеньюары
Відаць спакуснае бядро...
Б’юць проста ў вушы шчасця ўдары.
Гарыць ад радасці нутро.

У сэрцы выспеліў надзею...
Але... лячу кудысьці ўніз
І са спазненнем разумею,
Што абламаўся мой карніз.

АЛА ЯЦКОВА

## Белая гарачка

*Пародыя*

Я белая варона! Я белая варона!
*Валадар Цурпанаў*

Аднойчы, сцюдзёнаю цёмнаю ноччу,
Калі я утульна скруціўся на печы,
Здалося, што нешта у сенцах тапоча,
Дзяўбецца у дзверы, скуголіць і енчыць.

Зірнуў я у шчыліну — матухны-людзі! —
А там нехта вылупіў белыя вочы
І прэ на мяне свае белыя грудзі,
І белым хвастом казытнуць мяне хоча.

Налёг я на дзверы, ды гэта скаціна,
Праціснуўшы ў шчыліну белую дзюбу,
Нахабна уціснула белую спіну
І белымі лапамі ляснула ў зубы.

І знікла… Расплюшчыў я белыя вочы,
Аб белую сценку патыліцай ляснуў,
А сэрца па рэбрах ад страху грукоча, —
Дапіўся да белай гарачкі заўчасна.

ПАНАС ПРУСАК

## Вечарына

*Падарожная паэмка*

### Уступ

Вечарэе. І кастрычнік
Расчыніў свой парасон.
Спаць сабраўся я па звычцы,
Але ўжо які тут сон —
Вунь бяжыць Мікола* шпарка,
Во — ўжо ў сенцах грукаціць:
«Эй, Панас! — крычыць. — Дзе шкварка?
Пляшка дзе? Мне ўжо карціць!
Я ж па Мінску ўчора крочыў —
Вечарына** там была!..»

Аж заплюшчыў нават вочы,
І гаворка паплыла…

### Мінск

«…Развінулася дарога,
Побач — шолахі быллякоў;
Вунь і Мінск пад чорным смогам
Паказаўся ўжо здаля.

Ля метро прыпынак першы:
“Магілёўская” — салют!
Трэба часам скласці вершы
Пра вось гэты мінскі кут.

### Метро

Ну, вядома ж, мы імгненна
Закаціліся ў метро.
Там, скажу вам, — абалдзенна:
Шых! — туды-сюды народ,
У-у-у! — ляціць цягнік з тунэлю,

---

* Мікола Яцкоў — сябра і аднавяскоўвец Панаса Прусака.

** 28 жніўня 2001 г. Г. М. Бураўкін адзначыў сваё 65-годдзе. 25 кастрычніка 2001 г. у мінскім Доме літаратараў адбылася вечарына, прысвечаная гэтаму юбілею.

А-а-а! — піхаюцца ў вагон, —
Усе тут крышку адурэлі,
Сапраўды жа — Вавілон…
Ох, — да “Плошчы Перамогі”
Нам бакі адбілі, й ногі
Адтапталі ўсе ў канец,
Але неяк падфарціла —
Й быццам нейкая нас сіла
Падхапіла і панесла
З падзямелля — да святла.
*— Каб я шчэ туды палезла! —*
Ала* збоку завяла.

**Фрунзэ, 5. Сустрэчы**

Па завулках беглі хутка,
Вось і Фрунзэ з Домам** тым.
Паддаліся дзверы гнутка:
Што нам моцным, маладым!..

Тут убачылася Юля***
(Ды бураўкінская) мне:
*— А пасля — да нас, на гулі!*
*Прэе бульба ў чыгуне;*
*Без усякага заходзьце —*
*Будзем рады вас вітаць!*

Во ў якім мы, глянь, палёце,
Во прыйшлося што абраць!..

Тут Шабовіч**** падлятае,
Вельмі шчыра нас вітае;

Падышоў Янусь Малец***** —
Найцішэйшы наш хлапец;

Во, Бураўкін****** чэша міма:
*— О, Мікола! Як настрой?*
*Ну, дык што — сягоння грымнем*
*У гэтай зале мы з табой?*

---

* Ала Яцкова — жонка М. Яцкова.
** На вул. Фрунзэ, 5 знаходзіцца Дом літаратара ў г. Мінску.
*** Юлія Бураўкіна — жонка Г. Бураўкіна.
**** Мікалай Шабовіч — паэт.
***** Іван Малец — паэт.
****** Генадзь Бураўкін — паэт.

*Ладна, ўсё — рыхтуйся, хлопча,*
*Мне ж пабегаць трэба тут!*

А народ партэр той топча,
Не хапае месц, і груд
Прыстаўных стулоў з'явіўся —
Па праходах не прайсці.
Я ля сценкі прытуліўся:
Нехта Роўду* запусціў —
Ён і ўлез пад бок да Алы.

**Вечарына**

Тут пачуліся сігналы,
Барадулін** і Бураўкін
Лёгкім ветрам паляцелі,
Падзялілі столік, лаўку,
Папіхаліся і селі —
Й пачалася вечарына.

Барадулін — тамада.
Усе каноны ён адрынуў —
І ўзлятала барада
Геніяльнага паэта,
Напраўляючы працэс.

Потым знізу, прама з залі,
Дзядзькі дружна выпаўзалі —
Словы добрыя казалі,
Юбіляра віншавалі,
Кветкі клалі, клалі, клалі…

Вокам зыркнуў Барадулін:
*— З Магілёўшчыны, адтуля*
*Прыгрымеў да нас Яцкоў —*
*Без капрызу і адмоў.*
*Зараз нешта нам пакажа —*
*Спадзяюся, песні ўсё ж.*
*Ой, умажа дык умажа —*
*Ён такі, ядрона вош!*

І сваім уступам залю
Наш Рыгор, як след, натхніў.

---

* Віктар Роўда — хормайстар, Народны артыст СССР.
** Рыгор Барадулін — Народны паэт Беларусі.

Я пачапаў да раяля,
“Шпору” выцягнуў, адкрыў —
Каб падглядзець колькі слоў.

Мама родная: галоў
Тут, напэўна, каля тышчы,
І глядзяць усе сюды:
Што вось гэты нам насвішча?
Затаіліся рады…

Я ж нахабна: — *Рыхтавалі*
*Тут раяль для Лучанка** —*
*Ну, і дзе жа тая краля?*
*Штось не бачна Ігарка!*

Барадулін: — *От праблема!*
*Незаменных жа няма!*
*Ты, Мікола, час дарэмна*
*Не марнуй нам тут дарма!*

Я й пачаў. Добразычліва
Зала слухала мяне;
І ўздымаліся прылівам
Непаўторныя матывы
Аб радзімай старане…

Усё! Авацыя, *“біс!”, “брава!”.*
Я прашу мне слова даць:
*— Верце: ён, Бураўкін, — з’ява!*
*Не баіцца ён цкаваць*
*На сябе мае ухілы —*
*Й надалей няхай цкуе!***
*Дай жа, Божанька, йму сілы*
*І паболей тых у. е.!*

Стаканы тут зазвінелі —
Аж вядучыя самлелі:
Там наверсе, ў кінабудцы,
Святкаваць ужо паселі.

Барадулін: — *Вось, там людцы,*
*Пэўна, трошкі акаселі!*
*Малайцы! А мы тут прэем —*

---

* Ігар Лучанок — кампазітар, Народны артыст СССР.

** Гаворка ідзе пра бураўкінскае прысвячэнне Міколу Яцкову: «Музыку яцковую я на сябе нацкоўваю».

*І цвярозыя пакуль!*
*Усё — канец, браточкі, рэю!*
*Хай жыве сто лят наш круль!*

**Трэці паверх**

Круль — вядома ж, Бураўкін,
Ён тут — цэнтр усяго.
За аўтографам казяўкі
Падляцелі да яго:
Ён з дзятвой — як дзеда Ленін,
І такі, як там, прыжмур;
Да сябе ўсіх на калені
Пасадзіў. А мы ў алюр —
І на трэцім ужо паверсе,
Дзе ( тут ёсць такая версія )
Для сяброў зрабілі стол.

Аглядаемся вакол:
Кабінет з пабітай мэбляй,
Пах сіроцтва і журбы…
Усё! Да фінішу падгрэблі
Нашы волаты-дубы!..

Во — Навум*! Яго пытаю:

*— А ці твой апартамент?*
*— Мой, халера… Вас вітаю!*
*Ой, збяднелі тут мы ўшчэнт!..*
*Бачыш: крэслы на аборках —*
*Нельга толкам пасядзець!*
*Ой, Мікола, — цяжка, горка!*
*І на гэта ўсё глядзець*
*Трохі ўжо і страшнавата —*
*Памірае наша хата!..*
*Ну, ды ладна — сёння свята,*
*І таму — нуду далоў!*

* Навум Гальпяровіч — паэт, сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі.

**Фуршэт**

Прыбаўляецца галоў:
Вунь раты параскрывалі —
Шчамялёў* вяшчае там;
Во — паэты і паэткі
Прыскакалі… Шум і гам…

Старыкевіч** як рамонак;
Таня Працька*** — дама з дам:
Ой, такая, аж няможна!
Вось Фядута**** пераможна
Аглядае ўсё наўкол —
Нейкі круціцца прыкол
У яго на языку;
Пан Пузыня***** за руку
Паздароўкаўся з усімі —
І сурму сваю прыпёр!..

Тут старыя з маладымі,
І з’яднаўся тут задор
З філасофіяй былога:
Мы — бураўкінцы! Нас — многа!..

Юля ўрэшце запрасіла:
— *Ой, даволі ўжо чакаць!*
*Пад вінтом стаіць вунь сіла —*
*Ну, давайце наліваць!*
*А Бураўкін потым будзе:*
*Зараз рвуць яго там людзі —*
*Уцалеў бы хоць пінжак!..*

Піць гарэлачку за так
Хто ж а будзе адмаўляцца?
Ну й пабеглі набірацца,
Напівацца, наядацца —
Быццам заўтра ўсіх нас раць
З той варожае старонкі
Прыйдзе гнюсна забіваць.

---

* Леанід Шчамялёў — народны мастак Беларусі.
** Аляксандр Старыкевіч — галоўны рэдактар газеты «Беларускі час».
*** Тацяна Працька — старшыня Беларускага Хельсінкскага Камітэта.
**** Аляксандр Фядута — журналіст.
***** Уладзімір Пузыня — майстар па вырабу беларускіх музычных інструментаў.

Зазвінелі чаркі звонка;
Тамадою зноў Рыгор —
Непаўторны наш бабёр.

На чале стала нарэшце
Мікалаевіч узнік:
— *За мяне давайце ўрэжце!*
*Добра пойдзе хай той глык!..*

І ўразалі, і закуску
Ў паўхвіліны падмялі, —
Гэта ўсё па-беларуску!
Каб мы добра так жылі!..

**Кода**

А далей — дадому трэба.
Ноч і мы… І зорыць неба…
І заціх той Мінск ля нас…

Вось такая, брат Панас,
Атрымалася прыгода.
Эх, мае вы плот-згарода!
Трэба бегчы. Ну, бывай!..»

Знік, пакінуўшы мне згоду,
Успамінаў асалоду
І пачуццяў небакрай.

*25 кастрычніка 2001 г., чацвер;*
*15 чэрвеня 2012 г., пятніца*

# Змест



## Проза. Паэзія

## Спадчына. Успаміны. Дакументы



## Літаратуразнаўства

## Сатыра і гумар

